


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**12** (1046)

СНЕЖАНЬ

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# *ЗМЕСТ*



Леў ПАРЭМСКІ

# СТРАЦІМ-ЛЕБЕДЗЬ

*Вершаваная п'еса**

**Дзеючыя асобы:**

Максім Багдановіч — беларускі паэт.
Ганна Какуева — сяброўка Максіма.
Адам Ягоравіч Багдановіч — бацька Максіма.
Горкі — рускі пісьменнік, сябар бацькі Максіма.
Іван і Антон Луцкевічы — рэдактары газеты «Наша ніва».
Ластоўскі і Бядуля — беларускія пісьменнікі.
Валянціна Кацарэўская — наглядчыца хворага Максіма ў Крыме і іншыя.

## Сцэна першая

Ніжні Ноўгарад. Кватэра Багдановічаў.
Тут — Адам Ягоравіч і сын Максім. 1909 год.

Адам Ягоравіч.
Дарма, дарма, сынок, ты песціш думку,
Што Беларусь адродзіцца…О не!
Нічога, братка, ў гэтым накірунку
Не робіцца ў радзімай старане.

Максім.
Ну, а газета, тата, «Наша ніва»?
Яна — змагар.

---

***Леў Парэмскі (Марозаў Леў Паўлавіч)*** *нарадзіўся 1 студзеня 1938 года ў горадзе Клічаве Магілёўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Працаваў у часопісе «Мелиорация и водное хозяйство», на Белдзяржтэлерадыё, у часопісе «Пралеска».*

*Аўтар паэтычных кніг «Спагада» (1980), «Адценні» (2009), «Іпастасі» (2011), кніг для дзяцей «Каламбір» (1991), «Хітруха» (2005).*

---

* Часопісны варыянт.

Багдановіч:
Ну, гэта не набат,
Не герцэнаўскі «Колокол». Хоць дзіва,
Што і яна яшчэ выходзіць, брат.

Максім.
Але ж яна — змагарка. Там Купала.
Адзнака беларускасці яна.

Адам Ягоравіч.
Яно ўсё так. Ды гэтага так мала,
Каб стала вольнай наша старана.

Максім.
Ды ўжо іх многа, змагароў, сягоння.
Пісьменнікаў адно там не злічыць.
І скора птушкай над яе улоннем
Аб адраджэнні думка паляціць.
Узрушыць сэрца нашага народа,
Усіх людзей падніме на прыгнёт.

Адам Ягоравіч.
Ды не! Навек задушана свабода,
Не ўзбудзіць люд ніякі патрыёт.
Прайшла пара Касцюшак, Каліноўскіх,
Нічым цяпер не ўзрушыш мужыка,
Свабоды рух гняце па-адмыслоўску
Самадзяржаўя лютая рука.
І спадзявацца нечага…

Максім.
Ну, тата,
Ты, мне здаецца, страшны песіміст.

Адам Ягоравіч.
Ты малады, таму і зухаваты,
А значыцца — таму і аптыміст.

Максім.
Але калі збярэцца аптымістаў
Вялікая, як хмара, грамада,
Дык пэўна стане голас іх вячыстым,
Прэлюдыяй народнага суда.

## Сцэна другая

Горад Яраслаўль, куды перавялі на службу бацьку Максіма.
Дом Какуевых — сям'і сябра Максіма па гімназіі Рафаіла.
Тут — сястра Рафаіла Ганна і Максім. 1910 год.

Ганна.
Змог Рафаіл вас прыцягнуць да нас.
Усе такія сарамлівыя паэты?

М а к с і м.
Не знаю. Ну, а я такі якраз.
І шмат пакутаў спазнаю праз гэта.

Г а н н а.
Вы раскажыце аб сабе, аб родных.

М а к с і м.
Расказ журботным будзе…

Г а н н а.
Не бяды.
Абы было праўдзіва ўсё і годна.

М а к с і м.
Хлусіць не ўмею. Слухайце тады.
Я нарадзіўся ў Мінску, ў Беларусі.
Мой тата там настаўнічаў, пісаў
Артыкулы, бо ён быў у спакусе
Да этнаграфіі, культуры, знаў
Гісторыю… Ну, словам, краязнавец
Ён быў і ёсць. Вучоным марыць стаць.
Але служыць прыйшлося іншай справе —
Сям'і вялікай час свой прысвячаць.
І мама гэтаксама педагогам
І музыкантшай добраю была.
Каб год было адпушчана ёй многа,
Напэўна б стаць пісьменніцай змагла.
Але яна хварэла на сухоты
І мусіла памерці не ў пару…
Мне пяць гадоў было… З якой ахвотай
Я слухаў, помню, маміну ігру
На фартэпіяна. Шчэ яна і сёння
Гучыць мне, толькі быццам бы здалёк:
То з нейкага нябачнага прадоння,
То знекуль з неба, з зорных павалок…
Дзяўчыначку, што нарадзіла мама,
Маю сястрычку хоць і бераглі,
Ды неўзабаве страцілі таксама.
Яна з матуляй побач у зямлі.

М а к с і м, замаркочаны, задумаўся.

Г а н н а.
Расказвайце далей, Максім! Цікава.
Працягвайце!..

М а к с і м.
Ну, а пасля сюды,
На Волгу пераехалі. Падстава?

Рашыў мой тата з'ехаць ад бяды —
Не мог жыць побач з мамінай магілай…
Спярша нас Ніжні Ноўгарад прыняў
І жытка наша тату там судзіла,
Каб з Горкім моцна ён пасяграваў.
А ў хуткім часе на яго швагерцы
Ён ажаніўся…

Г а н н а.
Горкаму радня
Вы, значыць?..

М а к с і м.
Дзе там. Толькі ўсім па сэрцы
Прыйшлася мама Шура. Вельмі я
Любіў яе, ды гора напаткала
Ізноў сямейку нашу неўзгадкі:
Матуля наша новая сканала,
Нам нарадзіўшы брацíка, які
І трох гадоў не змог пажыць на свеце.
А тут яшчэ сканаў і брат Вадзім,
Які ў паліцыі быў на прыкмеце
За погляды свае. Той брат, якім
Я ганарыўся, бо аб лепшай долі
Народа марыў ён. Быў важаком
Студэнцкай моладзі, ды не спатоліў
Ён прагі барацьбы і юнаком,
У васямнаццаць год сканаў. Прастуду
Ён падхапіў на сходцы… За труной
Ішло багата маладога люду,
Гучала выступленняў шмат над ёй
На могілках…

Г а н н а. заплакала.

М а к с і м.
Ну, бачыце вось, Аня,
Я ж папярэджваў вас…

Г а н н а.
Ды не, Максім,
Расказвайце далей!

М а к с і м.
Не даў адхлання
Сям'і і Ніжні Ноўгарад… Затым
Быў тата ў банк, у Яраслаўль, пасланы.
Жанаты ён на мамінай сястры.
У трэці раз.Такі вось лёс паганы
Прызначаны нам з даўняе пары…

Г а н н а (*выціраючы вочы*):
Нібы на вас чыясьці пала кара…
Максім, а пачытайце вершы мне,
Свае, вядома. Чула — ў вас ёсць мара
Паэтам стаць у роднай старане…

М а к с і м *(чытае)*:
Месяц круглы ўстаў на небе
Блішчыць невысока,
Ўвесь чырвона-жоўты, быццам
Пугачова вока.

З мілым, задушэўным зыкам
Важкі хрушч лятае;
Пра няшчаснае каханне
Нехта запявае.

Голас полем пракаціўся,
У бары аддаўся:
«А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся?»

І снуюцца сумна ў сэрцы
Ўюцца адгалоскі
Роднай песні, простай песні
Беларускай вёскі.

## Сцэна трэцяя

Рэдакцыя газеты «Наша ніва». Тут — супрацоўнікі газеты:
браты І в а н і А н т о н Л у ц к е в і ч ы, пісьменнік В а ц л а ў Л а с т о ў с к і.
Уваходзіць М а к с і м Б а г д а н о в і ч. 1911 год.

Л а с т о ў с к і.
А вось і Багдановіч, ягамосці,
У «Нашу ніву» завітаў здаля.

Б а г д а н о в і ч.
Даўно, сябры, хацеў быць вашым госцем
І дужа ўзрушаны сягоння я.

І в а н Л у ц к е в і ч.
Ну, як вам наша Вільня?

Б а г д а н о в і ч.
Горад слынны.
А колькі гістарычных тут муроў!
Знайшоў я дом, дзе працаваў Скарына,
Па вуліцы Міцкевіча прайшоў.

І пастаяў я ля касцёла Ганны
І там, дзе Каліноўскі смерць прыняў…
Тут прыгажосць са строгасцю з’яднаны,
Тут вее духам спракавечных з’яў.

А н т о н  Л у ц к е в і ч.
Гасцям, вядома, ўражвацца належыць
Архітэктурай, побытам людзей…
На нас жа, браце, то дажджыць, то снежыць
Будзённасць з’яў і віленскіх падзей.
У беларусаў ворагаў багата,
Сабраць усіх — вялікі будзе строй.
Нам выпадаюць дужа рэдка святы…

Б а г д а н о в і ч.
Я разумею — кожны з вас герой.
Вы тут нібы абкладзены ваўкамі,
Вам непрыемна слухаць іх выццё.
Але ж, як разумееце вы самі,
Не даяце вы ўпасці ў забыццё
Старонцы роднай, будзіце свядомасць,
Сябе служэнню ёй вы аддалі.
Асуджаны таму вы на вядомасць
У паратунку нашае зямлі.

І в а н  Л у ц к е в і ч.
Ну, ну, не трэба слоў высокіх,
Хаця, вядома, служым верна ёй,
Радзіме нашай мы і мо папрокаў
Мы не заслужым дзейнасцю сваёй
Ад землякоў ні зараз, ні ў наступным,
Хоць развінуць не можам вольна крыл.

Л а с т о ў с к і.
Ратунак наш — у дзеяннях сукупных
Усіх здаровых на радзіме сіл,
Якія покуль дрэмлюць у застоі
І наша мэта — ўстрэсваць іх, будзіць.

Б а г д а н о в і ч.
Панове, дык і я ж якраз пра тое,
Што гэта вы і ўмееце рабіць.

А н т о н  Л у ц к е в і ч.
Сябры, пара нам азнаёміць госця
З музеем нашым і хоць ён не ўзор —
Хай госць убачыць нашы прыгажосці,
Перш-наперш слуцкіх паясоў набор.

Гучыць песня «Слуцкія ткачыхі». Усе накіроўваюцца ў музей.

## Сцэна чацвёртая

Кватэра Багдановічаў.
Тут — Адам Ягоравіч і сын Максім. 1912 год.

Адам Ягоравіч.
Давай адкрыта пагаворым, сын.
Ты ў Пецярбург імкнешся ўсёй душою,
Ды мне аб ім нат страшны напамін —
Куды табе, з хваробаю тваёю
На поўнач, у вільготны клімат той!?
Вось ты цяпер пабыў на Беларусі —
Паздаравеў і целам і душой.
А там, сынок, я за цябе баюся.
А харчавацца зноў жа — дзе і як?
Сталоўскі хілы харч… Ці ўсухамятку?
Каб захварэць яшчэ мацней няўзнак?
Не, Пецярбург табе не свеціць, братка.
Успомні, ад чаго сканаў Вадзім.
Табе прастуда гібельна таксама.
Зрабі, сынок, сваім пачуццям стрым —
Сказаць табе аб гэтым мушу прама.

Максім.
Санкт-Пецярбургскі універсітэт,
Прафесар Шахматаў канкрэтна, тата,
(А гэта ведаеш, які аўтэрытэт!)
Звярнуўся ў «Нашу ніву», каб сасватаў
На кафедру яму хто юнака,
З якім усё ён вывучаць гатовы
Пра Беларусь: ад першага радка
Этнаграфічных звестак і да мовы.
Каб потым, тата, кафедру стварыць
Па беларусазнаўстве і каб потым
Яе кіраўнікам юнак той мог бы быць…
Прапанавалі мне. І я з ахвотай
Паехаў бы…

Адам Ягоравіч.
А жыць, за што там, сын?
Мо будзеш утрыманцам «Нашай нівы»?
Няма ў іх сродкаў… А не ты адзін
Такі ў мяне… У Лёвы перспектывы
Стаць матэматыкам вялікім, ён
Праз год збіраецца ў Маскву паехаць.
Аклад жа мой, ты знаеш, не мільён.
І вунь якая будзе ў ім прарэха
З-за аднаго… А тут яшчэ і ты…
І потым. Можа, ў Пецярбург з-за Ані
Наважыўся ты ехаць, дык пусты
Намер твой. Вось што. Гэта заляцанне
Не дасць табе нічога, так і знай.

І ведаеш ты, сын, таму прычыну.
І дакарай мяне не дакарай —
Твае сухоты права на дзяўчыну
Не, не даюць… Яшчэ бяда і ў тым,
Што маці Ані ад сухот сканала
І цётка Ані пэўна ж робіць стрым
Пляменніцы сваёй, каб зноў навала
Не прыгняла яшчэ і Анін лёс…
Ну, дык няхай у Пецярбург і едзе
Адна вучыцца… Ты ж не вешай нос.
Вядома й ты вучыцца будзеш недзе…
Ну, а наогул мушу я сказаць,
Што твае мары ўсе, Максім, хімеры.
Свабоднай Беларусі ўжо не стаць
І калі будзе што — дык мо ў паўмеры…
Кажу, паклаўшы на душу руку.
Малыя рэкі мусяць улівацца,
Вядома ж, у вялікую раку.
І ўсім малым краінам увайсці
Ў Расію трэба, сын мой, без сумнення.
Да гэтага ўсім трэба дарасці.
Табе таксама.

М а к с і м.
Не, маё ўяўленне
Мне пагадзіцца не дае з табой.
Любы народ на волю мае права.
І Беларусь уладзіць побыт свой
І ўрэшце скажа годна: «Я — дзяржава!»

Гучыць верш.

«Беларусь твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарках залётных агня!..»

## Сцэна пятая

Выпадковая стрэча на вуліцы Яраслаўля
М а к с і м а і А л я к с а н д р а К а с ь я н а в а, які разам
з Г а н н а й К а к у е в а й вучыцца ў Пецярбургскай кансерваторыі. 1913 год.

М а к с і м.
Ты, Саша? Ці мне гэта сніцца?
Канікулы ж далёка…

К а с ь я н а ў.
Дзядзя мой,
Бач, захварэў…

М а к с і м.
Што новага ў сталіцы?

К а с ь я н а ў.
Разбой у Пецярбургу, брат, разбой.
І забастоўкі, і студэнтаў сходкі…
Ад усяго шалее царскі ўрад.
Ён хоча ўсіх загнаць у загародкі,
Як той пастух пакорлівых цялят.
Ды непакорай поўніцца сталіца.

М а к с і м.
А сам ты ўдзел у сходках не прымаў?

К а с ь я н а ў.
Ды не. Кансерваторцы стараніцца
Стараюцца такіх ліхіх праяў.
Мы — музыканты… О, Максім, дарэчы!
Аб Мусаргскім чытаў артыкул твой.
Асаф'еву ты добра папярэчыў,
А ён жа кампазітар… Ды пастой —
Не музыкант ты. Як жа гэта
Ты змог з такім славутым саўладаць?

М а к с і м.
Мажліва, ў гэтым і няма сакрэту,
Бо мама ўмела хораша іграць…
А як там Аня, Саша? Ці ўсё слаўна,
Скажы, ў яе?

К а с ь я н а ў.
Магу табе сказаць,
Што бачыў з ёй Міхеева нядаўна…
Глядзі, цябе ён можа абыграць,
Бо з ім было ёй, ведаеш, не сумна.
Калі папраўдзе — дык наадварот…
Былы твой аднакласнік, брат, разумны
І ўчэпісты… Яму даць адварот
Не проста…І далёка ты ад Ані.
Ну, ды аднак не кідайся ў адчай.

М а к с і м.
Ну, што ж, бывай, быў рады я спатканню.
І прывітанне Ані перадай!

Чуецца, быццам за сцяной, песня «Зорка Венера».

## Сцэна шостая

Кватэра Багдановічаў. Тут — Адам Ягоравіч і Максім.

Адам Ягоравіч.
Дык ты гатоў абараняць Сальеры?
Ты з Пушкіным не згодны?

Максім.
Можа, так.
Хоць, тата, я да Пушкіна ў даверы.
Але Сальеры гэтакі ж мастак
Як Моцарт, толькі больш пакутаў
У працы знаць яму прызначыў кон.
Скажу табе: як Праметэй прыкуты
Быў да скалы калісь, так вось і ён
Да фартэпіяна. І так дзень за днём,
Напружаннем душы спакутаваны,
Тварыў. А Моцарт… Ён сябе сілком
Ніколі не садзіў за фартэпіяна.
А, як хлапчук гуллівы, да яго
Падскокваў граць, і клавішы аддана
Яму служылі, і паўдня ўсяго
Бывала траціў на стварэнне твора,
Шэдэўра — і знікаў гультаяваць,
Як пераможца… А Сальеры ў зморы
Мог шмат разоў свой твор перарабляць,
Шлючы сабе бясконцыя дакоры,
Паліць душу і ноты спапяляць.

Адам Ягоравіч.
Хто ж ты, мой сын, ці Моцарт, ці Сальеры?

Максім.
Я той, з кім маю намыслы адны,
Хто алгебру з гармоніяй не зверыў,
Але не знае ў творчасці маны.

## Сцэна сёмая

Хата Змітрака Бядулі. Гаспадар ляжыць на пасцелі,
Максім Багдановіч сядзіць у крэсле. 1916 год.

Максім.
Біблейская тэматыка, Змітрок,
Прызнаюся, навеяла мне тэму,
Дзе неяк і сябе я ўбачыць змог…
Ну, дык паслухай, дружа мой, паэму.

Чытае сваю паэму «Страцім-лебедзь».

З м і т р о к.
Самаахвярнасць… Хораша, Максім.
Ды й сам ты ці не гэты Лебедзь-Страцім.
Жадаеш, каб жылося добра ўсім…
А пра сябе ці думаеш ты, браце?

М а к с і м.
Што ўжо тут думаць? Будуць ад усіх
Нашчадкі. Ад мяне ж павек не будзе…

З м і т р о к.
Не гавары, Максім, такое ўслых —
Пачуе бог і спраўдзіць…

М а к с і м.
Цісне грудзі
Хвароба невыносна
*(кашляе, прыкрываючы*
*рот насоўкай).*
Бачыш кроў?
*(Паказвае крывавыя плямы на насоўцы.)*
Не, я займець дзяцей не маю права…
Бяссільны, бачыш, вопыт дактароў.
Сухоты — невылечная праява.
А я, ты ж бачыў, так люблю дзяцей.
Не суджана. Нязбытна. Непапраўна.
А ў сэрцы яшчэ гэтулькі страсцей…
А ўжо аб чымсьці марыць беспадстаўна.

## Сцэна восьмая

Крым. Вясна 1917 года. Белы дом ля сіняй бухты.
Тут — хворы М а к с і м Б а г д а н о в і ч на ложку і побач у крэсле
яго даглядчыца В а л я н ц і н а К а ц а р э ў с к а я. Яна чытае М а к с і м у Надсана.

В а л я н ц і н а.
«Не говорите мне «он умер». Он живет!
Пусть жертвенник разбит — огонь еще пылает,
Пусть роза сорвана — она еще цветет.
Пусть арфа сломана — аккорд еще рыдает».

Наступае хвіліна маўчання. Першым загаворвае М а к с і м.

М а к с і м.
Якая сіла ў чатырох радках!
Калі б не змог ён больш стварыць нічога,
Усё адно застаўся б у вяках…
Не геній ён, але паэт ад бога.
*(Кашляе.)*
І чвэрці веку не пражыў паэт…
У час адзін нам суджана кананне…

Вы пакажыце мне яго партрэт!
(*Валянціна, плачучы, падае яму кніжку.*)
Не плачце, лепш працягвайце чытанне!

В а л я н ц і н а *(чытае).*
«Умерла моя муза!.. Недолго она
Озаряла мои одинокие дни;
Облетели цветы, догорели огни…
(*Быццам працягам верша Надсана
Гучыць верш Багдановіча*):
Ў краіне светлай, дзе я ўміраю.
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З кнігарні пана Марціна Кухты.

## Сцэна дзявятая.

Кватэра Г о р к а г а ў Маскве.
Тут — гаспадар кватэры і А д а м Б а г д а н о в і ч. 1930 год.

Б а г д а н о в і ч.
Я, Аляксей Максімавіч, чытаў
Адпор твой бальшавіцкаму разбою…
У іх для гвалту, бач, зашмат падстаў…
І дзіўна, што мы бачымся з табою,
Маглі ж прыбраць… Ды не пасмелі, бач.
Аўтэрытэт сусветны не дазволіў…
Ты ж, Аляксей Максімавіч, прабач,
Як Буравеснік, ім памог міжволі.

Г о р к і.
Адам Ягоравіч, не думаў я,
Што цёмныя інстынкты мас лавінай
Пачнуць людзей раструшчваць…

Б а г д а н о в і ч.
А твая
Душа, мастак, адчуць была павінна
Касмічны жах. Як Пушкіна душа,
Яе пра бунт мужыцкі апасенне.
У гэткай калатнечы, дзе мяжа?

Г о р к і.
Але, але, ўсё адбылося так,
Як генія было прадвызначэнне.

Б а г д а н о в і ч.
А я табе даваў аб гэтым знак,
Ды, Буравеснік, быў ты ў захапленні
Ад распачатай барацьбы са злом…

Горкі.
Дарма я славіў будучую буру.
Ён страшны — гэты сацыяльны злом.
Ён губіць найвялікшую культуру.
Адзін прыгнёт мяняе на другі
І жыцці чалавечыя нічога
Нявартыя…

Багдановіч.
Але, мой дарагі,
Я рады, што цяпер ты з асцярогай
У будучыню ўглядваешся… Ды
Стаць у змаганні лёгка так ахвярай
Такому нават слыннаму, як ты.
Дарэчы далажу табе: пад карай
Чэкісцкай апынуўся, брат, і я,
Ды ўстроіла аднак жа мне ратунак
Екацярына Паўлаўна твая.

Горкі.
Я ведаю… Мо іншы накірунак
Пара прыдаць размове, га?
Як дзеці, перш за ўсё твае Мякоты?

Багдановіч.
Мякотаў, брат, усіх траіх няма.
Вадзім памёр, прастыўшы, ад сухотаў.
Сканаў Максім. А Лёву праз акно,
Калі ляжаў ён, ранены, ў шпіталі,
Шпурнулі ўніз з усімі заадно,
Байцы Чырвонай Арміі… Не сталі
Ад злосці высвятляць, хто ў іх страляў…
Памылка рэвалюцыі. Драбніца.
Мне жуд яе яшчэ і сёння сніцца.
Я з-за яе на сэрца хворым стаў,
А ў валасы ўплялася, бачыш, замець.
Сыноў замыў жыцця ліхі паток…
Максімаў зборнік, гэты вось «Вянок»
Адно жыццё пакінула на памяць.

Горкі.
Ну, пакажы!
(*Бярэ і гартае кніжку.*)
Цікава. Здольны сын.

Багдановіч.
Дык Беларусь ужо ім ганарыцца.
Хоць зборнік невялікі і адзін,
Ды як паэт Максім паспеў адбыцца.
Магу сцвярджаць я гэта…

Г о р к і.
Ну, твой густ
Дае і мне не сумнявацца ў гэтым.
І пачакай, шаноўны беларус,
Ажывяць Беларусь яе паэты.

Б а г д а н о в і ч.
Сын з’ехаў жа туды перад зімой.
Казаў мне на параду жыць у Крыме:
Чым век марнець у старане чужой,
Пажыць ляпей паўгода на радзіме.

Г о р к і.
Ты паглядзі, як піша твой Максім.
Бясспрэчна — ён паэт! Паэт удалы.
*(Чытае.)*
Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам Зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім да зор?





Зінаіда ДУДЗЮК

# ВОЛЬНЫ ПАЛЁТ

*Аповесць*

## 1

Зоя назірала праз акно, як муж сеў у жоўтую машыну таксі і ад'ехаў у аэрапорт. Яна шчыра пажадала яму шчаслівай дарогі. Паездка надарылася не зусім звычайная, ён павёз поўную валізку грошай. Гэта быў іхні асабісты рэкорд: яшчэ ніколі ёй не ўдавалася прадаць столькі квіткоў. Канцэрт эстраднай зоркі меўся адбыцца на стадыёне. Хоць Зоя трохі хвалявалася за мужа, аднак была задаволеная, што ім удалося правярнуць такую складаную і прыбытковую справу, бо ад атрыманай сумы яны зарабілі выгаднае адлічэнне…

Звычайна Зоя сама завозіла мужа ў аэрапорт, а сёння ён катэгарычна адмовіўся ад яе паслугі, праявіў чуласць, маўляў, ёй трэба адпачыць пасля трох тыдняў напружанай працы. Яна, кранутая ягонай спагаднасцю, згатавала вячэру і пасядзела з ім перад дарогай за сталом. Есці ёй не хацелася, таму выпіла чарку каньяку і з замілаваннем сачыла, як закусвае муж, праўда, быў ён нязвыкла ўзнерваваны, вядома, хваляваўся перад палётам. Зоя пажартавала: лётаць не страшна, страшна падаць, але ж ты ў мяне акрылены. Ігар нічога не адказаў, а толькі кінуў на жонку нездаволены позірк. Яна не пакрыўдзілася, звыкла да таго, што ёй дастаўся муж-маўчун, заўсёды незадаволены светам, а найперш — ёю. Калі выходзіў з кватэры, яна памкнулася яго пацалаваць на развітанне, ён паспешліва цмокнуў яе ў шчаку, спяшаўся, чакала машына.

Жанчына паўзіралася ў пахмурнае неба, акінула позіркам паўцёмны двор, прыслухалася да гоману падлеткаў, што гэтаю вечароваю парою збіраліся ў двары. Заканчвалася лета, дзеці паціху зляталіся з летнікаў і вёсак да бацькоў,

---

*__Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна__ нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1977) і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве (1993), працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданыя кахання» (2003), кнігу прозы «Палоннікі жыцця» (1997), раманы «Год 1812» (2005), «Кола Сварога» (2006), «Аднарог» (2010), гістарычны нарыс «Леў» (2011). Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» (1993), камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» (2002) і інш.*

узбуджана і радасна сустракаліся перад пачаткам навучальнага года. Зоіна дачка была на практыцы ў Ваўкавыску пасля перадапошняга навучальнага года. Вучылася яна ў тэхналагічным інстытуце, дзе практычным заняткам надавалася асабліва вялікая ўвага. Насця павінна была вярнуцца праз тыдзень-два. Зоі належала пражыць на самоце колькі дзён. Яна ўздыхнула, адышла ад акна, села на канапу, узяла тоненькую цыгарэту, зацягнулася, выпусціла дым і застыла нерухома, міжвольна думаючы, што не трывае адзіноты, бо звыкла з ранку да вечара мець стасункі з людзьмі. Паходы па ўстановах, продаж квіткоў, уладкоўванне артыстаў у гасцініцы, наладжванне канцэртаў... Яна рабіла ўсё сама, старалася ўлічыць кожную дробязь, каб ні ў чым не было збою, і выдатна спраўлялася са сваімі абавязкамі.

Жанчына акінула позіркам пакой, абстаўлены мэбляю дваццацігадовай даўнасці і падумала, што цяпер у іх ёсць магчымасць абнавіць інтэр’ер. Трэба падумаць і пра набыццё новай кватэры. Дачцэ пара мець уласнае жытло. Зрэшты, мэблю яны маглі б ужо даўно купіць, але муж усё адкладваў гэтую справу. Пакуль працаваў настаўнікам, дык не асабліва засяроджваўся на прыбытках, а калі адмовіўся ад выкладання геаграфіі і пачаў працаваць у камандзе з жонкаю, стаў надта ж беражлівы, што вельмі смяшыла Зою, якая была перакананая: грошы існуюць для таго, каб іх траціць. Праўда, часам ён наведваў казіно, колькі прагульваў не казаў, але іншы раз хваліўся выйгрышам. Сабе яна не адмаўляла ні ў чым. Калі бачыла прыгожы пярсцёнак з дыяментам ці прывабнае футра, адразу купляла. Праўда, шмат якія набытыя рэчы ёй хутка надакучвалі, і яна старалася ці прадаць іх, ці падараваць якой прыяцельцы.

Зоя пацягвала цыгарэтку, прыслухоўваючыся да сябе, і нездаволена адчувала, як нешта цягне пад грудзьмі, нечага карціць, наліла кілішак каньяку і выпіла адным глытком. Наступную порцыю пацягвала павольна, але супакаенне і раўнавага не прыходзілі. Душа яе прагнула асалоды, свята і не знаходзіла. Пайшла на кухню, зварыла каву, хацела прымасціцца там ля століка, але ў той цеснаце адчула нязручнасць і вярнулася ў залу, падліла ў кубачак каньяку, дадала цукру. Напой атрымаўся даволі смачны, але, узбадзёраная ім, яна ведала, што цяпер ужо не здолее заснуць, зноў у вушах будуць гучаць нейкія галасы і будзіць яе, варта ёй задрамаць хоць на хвілінку. Жанчына зняла тэлефонную трубку, набрала нумар і пачула голас сяброўкі.

— Тася, сонца маё, як жывеш? — спытала Зоя. — Даўно ж мы з табою не бачыліся.

— Нічога, збіраюся днямі па Юрку да маці. А ты як?

— Мой у камандзіроўку з’ехаў, а на мяне сумота напала, проста месца сабе не знаходжу. Быццам усё ў нас добра, з дачушкаю яшчэ раніцаю пагутарыла, мужа правяла, зарплату добрую атрымала. Што яшчэ трэба? А душа не на месцы…

— Мусіць, хацела са мной радасцю падзяліцца?

— Тася, сэрца маё, як ты мяне разумееш! Прыедзь да мяне. Га? Пасядзім, відак паглядзім, павячэраем разам…

— Зойка, рада б душа ў рай… Мне заўтра на працу на пяць раніцы… Сама ведаеш, сталоўка наша рана адчыняецца, а яшчэ нашмат раней трэба пачаць гатаваць стравы…

— Кінь, Таська, помніш, як у маладосці мы на Новы год па двое сутак не спалі! Заначуеш у мяне, будзільнік пабудзіць. Затое ўся ноч наша, нагаворымся да схочу… А ранічкаю я цябе сама на машыне завязу ў тваю сталоўку.

— Ай, Зойка, я так навалтузілася за дзень, што няма жадання і пальцам лішні раз варухнуць…

— Э, нешта ты, сяброўка дарагая, хітруеш. Мо кавалера новага завяла, ды не хочаш прызнацца…

— Якія кавалеры ў студэнцкай сталоўцы? Пра што ты кажаш?

— А твой былы не аб'яўляецца?

— Нашто я яму? Ён пасля мяне ўжо тры жонкі памяняў. Успаміны пра мяне і сына даўно сцерліся ў ягонай памяці. Каб яшчэ не піў, а так ужо, мусіць, сам не помніць, хто ён ёсць і на якім свеце жыве.

— Таська, нам неабходна сустрэцца, інакш я памру ад адзіноты, а ты пасля будзеш горка плакаць на памінках.

— Не кажы так супраць ночы…

— Давай, я сама па цябе прыеду, — прапанавала Зоя.

— Чую па голасе, што ты ўжо трохі прыклалася да пляшкі, і ў такім стане за руль?

— Табе б, Тосік, дэтэктывам быць, а не пончыкі пячы… Ну, выпіла я кроплю каньяку, дык што? Ці ў такім стане я іншы раз езджу. Машына ў мяне разумная, сама возіць, галоўнае, з хуткасцю не перабіраць…

— Вой, гора маё чубатае, што з табою рабіць? Сядзі дома, зараз прыеду…

— Прыедзеш? Таська, радасць мая, ты мяне проста ашчаслівіла…

Зоя, задаволена гутаркаю, паклала трубку, і няпэўным крокам пайшла на кухню, каб зрабіць бутэрброды і колькі салатаў да прыходу сяброўкі. Тасю яна любіла. Былі яны знаёмыя з маленства, раслі ў адной вёсцы, разам пасля дзесяцігодкі вучыліся ў адной вучэльні, толькі прафесіі ў іх былі розныя. Тася стала кандытарам, пайшла працаваць у сталоўку, бліжэй да харчоў, бо была са шматдзетнай сям'і, дзе так-сяк перабіваліся з бульбы на капусту. Зоя атрымала дыплом прадаўца, ёй пашанцавала ўладкавацца ў вялікім магазіне, а гадоў пяць таму перайшла ў фірму, якая тады арганізоўвала канцэрты. Якая розніца, што прадаваць, адзенне ці квіткі на канцэрт? Галоўнае, каб заробак быў добры! Падтрымліваць сяброўства прымушала жыццё. Зоя адкладвала для Тасі дэфіцытнае адзенне, сяброўка забяспечвала зямлячку разы два на месяц неабходнымі харчамі, каб тая не марнавала час у чэргах. Толькі ў апошнія гады, калі сітуацыя змянілася, а прылаўкі дзяржаўных і прыватных крамаў напоўніліся таварамі, сяброўкі пачалі сустракацца радзей, але не забываліся хоць па тэлефоне павіншаваць адна адну з днём нараджэння ці са святам. Зоя не мела сястры, былі ў яе толькі два браты, якія яшчэ ў юнацтве з'ехалі ў Сібір, ды недзе там і жылі, адгукаючыся гады ў рады, калі яшчэ была жывая маці, а цяпер яна нават не ведала іхніх адрасоў. Тася была ёй як сястра, пра яе яна ведала ўсё: як сяброўка выходзіла замуж за Толіка, што працаваў спачатку шафёрам, а потым, калі адабралі правы з-за п'янства, стаў грузчыкам; як доўга не было ў Тасі дзяцей, бо падарвалася яна ў сталоўцы, носячы, вялізныя каструлі, а потым усё ж нарадзіўся ў яе сынок, які шмат хварэў. Ды і Тася пра мінулае Зоіна жыццё ведала шмат. А што там было хаваць? Менавіта ў Тасінай сталоўцы пазнаёмілася Зоя са студэнтам з геаграфічнага факультэта, за яго праз тры месяцы выйшла замуж. Як на цяперашні розум, яна разумела, што вучыўся Ігар не надта добра, а ў вёску ехаць не хацеў, каб застацца ў горадзе, узяў шлюб з ёю, бо яна ўжо працавала і нават мела маленькі асобны пакойчык у інтэрнаце. Ды што тое згадваць, як-ніяк, а, дзякаваць богу, сямейны стаж пад срэбны юбілей падбіраецца, дачку выгадавалі, самы час пажыць для сябе, парадавацца, ды нейкая радасць не такая атрымлівалася ў Зоі… Усё нешта не так… А як трэба, яна і сама не ведала…

## 2

Тася ўвалілася ў кватэру, шумлівая і мажная, у шырокай квяцістай спадніцы і жоўтай майцы, з цэлафанавымі пакункамі, якія кінула тут жа ў парозе, абняла і пацалавала ў шчаку сяброўку, а пасля адступілася на крок, агледзела з ног да галавы яе зграбную постаць у малінавым халаце, перацягнутым у тонкай таліі паяском, і ўсклікнула з захапленнем:

— Малайчына, Зойка, цвіцеш і пахнеш!

— Каньяком, — засмяялася гаспадыня. — Што ты прывалакла? У мяне ўсё ёсць!

— Ай, кінь ты! Тваё, маё! Будзе наша! А ты ўжо цёпленькая!

— Тосік, без маралі! Я жанчына грэшная, на могілках праведнаю набудуся! Заходзь, стол накрыты і чакае шаноўную госцю.

Зоя, хістаючыся, рушыла наперад, Тася патупала следам за ёю, з усмешкаю падтрымліваючы сяброўку і жартуючы:

— Напілася, мяне не дачакалася, а мне цяпер што рабіць?

— Даганяць.

— Ты ўжо на нагах не трымаешся…

— На гэты конт не хвалюйся! Я шмат магу выпіць, больш, чым некалі малака на ферме, калі маме памагала даіць кароў! Правярала! Сядай бліжэй да стала, сонца маё, — запрасіла гаспадыня.

— Паслухай, гэта ж мы, каб засталіся ў вёсцы, мусіць былі б зараз даяркамі, — засмяялася Тася, выкладваючы на стол пакункі з піражкамі і булачкамі.

— Прыгожыя, між іншым, былі б даярачкі, — з гонарам адказала Зоя, наліваючы чаркі і абвяшчаючы тост. — За нас, Тосік! За тое, што здолелі мы выбрацца з гною і не абы-куды, а ў сталіцу.

— Мне, мусіць, давядзецца вяртацца ў вёску. Маці старая і хворая. Браты ды сёстры разляцеліся хто куды, я найбліжэй жыву. Вось падгадую сына, пастаўлю на ногі і паеду век дажываць, як кажуць, на малую радзіму.

— Годзе байкі расказваць, пі ўжо!

Жанчыны выпілі, пачалі закусваць, але Тасі хацелася прадоўжыць распачатую тэму.

— Што мяне тут трымае? Мужыка няма, праца цяжкая, як на ферме, тыя ж бітоны ды каструлі, і задуха, ажно за сэрца бярэ! А там паветра чыстае, рэчка, лес, воля!

— І радыяцыя…— нагадала Зоя.

— Якая там радыяцыя? Развеялася ўжо. Да таго ж, старых яна не бярэ! Галоўнае, Зойка, да пенсіі дажыць! Як я стамілася, каб ты ведала!

— Знайшла пра што думаць! Пенсія! Старасць! Жыві цяпер і зараз! Будучыня можа і не наступіць! Давай па другой! — прапанавала Зоя, разліваючы каньяк у чаркі. — Замуж табе трэба.

— Дык пазнаёміла б з якім багатым спеваком, я і зажыла б за шырокай спінай, хаця б з гэтым… — Тася на хвіліну запнулася, а пасля назвала прозвішча вядомага расійскага спевака.

— Фу, знайшла кандыдатуру! Ды ў яго вечна нос апухлы ад віягры! Зрэшты, я дам табе запрашэнне на канцэрт адной зоркі, праз два тыдні прыязджае. Квіткі ўсе прададзены! Пяцьдзясят тысяч месцаў! Уяўляеш? З гэтай нагоды балюем! А хочаш, я цябе з якім спеваком пазнаёмлю?

— Не. Хапіла мне майго Толіка.

— Занадта пераборлівая ты. Уважліва глядзі тэлевізар і выбірай, які спявак спадабаецца, таго я і запрашу ў Мінск, каб цябе з ім пазнаёміць. У нас жа бывае пасля кожнага канцэрта — вячэра ў рэстаране. Пасядзіш побач з улюбёнцам, пашэпчаш на вушка, як ты ад ягонага голасу млееш… Ну, і гэтак далей, адпаведна рамантычнаму сцэнарыю.

— Давай вып’ем за цябе, Зойка! Каб і надалей было ў цябе ўсё добра, каб пілося, елася і яшчэ хацелася.

— Будзьма! — адгукнулася гаспадыня, кульнула чарговую чарку і цяжка ўстала з-за стала. — Слухай, я тут новых пярсцёнкаў накупляла, паглядзі.

Яна прынесла са спальні некалькі маленькіх скрыначак, адчыніла перад госцяй. У яркім святле люстры калюча праменіліся дыяменты.

— Вельмі прыгожа! Хоць я ў ювелірнай справе мала што цямлю, але мне здаецца: пярсцёнкі гэтыя нейкія асаблівыя.

— Вазьмі сабе гэты, — прапанавала Зоя.

— Не! Ты што? Мяне яшчэ заб’юць за такую рэч! Я ж увесь час на людзях! Помніш, некалі казалі ў нас пра жанчыну, што ў райцэнтры жыла? Яе забілі за амерыканскі гадзіннік. Быццам нейкі ён быў асаблівы, ад пульса заводзіўся…

— Я больш за цябе на людзях бываю, і ніхто мяне не забівае. Вазьмі на шчасце, прашу… Ну, памерай, — угаворвала Зоя.

Тася з цяжкасцю надзела пярсцёнак на тоўсты, як сасіска, палец, залюбавалася і сказала:

— Як мала жанчыне трэба для шчасця! Нейкі пярсцёнак, увага, добрае слова…

— Не, Тосік, усё не так проста. Жыву я цікава, з рознымі эстраднымі зоркамі сустракаюся, камліменты ад іх атрымліваю, кіраўнік аднаго ВІА песню мне прысвяціў. Прызнаюся, прыемна слухаць яе. І пярсцёнкаў каштоўных у мяне цэлы тузін, і футраў розных ды сукенак — шафа ломіцца, а што такое сапраўднае шчасце, пакуль не ведаю. Сёння прысніла, што лячу ў самалёце і мне трэба скокнуць з парашутам, душа — у пяткі. Стаю ля адчыненых дзвярэй, а перада мной — цемра. Душу такі жах апанаваў, не магу варухнуцца з месца. Раптам нехта штурхнуў мяне ў спіну — і я паляцела, не бачу ні неба, ні зямлі, і парашута ў мяне няма. Вольны палёт!... Жуда! На тым і прачнулася… Думаю, мо мне для шчасця з парашутам трэба скокнуць? Адрэналіну не хапае…

— Не выдумляй, навошта бязглузда жыццём рызыкаваць? — адказала Тася, не адрываючы замілаваных вачэй ад пярсцёнка.

— Як для цябе зроблены. Зрэшты, аднолькавыя ў нас сялянскія рукі, — засмяялася Зоя. — Гэтую падзею трэба абмыць.

Яны зноў выпілі. Тася перакуліла сваю чарку і сказала, што больш не возьме ні кроплі. Зоя заўпарцілася, прынесла яшчэ дзве пляшкі і паставіла на стол.

— Ты шмат п’еш, Зойка, гэта шкодна, — заўважыла сяброўка.

— Сама разумею, але праца ў мяне такая, інакш нельга. Усе кантракты на канцэрты падпісваем у рэстаране. Пасля канцэрта — зноў пачастунак. Ну як не выпіць за поспех выдатных спевакоў? На працы заўважаюць, калі п’яная, касавурацца. Халера на іх! Сёння п’ю дзеля цябе. Мне трэба добра напіцца, — п’яна расцягвала словы гаспадыня. — Інакш зноў прыйдуць яны… Ну, гэтыя…

— Хто? — здзіўлена спытала Тася.

— Пачвары гэтыя… З паралельнага свету ці што… Страшныя такія, мярзотныя… Ведаеш, яны мяне ўсё ўгаворваюць з акна вылецець… Яны кажуць,

што ў кожнага чалавека ёсць крылы, толькі людзі пра гэта не ведаюць. А яны прыходзяць, каб паказаць, каб навучыць лётаць….

— Божа мой, у цябе белая гарачка? — спалохана спытала Тася.

— Белая гарачка? Не, гэта проста мульцікі такія мне паказваюць… Галоўнае, іх не баяцца і не верыць ім… Трэба проста час ад часу так набірацца, каб нічога не адчуваць… Сёння такі час настаў, Тосік. Сёння я моцна нап’юся, а потым пайду спаць, як немаўля, без мульцікаў і пачвар. — Адыдзі, адыдзі, кажу! — Зоя замахнулася на некага рукой. — Бачыш, толькі згадала, а яны ўжо тут.

— Хто тут? — насцярожана спытала Тася.

— Ды гэты чорт лысы! Стаіць нада мною. Чаго табе? — зноў замахнулася Зоя.

— Табе гэта здаецца, тут нікога няма. Я ж амаль цвярозая, — запярэчыла сяброўка.

— Няма? Па-твойму няма? А гэты вось перада мною, што галавою столь падпірае? Гэта хто? Ты з імі за адно? Гэта ты яго прывяла? Гэта твой палюбоўнік? Ну і густ у цябе! Дзе ты такую пачвару адкапала? — Зоя з агідаю пазірала перад сабою, затуляла твар рукамі. — Прэч! Не дакранайся!

— Зойка, можа, «хуткую» выклікаць? Ты нешта не ў сабе! — спалохана прапанавала Тася, не ведаючы, што рабіць.

Зоя раптам выпрасталася, з вырачанымі вачамі закрычала:

— Прэч! Прэч усе з маёй хаты! Прэч!

Яна схапіла пляшку і рынулася да Тасі. Госця адштурхнула Зою, яшчэ паспела ўбачыць, як сяброўка хлюпнулася на канапу, і, прыхапіўшы сумачку і туфлі, басанож выскачыла з кватэры. На лесвічнай пляцоўцы абулася, азірнулася на дзверы Зоінай кватэры, прамармытала сабе: «Вось дык пагасцявала!» Пастаяла, раздумваючы, што ж ёй рабіць. Сяброўка вельмі змянілася за апошнія гады. Не засталося ў ёй ні колішняй весялосці, ні радасці, для якой не трэба асаблівай прычыны. Некалі яны былі першыя рагатухі ў школе! Любілі паспяваць ды паскакаць у сельскім клубе. Цяпер нічога не засталося ад мінулага жыцця. Драўляны клуб людзі расцягнулі на дровы. У вёсцы большасць хат з забітымі вокнамі. З трывогай падумала пра Зою, як яна пераначуе адна, раптам зусім блага стане. Пасля супакоіла сябе: «Не першы раз напіваецца. Пахмеліцца заўтра — і ачуняе…»

## 3

Зою разбудзіў рэзкі тэлефонны званок. Яна з цяжкасцю прыўзняла галаву, дацягнулася да тэлефона, узяла трубку, пачула голас:

— Прывітанне, Зоечка, Вас турбуе прадзюсар (ён назваў прозвішча спявачкі). Калі будзе перадаплата за канцэрт?

— Сёння будзе. Менеджар учора вылецеў самалётам.

— Доўга ж ён ляціць… Ужо вечар… Варушыцеся, інакш выставім няўстойку…

Зоя зірнула за акно і ўбачыла, што змяркаецца.

— Як жа так? — спытала яна сама ў сябе і ў адказ пачула гудкі ў трубцы. — Што здарылася з Ігарам. Абакралі? Забілі? Што рабіць?..

Думкі замітусіліся, шукаючы тлумачэнне таму, што здарылася. Раптам яна зразумела ўсю трагічнасць яе становішча: муж згінуў, грошы прапалі. Як ёй цяпер жыць, яна не ведала. Яна закрычала, рвучы на сабе халат і ўкладваючы

ў гэты жэст усё сваё непрыманне, нязгоду з такім становішчам. Душа яе не гатовая была прыняць нечаканую вестку. Першае, што зрабіла Зоя, патэлефанавала ў аэрапорт і высветліла, ці даляцеў Ігар да Масквы. Ёй адказалі, што самалёт удала прызямліўся, усе пасажыры былі дастаўлены па прызначэнні ў гадзіну ночы па маскоўскім часе.

«З ім нешта здарылася ўжо ў Маскве», — падумала Зоя і патэлефанавала ў гатэль, дзе Ігар павінен быў спыніцца. Ёй адказалі, што ён туды не засяляўся. Зоя прыйшла да высновы, што мужа напаткала няшчасце, калі ён ехаў на таксі з аэрапорта… Не хацелася верыць, што ён загінуў, але роспач ахапіла сэрца. Згадала дачку, як жа ёй расказаць пра гэта? Зоя прастагнала, увайшла ў спальню, упала на Ігараву падушку і доўга плакала, не выціраючы слёз. Усё сумеснае жыццё з мужам праплыло перад яе вачамі. Жылі яны нядблага, здараліся спрэчкі, але яна мела лёгкую душу, хутка даравала абразы і кпіны, таму без асаблівай цяжкасці ўсталёўвала ў сям'і лад. Ён і яна зараблялі мала, але пашанцавала з кватэраю, якую далі Ігару, каб замацаваць мужчыну-настаўніка ў школе. З вялікай цяжкасцю набывалі мэблю і не толькі таму, што не хапала грошай, а таму што быў вялікі дэфіцыт. Тут ужо Зоя пастаралася здабыць усё неабходнае праз сваіх аднакурсніц з гандлёвага вучылішча. А як ён ганарыўся дачкою-выдатніцаю! Нават шкадаваў, што не ў ягонай школе вучыцца, няхай бы каляжанкі бралі прыклад, як трэба выхоўваць уласных дзяцей. Да жонкі ставіўся роўна. Але кветкамі і падарункамі не песціў. Толькі двойчы за жыццё падараваў ёй букеты: на вяселле ды калі нарадзілася дачка. А наконт падарункаў, лічыў, калі яна працуе ў магазіне, дык сама сабе купіць, што трэба…

Зноў зазваніў тэлефон. Зоя прыўзняла галаву і раптам убачыла цыдулку, якая ляжала на тумбачцы. Там было ўсяго некалькі слоў, Зоя прачытала іх, не беручы паперку ў рукі: «Паехаў шукаць лепшага жыцця. Бывай». Яна адразу пазнала Ігараў почырк, схапіла цыдулку, некалькі разоў прабегла вачамі, спрабуючы зразумець, што гэта магло азначаць. Рванулася да тэлефона, мо гэта муж? Але тэлефон ужо заціх. І раптам яна зразумела сэнс таго, што з ёю здарылася: Ігар знік па ўласнай волі разам з грашамі, ён падмануў яе, абакраў! А як ёй выблытацца зараз? Канцэрт не адбудзецца, бо не было перадаплаты. Як разлічыцца з людзьмі, якія купілі квіткі? Дзе ўзяць такую процьму грошай?.. А можа, ён так пажартаваў? Не мог жа Ігар так абысціся з жонкай і дачкою… Столькі гадоў разам… Хаця апошнім часам такі скупы стаў, усё складваў грошы. Яна адчыніла шафу, праверыла кішэні ягонай дублёнкі, дзе звычайна ляжалі сямейныя грошы. Там было пуста. «Усё забраў да рубля. Нават на хлеб не пакінуў! Дзякую, Ігарок! Ты забіў мяне! Знішчыў! За што? За дабрыню маю? Ці не за тое, што на сваю бяду ўзяла цябе ў супрацоўнікі? Каб ты сядзеў да гэтага часу ў сваёй школе, напэўна, нічога б не здарылася. А цябе, ці бачыш, там дырэктарка крыўдзіла, настаўніцы насміхаліся, плёткі разводзілі ды на шыю вешаліся. Проста не вытрываць было! Выратавала я цябе, адчыніла дзверы ў заможнае жыццё! А ў казіно і рэстараны ты ўжо і сам шлях знайшоў… Добра ж ты мне аддзячыў! Добра…»

Крыўда, гнеў і пачуццё бездапаможнасці ахапілі Зою, яна заламала рукі і загаласіла — па-вясковаму. Гэтак плакалі жанчыны на пахаванні. Праз свой крык яна ледзьве пачула тэлефонны званок і кінулася да апарата.

— Ігар, ты дзе?

У адказ пачула Тасін голас:

— Як пачуваешся, сяброўка? Хвалююся, цэлы дзень на званкі не адказваеш…

— Бяда ў мяне, Тася, Ігар прапаў.

— Як прапаў?

— У Маскве, — коратка адказала Зоя, пакуль не гатовая сказаць сяброўцы ўсю праўду.

— Што ж цяпер рабіць?

— Каб я ведала…

— Не панікуй, мо дзе запіў? Ці захварэў… Ці мала што магло здарыцца… Калі трэба дапамога, звяртайся…

— Дзякую, Тася. Пакуль…

Зоя паклала трубку, тупа глядзела на тэлефон, чакаючы ад яго выратавання, але ён маўчаў. Яна наліла чарку каньяку, выпіла адным глытком, потым наліла яшчэ, і яшчэ…

## 4

Тры дні Зоя не выходзіла з кватэры. Выпіла ўсе запасы алкаголю, якія былі дома, усё чакала, што Ігар адумаецца, пашкадуе яе і дачку. З агідаю яна раптам зразумела: муж ніколі не кахаў яе. Як жа ён мог класціся з ёю ў ложак? Чаго яму гэта каштавала? Мусіць, не вытрымаў уласнага падману і ўцёк. Мог жа сысці па-чалавечы... Навошта было выбіваць глебу ў яе з-пад ног, пазбаўляць працы і сродкаў на існаванне? Але гэты прыстасаванец прывык усё рабіць ціха. Можа, хацеў адпомсціць ёй? Але ў чым жа яе віна? На шыю яму не вешалася, сам прапанаваў ажаніцца. Шанавала і шкадавала яго, дапамагла з прапіскаю і працаю… А ў яго — ні жалю, ні спачування да ўласнае сям'і…

Яна засынала, седзячы за сталом, ці проста страчвала прытомнасць, а калі вярталася да яе свядомасць, зноў піла і з надзеяю пазірала на тэлефонны апарат. Спадзяванні аказаліся дарэмныя. Тройчы адгукалася Тася, але Зоі цяпер было не да пустых сяброўчыных спачуванняў, ужо нават пашкадавала, што сказала ёй пра Ігара, таму яна рэзка абарвала: «Калі спатрэбішся, сама паклічу!»

На трэці дзень сакратарка фірмы загадала ёй неадкладна з'явіцца да дырэктара. Зоя паабяцала зараз жа прыехаць, а сама з надзеяй падумала, можа, сумесна знойдзецца нейкае выйсце. Яна хуценька прыняла кантрастны душ, прычасалася, апранулася і паехала на працу.

Дырэктар, лысы, заўсёды ахайна апрануты і дагледжаны стары, сустрэў пытаннямі:

— Што здарылася? Чаму мне тэлефануюць з Масквы і патрабуюць грошы? Вы што там з Ігарам з глузду з'ехалі?

— Ігар прапаў разам з грашыма, тры дні таму вылецеў у Маскву і знік…

— А праз паўгода і ты з ім знікнеш куды-небудзь за мяжу? — падазрона пазіраючы паверх акуляраў, спытаў дырэктар.

Зоя вагалася, ці трэба паказваць яму цыдулку, пакінутую Ігарам. Але схілілася да думкі, што не варта бараніць подлага мужа, а трэба ратаваць сябе.

— Вось гэта ён пакінуў у спальні, — сказала жанчына і паклала перад дырэктарам цыдулку.

— Не ведаю, Зоя, які вы сцэнарый прыдумалі. Сітуацыя такая: канцэрт не адбудзецца, грошы людзям трэба вярнуць.

— Дзе ж я вазьму такія грошы? — спытала Зоя, вочы яе напоўніліся спачатку жудасцю, а потым слязьмі.

— Калі грошай няма, заводзім крымінальную справу, забіраем маёмасць, кватэру, машыну, яны ў казённым доме людзям без патрэбы. Усё зразумела?

— Чаму я павінна адказваць за яго?

— Таму што муж і жана — адна сатана.

— У мяне дачка… Як жа яна?

— Гэта твае праблемы… Даю яшчэ адзін дзень на роздум. Часу няма!

Зоя імкліва выйшла з кабінета. Трэба было тэрмінова шукаць грошы. Задача стаяла невырашальная, але трэба ж было нешта рабіць. Спакойна сядзець і чакаць, калі па яе прыйдзе міліцыя і павядзе ў турму, не магла. Паехала дамоў, згрэбла ўсе свае пярсцёнкі, завушніцы, пацеркі, бранзалеты і занесла ў ламбард, але атрыманая сума аказалася да смешнага малой. Яна вярнулася на кватэру, сабрала адзенне, футра, дублёнкі — усё, што можна было здаць у камісійны магазін. Але і гэтыя грошы не змаглі яе суцешыць. Жанчына зразумела, што яна трапіла ў такую пастку, адкуль ёй адна дарога — у турму. Купіла тры бутэлькі гарэлкі і зноў да вечара залівала бяду, пакуль не звалілася на падлогу непрытомная. А раніцай яна ўжо ведала, што ёй рабіць. Пахмялілася, і патэлефанавала Тасі ў сталоўку:

— Добры дзень, сяброўка. Як ты?

— Добра. Што ў цябе? — нецярпліва спытала Тася.

— У мяне ўсё дрэнна. Але ёсць адна просьба, няхай мая Насця пажыве ў цябе, а я паеду Ігара шукаць.

— У мяне? А як жа твая кватэра?

— У мяне ўсё забіраюць… Разумееш… За тыя грошы, што Ігар павёз. Карацей, калі я вярнуся, усё вырашу. Паклапаціся пра маю дачку, калі ласка… Я з табою разлічуся па вяртанні і папярэджу Насцю, каб яна адразу ехала да цябе…

— Добра, добра, не хвалюйся, я ўсё зраблю…

— Дзякую, Тася, ты мой самы надзейны сябар. Бывай…

На размову з дачкой у Зоі не хапіла ні смеласці, ні сілы, яна паслала ёй тэлеграму, у якой напісала: «Насця пасля практыкі едзь цёці Тасі Усё даведаешся вяртанні Абдымаю Мама».

Жанчына склала ў вялікую сумку самыя неабходныя рэчы. Затым апошні раз агледзела кватэру, выцерла слёзы, мімаходзь паглядзелася ў вялікае люстра ў вітальні, выйшла, замкнула дзверы. Ужо ў двары позіркам развіталася з любімай машынай, вішнёвай «Хондаю», і паехала на чыгуначны вакзал. Трамвай нумар тры, закалыхваючы яе гора, давёз да месца хутка. Яна развітвалася з горадам, можа, назаўсёды. Спазм сціснуў горла, яна апусціла галаву, каб схаваць слёзы. За спінай застаўся, лёгка крануты вохраю парк, рэчка, закутая ў бетон набярэжнай, стадыён, ператвораны ў рынак, і нарэшце — вакзал. Яна купіла білет на цягнік да горада К., села на лаўку і застыла ў чаканні, паўтараючы: «Няхай забіраюць усё! Няхай!.. Яны мяне не знойдуць ніколі! Няхай думаюць, што я знікла разам з ім!.. Ах, Насця, Насця, дзяўчынка мая залатая! Як я марыла пабачыць цябе шчаслівай! А цяпер ці пабачу наогул…»

Слёзы пакаціліся з Зоіных вачэй, яна выцерла іх крадком, баялася, каб ніхто не звярнуў на яе ўвагу, не паспачуваў. Цяпер для яе было галоўнае — вырвацца з горада, схавацца ад усіх і неяк існаваць да канца… Вось ён, сон у руку: вольны палёт у цемру і невядомасць! Жудасна і горка! А той, хто ў сне штурхнуў яе ў спіну, мусіць, быў Ігар, толькі яна яго не паспела разгледзець. А можа, гэта быў сам д’ябал, які ўжо даўно пасылаў да яе сваіх пачвар?.. Што яму трэба? Яе жыццё ці душа? Ці адно і другое разам? Хіба цяжка знішчыць чалавека? Але нячыстай сіле трэба, каб асоба прайшла праз уся кругі пекла і сама сябе спапяліла…

## 5

Чужы горад сустрэў Зою сонцам і цяплом, і яна падумала, што гэта добры знак. З вакзала яна патэлефанавала знаёмаму кіраўніку мясцовага ансамбля Сяргею. Здалося, яе нечаканаму з'яўленню ён узрадаваўся і адразу запрасіў у госці. Гэты ансамбль Зоя не аднойчы прымала ў сваім горадзе, Сяргей запрашаў яе наведаць іх горад, і вось яна з'явілася.

Сяргей, тоўсты, з абвіслымі вусамі, усмешлівы, шырока расчыніў перад Зояй дзверы кватэры і сказаў:

— Шчаслівы бачыць самую прыгожую жанчыну! Калі ласка, заходзьце!

Жонка Сяргея, Ірына, маладжавая, гладка зачэсаная, прыемна пульхная, выйшла з кухні, дзе ўжо нешта шкварчэла, і таксама радасна ўскрыкнула:

— Божа мой, як добра, што вы згадалі пра нас! Мы ўсё ламалі галаву, як бы вам аддзячыць за вашу душэўнасць… І вось вы тут! Адпачніце ў нас… Мы вам пакажам горад. Не пашкадуеце…

— Дзякую, — адказала Зоя. — Я два гады не была ў адпачынку… Стамілася, як сабака… А днямі вырашыла: годзе, паеду, куды вочы глядзяць! Купіла білет на першы цягнік, які трапіўся — і вось я тут!

— Малайчына, Зоя Міхайлаўна, гэта была лепшая думка, якая магла прыйсці вам у галаву! У нас жа цяпер усё ёсць: вінаград, кавуны, дыні… А зараз мыйце рукі — і за стол, пакуль мая Ірына нешта даварвае, мы вып'ем па фужэру віна за сустрэчу, успомнім былыя гастролі ды падумаем пра лепшую будучыню… Помніце, як мы ехалі некуды, у Беразіно, ці што, і заблудзіліся. Адна наша пявуння высунулася з дзвярэй аўтобуса і пытае ў першага сустрэчнага мужыка: «Куды мы едзем?» А ён у адказ: «Халера вас ведае, куды вы едзеце», — Сяргей зарагатаў.

Зоя ўсміхалася, старалася, каб ні адзін жэст не выдаў яе бядотнае становішча. А самы лепшы спосаб схаваць свае перажыванні і пачуцці — напіцца і забыцца пра ўсё, а пакуль была пры свядомасці, трэба было падрымліваць свецкую гаворку, разважаць пра майстэрства асобных спевакоў ці вакальных груп, зацікаўлена разглядваць сямейныя фотаздымкі ў альбоме.

Госця выказвалася мала, а больш слухала гаспадара, які падрабязна і з гонарам расказваў пра гісторыю свайго роду. Гаспадыня са свайго боку старалася ўставіць якое слова пра сваіх продкаў, але ёй час ад часу трэба было адлучацца на кухню, хоць стол і так быў застаўлены стравамі і фруктамі. Зоя з Сяргеем пілі шмат: гарэлку і віно, тосты прамаўляліся за здароўе адно аднаго, за знаёмых. Ірына ад алкаголю ўстрымлівалася, патлумачыла тым, што яна салістка, ёй трэба берагчы звязкі, нельга піць, курыць і есці семкі. Гаспадары частавалі госцю, прасілі пакаштаваць тую ці іншую страву, а яна здзіўлялася і палохалася, што яе абсалютна не бярэ хмель.

Хутка гаворка зайшла пра новы гастрольны сезон. Сяргей выказаў жаданне праехаць са сваімі артыстамі па ўсіх буйнейшых гарадах Беларусі. Зоя лёгка паабяцала асабіста арганізаваць канцэрты. Схлусіла, маўляў, у яе такія сувязі, што ёй гэта нічога не каштуе. Канцэрты пройдуць найлепшым чынам, бо беларускі глядач найлепшы ў свеце.

Калі ад выпітага і з'едзенага стала горача і цяжкавата дыхаць, гаспадар патэлефанаваў сыну, каб той паказаў госці горад і ваколіцы. Трэба было добра праветрыцца, каб прадоўжыць прыемнае і карыснае застолле, бо не кожны дзень знаходзіцца далёкі госць, згодны шчыра папрацаваць у якасці прадзюсара, дапамагчы ансамблю ў ягонай канцэртнай дзейнасці.

Хісткаю хадою Зоя выйшла з пад’езда, з усмешкаю літасцівай каралевы села ў машыну, дзе было горача, як у печы, і некуды паехала. І толькі тут яна адчула, што свядомасць адлятае ад яе, а яна можа нічога не помніць, ні пра што не думаць, праўда, яшчэ сілілася трымаць вочы распюшчанымі, хоць павекі зліпаліся…

Ачомалася яна зноў у кватэры на знаёмай канапе каля стала, папрасіла піць. Гаспадар паднёс ёй віна, і баляванне хоць і не з такім вялікім імпэтам прадоўжылася. Да іх далучылася некалькі артыстаў хору, якія прыйшлі па запрашэнні гаспадара. Свежыя людзі — новыя тосты, а Зоі хацелася аднаго: зноў забыць пра ўсё.

Яна не помніла, як яе ўкладвалі спаць, што ёй казалі, як распраналі, гэта быў той стан, пра які яна марыла — праваліцца ў прадонне цемры і пустэчы. Толькі так яна цяпер магла існаваць. Прачнулася пад абед з цяжкаю галавой, але гэта яе не збянтэжыла, бо ведала, што сіндром пахмелля здымаўся стограмоўкаю гарэлкі. Яна паварушылася, паморшчылася ад болю: правая рука змярцвела. Адчула, што пасцель пад ёю мокрая... У пакой увайшла Ірына, дрэнна хаваючы агіду, спытала:

— Як спалася?

— Дзякую, толькі я тут, здаецца падмачыла рэпутацыю… Прабачце… Я вам заплачу за сапсаваную пасцель…

Ірыне нічога не заставалася, як далей выконваць ролю гасціннай гаспадыні, і яна адказала:

— Бывае і горш… Вы ж незнарок…

— Куды ўжо горш, — скрушна ўздыхнула Зоя, выпаўзаючы з пасцелі і зграбаючы мокрую бялізну.

— Не турбуйцеся, я сама прыбяру. Прыміце душ, пойдзем снедаць на кухню, — адказала Ірына, расчыняючы балкон.

Апранаючыся пасля душа, Зоя са здзіўленнем зразумела, што яна зусім не адчувае сораму, ёй усё роўна, што падумаюць і скажуць пра яе гаспадары. Гэта была такая дробязь у параўнанні з тым горам, якое звалілася на яе! Яна не стала нават засяроджвацца на думках пра тое, як непрыгожа атрымалася. Ёй трэба было неяк праіснаваць не свеце, пакуль самі сабою вырашыцца праблемы. Найбольш яна баялася апынуцца ў турме. Ёй здавалася, што стуль яна ўжо ніколі не выйдзе жывою.

Калі Зоя зазірнула ў кухню, гаспадар з жонкаю шэптам аб нечым раіліся. Яна зразумела, гаворка ішла пра яе. «Няхай гавораць», — спакойна падумала госця і села да стала. Сяргей наліў сабе і госці па чарцы, каб пахмяліцца, Ірына адмовілася піць, нават за стол не села, нешта памешвала ў каструлі.

— За сустрэчу, — сказаў тост Сяргей і падміргнуў Зоі, бо разумеў, што б ні здарылася, трэба падтрымліваць добрыя адносіны з госцяю.

— Прабачце, што я так па-свінску… — для прыліку пачала апраўдвацца Зоя.

— Усё добра, Зоя Міхайлаўна. Гэта дробязі жыцця. Вас запрашае ў госці наша адміністратар Галіна Іванаўна. Зараз завяду вас туды. У яе цудоўная сям’я, вам трэба абавязкова з імі пазнаёміцца.

— Дзякую, з задавальненнем, — адказала Зоя, радуючыся, што цяжкая і пустая гаворка нарэшце скончыцца, а наперадзе яе чакае новая сустрэча і шчодрае застолле. — Выдатна ўсё-такі Бог зрабіў, што густа засяліў зямлю добрымі людзьмі! За вас, Сяргей і Ірына! Вы такая гарманічная і дзівосная пара! Проста не налюбуюся! За ваша здароўе і шчасце! — узняла на развітанне тост Зоя і хвацка перакуліла кілішак.

## 6

Праз дваццаць хвілін Зоя сядзела ў кватэры Галіны Іванаўны, немаладой жанчыны, высокай і хударлявай, са стомленым тварам, зрэзаным раннімі маршчынамі. Для знаёмства яны спачатку выкурылі па цыгарэтцы, потым пілі каву, потым зноў курылі. Галіна Іванаўна спрабавала распытаць Зою пра яе жыццё, і госці давялося хлусіць, якая ў яе цудоўная сям'я, які разумны і гаспадарлівы муж, а дачка — проста цуд.

— Божа мой, як я радая, — што ў вас усё так добра. — У мяне куды ні кінь, скрозь клін. Муж мой, мякка кажучы, ціхі п'яніца. Пяць гадоў нідзе не працуе, сядзіць на маёй шыі. Выгнаць шкода і трываць немагчыма.

— Дзе ж ён цяпер?

— На рыбалцы, хутка з'явіцца. Гэта адзіная справа, якую ён здатны рабіць.

— Дык адправілі б яго куды на мора рыбу лавіць, — засмяялася Зоя.

— Хто ж яго возьме, пня старога? І ў дачкі не ўсё добра ў сям'і. Няма дзяцей, не можа зацяжарыць. Муж пагражае разводам. Як жыць, што чыніць? — Галіна Іванаўна падціснула вусны, апусціла вочы і задумалася.

«Не пашанцавала мне з гаспадарамі на гэты раз, — з жалем падумала Зоя. — Каля яна будзе мяне частаваць? І ці будзе? Ужо ў горле перасохла».

У вітальні ляпнулі дзверы. Гаспадыня прабурчала:

— Вось, прыйшоў, — і пайшла сустракаць мужа.

Праз колькі хвілін у пакой укаціўся круглы чалавечак, на галаву ніжэйшы за гаспадыню, шырока заўсміхаўся, паціраючы далоні ўскрыкнуў:

— У нас госці! Якія людзі! І без аховы! Я буду вашым верным рыцарам.

— Разышоўся, як гарачы самавар! Ідзі пераапраніся, увесь рыбаю прапах! — упікнула мужа Галіна Іванаўна.

Гаспадар пацалаваў госці ручку і вярнуўся назад у вітальню, каб праз колькі хвілін зноў з'явіцца прычасаным, у свежай майцы і шортах. Ён зазірнуў на кухню, загадаў жонцы:

— Падавай абед!

Гаспадыня нешта ціха, але даволі злосна адказала, але муж не слухаў яе і адразу звярнуўся да госці:

— Дык вы з Беларусі? А я служыў там у войску. Ведаеце, добрая служба была. Добрыя хлопцы. Увогуле, былі ў нас у роце яны з усяго Саюза… А дзяўчаты… — пажартаваў ён. — Шкада, што вас тады не сустрэў! Вой шкада!

Ён падсунуў сваё крэсла бліжэй да Зоінага і зноў прыклаўся да яе рукі. У гэты час увайшла гаспадыня і з'едліва сказала:

— Зоечка, не звяртайце ўвагі на гэтага старога ката. Усё, што ён можа на сённяшні дзень — пацалаваць ручку, на большае не здатны.

— Галя, лепш мяне не заводзь!

— Вой, Міша, цябе хоць заводзь, хоць разводзь, прапіў ты ўсю сваю сілу.

Гаспадар кінуў пагрозна на жонку позірк, стукнуў кулаком па стале і сказаў:

— Годзе балбатаць, стаў на стол гарэлку і закусь!

Жонка прыціхла, замітусілася, быццам зразумела, што сказала лішняе, прынесла на стол колькі талерак, паставіла трохлітровы слоік самаробнага віна.

— Гэтым пойлам ты збіраешся частаваць дарагую госцю? — абурана сказаў муж. — Не чакаў я ад цябе такога, Галя! Ты ганьба нашага казацкага роду!

Ён раптам ускочыў на канапу, сарваў са сцяны шаблю, выхапіў з похваў, замахаў ёю перад сабою, быццам наступаючы на ворага.

Жонка знікла, а праз хвіліну з’вілася з пляшкаю гарэлкі.

— Бог тройцу любіць! — грозна сказаў муж.

Галіна Іванаўна прыгорбілася пад ягонымі гнеўнымі позіркамі і прынесла на стол яшчэ дзве пляшкі з мутнаватаю вадкасцю.

— Вось цяпер поўны ажур, — задаволена сказаў гаспадар, адклаў шаблю ўбок, сеў да стала і наліў чаркі. — Ну, будзьма здаровыя!

Ён чокнуўся з Зояй і выпіў адным глытком. Госця зрабіла тое ж самае, яны падміргнулі адно аднаму.

— Моцная, — пахваліла Зоя гарэлку.

— Яшчэ б! Для сябе ганю, — хмыкнуў гаспадар, наліваючы ў шклянкі віно. — Трэба запіць, каб лепш на душу легла.

Пасля трэцяй чаркі і трох шклянак віна Зоя прыкметна захмялела. Заставалася пад анекдоты гаспадара і нездаволеныя позіркі гаспадыні напіцца да страты прытомнасці і заснуць. Раздражняла толькі тое, што як толькі Галіна Іванаўна адварочвалася, Міша кідаўся абдымаць Зою, а яна як магла ўхілялася ад ягонай пяшчоты.

— Не слухай маю старую, — шаптаў гаспадар. — Хлусіць яна, што я не мужчына. Яна мяне не цікавіць, — і ўжо ў голас прапанаваў: — Паедзем са мною на рыбалку заўтра ранічкай? Залатую рабку зловім! Упэўнены, што мне з табою пашанцуе…

— Якая з мяне рыбачка? Не ўмею я вуды закідваць, — засмяялася Зоя.

— Не хвалюйся, я сам закіну. Твая справа толькі працэс падтрымаць… — зарагатаў гаспадар і чмокнуў госцю ў шчаку.

У гэты час увайшла гаспадыня і зніякавела, не ведаючы, што казаць.

— Ну, пацалаваў маладзіцу па-бацькоўску! Што з таго? Чаго стала, як слуп? Сядай да стала, выпі, як чалавек! — сказаў гаспадар, зноў наліваючы чаркі і звяртаючыся ўжо да Зоі. — Мой дзед быў атаманам станіцы, мужык рэдкай сілы! Трохлітровы збанок віна адным духам выпіваў, чаго і нам жадаў! Колькі баёў удалых правёў, колькі перамог атрымаў! Варты вялікага рамана! Але хто па цяперашнім часе можа напісаць добры твор пра героя-казака? Ніхто… Перавяліся шолахавы! Ну, будзьма здаровы!

Зноў Зоя не помніла, як яе ўкладвалі спаць, як гаспадар спрабаваў дабудзіцца яе на світанку, каб ехаць на рыбалку, але так і не змог. Прачнулася яна, калі ўжо сонца было высока і свяціла прама ў вочы, зноў адчула, што пасцель пад ёй мокрая...

У той жа дзень Зою завялі да адзінокай артысткі Аксаны, дзе ўсё паўтарылася: піццё віна, праўда, на гэты раз Зоя сама паклапацілася, каб было што піць, і начлег з усімі непрыемнасцямі, якія здараліся з няўдалай вандроўніцай. За два тыдні яна наведала не толькі ўсіх артыстаў, а нават касцюмераў, гукарэжысёраў, асвятляльнікаў і нарэшце апынулася на вуліцы. Твары, кватэры, імёны пераблыталіся ў яе галаве, ды помніць іх не было патрэбы, яна ведала, што па другім крузе ёй гасцяваць не давядзецца — не прымуць.

## 7

Адзіным месцам прытулку стаў для Зоі вакзал. Яна сядзела на лаўцы, разглядала людзей і прыкідвала, дзе б ёй падсілкавацца. Убачыла дзяўчыну, якая жавала бутэрброд. Падсела да яе, папрасіла хлеба. Дзяўчына здзіўлена аддала тое, што трымала ў руцэ, бо больш нічога з сабою не мела. Зоя з’ела

бутэрброд і адчула смагу. Ёй хацелася не проста вады, трэба было абавязкова выпіць нечага з градусамі. Яна дастала з сумачкі кашалёк, там яшчэ заставаліся грошы, і заспяшалася ў гастраном. Яна купіла пляшку гарэлкі, пастаяла, раздумваючы, куды б ёй падацца, наўзбоч заўважыла невялікі скверык, скіравалася туды.

Пляшку выпіла нагбом, адчула млявасць і заснула, седзячы на лаўцы. Калі прачнулася, дык ні сумачкі з дакументамі, ні валізкі з рэчамі не знайшла. Яна спачатку спалохалася, потым раззлавалася, пачала брыдка лаяць мясцовых злодзеяў. Людзі спяшаліся і рабілі выгляд, што нічога не бачаць і не чуюць. Раптам яна аціхла і зразумела, што яе больш нішто не звязвае з мінулым. Цяпер ёй належыць жыць па-новаму, адной сярод мноства людзей, якім усё роўна жывая яна ці мёртвая. Ёй ніхто не дапаможа, не падтрымае, трэба разлічваць толькі на сябе.

Зоя супакоілася, агледзелася. Дрэвы стаялі жоўтыя, стомленыя, быццам чакалі павеву халоднага ветру, каб скінуць з сябе прывідныя шаты і заснуць на ўсю зіму. «Гэта ж ужо восень, — падумала жанчына, — хутка зіма. Як жа я буду жыць? Дзе? У што апранацца? Дзе начаваць?..» А потым махнула рукой — неяк будзе. Дасць Бог дзень, дасць і ежу.

Яна паднялася з лаўкі і пайшла, куды вочы глядзяць. Старалася не згадваць мінулае жыццё. Ігара ненавідзела. Думаць пра дачку было невыносна балюча. Толькі аднаго не магла зразумець: апошнія пяць гадоў жылі добра, з'явіўся дастатак у сям'і, дачка вучылася, меліся ўсе перспектывы для таго, каб купіць новую кватэру, і ўсё гэта рухнула у адзін дзень. А цяпер ёй трэба паводзіць сябе вельмі асцярожна, каб на яе не звярнула ўвагу міліцыя, урэшце, дакументаў у яе няма, можна выдаваць сябе за каго заўгодна, прыдумаць сабе новае імя і прозвішча. І раптам зразумела, што цяпер ёй не трэба імя, няма каму яе клікаць. Яна ўсім чужая! Не было сэнсу глядзець у твары сустрэчных людзей. Нават тым, знаёмым з ансамбля яна без патрэбы, бо ўрэшце яны здагадаліся, што ніякі Зоя не адміністратар. Усё скончылася… Вельмі карцела закурыць, а яшчэ больш напіцца, каб нічога не разумець і не помніць.

Ідучы і гледзячы сабе пад ногі, яна заўважыла недакурак, падняла яго, падпаліла запальнічкай, прагна зацягнулася. Галава закружылася, і Зоя прыслянілася да сцяны, выпускала дым з рота тонкім струменем, глядзела праз яго на людзей, якія спяшаліся міма, абыходзілі яе, як адзінокі востраў. Яна міжвольна падумала, што аднойчы, мусіць, памрэ вось так на вуліцы, і ніхто не зверне ўвагі на нябожчыцу, гараджане будуць спяшаць міма. Хіба толькі блудны сабака абнюхае, ды міліцыя знойдзе яе труп. І ніхто не даведаецца, хто гэта перад імі, калі пры ёй ніякіх дакументаў…

На момант ёй стала жудасна ад таго, што яе пахаваюць у чужым горадзе невядома дзе, але яна прагнала гэтыя навязлівыя думкі і вырашыла, калі людзі не ідуць да яе, дык ёй трэба ісці да іх. Яна зазірнула ў першую піўную, якая трапілася ёй на вочы, увайшла туды, убачыла чатырох мужчын, неахайна апранутых, якія стаялі каля высокага круглага століка і пілі гарэлку з пластыкавых кубачкаў. Такі ж кубачак стаяў на суседнім стале. Зоя ўзяла яго, наблізілася да выпівох, павіталася, працягнула ім свой кубачак. Яны азірнуліся, агледзелі яе з ног да галавы. Адзін, невысокі, з цёмным абветраным тварам і пасіверанымі вуснамі спытаў:

— Новенькая? Скуль такая ўзялася?

— Не помню, мазгі рассохліся, трэба размачыць, — міжволі ўсміхнулася яна.

— Будзь здаровая, — сказаў мужчына, наліваючы ў яе посуд гарэлку.

— І вы будзьце здаровыя, — адказала яна, прагна выпіваючы.

Мужчыны больш не звярталі на яе ўвагі, працягвалі гаворку, яна лавіла асобныя словы, але сэнсу не магла зразумець, толькі з жалем думала, што, мусіць, у іх гарэлка скончылася, а ёй гэтага кубачка вельмі мала для таго, каб схавацца ад думак.

— Як мне жыць? — спытала яна ці то ў сябе, ці то ў іх.

Той, што наліваў ёй гарэлку, сказаў абыякава:

— Пераспіш са мною, яшчэ налью.

Зоя паглядзела ў яго мутныя вочы з чырвонымі павекамі, у агідны твар з перабітым носа і з гонарам адказала:

— Ты ведаеш, хто я? Мяне любяць усе лепшыя спевакі Расіі! Адзін нават прысвяціў мне песню.

— Гэтая хлусня нам знаёмая, — адказаў мужчына, кінуў на яе жорсткі пагляд і ткнуў кулаком у твар.

Зою моцна хітнула, на імгненне яна аслепла і страціла раўнавагу, але нечыя рукі падхапілі яе паставілі на ногі.

— За што? — з крыўдаю спытала яна.

— Дурноту з цябе будуць выбіваць да тае пары, пакуль не паразумнееш. Мая такая ж сучка была, мяне з кватэры выперла…

Зоя павярнулася і пайшла да выхаду, робячы выснову: трэба канчаткова забыць мінулае, яно працягвае яе малаціць. «За што?» — пытала сама ў сябе і не знаходзіла адказу. Доўга блукала па горадзе, выйшла на вялікі мост, спынілася на сярэдзіне, паглядзела на плынь унізе, думаючы пра то, што мо варта скокнуць уніз і тады скончацца ўсе яе беды. Яна нахілілася праз парэнчы і з жудасцю ўявіла, як яе мёртвае цела будзе боўтацца ў гэтай халоднай і мутнай вадзе, аднойчы, азызлае і смуроднае, прыстане да берага… Не, такой смерці яна не хацела. Ёй зрабілася моташна, адчула, як смыліць шчака пад вокам, наліваецца болем. «Мусіць, будзе сіняк, — падумала яна, мацаючы рукой балючае месца, і згадала, што ў сваім горадзе на вуліцы часам сустракала жанчыну з азызлым тварам, расквечаным сінякамі, і ніколі не здагадвалася, што такая ж доля чакае яе.

«Вось гад! Дзікун! — аблаяла яна п'яніцу, які вырашыў так жорстка навучыць яе жыццёвай мудрасці. — Усе супраць мяне! Нічога, я буду жыць! Назло ўсім! У мяне няма хлеба, затое ёсць воля! І я памру тады, калі захачу і як захачу!»

## 8

Тыдні праз тры Зоя навучылася жыць на вуліцы. Яна збірала бутэлькі, правярала сметніцы каля гароднінных крам, куды выкідвалі падсапсаваныя кавуны, дыні, вінаград, памідоры: усё гэта можна было перабраць, памыць і трохі пад'есці, на выпіўку ёй удавалася назбіраць пляшак. Рэгулярна яна абыходзіла скрынкі са смеццем у жылых раёнах, там знайшла сабе цёплую куртку і яшчэ тое-сёе з адзення. У яе зноў завяліся рэчы. Яна пакідала раніцай іх у камеры захоўвання ў вялікім гастраноме, а ўвечары забірала і тупала на вакзал, каб там пераначаваць у цяпле. Спала звычайна седзячы, класціся на лаўку баялася, не хацела звяртаць на сябе ўвагу міліцыі. Ела толькі раз на дзень, калі ўдавалася, увечары. Пра ежу дбала мала, галоўнае для яе было, назбіраць гро-

шай калі не на пляшку гарэлкі, дык хаця б на таннае віно, у горшым выпадку — на аптэчную бутэлечку настойкі баярышніку. За гэты час у яе з'явілася шмат новых знаёмых, людзей вельмі падобных на яе, якія невядома дзе жылі, невядома чым харчаваліся і невядома для чаго доўжылі сваё існаванне на зямлі. Хаця мэта ў іх была адна: заліць пэўную колькасць мілілітраў гарэлкі ў страўнік, каб адчуць сябе задаволенымі жыццём. З некаторымі яна віталася і перакідвалася словам, іншых абыходзіла здаля, інтуітыўна адчувала, што ад іх зыходзіць небяспека.

Яна няспешна ішла з яшчэ пустою тэчкаю да сметніцы каля піўной, убачыла каля сцяны некалькі пляшак, нахілілася і пачала збіраць. Раптам удар нагою ззаду абрынуўся на яе, і Зоя паляцела потырч. Яна ляжала колькі хвілін нерухома, пасля з цяжкасцю падняла галаву, разадраная шчака крывавіла, зірнула на крыўдзіцеля і ўбачыла блазнаватую ўсмешку на сіне-чырвоным твары. Чалавек зарагатаў. Зоя паднялася, атрэсла бруд з джынсаў.

— Гэта мая тэрыторыя! Зразумела? — крыкнуў ён. — Яшчэ раз пабачу, прыб'ю!

— За пустую пляшку гатовы чалавека забіць! Набрыдзь! — пачуўся жаночы голас.

Зоя азірнулася, убачыла жанчыну, яшчэ даволі маладую, гадоў да трыццаці, але такога ж неахайнага выгляду, што паказвала на яе прыналежнасць да племені бяздомных. Ад яе прыкметна патыхала сметніцай.

— Шуруй міма, бо і табе ўвалю, — адказаў мужчына.

Незнаёмка зазірнула ў твар Зоі, дастала з цэлафанавага мяшка пляшку з вадою, падала Зоі, сказала:

— Гэты дурань увесь свет ненавідзіць! Быццам нехта вінаваты, што яму не пашанцавала ў жыцці! Змый бруд і кроў… Каб запалення не было…

Зоя паслухмяна абмыла твар, выцерлася насоўкаю.

— Выдатна, — сказала незнаёмка. — Мяне Анжэлаю заві. Падабаецца мне гэтае імя.

— Прыгожае… Мусіць, перакладаецца як анёл…

— Ага, анёл-ахоўнік, што сам сябе ахоўвае…

Зоя прыгледзелася да сімпатычнага твару дзяўчыны, які бадзяжнае жыццё яшчэ не зусім сапсавала, і спытала:

— Няўжо і ты, такая маладая, страціла дом і ўсё?

— У мяне ніколі нічога і не было, акрамя дзіцячага прытулку, адкуль я час ад часу ўцякала. За гэта мяне двойчы ў псіхушку адпраўлялі, давалі там нейкія таблеткі, потым пяць дзён уколы калолі, потым — зноў таблеткі… Пасля таго лячэння я была тупая, як сібірскі валёнак, з месяц да розуму вярталася.

— Навошта ж ты ўцякала, калі так жорстка каралі?

— Мне здавалася, што аднойчы буду ісці па вуліцы і сустрэну сваю маму! Я пазнаю яе, бо, мусіць, падобная на яе. Я нават хачу пастарэць як мага хутчэй, каб знешне не вельмі адрозніваца.

— Шукаць маму на вуліцы — як іголку ў стозе сена. Трэба ведаць прозвішча, адрас…

Анжэла насупіла бровы, быццам вырашаючы, ці варта сказаць чужой жанчыне праўду, аднак адважылася:

— Падкідыш я, знайшлі мяне на гэтым вакзале, вось і прыходжу сюды час ад часу, спадзяюся: пацягне яе на тое месца, дзе мяне пакінула. Ведаеш, нават на цябе падумала, мо ты мая, насы ў нас нейкія аднолькава кірпатыя, — Анжэла засмяялася.

— Не, Анжэлка, ёсць у мяне дачка, яе Насцяю завуць, і жыве яна ў Беларусі…

— Ты яе таксама пакінула? — абурана зірнула Анжэла. — Ненавіджу вас, зязюль!

— Ты не так зразумела. Я сваю дзяўчынку гадавала разам з мужам ажно да апошняга курса інстытута, а вось летам вымушана была пакінуць дом і з’ехаць. І для гэтая была важкая прычына, пра якую не хачу згадваць… Таму так цяжка прывыкаю да бамжавання…

— Ты праўда не пакідала яе?

— Пакуль яна жыве ў маёй сяброўкі, скончыць інстытут, уладкуецца на працу, і ўсё ў яе будзе добра, спадзяюся…

— Я ўсё зразумела, цябе муж падставіў, — выказала здагадку Анжэла.

— Так, але не будзем пра гэта. Ты ж дарослая, усё разумееш… Колькі табе гадоў?

— Дваццаць.

Зоя паглядзела на Анжэлу і падумала, што і гэты малады тварык ужо даволі знасіўся ад беспрытульнага жыцця.

— Мая Насця на год за цябе старэйшая. А хочаш, будзеш маёй названай дачкой?

— Мы можам сябраваць, а маці я хачу адшукаць сваю сапраўдную, каб паглядзець ёй у вочы і спытаць, ці знайшла яна сваё шчасце без мяне?

— Кожны мае права шукаць тое, што ён хоча. А дзе ты жывеш?

— На звалцы. Мы з Вадзімам пабудавалі сабе хатку.

— Ён хто?

— Сябар мой, заступнік… З ім мне добра. А да гэтага было ўсяляк… Хочаш з намі на звалку? Магу за цябе заручыцца… Там у нас чужых не прымаюць…

— Добра, калі-небудзь наведаю цябе…

— Калі-небудзь… У нашым жыцці нічога нельга адкладваць на потым, — усміхнулася Анжэла. — Што ты тут назбіраеш? А там машынамі самі прывязуць! Каўбасу і сыр іншы раз скрынямі вывальваюць. Вадзім гэта ўсё збірае і перадае аднаму гандляру, які на рынку збывае пратэрмінаваныя харчы. Такі ў нас бізнес… Зрэшты, я запрашаю цябе, а значыць, частую. Не думай сёння пра хлеб… Дамовіліся?

— Мне губляць няма чаго, — згадзілася Зоя.

Жанчыны селі на першы спадарожны аўтобус, не клапоцячыся пра квіткі. Што з іх возьме нейкі кантралёр? Ехалі, усміхаліся адна адной, паглядвалі ў вокны і не адразу заўважылі, што вакол іх утварыўся вакуум. Пасажыры згрувасціліся ў хвасце аўтобуса, гідліва паглядвалі на дзвюх бамжых. Упершыню Зоі стала сорамна. Мо таму, што была яна яшчэ зранку зусім цвярозая і яскрава разумела сваё становішча: яна на дне, скуль, мусіць, ніколі не падняцца.

— Давай выйдзем, — прапанавала яна Анжэле, нешта мяне закалыхвае.

— Ды кінь ты! Яшчэ прыпынкаў пяць пілаваць пешкі, — заўпарцілася дзяўчына.

— Дрэнна мне, атруцілася, мусіць, учора, выверне зараз, — сказала Зоя. — Ты едзь, я на тваю звалку сама прыйду.

— Слабачка ты… Нічога, з часам да ўсяго прывыкнеш…

Анжэла з Зояй выйшлі з аўтобуса на бліжэйшым прыпынку, пакінуўшы пасля сябе ў салоне цяжкі смуродны пах.

## 9

Над звалкай лёталі зграі варон, вісела смуга шызага дыму, уладарыў невынішчальны пах тлену. Тут вярталася зямлі тое, што было ўзята ад яе шчодрасці, але сапсаванае, знішчанае, нікуды нявартае і ў такой колькасці, што глеба была не здатная ўспрыняць. Анжэла спынілася ля нейкага катушка, абгорнутага руберойдам, на даху якога красаваўся комін, усміхнулася:

— Вось тут я і жыву.

Зоя агледзелася і ўбачыла з дзясятак гэтакіх самых халуп, зробленых з чаго Бог паслаў. Некаторыя шчыльна туліліся адна да адной, іншыя стаялі паасобку. Зводдаль сядзеў чалавек, чухрыўся, адгарнуўшы крысо сарочкі, нешта вышукваў, лавіў за пазухай і адкідваў ад сябе.

— Што гэта ён робіць? — спытала яна.

— Вашывец гэта. Вошы яго заядаюць. Не мыецца ніколі… Дарма змагаецца. Адну зловіць, а тым часам сто новых вырастаюць. Ды не звяртай на яго ўвагі. Тут розныя людзі жывуць. Там Паліна бязногая…

— Як бязногая, — сумелася Зоя.

— Ногі ў яе ёсць, але баляць вельмі. Яна мала і цяжка ходзіць, прастудзілася. Зімой тут холадна. Кажуць, што ў яе ў горадзе ёсць кватэра, але яна чамусьці жыве тут. Мы ёй дапамагаем. А там далей — Карась з Любаю, злева — Кавун… Гэты чувак адукаваны, казаў, ведае дзве замежныя мовы, выкладаў нешта ў інстытуце…

— Чаму ж ён тут апынуўся?

— Звычайна, уцягнуўся ў п’янства, праперлі з працы, а жонка з дому выгнала… Ды тут хапае розных… Побач з ім жыве былы бізнесовец адзін, мой Вадзік некалі яшчэ падлеткам яму джып мыў. Уяўляеш, гэтага крутога так падставілі, што застаўся ён без нічога, запіў з гора і пакаціўся да нас на звалку. Цяжка яму, такі ганарысты! Калі ласка, заходзь у мой палац…

Анжэла адамкнула вісячы замок, упусціла госцю ў паўцёмны катух, пасярод якога мясцілася грубка, на ёй узвышаліся чайнік і каструля, насупраць ля сцяны стаяла абадраная канапа, а на ёй ляжала гурба рызманоў.

— Холадна ў нас, зараз грубку растопім, — замітусілася Анжэла.

Зоя глядзела на гэтае страшнае жытло, удыхала невыносны пах, згадвала сваю кватэру і ўсё сілілася зразумець, за які грэх яна апынулася тут, як нікому не патрэбная рэч. Хвілін праз колькі грубка ажыла, загула, напоўненая вясёлым полымем, забулькаў чайнік. Анжэла паставіла каля канапы пластмасавую скрынку з-пад бутэлек, заслала газетай, на гэтым прыстасаваным стале адкрыла бляшанку з кількай, абшкрэбла плесень на булцы чэрствага хлеба, нарэзала яго на тоўстыя лусты і сказала:

— Смачна есці. Яшчэ памідоры ёсць.

Яна дастала са скрынкі, што стаяла за грубкай, некалькі памідораў, разрэзала іх на кавалкі.

— Дзякую, Анжэлка! — адказала Зоя, якая толькі пакаштавала маленькую кілечку, але з-за смуроду не адчувала паху ежы, а толькі агіду да ўсяго навокал. — Я ўжо адвыкла абедаць, звычайна толькі вячэраю.

— Мы часта вячэраем разам. Распальваем вогнішча, сядзім, гутарым, смажым, як ёсць што… Карацей, вельмі рамантычна… А ведаеш, у майго Вадзіка кватэра ёсць. Ды старэйшы брат яе прысвоіў.

— Чаму?

— На Вадзіка навесілі чужое забойства. Гэта ў шаснаццаць гадоў! Пакуль ён сядзеў у турме, брат яго з кватэры выпісаў.

— Як жа так атрымалася, што яго, нявіннага, пасадзілі ў турму?

— Вадзік са сваёю дзяўчынаю быў на нейкай гулянцы. Некалькі хлопцаў пасля ўсяго згвалцілі і забілі тую дзяўчыну. Казаў, прыгожая была, шмат каму падабалася. Ён спрабаваў яе абараніць, але і яго збілі. Сярод гвалтаўнікоў быў сынок нейкага багацея… Карацей, спіхнулі ўсё на Вадзіка, паколькі ён адзін быў у сіняках…

— Не пашанцавала хлопцу...

— Ах, абед у мяне не вельмі, але Вадзік што-небудзь здабудзе на вячэру…

— Дзякую, абед такі, што лепш не бывае, — усміхнулася Зоя, з цяжкасцю перажоўваючы хлеб з памідорам.

— Заставайся з намі да вячэры.

Зоя памаўчала, баючыся, каб не пакрыўдзіць дзяўчыну, потым сказала:

— Не магу есці без гарэлкі… Не падумай што… Страўнік ежу не прымае. Без выпіўкі і заснуць не магу, вар’яцею ад думак… Разумееш, мне трэба ісці… Ваўка ногі кормяць…

— Заставайся да вечара, я ж кажу, Вадзік усё прынясе…

Зоя разумела, што вытрымаць гэты смурод яна не здолее нават дзесяць хвілін, а тая ежа, што яна з’ела, гатова была вылецець назад.

— Дзякую, дзяўчынка, неяк іншым разам. А зараз пайду. Нешта блага мне…

Яна ледзьве паспела выскачыць з катуха, ёй зрабілася блага...

## 10

У Зоі не было календара, яна згубіла лік дням, але здагадвалася пра набліжэнне Новага, 2010 года, назіраючы, як мяняецца падсветка горада і аздабленне вітрын. Яе мала цікавілі святы, ведала: жыццё яе можа абарвацца ў любы момант. У думках яна падрыхтавалася ўжо да смерці і чакала яе з дня на дзень: ніштo Зою больш не трымала на гэтым свеце. Муж уцёк, забраў пры гэтым усе сродкі, якімі магла б яна жывіцца ў цяперашнім існаванні. Дачцэ яна сама прынесла вялікую ганьбу. Як дзяўчынка можа напісаць у анкеце, што маці яе сядзіць у турме? Ды лепш скрозь зямлю праваліцца, знікнуць назаўсёды, чым дазволіць такое!

На грошы, якія атрымлівала Зоя, здаючы шклотару, яна купляла гарэлку ці таннае віно. Дапівала ў піўных пакінутае некім у шклянках, кубках і пляшках. Гэтымі напоямі даўно можна было атруціцца, але Зою не брала яе смерць. Яна не бачыла сэнсу ў такім сваім існаванні. Для чаго доўжыць нікчэмнае жыццё, пакутаваць ад холаду і голаду? Аднойчы завалодала Зояй ідэя: знайсці жорсткага, але прыстойнага чалавека, які б здолеў таемна забіць яе, а цела закапаць дзе-небудзь за горадам. Вельмі не хацелася ёй паміраць на вуліцы, каб сабакі і пацукі не абшкуматалі, вароны не падзяўблі, медыкі не рэзалі ў трупярні. І тады яна пачала збіраць грошы, якімі збіралася заплаціць забойцу. Перастала есці, навошта патэнцыяльнаму мерцвяку ежа? Праўда, без выпіўкі жыць не магла і штовечар выпраўлялася на шпацыр па барах і піўных з пластыкавым кубачкам, і ёй патроху налівалі. Да начлега на вакзал дабіралася даволі стомленая і п’яная. У адзін з вечароў у змрочнай і бруднай забягалаўцы, якая мясцілася каля вакзала ў палатцы, Зоя сустрэла Анжэлу. Абедзве жанчыны вельмі ўзрадаваліся.

— Дзе ты прапала? — радасна спытала Анжэла, абдымаючы і цалуючы Зою.

— Ды тут я…

— Чаму ж я цябе ніколі не сустракала? Шмат разоў прыходзіла на вакзал…

— Ну, вось і сустрэліся…

— Зараз вып’ем. Вунь Вадзік стаіць у чарзе па пляшку, — Анжэла паказала на высокага худога хлопца.

— Гэта той самы Вадзік? — усміхнулася Зоя. — Нішто сабе хлопец са спіны.

— Ён і з твару прыемны… У нас усё цудоўна. Уяўляеш, я зацяжарала. У нас будзе дзіця.

— Віншую. Як жа яно будзе на сметніку?

— А што? Я жыву, і яно там будзе… Толькі ты Вадзіку пакуль нічога не кажы, хачу зрабіць яму падарунак на Новы год. Мусіць, узрадуецца…

— А што яму застаецца рабіць у такім разе? — сказала Зоя.

— А ты як? — са шчыраю зацікаўленасцю спытала Анжэла.

Зоя паглядзела ў яе добрыя і даверлівыя вочы і не стала адказваць, як таго патрабуюць правілы прыстойных паводзін, маўляў, дзякую, усё добра, бо, па сутнасці, на сёння толькі гэтая маладая і абсалютна чужая ёй жанчына была самаю блізкаю.

— Хачу памерці. Можа, ты ведаеш якога жорсткага чалавека, які б забіў мяне і закапаў, каб ніякіх слядоў не засталося?

— Што ты набрала сабе ў галаву?

— Душа мая памерла, і нішто тут мяне не трымае… Засталося пахаваць цела, каб сабакі не разгрэблі ды вароны не расклявалі. Сама разумеш, існуе тысяча і адзін спосаб знішчыць сябе. Але я не хачу, каб у маіх вантробах капаліся паталагаанатамы, а міліцыя вызначала маю асобу…

За размоваю яны не заўважылі, як да іх падышоў Вадзім, паставіў на высокі столік пляшку гарэлкі, дзве бляшанкі піва і талерачку з лустачкамі хлеба і нарэзанымі салёнымі гуркамі.

— Вось і я, — сказаў ён, абыякава пазіраючы на Зою.

— Гэта мая названая маці, — паспяшала патлумачыць Анжэла. — Помніш, я табе расказвала.

Вадзім згодна кіўнуў галавою і сказаў:

— Трэба выпіць за знаёмства.

Зоя паспешліва паставіла свой памяты пластыкавы кубак на стол. Вадзім разліў гарэлку ў посуд. Усе з задавальненнем выпілі.

— Закуска царская, — пахваліла Зоя гуркі, закусваючы. — З прыемнымі людзьмі і самая простая ежа здаецца далікатэсам.

— Бачыш, Вадзім, якая ў мяне цудоўная мама! — сказала захмялелая Анжэла, абдымаючы Зою. — Я б з ёю не разлучалася, ды яна не хоча жыць на звалцы…

— Я ўжо нідзе не хачу жыць, — абыякава адказала Зоя.

— Ты паслухай, Вадзім, да чаго яна дадумалася! Шукае жорсткага чалавека, які б яе забіў і закапаў.

Вадзім зацікаўлена паглядзеў на Анжэлу, потым запытальна — на Зою.

— Як можна сабе жадаць смерці? — з дакорам прамовіла Анжэла. — Ды няхай лепш усе нашы ворагі здохнуць! А ў першую чаргу Вашывец! Чуеш, Зоя, што здарылася? Вашывец сказаў, што мы ў яго грошы ўкралі! Вадзім яго ледзь не задушыў…

Вадзім наліў другі раз, абвясціўшы тост:

— За смерць нашых ворагаў.

Зоя выпіла, зазірнула ў вочы Вадзіму і спытала:

— Можа, ведаеш, якога жорсткага чалавека? Я заплачу за працу…

— А дзе пахаваць цела? — спытаў ён.

— Думаю, найлепш было б недзе ў гарах. Цяпер зямля замерзла. Капаць цяжка. Няхай заваліць каменнем у якой-небудзь расшчэліне і ўсё на тым. Не магу я больш…

— Дык гэта, як няма чаго рабіць, — засмяяўся Вадзім. — Грошы ўперад.

— Якія грошы? — абурылася Анжэла. — Ты што, дурань? Забіць маю названую маці? Ды я сама цябе!...

Яна патрэсла кулаком каля Вадзімавага носа.

— Ды я не сам, прапаную хлопцам…

Зоі было ўсё роўна, хто яе заб’е, абы зрабілі гэта разумна, каб ніякіх слядоў не засталося. Яна выцягнула з кішэні грошы і паклала перад Вадзімам.

— Добра, — адказаў Вадзім, зграбаючы купюры. — Прыязджай заўтра пасля абеду на звалку. Там усё вырашым. А цяпер па трэцяй кульнём! За каханне!

— Не забівай яе! — папрасіла Анжэла. — Яна мне вельмі падабаецца. А раптам яна і сапраўды была мая мама ў нейкім іншым жыцці! Адчуваю з ёю душэўную роднасць…

— Ды супакойся ты! Пі!.. — абарваў дзяўчыну Вадзім.

— Добра, я абавязкова заўтра прыеду, — паабяцала Зоя і пачала развітвацца, не жадаючы злоўжываць гасціннасцю. — Дзякую за пачастунак. Шчасця вам і ўдачы ва ўсім.

— Зойка, ты куды? — ухапіла яе за рукаў Анжэла. — Я ж яшчэ не нагаварылася з табою.

— Заўтра пагутарым, як прыйду да вас.

— Буду чакаць. Жыві доўга, — крыкнула Анжэла ёй у спіну.

Зоя выйшла з забягалаўкі і накіравалася да бліжэйшага бара. Сёння трэба было моцна напіцца, каб лёгка заснуць і не ўяўляць, як забойца будзе яе знішчаць, а потым закідваць каменнем. У маленькім бары было даволі шматлюдна і яна пайшла ад стала да стала, просячы гарэлкі ці піва. Ёй налівалі, яна дзякавала, жадала ўсім здароўя і выпівала. Да вуха яе даляцела знаёмая мелодыя. Яна пазнала песню, прысвечаную ёй, і сказала на ўсю залу:

— Слухайце, гэта пра мяне спяваюць.

Мужчыны за столікам, да якога наблізілася Зоя, грэбліва пасміхнуліся.

— Вы не верыце? Гэта сапраўды песня, прысвечаная мне! Пра мяне спяваюць!

— Ага, толькі пра такую сметніцу яны і могуць спяваць! Больш няма пра каго!

— Гэта пра мяне! — закрычала Зоя і грымнула кулаком па стале.

— Пайшла прэч, алкашка! — гідліва сказаў мужчына з круглай нагола астрыжынай галавой і адштурхнуў яе.

Яна паляцела паміж сталамі, аб крэсла разбіла губу і нос. Нейкі чалавек падняў яе, павалок да выхаду і шпурнуў на тратуар.

## 11

Зоя рыхтавалася паміраць, а для гэтага трэба было неадкладна памыцца. Упершыню за некалькі месяцаў яна вырашыла пайсці ў лазню, а для гэтага ўсю раніцу збірала пляшкі не для пахмелля, а на квіток. Аказалася, што ў яе няма ручніка, была толькі нейкая анучка, якую яна знайшла на сметніку. Ёю можна было абцерціся, у крайнім выпадку можна і пачакаць пакуль цела само абсохне.

Дзень аказаўся вельмі ўдалым. Нягледзячы на тое, што выпаў першы снег, яна назбірала цэлафанавы пакет пляшак і ўдала здала. Атрыманых грошай хапіла, каб хоць трохі пахмяліцца, а таксама купіць кавалачак мыла і квіток. У добрым настроі ўдачлівага чалавека Зоя прайшла міма прыбіральшчыцы і не звярнула ўвагі, што тая зморшчылася і гідліва паглядзела ёй услед, выбрала шафку, распранулася, узяла тазік і мыла, упершыню за некалькі месяцаў падышла да люстэрка…. і не пазнала сябе. З бліскучай і чыстай люстраной паверхні на Зою пазірала худая старая з чорным зморшчаным тварам, абадраным носам і разбітай губой. Не верачы сваім вачам, Зоя азірнулася, шукаючы тую, іншую старую, адлюстраванне якой яна ўбачыла ў люстэрку, але побач нікога не было.

— Гэта я? Гэта я, Божа!

Страх і непрыманне ўбачанага авалодалі ёю. Зоя хацела закрычаць, заплакаць па былым сваім харастве, ды раптам схамянулася, што ёй сёння паміраць. «Наспеў час, — сказала яна сабе. — Ужо маё аблічча можна назваць увасабленнем смерці. Такою агіднаю я сябе ніколі не бачыла. Ну, нічога… Не доўга ўжо…»

Зоя спярша з асалодаю плёскалася з тазіка, намыльваючы і шаруючы бруднае цела, а потым пайшла ў парылку і ляжала на гарачых дошках, пакуль магла трываць. Іншыя жанчыны падсцілалі пад сябе ручнікі ці пялюшкі. Зоя ніякае заразы не баялася, ведала: захварэць не паспее, бо сёння скончыцца яе жыццё. Душу яна падрыхтавала ўжо, трэба было ачысціць цела, каб з’явіцца перад Богам у прывабным стане.

Пасля парылкі аблілася халоднай вадой і зноў доўга мылася, выкалупвала бруд з-пад пазногцяў, адмывала склееныя валасы і адчувала, як бязважкасць напаўняе яе зморанае і занядбанае цела. «Цяпер мне лёгка будзе ўзняцца ў неба, — падумала яна спакойна. — І не сорамна прыйсці на страшны суд, калі ён ёсць. Зрэшты, чаму яго называюць страшным? Мо таму, што ўсе людзі грэшныя?..»

Калі яна пасля чарговага наведвання парылкі выйшла да сваёй шафкі, каб трохі астыць, і зірнула на гадзіннік, дык зразумела, што ёй трэба спяшацца. Яна хуценька абцерлася, апранулася, і пайшла, не ўзяла з сабою ніякіх рэчаў. Навошта? Цяпер ёй нават пластыкавы кубачак без патрэбы. Села ў аўтобус і доўга ехала да звалкі. Ніхто ў яе квітка не пытаў, ды яна і не баялася кантралёраў. Што яны могуць у яе ўзяць? Пазірала на будынкі, на вуліцы, замеценыя першым снегам, на людзей, на шэрае неба абыякава, як староннi чалавек. Гэты горад прынёс ёй шмат пакут, і яна не адчувала смутку, развітваючыся з ім. Душа занадта стамілася і прагнула спакою і цішыні.

Смецце на звалцы замерзла ад першых маразоў, пах гніення хоць і адчуваўся ў праветры, але не быў такі агідны, як раней. Сняжком прыцярушыла бязладдзе раскіданага смецця, таму звалка выглядала як чыстае поле. Удалечыні былі бачны хліпкія буданчыкі, з некалькіх труб над імі віўся дым. Туды і падалася Зоя, але калі падышла бліжэй, дык спынілася ў нерашучасці. Яна

спрабавала згадаць, як яны з Анжэлаю мінулы раз сюды ішлі, але не змагла нічога ўспомніць. Яна падышла да першай жа халупкі, пастукала ў дзверы. Праз колькі хвілін у дзвярах узнікла жаночая галава, завязаная падранаю хусткаю, потым выпаўзла мажнае цела. Жанчына, абапіраючыся на два кійкі, уважліва разглядвала госцю.

— Добры дзень, вам. Я шукаю Анжэлу і Вадзіма, — сказала Зоя.

— А навошта яны табе?

— Справа ёсць…

— Дык няма іх…

Зоя падумала, што, мабыць, гэта і ёсць Паліна бязногая, пра якую казала Анжэла і спытала:

— А дзе іхняя хатка? Я там іх пачакаю.

— Няма ўжо ні іх, ні хаткі, згарэлі…

— Як згарэлі? Што вы такое кажаце? — абурылася Зоя. — Я толькі ўчора ўвечары бачыла іх у горадзе.

— Я іх таксама ўчора бачыла. Увечары яны прыйшлі на добрым падпітку, вясёлыя такія, мяне павіншавалі з надыходзячым Новым годам. А ноччу згарэлі…

— Ды, можа, іх там не было…

— Павезла іх міліцыя і «хуткая» ў трупярню. Чорныя, як галавешкі… Да касцей мяса прагарэла… Ды вунь іхняе папялішча снегам ужо прысыпала…

Зоя зірнула туды, куды паказвала старая кійком і пазнала грубку, якая стаяла ў Анжэлінай хаце. Старая не хлусіла. Зоя ашаломлена глядзела на жанчыну і не ведала, што ёй рабіць? Рушылася яе надзея скончыць сваё жыццё сёння, смерць адкладвалася не нявызначаны тэрмін. Яна заплакала ад бездапаможнасці і крыўды. Колькі ж яна яшчэ мусіць трываць гэтую неўладкаванасць, непрытульнасць, калі даўно ўжо нікому непатрэбная, нават самому Богу.

— Не плач, пачакай з гадзінку, цяпер рана цямнее. Хутка нашы ўсе збяруцца, памянём нябожчыкаў, разам паплачам… Заходзь да мяне, пагрэйся… Заходзь…

Зоя паслухмяна пайшла ўслед за старою. У хатцы было спёртае і смярдзючае паветра, але тапілася грубка, якая давала дастаткова цяпла для маленькага катушка. Скрозь валялася нейкае рыззё, стаялі брудныя слоікі, бутэлькі, быццам жанчына паставіла сваю халупу на смецці, так і жыла, нічога не прыбіраючы.

— Не звяртайце ўвагі, што ў мяне тут бардак… Ногі вельмі баляць… Начамі не сплю…

— Абы цёпла..

— Цеплыню я люблю, — адказала старая, усаджваючыся на рыззё, як на трон. — А ведаеш, думаю, што Анжэлку і Вадзіка Вашывец падпаліў. Яны надоечы за нешта пасварыліся…

— Чаму ж вы гэта міліцыі не сказалі…

— Міліцыі? Яны не пыталіся… Хто мы для іх? Бамжом меней, бамжом болей…

Зоя працягнула азяблыя рукі да печы і грэла іх, думаючы, як усё ненадзейна ў гэтым свеце: «Вадзім учора згадзіўся забіць мяне, а сам і да рання не дажыў. Навошта Бог адводзіць ад мяне смерць? Дзеля чаго я патрэбна яму на гэтым свеце?» — падумала яна і зноў слёзы адчаю паліліся з яе вачэй.

— Нешта мая госця зусім забедавала. Ну, давай развеем смутак, — сказала Паліна, дастаючы з-пад лахманоў бутэльку чырвонага віна. — Не паду-

май што… Віно добрае, нейкія багацеі выкінулі, а я падабрала. Марачнае, бачыш?

Яна дастала з-за грубкі два жалезныя кубкі, напоўніла іх дрыготкаю рукою.

— Памянём Анжэлу і Вадзіма, добрыя былі людзі, зямля ім пухам, — сказала Зоя, падымаючы кубак.

## 12

Агонь зырка ззяў у цемры, весела падскокваў, уздымаўся па дошчачках, аблізваў іх, шыпеў і выпырхваў іскрынкамі. Мужчыны трымалі над агнём штыры, на якіх смажылася сала з цыбуляю. Апетытны пах перабіваў смурод сметніка. Захмялелай Зоі здавалася, што вясёлыя людзі сабраліся, каб добра бавіць час. Ёй налілі пластыкавы кубачак гарэлкі, далі ў руку штыр з салам і кавалак хлеба. І толькі, калі адзін з мужчын згадаў Вадзіма і Анжэлу, яна зразумела, чаму апынулася тут: гэта былі памінкі.

— Аднойчы галоднай вясной пайшлі мы з Вадзімам на дачы. Выглядваем, дзе людзі бульбу пасадзілі, — расказваў шыракаплечы мужчына, у якога быў па-дзіцячы маленькі рот, быццам яму толькі трохі чыркнулі ножыкам і атрымалася дзірачка каб прымаць ежу.

— Вось мудакі, якая бульба вясной? — азваўся зморшчаны стары.

— Якая? Тая, якую толькі пасадзілі. Не перабівай. Ідзём, значыць, бачым нейкая баба расаду садзіць. Мы пытаем: «Гаспадынька, капуста трэба? Яна нам у адказ, маўляў, не трэба, у яе сваёй дастаткова!» Ну калі такая справа, мы па дачных участках пахадзілі, дачакаліся, пакуль тая баба пойдзе, павырывалі капусту, на рынак занеслі прадалі ды добра выпілі. Давайце ж памянём Вадзіма з Анжэлаю, каб ім на тым свеце ўсяго было ўдосталь.

Мужчыны пілі, гаманілі, а Зоя разглядвала іх і думала, хто з іх мог бы яе забіць і не знаходзіла. Ва ўсіх былі ўсмешлівыя і зычлівыя твары. Не адчувала яна ні жорсткасці, ні нянавісці, звыклай у такіх занядбаных лёсам людзей. Ёй падлівалі ды падлівалі ў кубачак, Паліна сачыла, каб яна спраўна піла ды закусвала.

Нехта з цемры расказваў, як яны з Вадзімам адважна абразалі дрот пад напругаю, каб здабыць металалом, нехта згадваў, як здавалі вагон макулатуры — успаміны доўжыліся і доўжыліся. Расказваючы пра Вадзіма, людзі не забывалі сказаць добрае слова пра Анжэлу, якая яна была прыгожая і добрая дзяўчына.

Зоя слухала іх і не магла зразумець, чаму Бог пакінуў яе, стомленую і зношаную, а забраў маладых, якія хацелі жыць. Яны ж маглі нарадзіць дзіця. З жахам падумала, што тое немаўля мусіла жыць на сметніку, дзе нават паветра атрутнае. Мо таму і не дапусціў Бог такога здзеку над чыстай і ні ў чым не вінаватай душой...

— Зоя, ты збіраешся начаваць у мяне, ці мо да каго з мужыкоў пойдзеш? — спытала Паліна пасля чарговай чаркі.

— Не, я вярнуся ў горад…

— Заставайся, куды ты супраць ночы?

— Не…

— Ну, бывай! Я патроху пасунуся, бо, як мужыкі нап'юцца, дык дурныя робяцца, тады лепш ад іх трымацца далей.

Зоя правяла Паліну да яе халупы і пайшла ў бок аўтобуснага прыпынку.

Доўга стаяла, чакала аўтобуса. Хоць мароз быў малы, але стоячы на ветры сярод поля моцна змерзла, зразумела, што позна ўжо, нічога яна тут не дачакаецца і вырашыла ісці пешкі. Рухалася супраць ветру, гледзячы сабе пад ногі, старалася ні пра што не думаць. Аднак чалавек так уладкаваны, што думкі яго мітусяцца, то азірнуцца назад, то забягуць наперад, і няма ім ні супыну, ні супакою. Згадвала дачку, як яна шмат хварэла ў маленстве. Аднойчы ляжала зусім звялая, няздатная пальчыкам варухнуць. Зоя не ведала, якія лекі ёй купіць, якою цацкай парадаваць. Пакінула адну, пабегла ў гастраном, убачыла вінаград, што толькі першы з'явіўся на прылаўку, купіла — і зноў бягом да малой.

Схілілася над дачкой, сказала:

— Паглядзі, якія смачныя ягадкі я табе прынесла.

Дзяўчынка расплюшчыла вочкі, з'ела колькі ягад — і быццам ажыла не столькі ад таго вінаграду, колькі ад матчынай любові.

Муж быў вечна заняты ў школе, ён ніколі не ведаў, на што хварэе дачка і як яе трэба лячыць. Абыякавы быў і да жонкі. Цяпер Зоя была перакананая, што шлюб ён узяў па разліку, каб застацца ў горадзе, а потым каратаў час, як выходзіла, трымаючыся далей ад сямейных праблем. А што яна магла? Патрабаваць, ставіць умовы? Не было ёй калі думаць пра рамантыку ды высокія адносіны, калі трэба і абед зварыць, і дзіця дагледзець, і на працу не спазніцца, ды і там яшчэ, крый божа, пралічыцца ці памыліцца: тады давядзецца плаціць з уласнай маленькай зарплаты. Каб трошкі меней працавала, а трошкі больш зарабляла, мо і хапала б часу і сродкаў на цікавыя падарожжы і сустрэчы, на ўзбагачэнне душы ведамі і пачуццямі. Не так уладкаваны свет, недасканалы, няроўны, а хутчэй — мы, людзі недалёкія. Не ўмеем карыстацца тымі дарункамі, якія пасылае нам неба…

Агні горада ззялі далёка наперадзе, але не набліжаліся, а быццам аддаляліся ад яе. Зоя спынілася, узіраючыся ў далячынь і падумала: «Ці туды я іду? Можа, мяне нячысцік кругамі водзіць вакол звалкі? Не, вунь жа горад. Вось дарога. Тупай, пакуль жывая...»

Яна пайшла шпарчэй у паўзмроку — усяго і святла, што ад снегу, бо неба было шчыльна зацягнута хмарамі. Нарэшце з'явіліся першыя прысады. Яна ўзрадавалася — гэта ўскраіна горада. Але да вакзала яшчэ было далёка. А вунь і першая хата з лаўкаю каля веснiц. Зоя супакоілася і адчула страшэнную змору, яна вырашыла адпачыць. Села на лаўку, абаперлася на штыкетнік спінаю і… здалося ёй, што сядзіць яна ля сваёй хаты ў вёсцы. І зусім выпала з памяці, што пасля смерці маці яна тую хату прадала, яе перавезлі на іншае месца, і плота таго ўжо няма. У сне яна апынулася ў маладосці. Падышоў да яе аграномчын Грышка, першае яе таемнае каханне, з духмянаю галінкаю бэзу і ўсміхаецца.

— Грышка, ты ж памёр даўно, — усхвалявана сказала Зоя.

— Хто табе сказаў?

— У сяле казалі…

— Хлусня гэта. Я ніколі не памру… Пойдзем да возера…

— Я босая, мне трэба абуцца.

— Не абувайся, я цябе на руках панясу…

Грышка зрабіў крок, каб падняць яе, ды яна спалохана закрычала:

— Не падыходзь да мяне! Ты мярцвяк! Мярцвяк! Я тваю магілу бачыла!

І Грышка раптам дыхнуў на яе холадам, што адно рукі і ногі здранцвелі, не варухнуцца, ператварыўся ў воблака, падняўся ў неба і знік, а яна з жалем пазірала на яго, і слёзы каціліся па яе твары…

## 13

Зоя прачнулася ад дотыку рукі да свайго лба, расплюшчыла вочы і ўбачыла над сабой белую столь, адчула пад галавою падушку. Яна ляжала ў пасцелі, а над ёю схіліўся стараваты лысы чалавек.

— Прачнулася, птушка залётная? Ажыла? А я не ведаў, што рабіць. Думаў, у цябе і душа вымерзла.

— Хто вы? Дзе я? — спытала усхвалявана Зоя.

— Я Мароз Цімафей Іванавіч. Не той мароз, які марозіць, а якому саграваць цябе давялося. Ты ў маёй хаце. Як сябе адчуваеш? Нічога не баліць?

— Галаве трэба трохі пахмяліцца…

— Такія лекі ў мяне знойдуцца у дастатковай колькасці. Не было б горш…

Мужчына выйшаў у другі пакой і хутка вярнуўся з кубкам, паднёс ёй.

— Што гэта? — спытала Зоя.

— Вінаграднае віно ўласнай вытворчасці…

Зоя прыўзнялася, прагна выпіла, зноў упала на падушку.

— Дык мо ўставай, снедаць будзем. Я аўсянку зварыў, яечню са шкваркамі падсмажыў…

Зоя слаба варухнулася, але ўставаць не хацелася. Колькі месяцаў яе цела не ведала такога шчасця — выпрастацца ў белай пасцелі і ляжаць дасхочу.

— Не хочаш уставаць. Ну, добра. Я табе, як у мексіканскім серыяле, падам сняданак у пасцель, — сказаў стары і выйшаў.

Толькі зараз яна заўважыла, што ляжыць толькі ў бялізне. Стала няёмка. Яна ніяк не магла згадаць, якім чынам апынулася ў гэтай хаце.

Стары вярнуўся з талеркаю кашы. Зоя, не звыклая есці гэтак рана, пакутліва пазірала на талерку і не адважвалася ўзяць у рукі лыжку.

— Не любіш кашу? — спытаў чалавек.

— Прабачце, есці зусім не хачацца. А хто мяне распрануў?

— Я, хто ж яшчэ… Пад ранне сабака заскавытаў, а мне якраз не спалася. Выйшаў на вуліцу, а ты сядзіш, заклякла, я і павалок цябе ў хату. Прыслухаўся — дыхаеш, жывая. Стаў правяраць рукі, ногі. Ці не памерзлі? Расцёр спіртам. І вось маю цацу-лялю!

Зоя ўсміхнулася і сказала:

— Той бы спірт лепш мне б зараз на пахмелле…

— Ты ў п’янства асабліва не ўлягай, бо патонеш у пляшцы.

— Даўно пара, ды нешта мяне смерць не бярэ…

— Памерці лёгка, вось жыць цяжка, не кожнаму па сіле. Таму слабакі і сыходзяць заўчасна, не прыжываюцца…

— Дзякую, гаспадар, за навуку, толькі я ўжо навучаная. Дзе гэта мае шмоткі?

— Памыў я іх і сушыцца павесіў… Ты, маладзічка, быццам толькі што з шахты вылезла, — засмяяўся стары. — Дарэчы, як цябе завуць?

— Здаецца, яшчэ ўчора Зояй звалі…

— Прыгожае імя… Кароткае! Я пакуль дам табе сваю сарочку і трыко, апраніся. І прабач, што без дазволу памыў адзенне… Смярдзела вельмі. Мая жонка даўно памерла. Звык я сам сачыць за гаспадаркаю.

— Чаму ж не ажаніўся?

— Асаблівай патрэбы не было. Спакой люблю…

Стары прынёс клятчастую сарочку і сінія штаны, а сам выйшаў. Зоя апранулася, паглядзелася ў люстэрка шафы, прыгладзіла валасы і адвярнулася ад

свайго адлюстравання. Ёй не спадабаўся азызлы твар, мяшкі пад вачамі, абадраны нос, разбітая губа. Стары незаўважна вярнуўся ў пакой, задаволена назіраў за ёю і ўсміхаўся.

— Хоць пад вянец!

— Не здзекаваўся б, га? — папрасіла Зоя.

— Дык нос і губа зажывуць — і будзеш дзеўка хоць куды!

— Гаспадар, дай яшчэ кубачак віна, нешта вельмі галава баліць.

— Сёння святая нядзелька, можна віно хоць цэлы дзень піць, пайшлі на кухню.

Цімафей Іванавіч частаваў яе гурочным расолам, сыраквашаю, квашанымі капустаю, кавунамі і яблыкамі. На стале было столькі ўсяго смачнага і даўно не бачанага Зояй, што яна, хутка пад'ела і ўзмалілася:

— Дзякуй вялікі, больш не магу. Не звыкла я шмат есці.

— Табе трэба ад'ядацца. Адна скура ды косці. Жанчына павінна быць мяккай і пяшчотнай, як падушка, — засмяяўся стары, уключаючы тэлевізар. — Хлеба трохі пад'елі, настала чарга відовішчаў.

На экране ўзнікла вакальна-інструментальная група. Хлопцы звіваліся на сцэне, выконваючы песню, прысвечаную ёй. Шмат раз навучаная: нельга выхваляцца, што песня пра яе, Зоя сказала:

— З гэтымі хлопцамі я сустракалася.

— Я так і думаў, што ты з артыстак.

— Не, я была каля артыстаў, аціралася побач, — скептычна сказала яна.

— Як гэта?

— Аганізоўвала канцэрты, прадавала білеты…

— І хацелася табе траціць жыццё на гэтую брыду? Хіба гэта песні? Раней былі песні, дык іх спяваць можна было! А гэта што?

— Мне за гэтую працу добра плацілі.

— Вядома, за што добрае ў нас не плацяць! А за гэты туман-дурман валяць грошы! Спажывайце, людзі, мастацтва! — ён злосна пераключыў праграму. — Колькі ў нас гэтых спевакоў развялося? Не пералічыць! Мусіць, па тры ўжо на душу насельніцтва! Кожны палітык і той пнецца заспяваць, хоць безгалосы ад роду! Ды і ў спевакоў гэтых галасоў няма, адны крычаць, іншыя равуць, як бычкі недарэзаныя, трэція толькі шэпчуць. Мікрафон усё вытрымае…

— Дарма вы так… Ансамбль вашага горада выдатна спявае…

— Нашы дзяды спявалі ў святы ды калі з працы вярталіся, каб дух узняць! Вось і наш ансамбль няхай спявае ў вольны ад працы час! Прыстроіліся бугаі! Равуць са сцэны! Эх, каб ты, Зоя, пачула як нашы станічнікі спявалі! Ніякі ансамбль з імі параўнаць нельга. У тых людзей душа спявала!

— Думаю, што гэта ваша настальгія па мінулым.

— Не, дарагая, не тыя ў нас цяпер каштоўнасці! Фальшу зашмат, бедныя людзі зусім заблыталіся, не разумеюць, што добра, што дрэнна? Я чалавек працы, слесарам на заводзе ўсё жыццё адпрацаваў, ведаю, што чаго варта. Калі песня сапраўдная — мурашкі па спіне і слёзы з вачэй! Так, Зоечка! Сапраўднае я ўласнаю скураю адчуваю!

— Мне ўсё роўна! Я сваё аджыла…

— Гэта ў такім узросце? Слабачка ты!

— Не, я не слабачка. Толькі не хачу, каб праз мяне іншым дрэнна было…

— Не трымай на душы цяжар, раскажы пра сябе.

— Больш нічога не помню…

— Ці не хочаш помніць…

— Не будзем пра мяне…

— Добра, давай навіны паглядзім… Хоць яны ў нас, як у казцы, чым далей, тым страшней…

## 14

Зоя не магла засяродзіцца на тым, што казаў дыктар, яна, паглядваючы на гаспадара, думала, чаму Бог зноў уратаваў яе ад смерці? Навошта паслаў ёй сустрэчу з гэтым чужым чалавекам? Няўжо толькі для таго, каб ён дапамог ёй зразумець: яна займалася не тою справаю, не так жыла, і грошы, якія яна зарабляла, былі нячыстыя. Нездарма яны, як прыходзілі, так і сплывалі немаведама куды, на нейкія бразготкі, на гульні мужа ў казіно. Аказваецца, ёсць розніца, чым гандляваць! Адна справа прапаноўваць людзям неабходныя рэчы, і зусім іншая — прадаваць пустышку, выдаючы яе за патрэбную рэч. У жыцці, як і ў гандлі, трэба за ўсё плаціць. Толькі цэны тут непамерна высокія! Ёй неабходна выбраць новы шлях, але дарогі ўсе перакрытыя…

— Чаго зажурылася, птушка залётная? — спытаў гаспадар.

— Нічога… Чакаю, калі мае шмоткі высахнуць…

— Высахнуць, куды яны дзенуцца. Пайду я, бадай, абед гатаваць. У мяне госця, а я бібікі б’ю…

Гаспадар падняўся з крэсла, пайшоў на кухню, Зоя паплялася ўслед за ім, прапанавала:

— Давайце я што-небудзь згатую…

— З радасцю перадам табе кіраванне, — адказаў гаспадар, расчыніў лядоўню, дастаў кавалак мяса, паказаў, дзе стаіць гародніна і крупы.

Зоя агледзелася, задумалася на імгненне, а потым з імпэтам прынялася за справу. Яна так даўно не стаяла ля пліты, не адчувала знаёмых пахаў варанай бульбы і капусты, смажанай цыбулі і тлушчу. Застукаў малаточак, адбіваючы мяса, заспяшаўся нож, наразаючы гародніну. А яшчэ праз колькі хвілін зашкварчэла патэльня, забулькала каструля з варывам. Кухня ажыла, напоўнілася знаёмымі і прыемнымі гукамі і пахамі. Гатуючы ежу, Зоя зусім забылася пра тое, што яна ў чужой хаце, што недзе ў нетрах гэтага жытла аціх гаспадар у чаканні абеду.

Аднак яна памылялася ў сваіх адчуваннях, гаспадара ў хаце не было. Ён пайшоў пад павець і нешта чараваў, заварваючы кіпенем з электрачайніка духмяныя зёлкі, пашаптаў над імі малітву, пачакаў, пакуль узвар астыне, і ўліў яго ў цёмную бутэльку, пасядзеў, заглыблена думаючы пра нешта сваё, таемнае, потым выйшаў у двор, агледзеў усё куткі, завярнуў у сад, дзе стаяў дзясятак вулляў, пакідаючы на снезе сляды, пахадзіў ля драўляных пчаліных хатак, прыслухаўся да іх, застаўся задаволены, зноў вярнуўся ў двор, крануў замерзлае Зоіна адзенне, якое сушылася на вяроўцы, потым пагладзіў сабаку па загрыўку, прабурчэў:

— Ціха, ціха, бач, як разгуляўся… Адчуваеш смачны абед? Я таксама на гэта спадзяюся…

Гаспадар вярнуўся пад павець, узяў бутэльку, пайшоў у хату, павесіў куртку, зазірнуў на кухню, убачыў расчырванелую Зою, бадзёра спытаў:

— Як справы, гаспадынька?

— Выдатна! Хутка будзем абедаць…

— Так смачна пахне, што ажно сліна цячэ…

— Пачакайце крыху… Прабачце, калі ласка, вы мне сказалі раніцай, як вас завуць, а я з прасоння забылася, толькі і помню прозвішча Мароз.

— Цімафей Іванавіч, можна проста — Ціма. А ты цудоўна ўжылася ў кухню. Не ўяўляў, што нейкая іншая жанчына пасля маёй жонкі здолее тут гаспадарыць… Кахаў яе вельмі…

— Даўно памерла?

— Даўно, сямнаццаць гадоў таму… Разам з ёю палавіна маёй душы высахла і памерла. Доўга не мог прыйсці да нейкае раўнавагі… Потым звыкся з адзінотаю, завёў пчол. Так і жыў…

— А мяне мой муж пакінуў, збег невядома куды…

— Ну і дурань! Пакінуць такую жанчыну — падпісаць сабе смяротны прысуд, — засмяяўся гаспадар. — З-за яго прыйшла ў такі заняпад?

— З-за яго і з-за сваёй дурноты… Але не будзем псаваць сабе апетыт сумнымі ўспамінамі…

— Дык дзе ж ты жывеш?

— Нідзе… Няма ў мяне цяпер нічога: ні кала ні двара… У вольным палёце я… Вандрую па зямлі, як пусты паветраны шарык. А больш ні пра што не пытайце… Сядайце да стала, зараз абед прынясу.

— Слухаю і падпарадкуюся, — з гатоўнасцю адказаў гаспадар і выйшаў.

Праз колькі хвілін на стале стаялі талеркі з баршчом, зыходзіла духмянаю параю сакавітае падсмажанае мяса. Гаспадар адкаркаваў цёмную бутэльку, напоўніў фужэры залацістай вадкасцю, прапанаваў:

— Давай, госця дарагая, вып’ем за знаёмства медавухі!

— Медавуха? Ніколі не каштавала, — прамовіла яна і адпіла колькі глыткоў. — Смачна, толькі градусаў малавата.

— Градусы на дне фужэра. Салодкая яна і лёгкая, незаўважна можна добра набрацца.

Гаспадар і госця абедалі, папіваючы медавуху. Ён нахвальваў стравы, яна прыязна ўсміхалася і адказвала:

— Рада была пастарацца для добрага чалавека…

Яна дзівілася, седзячы за сталом з гэтым чужым чалавекам, як ёй утульна тут і проста, быццам даўно ведала гэтае жытло.

— Заставайся, Зоя, у мяне столькі, колькі зможаш. Калі хочаш, можам шлюб узяць. Два сыны мае ўладкаваныя, маюць свае катэджы. Я старэйшы за цябе, мусіць, памру раней, застанешся тут гаспадыняю. Ніхто цябе не пакрыўдзіць…

— Які шлюб? У мяне нават дакументаў няма…

— Гэта не праблема. Сын працуе ў міліцыі, палкоўнік… Зробім табе дакументы лепшыя, чым ты мела…

Зоя пачула пра міліцыю і страх варухнуўся ў яе душы. Што заўгодна, толькі не сустрэча з міліцыяй, дзе яе могуць адразу «вылечыць»… Яна нічога не адказала гаспадару, а сама падумала, што ёй трэба зноў вяртацца на вакзал. Гэты чалавек — не тое выйсце, якое яна ўпарта шукае…

Па абедзе яна зняла з вяровак адзенне, развесіла яго на радыятарах.

— Куды пойдзеш? Зіма на вуліцы! Замерзнеш недзе, — упрошваў яе гаспадар.

Яна маўчала, не хацела абмяркоўваць з ім сваю будучыню. Ён, каб развеяць напружанасць, якая ўзнікла паміж імі, павёў яе на вуліцу, паказаў сваю гаспадарку: пчол і курэй. Яна шчыра пацешылася, назіраючы, як ходзяць па хляве чубаткі. У думках вярнулася ў маленства, у свой двор, дзе летняй парою квактуха клапатліва вадзіла за сабою вывадак жоўтых пісклявых камячкоў.

За лета яны выраставі ў шпаркіх курачак і пеўнікаў, якія апантана грэбліся ў градах.

— Я вясковая. Мая мама таксама трымала гаспадарку… Але цяпер нічога няма: ні мамы, ні хаты… І мяне былой няма…

— Не варта заганяць сябе ў куток… Ці не прасцей пачаць новае жыццё?

— Пакуль я не гатовая…

— Я дапамагу…

— Дзякую, трэба падумаць…

## 15

Перад вячэраю гаспадар весела зірнуў на Зою і спытаў:

— Што будзем піць? Віно, медавуху ці спірт?

Госця прыслухалася да сябе і са здзіўленнем адчула, што ёй не хочацца ніякага пітва. А пры згадцы пра спірт цягне на ваніты.

— Дзіўна, але мне нічога не хочацца…

— Тады прадоўжым смакаваць медавуху, яна не зашкодзіць, — з задаволенаю ўсмешкаю адказаў гаспадар, разліваючы ў фужэры залацісты духмяны напой.

Яны пацягвалі пітво, закусвалі смажанаю бульбаю з хрумсткімі салёнымі гуркамі і квашанаю капустаю.

— Хто соліць гуркі ды квасіць капусту? — спытала Зоя.

— Сам… Колькі разоў нявестка набівалася, але я нікому не давяраю. Пі медавуху, Зоя, — рэч карысная!

— Дзіўна, што са мной адбываецца? Раней без выпіўкі і дня не магла пражыць, а сёння мне нічога не хочацца, — прамовіла Зоя.

— Адкрыю сакрэт. Больш ніколі не будзеш піць… Я дадаў сюды травак лекавых…

Зоя нечакана ўскіпела:

— Як? Навошта? Без маёй згоды! Я ж без алкаголю не магу жыць! Мае думкі мяне заб’юць! Я павінна напівацца штодня нанач, каб забыцца мёртвым сном і не помніць, што я наогул ёсць на свеце!

Гаспадар падсунуў да яе сваё крэсла, пагладзіў па плячы і пачаў угаворваць:

— Не крыўдуй, я не са зла. Забудзь мінулае. Заставайся са мною, я пакахаў цябе, як толькі ўбачыў. Як расціраў твае замерзлыя рукі і ногі, мне ўпершыню пасля смерці жонкі хацелася лашчыць іх і цалаваць. Будзь са мною… Я на руках цябе буду насіць, як нёс учора з вуліцы, а ты няўцямна туліла да мяне галаву…

Зоя расплакалася ад спагады і цеплыні, якая зыходзіла ад ягоных рук і голасу, упершыню за шмат месяцаў яна праз слёзы дала магчымасць выліцца таму гору, якое апанавала і замарозіла душу. А ён гладзіў яе, як малую дзяўчынку, па галаве і плячах ды ўгаворваў:

— Годзе, годзе, усё горкае мінулася! Ніякая бяда больш не кране цябе! Я не дазволю!

Ён падхапіў яе і панёс на руках на ложак. Яна не працівілася ягонай пяшчоце, удзячная за сардэчнасць і дабрыню чалавеку, які выратаваў яе ад смерці, адагрэў і нават закахаўся. Яна ні пра што не хацела думаць, дазволіла сабе быць паслухмянай і лагоднай у ягоных руках. І ён не шкадаваў

ёй ні ласкавых словаў, ні пацалункаў, ні душэўнай цеплыні. Яна раптам падумала пад гэтым вадаспадам пяшчоты, што за ўсё жыццё ад мужа не атрымала столькі цеплыні, колькі падараваў ёй гэты яшчэ ўчора зусім чужы чалавек.

## 16

Зоя прачнулася на світанку. Побач ціха пасопваў гаспадар. З прасоння ёй падалося, што яна дома ў сваёй кватэры, ёй трэба на працу. Зараз яна падымецца, пойдзе на кухню варыць каву, а потым пабудзіць мужа і дачку. Ужо тузанулася, каб устаць, і раптам усё згадала…

Яна паглядзела на гаспадара, у паўзмроку ўсё ж добра быў відзён ягоны стары ўжо твар, зрэзаны маршчынамі, прыадкрыты рот. Ён цяжкавата дыхаў, мусіць, меў не надта здаровае сэрца. «Што я тут раблю? — спытала ў сябе Зоя. — Зусім не кахаю гэтага чалавека, выходзіць, прадаюся за цяпло жытла і ежу. Абвінавачвала мужа, што жыў без кахання. А сама?.. І колькі я здолею вытрываць у гэтай утульнай клетцы? Месяц, два, тры? А пасля зноў на вакзал? У нікуды? Шукаць смерці… Не, гэта не той шлях… Зноў я збілася з дарогі… Трэба вяртацца на зыходную кропку, на вакзал, і нешта там вырашаць, пакуль гэты добры чалавек не прачнуўся і не пачаў затрымліваць мяне. Я ж магу зноў саступіць і застацца… Бессэнсоўна… Бязглузда… Як жа мне жыць, занядбанай Богам? Для чаго ён беражэ маё жыццё? Чаму не пакажа, куды мне ісці?..»

Зоя паднялася асцярожна, каб не пабудзіць гаспадара, выйшла ў другі пакой, дзе сушыліся на двух радыятарах яе рэчы, апранулася і вёрткай яшчаркай выслізнула з хаты. Сабака не гаўкнуў, ужо прымаў яе за сваю, яна незаўважна пакінула прыязны двор і рушыла ў бок вакзала. Пасля цёплай хаты на вуліцы здалося марозна і непрытульна, але яна прыспешыла крок і хутка сагрэлася. Падумала, мо і дарэмна вяртаецца да ранейшага жыцця? Але душой адчувала, што не яе шлях — застацца тут. «Чаго ж я хачу? — спытала яна ў сябе. — Хачу бачыць дачку, хачу аддаць яе замуж, дачакацца ўнукаў і гадаваць іх. Гэта маё найвялікшае шчасце. І пакуль я гэтага не дасягну, не будзе мне спакою! А як я магу гэтага дасягнуць, калі мне нельга вярнуцца дамоў, бо мяне пасадзяць у турму! Праз мяне вялікая ганьба ўпадзе на маю дачку, на яе шлях па жыцці! Яна будзе няшчасная! А я не выжыву ў турме — памру ад тугі і ганьбы… Божа, памажы, падкажы, як і чым мне жыць далей…»

Думкамі яна вярнулася ў маладосць, згадала сціплае сваё вяселле ў кафэ «Вясна», куды яны зайшлі пасля таго, як распісаліся ў загсе. Гасцей усяго было мала, яе сяброўка Тася ды два хлопцы, якія прыйшлі з маладым. Выпілі бутэльку шампанскага на пяцёх ды пляшку гарэлкі, закусілі салатамі і катлетамі, трохі пасядзелі, пагаманілі. Зоя прадбачліва загадзя зняла вэлюм, каб людзі не звярталі на яе ўвагу, так і стала жонкаю. Муж заўсёды быў стрыманы ў пачуццях. Зоя думала, што ўсе мужчыны такія. Не было з кім параўноўваць, бацьку свайго не памніла, ён памёр, калі ёй не было і двух гадоў, ад цяжкага ранення, атрыманага на вайне, якое заўчасна звяло яго ў магілу ў мірны час, даўшы магчымасць займець трое дзяцей. Зоі собіла нарадзіцца апошняй, але ніхто не песціў і не даглядаў яе. Старэйшыя браты вечна былі заняты сваімі хлапечымі справамі, маці ад світання да цямна працавала на ферме, часам брала з сабою дачку. Лепшымі сябрамі Зоі былі ласкавыя пушыстыя цыплятки, з якімі яна гуляла, размаўляла, бавілася, як з жывымі цацкамі, даглядала іх, як

магла. Можа, у вёсцы, ёй і трэба было застацца, а яна рынулася шукаць шчасця ў горад, як рабіла ў той час уся вясковая моладзь. І вось вынік…

Незаўважна для сябе яна прыйшла на вакзал, звыкла села ў самы дальні куток і задрамала. Ёй прысніўся горад, дзе яна ў парку гуляе з дачкой. Яны збіраюць залатое лісце клёнаў, а вецер выхоплівае лістоту і ўздымае ў неба. Сон быў такі светлы і радасны, што яна, калі прачнулася, яшчэ доўга не хацела расплюшчваць вочы.

Абвясцілі аб прыбыцці цягніка з яе горада, і Зоя захвалявалася. Звычайна ў гэты час яна заўсёды сыходзіла з вакзала, каб не слухаць гэтую аб'яву і не раздражняць душу, а сёння засталася сядзець нерухома. Нічога ёй не хацелася: ні варушыцца, ні есці, ні піць. Цела быццам здранцвела, заснула, не выказваючы ніякіх патрэб. Толькі калі звечарэла, яна паднялася і звыкла пайшла ў піўнуху, знаёмыя п'яніцы прывіталі яе. Адзін сказаў:

— Куды ты прапала? Хадзі выпі з намі.

Зоя слаба ўсміхнулася ў адказ і адчула, што не хоча гарэлкі, яе душа прагне проста чалавечай спагады і цеплыні. Падышла да століка, паўзіралася ў азызлыя твары і раптам аднекуль, як з неба, даляцеў да яе голас:

— Мама! Мама!

Зоя аслупянела, замерла, не верачы сваім вушам. Яна падумала, што гэта пачынаюцца галюцынацыі ад белай гарачкі.

— Мама! Гэта я! Я тут! — зноў даляцела да яе.

Зоя павярнулася на родны голас і ўбачыла дачку. Яна ступіла крок насустрач і страціла прытомнасць. Ачомалася, калі ўжо сядзела на крэсле, дачка абдымала яе за плечы, а буфетчыца паіла мінеральнай вадой.

— Як ты, мама?

— Усё добра, Настачка! Як ты мяне знайшла?

— Дзякуючы Веры Пятроўне. Я звярнулася на тэлеперадачу «Чакай мяне», там паказалі твой фотаздымак, Вера Пятроўна пазнала цябе, патэлефанавала, сказала, што ты часта бываеш у палатцы і запрасіла мяне да сябе. Я чакаю цябе тут два дні.

Зоя з жахам падумала, якое шчасце, што не засталася ў Цімафея Іванавіча, інакш не сустрэлася б з дачкою. А з другога боку, калі б гэты добры чалавек не выратаваў яе, яна ўжо ляжала б замерзлая і ніколі б не пабачыла сваю дачку.

— Дзякую, вам, добрая жанчына, — сказала Зоя і нізка пакланілася буфетчыцы.

— Няма за што. Пераначуйце ў мяне, — ветліва прапанавала тая ў адказ.

— Не, Вера Пятроўна, нам трэба вяртацца дадому, каб сустрэць Новы год дома. Вялікі дзякуй вам за ўсё! — сказала Насця. — Вы нам прынеслі вялікае шчасце! Прыязджайце да нас летам. У нас добра! Не пашкадуеце. Мы з мамай будзем рады вас бачыць.

Дачка павяла Зою да выхаду, а тая ішла ўслед непаслухмянымі нагамі і думала толькі пра тое, што ёй нельга дадому. Яна туды ніколі не вернецца.

— Я пайду па білеты, а ты пасядзі тут, — сказала Насця. — Нікуды не адлучайся.

— Мне нельга дадому, — запярэчыла Зоя. — Мяне арыштуюць.

— Мама, тое, чаго ты баішся, проста не існуе.

— А як жа грошы?

— Добра, давай прысядзем, я табе раскажу. Бацьку з грашыма ўзялі ў Маскве праз месяц. Ён прагульваў у казіно вялікія сумы, і кампетэнтныя органы хутка яго вылічылі, прывезлі да нас, трымалі ў следчым ізалятары. Я нават наведала яго адзін раз. Такі ён быў худы, змораны. Балюча было на яго

глядзець. Не ведаю, што там з ім здарылася, але ён загінуў… Ідзе следства, і пакуль невядома ці ён сам павесіўся, ці… Я пахавала яго, мама… За што гэта ўсё нам?

Насця выцерла слёзы. Зоя ўздыхнула:

— Божа, які жорсткі лёс… Дзіцятка маё, як ты гэта перанесла?

— Усё мінае, мама… Цяпер ты разумееш, што табе нішто не пагражае?

— І ў нас не забралі кватэру?

— Не забралі, бацька прызнаўся, што здзейсніў злачынства сам, а ты да гэтага не мела дачынення…

— Дзе ж ён пахаваны?

— Усё ўбачыш, мама. Як жа я цябе шукала! Хоць бы патэлефанавала калі!

— Баялася я, дачушка, нашкодзіць табе… Як ты жыла ўвесь гэты час?

— Перавялася на завочнае… Працую ў адной добрай фірме… Пайду па білет…

— І я з табою, не хачу разлучацца…

Дачка стала ў невялікую чаргу каля кассы. Зоя трымалася побач і ціха радавалася, што нарэшце яна вернецца дамоў. У яе было такое адчуванне, быццам яна прачнулася пасля жудаснага сну. Яна пабажылася сама сабе, што ніколі не будзе піць, пачне новае цвярозае і мудрае жыццё.

## Эпілог

Зоя ехала на сустрэчу з людзьмі і прыкметна хвалявалася. За той час, які яна пражыла дома па вяртанні, шмат што змянілася ў яе жыцці. Дачка ўпрасіла яе абследавацца і сама завяла ў паліклініку. І просьба гэтая не была дарэмная. У Зоі выявілася шмат хранічных хвароб, арганізм патрабаваў падтрымкі і пазбаўлення ад шкодных звычак. Калі ад алкаголю яна адмовілася, як сама лічыла, дзякуючы Цімафею Іванавічу, дык развітацца з цыгарэтаю было куды складаней. На гэта спатрэбілася пяць месяцаў упартай барацьбы. Калі нарэшце яна выйшла пераможцам з жорсткага змагання са звычкаю курыць, у яе ўзнікла жаданне падзяліцца вопытам, расказаць іншым людзям, якія заблудзіліся ў жыцці. Аналізуючы свай горкі вопыт, зразумела, што бяздумна і лёгка ставілася да першай цыгарэты, да першай чаркі, да лёгкіх наркотыкаў. Здавалася, кіне піць, калі заўгодна, а так уцягнулася ў п'янства, што ледзьве выкараскалася з гэтай смяротна небяспечнай залежнасці. Яна не спрабавала забыць перажытае, а наадварот, увесь час згадвала тых абяздоленых, якія пакутуюць на вакзалах і сметніках, у падвалах і нішах цеплатрас, галадаюць, хварэюць і паміраюць, а выратавання ім няма адкуль чакаць. Перад вачамі ўсплывалі Анжэла і Вадзім, якія зажыва згарэлі разам са сваім ненароджаным дзіцём — і сэрца заходзілася ад жалю і болю. Чаму яны, маладыя разумныя і сімпатычныя, аказаліся нікому непатрэбнымі? Нарадзіліся не ў той час і не ў тым месцы? Не здолелі знайсці сваё прызначэнне? Ды што казаць пра маладых, калі яна сама, сталая жанчына, так лёгка збілася са шляху? Шмат пытанняў узнікала ў яе галаве, і яна ўпарта шукала на іх адказы, схіляючыся да думкі, што павінна дапамагаць гэтым занядбаным людзям. Прыклала шмат намаганняў для таго, каб пры Палацы аднаго прадпрыемства быў адчынены клуб ананімных алкаголікаў, а сёння ехала на першую сустрэчу з людзьмі, якія не могуць самастойна адмовіцца ад п'янства. Зоя не валодала ні ваража-бою, ні гіпнозам, яна мела толькі свой горкі вопыт шляху нікуды, на сметнік

і могілкі, але здолела вярнуцца з пекла і пра гэта збіралася расказаць першым наведвальнікам клуба. У яе не было вялікай перакананасці, што ўсё атрымаецца адразу, але яна спадзявалася з дапамогаю шчырасці і даверу дастукацца да сэрцаў людзей. Яны павінны вельмі захацець пачаць новае жыццё.

Зоіны мары сягалі далей: карцела адчыніць прытулак для бяздомных, але пакуль яна не мела на гэта сродкаў. Праўда, надзея была. Неяк пазнаёмілася ў царкве з бацюшкам, айцом Ніканам, пагутарыла, расказала пра сваю запаветную мару, і той абяцаў падумаць і паспрабаваць адчыніць рэабілітацыйны прытулак пры храме. Гэта было б выдатна, каб людзі працавалі, нешта рабілі сваімі рукамі, авалодвалі прафесіямі і разумелі, што яны патрэбныя грамадству. Ім лягчэй было б вярнуцца да звычайнага жыцця.

Зоя ўвашла ў фае будынка, павіталася з дзяжурнаю, тая ўсміхнулася ў адказ і сказала:

— Вас ужо чакаюць.

— Чакаюць? Яшчэ амаль гадзіна да пачатку, — здзівілася Зоя і паспяшала па калідоры ў пакой, які ёй выдзелілі для заняткаў.

З хваляваннем адчыніла дзверы. У пакоі вакол авальнага стала сядзелі чатыры чалавекі: дзве жанчыны і два мужчыны, мусіць, сямейныя пары. Людзі павіталіся, з надзеяй і даверам паглядзелі на яе, і яна зразумела, што вельмі ім патрэбная. Для гэтага Бог падоўжыў яе жыццё, і яна будзе з годнасцю і цярплівасцю выконваць сваё наканаванне.

— Шчаслівая бачыць вас! Зараз будзем піць каву і бліжэй знаёміцца, — сказала яна. — Мяне завуць Зояй.

Людзі заўсміхаліся, называючы свае імёны.

— Вельмі прыемна. А цяпер, жанчынкі, папрашу вас раскласці па вазачках цукеркі, варэнне, печыва. Думаю, і мужчыны нам памогуць. Сёння у нас вялікае свята: мы пачынаем новае шчаслівае жыццё, як у маладосці, памніце, калі вы толькі пазнаёміліся.

Прысутныя разнявolena падняліся, гатовыя дапамагаць Зоі, а заадно і сабе. І гэта была шчаслівая хвіліна еднасці і ўдалага пачатку сумеснага шляху да перамогі над аблудамі і бедамі.





Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

# НЕПРАЖЫТЫМ ЗАСТАЕЦЦА ШЛЯХ...

* * *

Цішыня… Ні шолаху зямнога,
незямная быццам цішыня…
Звышчаканнем споўнена дарога,
поўні сіратлівай светлыня.
Сілуэтна сцішыліся дрэвы,
страшнавата азірнуцца ў цьму…
Столькі і ўва мне яшчэ даверу,
што жывога страху не ўцямлю.
Дзесьці побач таінства і тайна, —
розны сэнс, а словы — як штрыхі,
ўзніклыя нібы нечспадзявана:
поўня, ноч, мігценне, мурагі…
Ды між імі дзіўная суладнасць,
ад якое не утрымаць і слёз,
ад якой спалоханая ўяўнасць
тым жа страхам напаўняе лёс.
Зноўку цішыня за цішынёю.
Поўняй нібы дыхае абсяг.
Азірнуся — ў далечы за мною
непражытым застаецца шлях.

---

***Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч*** *нарадзіўся 21 лютага 1938 года ў горадзе Чавусы Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Светлагорскія навіны», дырэктарам карціннай галерэі аддзела культуры Светлагорскага райвыканкама.*

*Аўтар паэтычных кніг «Друзья мои — свидетели мои» (1981), «Здесь, на трепетной земле» (1989), «На расстоянии взгляда и души» (1990), «А душа и в молитве болит» (1994), «Но даже умираем, чтобы жить» (1999), «Россыпь» (2000), «Земля простит, но не прощает небо» (2001), «Куда б ни шел — иду к своей судьбе» (2002), «Вечное время во мне» (2003), «Сам себе дорога» (2004), «И гром, словно эхо войны» (2005), «По ту и эту сторону окна» (2006), «Зовущая печаль» (2010), «Небесная весть» (2012), «Верность» (2015) і інш.*

* * *

Памяць гэткае сабою мроіць,
даўняе — нібыта ў міражы:
хлопчык, на мяне падобны, ходзіць, —
мне траву, не бачачы сцяжы.
«Госпадзі, — так слёзна шэпча небу, —
ў чым ужо віна мая ў жыцці,
што памерці я павінен, трэба
мне са свету белага сысці?!»
Уздыхае, споўнены адчаю,
на зары насустрач дню імкне…
«Як жа так?! Разрыюць, пахаваюць,
бы й наогул не было мяне…»
Пахне луг, рака чарот таўхае,
і сцяжынка цёплая нагам…
Цішыня ахутвае такая,
што свае ён думкі чуе сам.
«Бы Ікар, ляцець — няма надзеі.
Я — зямны… Куды я палячу?!
Аніколі не, не састарэю,
смерці не, і ўвек не захачу!..»
…Прывід? Ці то ў зроку ён там крочыць
між кустоў і прыдняпроўскіх траў?
Як ён праў, наіўны гэты хлопчык!
Як ён праў!..

* * *

Чавусы... Вось і прыехаў,
быццам на нейкі фінал.
Даўнім, заплаканым рэхам
стрэціў пагоставы вал.
Побач з дарогаю дзесьці,
помніцца, маму хаваў...
Колькі магіл без адмецін!
Колькі іх скрыта між траў!
Дзе мне схіліць тут калені?
Дзе пакланіцца душой?
Ўюцца жалобный цені,
сырасцю пахне грыбной.
Выйшла бабуля з прагалу.
Бы праз гадоў шчыльны змрок,
глянула ў вочы... Пазнала:
— Дзе ж ты раней быў, сынок?

* * *

Сваім служы малітвам
прад існасцю жывой
і слоўным дыхай рытмам,
як ён заўжды — табой.
Вучыся для ахвяры,
каб не бяднелі дні,
і зазірай не ў твары,
а ў лікі дабрыні.
Што ж, доля — непазбежнасць
і кожнаму — свая.
Знай: сутнасці бязмежнасць —
між межамі быцця.
Папера — схоў для сказу,
яму ўсё ж дай цяпер
ачомацца ад страху,
што пеāражыў сябе.
Будзь сам вершасцвярджэннем,
ўсё з вечнасцю міры.
Тварыся скрозь тварэннем,
а не яго твары.
Знай: пэўнае — не пэўнасць,
а навісь — не сяйво…
Тварцу ўсё ж — неймавернасць,
астатнім — рамяство.

* * *

Усміхніся ўсім напасцям
у адказ на іх ныццё…
Ці ж няма жыццю ўжо шчасця,
калі шчасце ёсць жыццё?!
Ну а шлях — куды захочаш,
сэнс дыхання — ў ім і ёсць…
Тое, дзень, чаму прарочыш,
што і розум цяміць скрозь?
Стаць пасрэднікам той волі,
што завецца залатой?
Я такой не знаю ролі, —
не іграю я сабой.
Свет і яснасцю не ясны,
бы й няма чым даражыць,
ды прыўкрасны, так, прыўкрасны,
і якое шчасце — жыць!

***Пераклад з рускай Соф'і ШАХ.***



Рагнед МАЛАХОЎСКІ

# НУЛІ І АДЗІНКІ

## ХЭШТЭГ

стаіш на каленях
вінаваціш душу
разважаеш пра грэх

у начных сутарэннях
пасля запрашае мяне
нечаканы хэштэг

толькі ўмовы дзве
не запальваць святло
прамаўляць толькі па тэме

дзіця ў калысцы раве
каханне аджыло
і ўсё па класічнай схеме

## ІНФАРМАЦЫЙНЫ ШУМ

бессаромна пранізвае целы
нахабна ўпіваецца ў душы
ён стаў для нас звыклы
нават традыцыйны
сярод ночы выціраю
лоб успацелы

---

***Малахоўскі Рагнед Юр'евіч*** *нарадзіўся 5 верасня 1984 годзе ў п. Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). Скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт (2009) і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. (2014). З'яўляецца пазаштатным рэдактарам кніжнай серыі «Маладая паэзія Беларусі» ў выдавецтве «Харвест». Вершы рэгулярна друкуюцца ў айчыннай перыёдыцы, калектыўных зборніках і анталогіях. Аўтар кніг «Беражніца» (2005), «У дзённай мітусні» (2012), «Жыві!» (2014) і «Кахання радок» (2016).*

затыкаю ватай
стомленыя вушы
шум інфармацыйны
вострыць лічбавыя іклы

ніхто не ведае
чаго ж ён хоча
а ва ўмовах такіх
паэты страляюцца
манатонна курсор мільгоча
і новыя літары
бясконца з’яўляюцца

## VERSUS

мой рэгламент
адна хвіліна
абцяжараная непаразуменнем
кінутая ў пустэчу
непачутая натоўпам
ці нежаданая быць пачутай

дзевяць тысяч знакаў
дзвесце сямнаццаць кілабайт
саступілі нейкаму нікчэмнаму
фастфуду для розуму
фастфуду для душы

барацьба інфармацыі і паэзіі
скончаная?!

рэгламент

## ПАМЯЦЬ

дзень памяці продкаў
дзе б адшукаць кнопку
што вяртае да нас старых
крыжык
акенца
штрых

## ПІКСЕЛЬ

думак густы кісель
берагі з часам размываюцца
хто доўга затрымаецца
таго змые плынь

рэчышча шукае рака
гэта не янь і не інь
чорны піксель
знакамітага мастака

марыў стаць выключэннем
а стаў правілам

## ДЭФЕКТ

кожны хто бачыў гэта
аказваецца быў з дэфектам
памада з вільготным эфектам
на вуснах дажджу
расфарбавала недарэчна аўтастраду
я на яе гляджу
з нябёсаў колеру шакаладу

употай
ўратаваўся адзінотай
а ўнізе аўтастрада разразае краіну
напалавіну

спынілася машын калона
дзікі крык
пасярод газона
паламаныя спіцы майго парасона

## НУЛЬ

запомні момант гэты
у бязлюдным двары
спалі з вершамі ўсе газеты
дзіця са школы забяры
і бяжыце ад снайперскіх куль
бо мы часцінкі планеты
якой паставілі нуль





**Георгій МАРЧУК**

# САЛОДКІЯ СЛЁЗЫ

*Згадкі розных гадоў*

## Раздзел I

* * *

На змярканні стаю ля акна. Цудоўны час. Яны, захады, заўсёды розныя. У ролі мастака — сонца, а фарбы абіраюць аблокі. Ужо не ўпершыню адзначаю, калі на заходзе сонца — не хочацца марыць. Не хочацца, і ўсё тут.

* * *

Хтосьці падлічыў, што ў творах Л. Талстога 500 маналогаў герояў, звернутых да саміх сябе. Не хапае. Не па сілах аднаму чалавеку выказаць разнастайнасць свету, космас чалавечай душы, асацыяцыі, паток свядомасці. Мы, славянская цывілізацыя, — гавару пра яе таму, бо яна для мяне раднейшая, і сам я костка ад косткі яе — недзе тысяч пяць вельмі добрых пісьменнікаў… здавалася б, маглі спасцігаць сутнасць быцця і чалавека… З'яўляюцца новыя пакаленні, а з імі і новыя пісьменнікі. І гэта добра. Кругаварот творчасці. Было б болей увагі да творцаў — было б болей чытачоў і гледачоў. Пакуль жа маладыя выхваляюцца не знаёмствам з творчасцю таго ці іншага пісьменніка, а новым матацыклам, аўтамашынай, сотавым тэлефонам. Чамусьці ўсе наракаюць, што няма грошай. А ў Мінску тым часам ужо 600 тысяч машын.

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрагу п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

І кожны дзень трэба заліваць у бак паліва. І грошай хапае. Можа, не ўсё так кепска ў каралеўстве нашым?

* * *

Надышоў час, калі кожны мае сваю праўду. Абіраецца адзін бок ці адзін факт з гісторыі і мусіруецца. І прычапіцца, быццам бы, няма да чаго, усё праўда. Другі апанент разглядае з гэтага ж самага часу другі бок і другі факт, і таксама нібыта праўда. Адурманьванне народа пачынаецца тады, калі ўвага засяроджваецца выключна на супрацьлеглых думках, пакідаючы па-за асэнсаваннем «адваротны бок медаля». Чаму? Таму што яна можа быць не на карысць уладу маючым і здатная пахіснуць грамадскую думку. Моцны той народ, які не саромеецца сваіх памылак на гістарычным шляху, не шукае ворагаў і не помсціць за былыя грахі. Людзям у 2012 годзе нельга суровым судом асуджаць паводзіны людзей у 1912 годзе. Нішто не падлягае параўнанню — ні час, ні дзяржава, ні людзі.

* * *

Чарговыя ўгодкі з дня нараджэння А. С. Пушкіна. Жыццё літаратараў падобнае на жыццё сям'і. Калі за спінай дзядуля Пушкін — гэта надае сілы і ўнукам, і праўнукам. На адкрыцці помніка паэту ў Маскве акрамя Ф. Дастаеўскага выступаў і драматург А. Астроўскі, які сказаў: «Ён, Пушкін, навучыў нас быць рускімі». У сувязі са згадкай урыўка з выступлення Ф. Дастаеўскага «пра сусветную чуласць», не пашкодзіла б настаўнікам у школах прыводзіць у прыклад і словы А. Астроўскага.

* * *

А. Пушкін не дажыў да першага цягніка ўсяго сем месяцаў. Нешта дзіўнае і незразумелае — у яго паэмах і вершах адсутнічае метал.

* * *

Вечар. Іншы раз магу спахапіцца: вой, ляціць час, бягуць гады, і тое не паспеў, і тое не заўважыў, і гэта прапусціў. Сам сабе нагадваю шасцідзесяцігадовага артыста, які бядуе, што не сыграў у свой час Рамеа і ўжо ніколе не сыграе. Так і я… Гляджу збянтэжана на сваю бібліятэку… Цяжка ўсё прачытаць. Я ж, да свайго сораму, не чытаў раман М. Чарнышэўскага «Что делать?», карэйскую паэзію не чытаў… Ды яшчэ колькі ўсяго… Жонка супакойвае: «Раман чытала. Не памятаю, хто прапаноўвае, як давесці да ладу Расію, але памятаю словы Рахметава: «Чытаць трэба так, каб адна прачытаная кніга замяніла табе дзесяць не прачытаных». Так што не сумуй. Сам Чарнышэўскі ў літаратуры быў пераборлівы».

* * *

Часам не-не ды і пачуеш: «Што з яго ўзяць? Спісаўся наш брат. Нічога значнага ўжо не стварае. І раней ён слабенька свяціўся на фоне вялікіх». Не варта гараваць. Лопе дэ Вэга перажыў Сэрвантэса. За чатыры дні да смерці працягваў працу над чарговай камедыяй. У кожнага свой шлях. Страчваў ён любых і дарагіх. Дачку выкралі і згвалцілі, сын загінуў, жонка памерла… Меў яшчэ колькі жонак. Зрабіў-

ся святаром, але працягваў пісаць. Прага творчасці не памірала. Кажуць, стварыў каля 1500 п’ес, іспанцы маюць пяцьсот. Кінуць яму выклік сучаснікі пакуль што не могуць. Але зноў-такі не варта журыцца. Памятай: Грыбаедаў напісаў адну п’есу «Горе от ума» і праз тое заслужыў памяць і пашану ад нашчадкаў.

* * *

Даляцела чарговая сумная навіна з Давыд-Гарадка. Прыйшла са спазненнем — ужо некалькі гадоў, як памёр муж дырэктрысы мясцовага Дома культуры, якая першая ўзяла мяне на працу на 30 рублёў пасля няўдалага штурму Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў 1965 годзе. Чалавека гэтага я добра памятаю: шырокія плечы, адкрыты твар, сівыя валасы. Па суботах ён падрабляў у клубе радыстам. Мы, старшакласнікі, захопленыя рытмам рок-н-рола, штораз прасілі яго паўтарыць «Квітнеючы май», «Сярэбраную гітару», «Гэй, мамба», «Мама йё кэру». Ён неахвотна згаджаўся, бо быў па сваёй сутнасці ветлівым і сціплым чалавекам. Любіў насіць пінжак, накідваючы яго на плечы — як Ваня курскі з кінафільма. Калі мы стамляліся і выходзілі на ганак, ён ужо круціў сваю любімую пласцінку — песню з кінафільма «Вышыня». Некаторыя пары танцавалі і пад гэту мелодыю. У такія моманты трэба было бачыць яго твар, які свяціўся ад радасці і натхнення. Дарэчы, сам ён ніколі не танчыў. Такім чынам ён незаўважна абуджаў цікавасць да нашых песень. Цяпер, як толькі пачую голас Рыбнікава: «Не кочегары мы, не плотники…», з асаблівай цеплынёй успамінаю радыста з нашага клуба. Усмешка, песня, накінуты на плечы пінжак — усё, што засталося ў памяці. Занадта мала. І ўсё ж дастаткова, каб сказаць: добры быў чалавек, ветлівы і самастойны.

* * *

З усіх бакоў дзяўбуць пра дэмакратыю. У асноўным пра тое, што яе не хапае. «Дэмакратыя — гэта перавага інтарэсаў групы над інтарэсамі грамадства». Жан Жак Русо. А Л. Талстой захапляўся яго творчасцю і розумам. Не шкодзіла б нашым палітыкам узяць на ўзбраенне словы знакамітага француза: «Адзіны сродак утрымаць дзяржаву ў стане незалежнасці — гэта сельская гаспадарка. Гандаль стварае багацце, але сельская гаспадарка забяспечвае свабоду». Я не прыхільнік састарэлых параўнанняў. Але ў кожным выслоўі ёсць вопыт і доля праўды. Так, сёння ў пашане тэхналогіі, навука, нанаінавацыі, робаты і да таго падобнае, але есці хочацца заўсёды, ці не так? Не ігнаруй працу селяніна. Кідай зерне ў глебу, і ты ніколі не памылішся.

* * *

Аднойчы адзін з крытыкаў, калі не памыляюся, у Маскве, на семінары, удала адзначыў цікавасць да амерыканскага кіно. «Людзі працы нецікавыя, цікавыя людзі адпачынку».

* * *

Барадзіно 200 гадоў. Мала ў нашай прэсе ўзгадваюць гэту перамогу. Напалеон жа палову Еўропы, можна сказаць, вёў на нас. Пра рабаўніцтва ў беларускіх селішчах — ніводнага слова. Міларадавіч — герой 1812 года. Той самы Міларадавіч, якога забілі дзекабрысты на Сенацкай плошчы 15 снежня 1825 года. І чаму яго забіў дзекабрыст?

* * *

Ленінград. Штогод экскурсавод расказвае адну і тую ж праўду пра апошнія дні А. Пушкіна. Мы, госці з Беларусі, у музеі на Мойцы. «Пушкін паранены ў правую частку жывата…», і працягвае ціхім голасам пра апошнія гадзіны жыцця рускага генія. Цішыня ажно звініць. Нібыта страта адбылася ўчора. Нехта цішком, а нехта і не саромеючыся, плача. 1887 год. Увесь тыраж кнігі А. Пушкіна выдавец Суворын прадаў за гадзіну. Першы помнік паэту, як высвятляецца, паставіла ў сваім маёнтку княгіня Валконская.

* * *

Не шумяць з нагоды чарговай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі. А калі і прыгадаюць — і апазіцыянер, і ліберал — дык абавязкова ў негатыўным сэнсе. Усё ў нас, у славян, кепска. Ніхто і не ўспамінае, што першыя рэвалюцыі ткачоў у Ліёне (Францыя) у 1831—1834 гг. супраць перакупшчыкаў-гандляроў і ўлады былі жорстка падаўленыя. Рэвалюцыі ў школах трэба вывучаць у кантэксце сусветных рэвалюцый. Інакш малады чалавек будзе прыгнечаны пачуццём уласнай непаўнавартасці і непаўнавартасці свайго народа. Усё добрае і кепскае аднолькавае ўсюды. Толькі выяўляецца гэта па спіралі ў розныя часы.

* * *

Часам хочацца дагадзіць самому сабе. Асабліва нашаму брату, творчаму чалавеку. Ухвалы не хапае за творы, ролі, песні, карціны. Хочацца параўнаць сябе з класікамі. І я, маўляў, паўтару лёс Чэхава, Горкага, Лондана. Пасля даведаешся, што Лондан у 41 год здзейсніў самагубства… І неяк не захочацца ўжо паралеляў… Тваё жыццё — гэта толькі тваё жыццё. Падобныя сітуацыі не ёсць яшчэ капіраванне чужых жыццяў. Усё іншае: дрэвы і кветкі, людзі, палітыка і нават, можа, неба. Пагляд на неба залежыць ад настрою, ад напоўненасці душы, ад мудрасці.

* * *

Мінае зіма, развітваецца апошнім шчодрым снегам. Каб памяталі. З дзіцячага садка — пад вокнамі маёй кватэры — малады бацька вядзе малага гадоў чатырох-пяці ў акулярах. І я выпадкова пачуў іхнюю размову.

— І што нам рабіць? Выкачаўся ў снезе з гадавы да ног, — кажа бацька малому. — Што мама скажа?

— А што мама скажа? — перапытаў малы.

— А па галаве дасць і мне, і табе. А ты што?

— А я яе наб’ю па галаве, а чаго маўчаць, — адразу адгукнуўся малы.

Бацька нічога не адказаў, толькі пасміхнуўся.

Вось якая цяпер гадуецца моладзь.

* * *

Зусім паменела ў нашым жыцці рэалій сацыялізму. Здзічэнне, абалваньванне ахапілі грамадства, але хто супраціўляецца — застаецца верным сабе, канонам рэлігіі, маралі… Спакус многа, а вось сумлення мала. Для майго пакалення ўсе дзверы былі адчыненыя. Каго куды цягнула, што было наканавана, каго вяла мара — шлях быў адкрыты. З нашага класа выйшлі настаўнікі,

дактары, выкладчыкі, вайскоўцы, будаўнікі, інжынеры. І ніхто не трапіў у турму. Прыярытэтам у выхаванні была прыстойнасць, сумленнасць, калектывізм. Адзінае, чаго бадай што не хапала — уласнай ініцыятывы. Спадзяваліся, як і дыктаваў лад, на галоўную і асноўную ролю дзяржавы. Хцівасць і падзел на багатых і бедных не пагражалі нікому. Дык ці варта клясці той час супакаення і міру ў душы? Нехта ж будзе з замілаваннем успамінаць і сваё юнацтва пры капіталізме. Чалавеку заўсёды трэба сям'я, праца, дом, сябры (нельга ж стасавацца толькі з тэлевізарам і камп'ютарам). Улады не могуць дагадзіць усім. Асноўная задача ўлады — стварыць умовы, прыдатныя для жыцця ўсіх этнасаў.

* * *

145 гадоў з дня нараджэння Максіма Горкага. Пра яго з захапленнем магу гаварыць бясконца. Ніводная наша газета ў гэты дзень не ўзгадала пісьменніка. Ён меў здольнасць гарманічна спалучыць факты біяграфіі, перажытае з выдумкай. Чэхаў: «Мы прасякнуты пошасцю, дробненькія, але добрыя…» Горкі ж пісаў: «Паўстань, не змірыся з пошасцю і невуцтвам, не бойся зло называць злом…»

* * *

Фільм Ларса фон Трыера «Меланхолія». Як жа яго хваляць на закрытым праглядзе! Ну, лепш за Таркоўскага і Антаніёні. Лічу сябе ман'якам кіно, але з цяжкасцю «адолеў» прагляд. Можа, мяне ўжо цяжка здзівіць? Чалавек і прырода яшчэ здзіўляюць. Толькі адна фарба. У Айвазоўскага толькі фарбы мора, але якое яно рознае!

* * *

Марусі 4 гады. Цікаўнасць яе павялічваецца ў геаметрычнай прагрэсіі.
— Бабуля, а што ў школе робяць?
— Вучаць розныя навукі.
— Якія?
— Гісторыю, геаграфію, матэматыку, літаратуру…
— У-у…
— Яшчэ хімію, біялогію, маляванне, фізкультуру…
— Да-а-а! А выпусцяць калі?

* * *

Да пытання стылю. У «Старосветских помещиках» Гогаль дае дзіўную характарыстыку суму: «…гарачы сум». Яго трэба чытаць вельмі ўважліва і ўдумліва. Надта тонкі лірык. Паміж апавяданнямі Горкага «По Руси» і маімі навеламі «Хаос» адлегласць у сто гадоў. Ідэі падобныя. Чалавек збядняе сваё існаванне і памяншае шчасце, калі не разумее, што дабром жыць лепей за ўсё.

* * *

Падабаюцца ў гісторыі рэдкія, дзіўныя факты, якія засталіся па-за ўвагай падручнікаў. Усе ведаюць Калумба. А вось вахценнага на караблі, які першым ўбачыў зямлю, амаль ніхто не ведае. Яго імя Пінга.

* * *

На сустрэчы са студэнтамі-філолагамі. Адзін са студэнтаў задае пытанне: «Ахарактарызуйце ў трох словах сэнс драматургіі Чэхава». Ну, думаю, не спраўлюся. Пашанцавала, што за дзень да гэтага глядзеў па тэлевізары «Чайку», і прыводжу для прыкладу словы Ніны з п’есы: «Навокал пуста, пуста, пуста, страшна, страшна, страшна…» Вось і шукаюць героі выйсця з гэтага «пуста» і «страшна». Студэнт як быццам бы згадзіўся, каментарыяў не было. А можа, гэта і на самай справе так?

* * *

Лета. Да пытання пра характар беларусаў. Сезон ягад. Метраў за сто ад уваходу ў метро жанчына гадоў сарака прадае проста з зямлі маліны ў пластмасавых шкляначках. Твар насцярожаны: а раптам з натоўпу з’явіцца міліцыянер ці супрацоўнік падатковай інспекцыі — гандаль жа забаронены ў гэтым месцы. Яе хударлявы сын заклікае:

— Бярыце маліны, танна аддам.

— Колькі за шклянку? — цікаўлюся я.

Стомлены твар жанчыны расквітнеў усмешкай, у позірку — пашана і добразычлівасць.

— Дзесяць тысяч. Трэба на электрычку паспець. З самага ранку стаім. Бярыце, маліны салодкія. На рынку пятнаццаць тысяч за шклянку, — хутка гаворыць яна, нібы прабачаючыся, што цана ў яе ніжэй за рынкавую.

— Вазьміце, — просіць сын.

— Добра, бяру.

Яна ладзіць пакуначак.

Я б заплаціў і пятнаццаць тысяч. Чаму яна прабачалася? «Божа, — падумаў я, — дай ім магчымасць прадаць усе маліны. Яны добрыя людзі, мае беларусы. Пашлі ім, Госпадзі, паспяховы дзень. Паехалі з дому, відаць, зусім рана, а вяртаюцца позна. Колькі там гэтых ягад? Тысяч на сто, сто пяцьдзясят… Гэта невялікія грошы. Дапамажы ім, Госпадзі».

* * *

Пасля чарговага выступлення ў школе. Дзеці розныя: ветлівыя, цікаўныя. Я разумею, што гэта ў прысутнасці настаўнікаў. Але ўсё ж такі цікавасць да нашага брата, пісьменніка, яшчэ ёсць. Колькі ў мяне за гэтыя сорак гадоў было сустрэч! Калі прыблізна прыкінуць — тысячы тры. Пры сацыялізме модна было задаваць пытанне: «А якое ў вас жыццёвае крэда?» Адказваў па-рознаму. Цяпер паўтараў бы ўсім словы А. С. Пушкіна, як крэда: «Я зусім не ў захапленні ад усяго, што бачу вакол сябе, але слова гонару, ні ў якім разе я не хацеў бы змяніць Бацькаўшчыну ці мець іншую гісторыю, акрамя гісторыі сваіх продкаў». Гэтыя б словы — ды на дзверы музеяў.

* * *

Позні вечар. Дождж і вецер за акном. Два геніі кіно, Ф. Феліні і С. Бандарчук, моцна трымаюць мяне магіяй сваіх фільмаў. Я ўспрымаю іхнія думкі і фантазіі і раблюся амаль што Богам, калі з вышыні назіраю за дзіўнай істотай — чалавекам. «Шчасце заўсёды гаварыць праўду, калі яна не прыносіць

непрыемнасцей іншым», — кажа герой фільма «8 ½» Гвіда. Фільм грунтуецца на любоўным трохкутніку і душэўных хістаннях героя — паміж праўдай, успамінамі, разуменнем самога сябе і пошукамі сугучча сваім ідэям. Дзе, здавалася б, вастрыня канфлікту, дакладна акрэсленае зло, якое гэты канфлікт абвастрае? Яго няма. Канфлікт — у самім героі, які спрабуе спасцігаць разнастайнасць жыццёвых імгненняў, а жыццё не дазваляе яму засяродзіцца на адной ідэі ці праблеме. Усё ўзаемазвязана. Кожны чалавек — і вучань, і настаўнік. Вось афарызм майстра, якім я пакарыстаўся ў сваім фільме «Ліст Феліні»: «Няма ні пачатку, ні канца, ёсць толькі прага ведаў». Знакамітая і апошняя фраза ў фільме «8 ½»: «Возмемся ж за рукі». Калі няма паратунку ад супярэчнасцей, старасці, смерці — дапамагайма ж адно аднаму, любіце адно аднаго, зрабіце палёгку на жыццёвым шляху спачуваннем і любоўю адно да аднаго. На маю думку, гэта супадае і з мэтай царквы.

* * *

Жнівень. Мінск. Быў у царкве, паставіў свечку: сёння ж 8 жніўня, дзень, калі адышла мама. Было гэта шмат гадоў таму… Праз два дні пасля наведвання царквы выпадкова натрапіў на адным з тэлеканалаў на любімага Ф. Феліні. Паказвалі «Амаркорд» («Я ўспамінаю»). Як і раней, плакаў на сцэне пахавання Міранды (маці героя), плакаў на фінальным вяселлі Радыскі. Памятаю, крытыкі пасля прагляду яго чарговага шэдэўра неахвотна задавалі сваё кароннае пытанне: «Якая ідэя? Для чаго здымалася?» Атрымліваецца, што без ідэі. Няма ні станоўчых, ні адмоўных герояў. Але ёсць італьянцы, якія самі здзіўляюцца жыццю і самі сабе ставяць адвечныя пытанні: «А навошта ўсё гэта? Навошта мы самі прыйшлі ў гэты свет?» Як ненавязліва і тонка ў Феліні, аб’ёмна і глыбока, з нейкай доляй іроніі і тугі пад музыку Н. Роты. А як паказаў хваробу маці! Яна з аднаго пальца здымае пярсцёнак і надзявае на іншы, на якім пярсцёнак яшчэ будзе трымацца. Фільм нібыта абрываецца, як і ўспаміны: налятаюць з ветрам, з ветрам і адлятаюць. Прыйшоў у жніўні Феліні і мы разам аплакалі сыход яго маці і маёй. Маці яна і на Марсе будзе маці.

* * *

Масква. Гасцініца «Метраполь». Цэнтр Масквы. Я ў камандзіроўцы. Па сутнасці, яшчэ падшыванец. Здымаем сюжэт для часопіса «Фитиль». Ах, «Фитиль» — гэта як член Палітбюро. Прапясочыць — мала не будзе. Асобны нумар зарэзерваваны для «Фитиля». Іду па дывановай дарожцы. Чамусьці здаецца, што нізкая столь ціснe. Нумар невялікі, але ўтульны. А з акна краявід — мама дарагая! Малы тэатр, Вялікі тэатр. Гэта «Метраполь» — мара для замежнікаў і казка для савецкіх грамадзян. Грошай стае і на рэстаран. Сцэнарый зацвердзілі. Суткі ў «Метраполі». Заўтра ў Мінск. Дзіўна… Як сон. Дзе жыў? У «Метраполі». Калегі раты ад здзіўлення паадкрывалі. Кіно ўсё падуладнае. Не кожны з давыд-гарадчукоў у XX стагоддзі начаваў у «Метраполі». А можа, і ніхто. Але і таленту гэта не дадае. Сон на сене ў калгаснай пуні, можа, і спакайнейшы, і больш прыемны.

* * *

Танец — гэта філасофія ў жэстах.

* * *

Прачытаў у часопісе «Наш современник» вершы незнаёмага Віктара Каўрыжных. Раз прачытаў, перачытаў наноў, яшчэ раз. Добрае і светлае прываблівае. Узяў карту неабсяжнай Расіі і пачаў шукаць пасёлак Старабагаты ў Кемераўскай вобласці — там жыве Віктар. Вось які фокус, калі паэзія хвалюе душу. Так хочацца знайсці гэтую маленечкую кропку на карце — месца, дзе жыве таленавіты паэт.

* * *

Перачытаў «Новую зямлю» Я. Коласа. Гэтым разам удумліва, не так спехам, як у школе. Уражанне: быццам бы пабыў дома, усё роднае. Скажу: і праўда не старэе.

* * *

Верасень. У 1988 годзе майму дзеду-краўцу будзе сто гадоў. Ён нарадзіўся на Дзмітрыя. У 1888 годзе ў Пінску назіраўся кліматычны рэкорд — 20 градусаў па Цэльсію. Ён быў асцярожны, абачлівы, як усе палешукі, запальчывы — зазлуе, але зараз жа саступіць. Даволі добра чытаў газеты, календары, часам у нядзелю чытаў Біблію, але прыклады з яе не прыводзіў, нават жыццёвыя гісторыі са свайго дзяцінства не ўзгадваў, абапіраўся, выхоўваючы мяне, на бабулін досвед. Кравец таксама прафесія творчая. Калі завяршаў працу, заўсёды радаваўся: «Не чобаты, а цуд…» — так выхваляўся і ганарыўся перад заказчыкамі. Як і кожны творчы чалавек, любіў адзіноту. Лавіў рыбу не толькі дзеля харачавання ў галодныя 50—60-я гады, а дзеля задавальнення. Глядзеў на неба, раку, усходы, захады. Мяне з сабой на рыбу не браў. Лавіў на белы хлеб, гарох. Не любіў лавіць на чарвяка. Суседзям свой улоў не паказваў, не хваліўся. Злоўленую рыбу нёс дамоў у мяшэчку. Не памятаю, каб ён калі сядаў за абедзенны стол і доўга затрымліваўся. Заўсёды ёў пасля нас з бабуляй. Курыў выключна тытунь, які купляў у суседа Біржы, таленавітага рамесніка, майстра на ўсе рукі. Круціў газету «Правда», ужо прачытаную. Палова нашай Аселіцы выпісвала «Правду». Пасля чытання, здаралася, аспрэчвалі тыя ці іншыя артыкулы, дзед, праўда, у спрэчках не ўдзельнічаў. Пасля перайшоў на «Прыму». На вуліцы не курыў ніколі, не курыў і ў чайной, дзе з сябрамі-суседзямі выпівалі па сто—сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі, часцяком не закусваючы. Трэба было бачыць, як ён спяшаўся з чайной на сваю Закасцельную вуліцу — гэта метраў сто, каб закусіць, чым Бог паслаў, у хаце. Гэта быў звычайны суботні і святочны рытуал.

Бабуля за гэтыя сто грамаў ніколі не сварылася на яго. Пасля абеда — гадзіну-дзве спаў. Я ў гэты час «чысціў» яго кішэні. Зграбаў капеек 20—40 сабе на кіно. Ён гэтага не заўважаў, а можа, рабіў выгляд, што не заўважае. Пра жыццё гаварыў так: «Вой, адчапіся. Лепшае ўжо не вернем, як і маладыя гады, а найгоршае пакуль што не страшнае», і хітра прымружваў шэрыя вочы, закручваў жаўтлявыя на канцах вусы. «Страшная толькі смерць. І бедны хоча жыць, і багаты». Яшчэ больш ён засумаваў, калі з розніцай у адзін год нечакана памерлі два яго сябры, два родныя браты маёй бабулі Іван і Яфім. Няма з кім было больш пайсці на шпацыр і прагуляцца да чайной. Ён духоўна згасаў ад адзіноты. Іншыя мужыкі-суседзі былі маладзейшыя за яго. Пад ложкам трымаў вялікую пляшку першаку. Гэты груз па бартары яму прыносілі заказ-

чыкі з навакольных вёсак. Здаралася, забягаў на пяць хвілін сын Рыгор, і яны дазвалялі сабе кульнуць па маленькай перад абедам. «Здымем пробу». Вучылі і мяне. Грамаў дзесяць налівалі на стол і падносілі запалку. Пяршак гарэў яркім сінім полымем. «Крэпкая будзе, холера, мо пяцьдзясят градусаў», — канстатаваў дзед. Ніколі я ад яго не чуў застольных песень. Пасля трагічнай смерці маёй мамы ў хаце зусім не спявалі і не было радыё. Перад аперацыяй (зашчамленне грыжы) ён выпіў сто грамаў гарэлкі, успомніў усіх сваіх сяброў і праз суткі ў бальніцы памёр і пайшоў да іх назаўсёды і сам. Так на нашай Аселіцы не засталося больш краўцоў. Пахавалі яго побач з магіламі яго добрых сяброў-суседзяў — краўцоў Івана і Яфіма 24 верасня 1964 года.

* * *

Здаецца, я зразумеў, чаму так бязмежна люблю жыццё. Таму што яно, жыццё, мне вельмі цяжка далося. Таму што к дваццаці гадам ці трохі пазней зразумеў, што найвялікшая каштоўнасць на зямлі — жыццё!

Усе выходзяць у людзі з цяжкасцю і пераадольваючы перашкоды. І я такі не адзін. Я пра іншае. Пра тое, што за кароткі час юнацтва трэба засяродзіцца і мэтанакіравана рухацца да сваёй мары. Нішто не робіцца без намаганняў і ўпартасці: ні сялянская праца, ні пісьменніцкая. Ніколі не апускай рук, спадзявайся на Бога, не злуйся і спрабуй зноў і зноў стукацца ў дзверы. Не толькі паслухмяных, але і настойлівых, думаю, Бог любіць.

* * *

Дакументальны фільм пра нашага вядомага і таленавітага драматурга А. Дударава. Сказаў дакладна: «У дзяцінстве многа снегу і сонца». Можна дадаць — і сяброў. Пасля першамайскіх шэсцяў да стадыёна і мітынгу, мы, старшакласнікі, не разыходзіліся, ішлі ў наш невялікі парк ля царквы ў цэнтры гарадка, жартавалі, вучыліся граць на гітары, кпілі з дзяўчат — а яны асабліва квітнелі ў гэтыя майскія дні. Увечары спяшаліся ў клуб на танцы.

У нашым горадзе 100 вуліц. Нехта з кіраўніцтва любіў літаратуру — ёсць вуліцы Талстога, Горкага, Астроўскага, Тургенева, Чэхава, Лермантава, няма вуліц Коласа, Купалы, Пушкіна і Гогаля, ёсць вуліцы Шаўчэнкі, Хмяльніцкага, Хпоркаўская, Дняпроўская. Гэта наша. Хай у іх у Амерыцы 101, 105 Авеню… плошча Ракфелера… А наша ў нас. Вось бы жыхарам навучыцца цаніць і ведаць тых, у гонар каго названа іх вуліца. А то здараецца часам, што ўвесь век пражывуць і ніводнага радка з Талстога не прачытаюць. Сорамна.

* * *

Часам люблю ўведаць новыя цікавыя лічбы. У кілаграме мукі ўтрымліваецца, як высвятляецца, 14 тысяч зярнятак жыта. Як многа зерня трэба для адной булкі! Нездарма мая мудрая бабуля заўсёды перад ядой давала мне пацалаваць хлеб.

* * *

Май. Бывай, школа! Настаўнікі намі задаволены. Вельмі моцны клас. І ў працы, і ў спорце, і ў навучанні. Праўда, мы з маім сябрам Ванькам часам «сачкавалі». Але праз хваробу мне шмат што даравалася, даравалася

і Ваню за кампанію. Затое мы былі лідарамі ў мастацкай самадзейнасці і ў спорце. Яшчэ не верыцца, але праз месяц-другі ўсе параз’язджаюцца па розных гарадах. І лясне наш калектывізм. Пасля выпускнога, які працягваўся ажно да паўночы, мы з Ванькам пакідалі школу. Дзяжурная тэхнічка памахала нам рукой: «З Богам…» і зачыніла на зашчапку дзверы. Назаўсёды…

* * *

Кастрычнік. Дачка зрабіла марш-кідок па ўсёй Еўропе. Наша пакаленне такое і сасніць не магло. І грошай не ставала, і ўлады былі асцярожнейшыя, абаранялі ад язваў капіталізму. Дачка прывезла з Лурда, з крыніцы святой Бернадэты, святую ваду. Я піў яе тры дні па паўшклянкі з ахвотай, а тады піў нашу з Петрапаўлаўскага сабора. Не заўважыў розніцы. Дух святы паўсюдна лунае.

* * *

Нарэшце трымаю ў руках доўгачаканую кнігу «Феліні пра Феліні». Як вандроўнік, які пакутуе ад смагі, кідаюся на кожную старонку. Чытаю іх, гартаю, часам затрымліваюся на фотаздымках. Пазней прачытаю ўважліва, не спяшаючыся. А вока ўжо выхоплівае асобныя сказы. «Рэлігія вызваляе ад страху, але і спараджае яго». Сядаю ў крэсла на балконе і чытаю. Геніяльны рэжысёр у свае 64 гады ўспамінае жыццё і творчасць і разважае, здаецца, пра ўсё на свеце. І вось навіна! Не вучыўся ва ўніверсітэце. У нас бы не дазволі без дыплома УДІКа здымаць фільмы. Магутная самаадукацыя, як у Горкага. Не ўсё даецца лёгка. І «Дарога», і «Салодкае жыццё», і «Сатырыкон» — усё ў дэмакратычнай Італіі выклікала пратэст і ганенні на рэжысёра. А ён рабіў сваю справу.

* * *

Пачатак цёплай восені. Паступовае паміранне прыроды. Пераход у новыя колеры. У небе вялікі дыск месяца. Кажуць, заўтра ён будзе ўвесь у чырвоным. Інтэрнэт кіпіць.

Я… я… я… Гэта ўжо нейкая хвароба, манія велічы. Сэлфі ў небяспечных месцах — тупагаловыя практыкуюцца, хто знойдзе для здымкаў самае эфектнае месца. «Я першы, я адзіны, я рызыкоўны». Пахвальба. Не талентам ганарацца, а пустатой. Думаю, няўжо ў іх калі-небудзь абудзіцца цікавасць да культуры і гісторыі свайго народа? І баюся, што можа не абудзіцца. Вось тут і трэба ўздзеянне дзяржавы, каб спыніць моду на Іванаў-бязродзічаў.

* * *

Навальніца над Мінскам. Вярнула мяне ў дзяцінства. Старыя ў нас казалі: «От сіла нябесная, хмара ідзе з боку Турава, хмара плыве з Хорска, нясецца чорная ўся…» Ніколі не казалі пра набліжэнне навальніцы, скажам, так: «зараза, халера, паўзе чарната» ці «лезе на нос страшыдла». З такіх дробязей і складаецца стаўленне беларусаў да прыроды, да людзей, да Бога.

* * *

Выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Чатыры гады як я дырэктар. Калектыў пачаў верыць мне і паступова з’явіліся агульныя ідэі і задачы. А бывала, што асобныя групкі лабіравалі сваіх улюбёнцаў цалкам не без уласнай карысці. Агенты ўплыву. Выдаём і кнігі з серыі «Школьная бібліятэка». Божа, якія слабыя, нудныя раманы, аповесці, паэмы. Але за імі пісьменнікі з імёнамі ці з пасадамі. Праграмы па літаратуры рускай, беларускай, сусветнай мусяць пераглядацца. Раз на тры гады яны павінны абнаўляцца. Гэта вялікае мастацтва і майстэрства — вельмі коратка ахарактарызаваць творчасць значнага пісьменніка і выбраць з яго твораў менавіта тое, што будзе цікавым для пэўнага класа сярэдняй школы. Шкада, што ў гады майго навучання ў школе на мяне і маіх аднагодкаў не рабілі належнага ўздзеяння шэдэўры Якуба Коласа «Сымон-музыка» і Янкі Купалы «Адвечная песня»: не змаглі прывіць да іх любоў і данесці паэтычную прыгажосць. Шкада, пайшоў са школы, так і не прачытаў ніводнага са 125 санетаў Шэкспіра.

* * *

Ніколі не забудзецца… 1958 год. 8 жніўня… Пахаванне мамы... Цёплы дзень. Людзей многа. Труна з белымі карункамі. Матчыны пальцы надта худыя, у іх не трымаецца свечка. Абкручваюць свечку хусцінкай. Шлях да могілак доўгі. Я стаміўся. Мяне пасадзілі на воз побач са святаром Кандыбам, які пачынае традыцыйнае: «Во блаженном успении, упокой, Господи, душу рабы твоей...» Бацькі на пахаванні не відаць, не прыйшоў…

* * *

Закончаны раман «Кветкі правінцыі». Пісьменнік не павінен рабіцца асцярожна-абачлівым назіральнікам. Для ўзмацнення эмацыянальнага ўздзеяння на чытача я часта выкарыстоўваў гіпербалу, узбуйняючы ці пазітыўны, ці негатыўны факт. Ва ўсім прысутнічае вышэйшая воля. Можа, калі б не застаўся сіратой, не зведаў гора праз першае нешчаслівае каханне, не захварэў на туберкулёз і не развітаўся з роднымі мясцінамі, можа, і не займаўся б літаратурай, якой прысвяціў жыццё. Хутчэй за ўсё так.

* * *

Успамінаю 1969 год. Напярэдадні ад’езду ў сталіцу.

Нарэшце пан Пяцельскі разгаварыўся. Паўгода ўсё абяцаў. Узяў дзве бутэлькі яблычнага віна. І тры вечары запар я ўсё распытваў і перапытваў, адразу ж усё запісваючы. Ужо не сумняваўся, што буду пісаць раман, і назву прыдумаў — «Крывавы хутар», пасля — «Крык на хутары». Мяне ўсхвалявала пачутае. Але як толькі зрабіў спробу сканструяваць сюжэт жыцця сям’і хутараніна — разгубіўся. Відавочна не хапала дадатковых матэрыялаў. Час дзеяння — трыццатыя гады, калі паміраў мой прадзед Міхаіл. Адразу зрабіць належным чынам я не здолеў. Трэба без мітусні, карпатліва збіраць матэрыял, вывучаць атмасферу далёкага ад мяне часу. Зразумеў, што ўспаміны бабулі і дзядулі таксама будуць да месца.

Як вядома, вымысел — гэта не падман. Дзіўная якасць: успамінаючы школу, ніколі не ўзгадваеш аднаго чалавека ці аднаго настаўніка, а ўвесь клас, усю школу, усіх настаўнікаў.

* * *

Дзівоснае зорнае неба. Здаецца, працягні руку — і зможаш дакрануцца.

Гэта няпраўда, што ў душы чалавека не адбываюцца змены. Такое адчуванне, што пражываеш некалькі жыццяў. З юнацтва я захапляўся вывучэннем асноў пяці галоўных рэлігій свету. Гадоў дзесяць працаваў над эсэ «Філосафы свету пра Бога, Веру, Душу». Мэта ўсіх рэлігій аднолькавая: дапамагчы чалавеку як найхутчэй перайсці ад жывёльнага стану да боскіх асноў, метады — розныя. Бог ёсць вобраз для пераймання. Грэк Тэафраст пісаў, што калі б не было Бога, яго варта было б выдумаць. Жыві ў згодзе з прыродай, шануй і любі ўсё жывое.

Нараджэнне дачкі Наташы, імя далі ў гонар жонкі. Думаю над паходжаннем слова «мама». Перагартаў палову бібліятэкі. Адшукаў верш імператара Асірыі (дарэчы, першы верш у свеце) Ашурбанапала: «О бог, Маму, бог сну, прыйдзі да мяне. Сагрэй мяне і супакой». Мама... падобна да Бога сну Маму. Салодкі і добры, паўднёвы і спакойны. Можа, менавіта тут разгадка? Маё прозвішча Марчук. Казалі, ад Марты. Сын Марты. Але хвалюе таямнічае –*чук,* якое прысутнічае шмат у якіх прозвішчах. А можа, гэта ад Бога Вавілона Мардука?

* * *

Рэдагую дзённік. Па тэлебачанні паказваюць нейкую перадачу... слухаю няўважліва, але вось словы: «Тэлеграма Леніна. Яраслаўль». «Чым больш будзе забіта папоў, тым лепей для рэвалюцыі».

* * *

Усё ляснула. 2001 год.

Артысты, якія калісьці выконвалі ролі правадыра пралетарыяту, саромеюцца ўспамінаць пра гэта на экране. Зло новай улады пачынаецца з адплаты былой.

* * *

На стале кніга «Памяць», прысвечаная гісторыі Столінскага раёна. Кніга настаўніка гісторыі, дырэктара маёй СШ № 2 М. Шэлехава «Давыд-Гарадок». Хлопцы, жыць хочацца, радавацца хочацца ды падняць келіх шампанскага за падзвіжнікаў і энтузіястаў! Сто тысяч насельніцтва ў раёне, а колькі таленавітых, разумных, добрых, знакамітых людзей нарадзіла столінская зямля! Брава! Яшчэ дваццаць гадоў таму гістарычнае багацце было незапатрабаванае і пылілася ў архівах.

* * *

Дзе слабая духоўнасць — жорстка працуюць законы, дзе не працуюць духоўнасць і закон — пануе сіла.

* * *

Не ведаю, як для каго, а мне цяжэй за ўсё даюцца сюжэты казак і афарызмы. Тры месяцы не працаваў за пісьмовым сталом. Для мяне гэта нехарактэр-

на. Нарэшце, «нашкрабаў» некалькі афарызмаў, якімі не зусім задаволены. І афарызмы маюць свае жанры: трапнае слова, мудрае выслоўе, вобразнае выказванне, парадаксальнае параўнанне. «Старасць — гэта караблекрушэнне, ад якога ніхто не ўратуецца». «У некаторых спакойнае існаванне грунтуецца на неспакойным існаванні іншых». «Сапраўдную сутнасць жанчыны можа ведаць толькі люстэрка».

* * *

Які ўсё ж такі сур'ёзны польскі фільм «Фараон» і які ў яго аснове выдатны раман Б. Пруса. Чаму лічба 13 нешчаслівая? У 13 столак тканіны была закручана мумія Тутанхамона. Чаму ставяць адзнаку «пяць»? У Хрыста на целе было пяць ран. Здагадкі. Супадзенні. Трэба, кажуць, у зле шукаць добры бок. А хіба ён там ёсць?

Лёс — гэта збег акалічнасцей, якія немагчыма прадбачыць. Але чым абумоўлены гэты збег акалічнасцей? Неабходнасцю здабываць сродкі для існавання і жарсцямі.

* * *

2001 год. Прыезд рускіх пісьменнікаў у Мінск. Вельмі яны перажываюць, што дазволілі падмануць народ, згадзіліся з апашленнем паўсюдным сваёй гісторыі і самабытнасці. Адно толькі радуе — не памірае культура, не знішчана яе аснова, народнасць, жыве песня, гумар, танец і вера праваслаўная, на якую ахвотна ўсе спасылаюцца і ў якой бачаць абарону духа народнага. Быліна — ад слова «было». З маленства любімыя былінныя героі Алёша Паповіч, Дабрыня Нікіціч ды Ілья Мурамец. Для мяне яны цяпер чамусьці атаясамліваюцца з «Братамі Карамазавымі», «Вайной і мірам» і «Ціхім Донам». Ах, на якую духоўную вышыню ўзнімаецца народ, калі яго літаратура мае вось такія былінныя палотны.

* * *

Жыццё можна ахарактарызаваць і так: маладосць — гэта полька, сталы ўзрост — гэта вальс, старасць — гэта танга.

* * *

Адзін чалавек звяртаецца да другога: «Ды калі ты хочаш ведаць, я быў у адрозненне ад цябе апазіцыянерам савецкай улады задоўга да нашых дзён!»

Другі: «У сэнсе?»

Першы: «А ў тым сэнсе, што я ніколі не хадзіў абедаць у сталоўку ЦК».

«Лагічна, — пасміхнуўся другі, — а ў туалет ЦК хадзіў, калі служыў там?»

«У туалет хадзіў».

«Значыць, ты быў напалову апазіцыянер».

* * *

Паспрачаліся аднойчы працавітасць, цярпенне і адвага, хто з іх самы галоўны для чалавека. А сапраўды, хто?

* * *

Працую над раманам «Крык на хутары». Галава пухне ад колькасці дадатковай інфармацыі, сяджу ў архівах і ў бібліятэцы да позняга вечара. Нават гуляючы ў парку Чалюскінцаў, жыву яго героямі, сюжэтам. А вось і падказка немца І. В. Гётэ: «Раман — суб’ектыўная эпапея, у якой аўтар пытае дазволу на свой лад тлумачыць свет. Такім чынам, пытанне ў тым, ці валодае ён сваім уласным ладам. Рэшта дадасца».

* * *

Давыдгарадчукі не кажуць «дзеля чаго жыву», а кажуць заўсёды і знаёмым, і незнаёмым «радзі каго жыву».

* * *

1995 год. Еўфрасіннеўскія чытанні ў Праваслаўнай Епархіі. Для майго духоўнага выхавання і адукацыі (як і іншых людзей) нікому няма ніякай справы. Нібыта самаўдасканальваюся я выключна сам для сябе. Але гэта на першы погляд. Калі кожны чалавек будзе ўсведамляць неабходнасць працы душы і штодзённа займацца гэтай богаўгоднай справай, значыць усё грамадства ўвогуле ўзбагаціцца духоўнымі асобамі. Больш добрых, сумленных, мужных, чуллівых, прынцыповых, мудрых — ці не на гэтым трымаецца стабільнасць дзяржавы і ці не гэта аснова яе маральнасці? Агульнае шчасце складаецца з сумы шчаслівых індывідаў.

* * *

Вельмі рэдкая дэманстрацыя на ТБ фільма «Узнятая цаліна». Фіналы «Ціхага Дона» і «Узнятай цаліны» аднолькавыя. У першым Рыгор аплаквае забітую Аксінню, у другім Вара аплаквае забітых Давыдава і Нагульнава.

Што згубіла Нагульнава? Палкасць, жаданне як мага хутчэй упарадкаваць усё вакол, нянавісць да класавых ворагаў, нешчаслівае каханне, неразуменне ягоных ідэй іншымі людзьмі... Рашаць нам, чытачам. Аўтар не робіць аднабаковых высноў. Вось такому майстэрству трэба вучыцца кожнаму пісьменніку.

* * *

Упершыню чытаю ненадрукаваныя дакументы пра Вялікае Княства Літоўскае. «Вітаўт выдаў закон, згодна з якім асуджаныя павінны караць самі сябе. Як гэта? Злыя павінны забіваць.

* * *

Пасля трыццацігадовага перапынку перачытаў біяграфіі трыццаці найбольш вядомых пісьменнікаў Еўропы, чыя творчасць прайшла выпрабаванне часам і зрабілася класікай. Крытыкі, зыходзячы са сваіх нацыянальных інтарэсаў, навязваюць для вывучэння ў школах і ўніверсітэтах яшчэ трыццатку (асабліва прадстаўнікоў XX стагоддзя), але гэта ўжо штучнае падцягванне людзей са слабымі здольнасцямі да ўзроўню гігантаў слова. Вось некалькі імёнаў, якія ўпрыгожылі не толькі еўрапейскую, але і сусветную літаратуру: Гамер, Эўрыпід, Авідзій, Дантэ, Бакача, Шэкспір, Сэрвантэс, Мальер, Гётэ, Лафан-

тэн, Скот, браты Грым, Андэрсен, Гюго, Бальзак, Дзікенс, Дзюма, О'Генры, Гашэк, Хемінгуэй, Ліндгрэн, Маркес, Андрыч, Рэймант, Прус, Сенкевіч, Нушыч, Фолкнер, Гамсун, Пірандэла, Эмінеску, Вазаў. Дзіўны факт — Бальзак, Мальер, Андэрсен пражылі ўсяго 51 год і ўсё паспелі стварыць. Сіла таленту ў гэтых пісьменнікаў такая, што як бы ні хацелі ілжэкрытыкі і ўкладальнікі новых рэкамендацыйных дапаможнікаў для вучняў і студэнтаў замяніць гэтыя імёны, паставіць замест іх пісьменнікаў выключна сваёй нацыянальнасці, яны не могуць гэтага зрабіць. Генія нельга замаўчаць, ён заўсёды ў модзе.

## Раздзел II

* * *

Прысніўся мне сон: нібыта іду па вуліцы мястэчка, у якім нарадзіўся і жыў да дваццаці гадоў, а наўкола няма дрэў... пуста. Аж жахліва. Як жа так думаю, а дзе яны? Каля роднай хаты таксама пуста, а ў садах няма груш, сліў, яблынь, вішань. Пытаюся ў сваёй бабулі: «Што тут адбылося? Ці які буран быў, ці якое іншае ліха накацілася?» А яна і кажа: «Крыўдуюць дрэвы на цябе, унучак. Ты хораша напісаў пра нашы хаты, і пра Гарынь, пра вуліцы, пра людзей. А пра дрэвы ні слова. Яны ж таксама з табою ў адзін час на зямельку прыйшлі. Пакрыўдзіліся і схаваліся ад цябе».

Прачнуўся я ад гэтага сну і даў сабе слова ўзгадаць дрэвы майго юнацтва.

* * *

Наш касцёл з чырвонай цэглы збудавалі ў трыццатых гадах яшчэ за польскім часам. Вуліца наша мела назву Закасцёльная, бо пачыналася адразу за касцёлам. Таму, калі ксёндз са служкамі ды старастам пачалі садзіць перад агароджай касцёла ліпы, дзеці-падлеткі з нашай вуліцы прыбеглі паглядзець і памагаць. Была сярод іх і мая дванаццацігадовая маці... Калі ж мне было дванаццаць бабуля пасылала ўжо мяне да касцёльных ліп нарваць цвета, «коб було чым чай заварваць ды ратаваць гэтым напоем хваробы дзеда». Касцёл тады ўжо ліквідавалі, а пасля вайны аддалі яго пад Дом культуры. Чатыры ліпы зрабіліся нічыімі. Рвалі іх цвет, хто хацеў. Ліпы цярпелі. Яны выраслі, галлё было густое, «ураджай» давалі вялікі, усім хапала, а пах ад іх плыў за паўсотню метраў ад касцёла. Хто быў вышэйшы ростам, абрываў усё знізу, а нам, падлеткам, даводзілася кідаць у галлё палкі, каб збіваць цвет. Мы ж, дзеці, не разумелі, што дрэву можа быць таксама балюча.

Выраслі мы і разбегліся з горада ў пошуках сваёй долі хто куды. За штодзённай мітуснёю я і забыўся пра закасцёльныя ліпы. Аднак не ўсё падуладна нам. Праз трыццаць гадоў пасля таго, як я пакінуў гарадок, атрымаў у сталіцы ліст ад гісторыка-настаўніка, які меў пэўныя літаратурныя здольнасці. У лісце былі тры слупкі і прыпеў. Тэкст віншавання з нагоды майго юбілею бачыўся яму песняй. Той сціплы прыпеў зачапіў маё сэрца. «Сум трывожыць душу. // Доўгае вяртанне, доўгае чаканне. // Толькі ўсё шумяць і шумяць закасцёльныя ліпы — // Прыязджай, прыязджай, прыязджай!» Я не мог супакоіцца. Гэта было самае шчымлівае і цёплае віншаванне з радзімы.

* * *

Ліпы майго дзяцінства. Як я мог забыцца, як я мог забыць ліпавы чай, які ратаваў нас з дзедам у халодную зіму, бадзёрыў.

Выбраліся мы з сям'ёй на маю радзіму. Быў месяц ліпень. Амаль без адпачынку ад дарогі, усё ж трыста кіламетраў, я хуценька сеў на ровар і туды, да роднай вуліцы, да родных ліп. З чатырох засталіся толькі дзве. Ці яны паменшалі ростам, ці я падрос. Цяпер лёгка мог дастаць да галля адной. Яшчэ сям-там на галінках былі жаўтаваценькія, як крылы страказы, кветачкі. Але ж дробненькія, нібыта штучныя. Давалі слабы пах. Адна ліпа дажывала свой век. Падышоў да мяне дырэктар Дома культуры. Цёпла павіталіся. Сказаў, што ў гэтую ліпу калісь ударыла маланка. Не спаліла, але ж ліпа захварэла. Разрэз ад маланкі паглыбіўся да чалавечага росту. Недавяркі нейкія расклалі ў гэтым дупле вогнішча, трохі падсмалілі, пакуль іх не прагналі. Так яна і засталася стаяць з гэтым учарнелым «жыватом».

Я дакрануўся да ліпы рукой. Падалося, што дрэва было надта цёплае. А можа, мая рука ад хвалявання зрабілася цёплай? Падумалася, што не трэба так штодзённа пакутаваць: «Ах, Божа мілы, як хутка надыходзіць старасць». Усё наўкола таксама старэе. І ліпа дзяцінства таксама.

Дырэктар Дома культуры заўважыў маё працяглае маўчанне.

— Хацелі спілаваць камунальныя службы. Я не даў. Кажу, яшчэ ж, бедная, адной галінаю дае цвет. Дый, дзякуй богу.

Я яго пахваліў праз сілу. Нейкі камяк жалю сціснуў горла, перашкаджаў словам. Я стаяў каля старэнькай ліпы, якую даўным-даўно пасадзіла мая маці.

* * *

У нашым мястэчку, як, дарэчы, і ў большасці невялічкіх мястэчках Беларусі, вуліцы і дробныя кварталы маюць свае назвы, незалежна ад іх афіцыйных назваў. Калі каго пытаюць: дзе ты жывеш, дык той, як і яго продкі, адказвае, што не на вуліцы Калініна, а ў Мэльніках, альбо не на вуліцы Піянерскай, а на Балоце. На нашай Осэліцы, як у нас казалі, пасля паводак Гарыні заставалася аж дзве ямы, якія нават у спякотнае лета не высыхалі. Яма каля хаты Кісяля, яма каля кузні Герасіма. Вакол кузні раслі высачэзныя і таўшчэзныя вярбы. Двое дужых мужчын наўрад ці маглі ахапіць рукамі іх шурпатыя ствалы. Побач, звесіўшы свае «косы» да пакрытай светла-зялёным жабарам вады ў яме, расла вярба ніцая, з галінак якой мы ўвесну рабілі свісцёлкі.

У кузні, вядома ж, спякотна. Вербы трохі давалі цянёк. Пад імі мы вучыліся гуляць у карты.

Акрамя Осэліцы такіх магутных вербаў больш нідзе не было. Бура налятае на гарадок рэдка, але трапна. Аднойчы ліпеньскі буран паваліў адну вярбу. Так яна і засталася ляжаць. Ніхто, ні каваль Герасім, ні яго сусед шматдзетны Сцяпан Біржа не рызыкавалі пілаваць яе на дровы.

— Як гэту піўную бочку распіліць? На чорта столькі сіл утрубіць, — казалі, — з Прыпяці прывязём лазы, будзе чым узімку печ паліць.

Доўга тая вярба ляжала. Памёр каваль Герасім, памёр і яго сусед Сцяпан. Да замкнёнай назаўсёды кузні не было ахвоты хадзіць ды сядзець на вярбе. Людзі з другой вуліцы ўзялі сабе на яме пляц пад хату, разам з ямай, кузняй і вербамі. Прывезлі, каб засыпаць яму мо сто самазвалаў зямлі. Спілавалі старыя вербы і прыгожую вярбу ніцую. Стаіць на месцы кузні пасярод Осэліцы ладны дом, а над двума вокнамі аж дзве тэлевізійныя талеркі-антэны. Старыя

вербы, якія абуджалі дзіцячыя фантазіі, далучалі да дзівосаў і прыгажосці, засталіся ў мяне на карціне, якую намаляваў сябар-мастак паводле маіх успамінаў. Нехта з часам намалюе і хату з дзвюма тэлевізійнымі антэнамі, прыгадваючы ўжо сваю Осэліцу XXI стагоддзя, а мае вербы засталіся ў XX.

Бяжыць час, бяжыць...

* * *

Мы, падлеткі, доўга не ведалі, што дрэва, якое расце каля Казанскай царквы (правільна будзе Царква Казанскай Божай Маці) у цэнтры мястэчка называецца ясень. У часы атэізму вучням не рэкамендавалі хадзіць у храм і верыць у Бога. Бацькі парушалі настойлівы загад настаўнікаў і бралі з сабой дзяцей, вадзілі да прычасця, вучылі маліцца.

Я рос сіратой. Мяне ніхто не браў з сабой у царкву на вялікія святы: Вялікдзень, Раздво, Тройцу, на прастольнае свята іконы Божай Маці Казанскай. Я сам ішоў да царквы і сядаў на лаўку каля ясеня. Пра яго мне і іншым дзецям, якія хадзілі да царквы, трохі расказваў царкоўны стараста, сваяк маёй бабулі. Казаў, калі будавалі царкву, святар Юхневіч і пасадзіў дрэва. Гэты самы ясень. Стрыечная сястра маёй мамы цёця Соня пасля вайны апынулася ў Польшчы, там выйшла замуж і асела ў мястэчку недалёка ад Чанстахова. Дзетак ёй Бог не даў. Дасылала нам пісьмы. Нават калі памерла мая мама, мы, праўда, зрэдку, але ж атрымлівалі лісты ад цёці Соні з рознымі ненашымі каляровымі маркамі. І абавязкова яна ў сваіх лістах пыталася: «Як там суседзі, як Казанская царква, ці не зачынілі, ці жыве ясень?»

— І што ёй так карціць? Нашто ёй здаўся гэты ясень? Дрэва як дрэва, — не разумела пытання Соні бабуля Насця.

Так склаліся абставіны ў жыцці, што Соня мусіла пакінуць Польшчу і вярнуцца ў гарадок, каб даглядаць сваю старую і амаль сляпую маці. Тады мы і сустрэліся. Я прывёз сваю малую дачку, каб упершыню паказаць ёй гарадок. Увішная, рухавая, інтэлігентная цёця Соня суправаджала нас паўсюль: хадзілі да сваякоў, на рэчку, у чайную, у клуб, у бібліятэку і да царквы.

— Расце, слава Богу, расце! — радавался цёця Соня на царкоўным двары. — Гэта ж мой ясень...

— Як? — здзівіўся я.

— Мама мая, як я нарадзілася ў 1920 годзе разам са святаром, вечная ім памяць, пасадзіла гэты самы ясень у мой гонар. Так што, Жорачка, гэта наш ясень. Вось і будзеш лічыць — колькі мне гадоў столькі і ясеню.

Я сфатаграфаваў цёцю Соню на лаўцы пад ясенем з напалову іранічнай усмешкаю.

Так я даведаўся, што ў жыцці амаль кожнага чалавека бываюць розныя падзеі, звязаныя менавіта з дрэвам.

Цяпер, калі прыязджаю на радзіму, прыгадваю, стоячы ў царкве, гэта ж колькі год магло быць цёці Соні? Ага... восемдзесят шэсць... і ясеню восемдзесят шэсць. Так яны, аднагодкі, на маім здымку і засталіся: цётка Соня і царкоўны ясень.

* * *

Мой нядобразычлівец і зайздроснік, а іх у мяне хапае, прачытаўшы назву, здзекліва скажа: «Гэта не беларускае слова, па-беларуску трэба пісаць “бэз”. Гэта першае. А па-другое, бэз не дрэва, а куст».

Ніхто ў нас у мястэчку, бачачы гэты квітнеючы куст не казаў«бэз», а толькі «сірэнь». Сам куст, ці кветка ад змены назвы не зменіць свой пах…

Даўно гэта было, пяцьсот гадоў таму, як малады жамойт Гаштольд разам з войскам Вялікага Княства Літоўскага гнаў татараў ажно да Давыд-Гарадка. Татары, простыя ваяры, сталіліся ваяваць і далі зарок, калі ім пакінуць жыцці, больш не ўзнімаць зброю на славян. Ад таго часу і пачалі ўтварацца змешаныя сямейныя пары. Татары прывыкалі да традыцый палешукоў, але ж яшчэ трымаліся і сваіх звычаяў. Нават былі ў іх і асобныя, свае, татарскія, могілкі, або «кладбішча».

Вось праз чатыры з паловай стагоддзі пайшлі мы з аднакласнікамі на гэтыя татарскія могілкі, каб наламаць сірэні. Дужа квяцістая ды духмяная яна там расла. Яшчэ ж хацелася нарваць той сірэні ды падарыць дзяўчыне, якую патаемна кахаў. Усе хлопцы гулялі з дзяўчынкамі, а я ўсё прымерваўся, як падступіцца да фанабэрыстай аднакласніцы.

Хадзіць сярод надмагільных пліт было не надта страшна. Праўда, пасля смерці маці я трохі пабойваўся кладбішча і нават калі ішоў побач з гарадскім, што насупраць школы, адварочваў галаву ўбок, каб не глядзець на магілы. Але ж каханне перамагае ўсё. Каб дацягнуцца да высокай сірэні, даводзілася станавіцца на магільныя пліты, на якіх яшчэ былі ледзь бачны арабскія літары. Неўзабаве задаволеныя мы неслі ў горад вялікія букеты сірэні.

Доўга мая дзяўчынка не выходзіла з хаты. Я, чакаючы яе, бадзяўся па вуліцы ды так і не дачакаўся аднакласніцу. Прынёс сірэнь дахаты. Баба спытала, дзе нарваў? Кажу, на татарскіх могілках. Пачала сварыцца, але не злосна, а так як яна ўмела мякка-настойліва.

— От дурнота, хто ж з могілак сірэнь у хату прыносіць, га? Шчо вы нелюдзі, ці шчо? Грэх. Прыйдуць уначы нябожчыкі, ды запатрабуюць вярнуць крадзенае.

Я ўважліва слухаў, не пярэчыў, трохі напалохаўся. І што вы думаеце? Прысніўся мне сон: нібыта адзін нябожчык падышоў у сне да нашых акон і запатрабаваў, стукаючы ў шкло: «Аддай сірэнь, нягоднік!»

Вось раніцай пасля сну я напалохаўся.

— Што рабіць з букетам?

— Занясі ў царкву і пакладзі да якой-небудзь іконы, — параіла баба.

Так і зрабіў. Гэтая крадзеная ў нябожчыкаў сірэнь не ўзмацніла маё каханне. Яшчэ сірэнь расла і на старых кладбішчах каля Георгіеўскай царквы за прытокам Гарыні рэчкай Сешкай. Але ж, памятаючы бабіны словы ды сон, я больш ніколі да ад’езду з гарадка не рваў сірэнь, каб не зрабіцца, як казала баба, нелюдзем.

* * *

Па вышыні і таўшчыні ствала таполі не саступалі вербам з Осэліцы. Некалькі таполяў расло ў парку насупраць Казанскай царквы і кінатэатра «Заря». Яны лічыліся школьнымі, бо тэрыторыя старых будынкаў школы сваёй баскетбольнай пляцоўкай межавалася з гэтым невялічкім скверам-паркам. Чамусьці прыгадваюцца іншыя таполі, на якія старыя людзі казалі «асякоры». Яны раслі на самым ускрайку гарадка па дарозе да ўрочышча Хабішчы, недалёка ад збудаванага двухпавярховага цаглянага дома для працаўнікоў міжраённай трактарнай станцыі — МТС. Гэтыя таполі былі як вартаўнікі. Бачна іх было здалёку.

Я з сябрам ездзілі да іх на роварах — усё ж такі далекавата ад Осэліцы. Чаму ехалі? Проста паглядзець на іх вышыню.

Па сённяшніх гарадскіх стандартах, яны «цягнулі» на дзесяціпавярховы дом. Мяне здзіўляла: як яны адны, амаль у полі, начуюць? Без людзей, без святла ад электрычнай лямпачкі на слупе.

Раптам наш раён зліквідавалі і багата каго перавялі ў Столін. Неяк сама па сабе рассыпалася і МТС. Асірацеў і белы дом каля таполяў. Казалі, у пустыя кватэры засяліліся цыганы, якія ўпадабалі наша мястэчка. Таму мяне баба Насця строга папярэдзіла, яна з насцярогай ставілася да цыганоў, каб я, барані бог, не ездзіў да гэтага дома, не верыў у іх варажбу.

Цыганы маюць такую натуру: на адным месцы доўга не сядзяць. Аддалі ўлады кватэры людзям. Тапошя жыве параўнальна нядоўга. На іх месцах нічога не пасадзілі. Дрэвы адсужылі на варце. Цяпер праклалі аб'язную дарогу, і транспарт мінае гарадок, ляціць адразу да моста і далей на Столін.

Дзе цяпер расце самае высокае дрэва і не ведаю.

* * *

Шаўкоўніца расла на знакамітым Альшанскім шляху, які некалькі разоў мяняў назву: то быў вуліцай Пілсудскага, то Савецкай. Можа, нарэшце, вернуцца да Альшанскага шляху.

Ад будынка новай школы да шаўкоўніцы было метраў сто. За ёю — поле. Калі залезеш на яе, дык відно вёску Высокае. У нашым гарадку на базары прадаюць маліну, агрэст, парэчкі і ніколі ніхто не прадае ягады шаўкоўніцы.

— Покалішся ўвэсь, — кажуць, — і рукі чорныя не адмыць, і язык увесь чорны. Дрэва нічыё. Едзь хто хоча і рві ягады, еж ад пуза.

Паехалі і я з сябрам Ванькам. Казалі нам тыя, хто каштаваў, што вельмі смачныя ягады. «Шчо було знізу, усэ позрывалі».

Залезлі мы і давай рваць спелыя ягады. Раптам пачулі строгі голас калгаснага брыгадзіра. Чалавек ён быў сур'ёзны.

— Хто вам, байстрюкі, дазволіў рваць калгасныя ягады?

Мы аслупянелі.

— Гэта не калгасная шаўкоўніца, а нічыя, — знайшоўся Ванька.

— Як не калгасная, калі яна расце на калгасным полі. А ну гэць адсюль, каб і духу не было, — строга гаркнуў ён.

Мы напужаліся. У руках брыгадзір трымаў пугу. Я саскочыў першы. Ванька за мной. Ён на дрэве сядзеў вышэй за мяне, і хоць вышыня была не надта вялікая, але гэтага хапіла, каб ён падвярнуў нагу. Ступня балела. Сябар мой ажно скруціўся ўвесь, завойкаў, ухапіўся дзвюма рукамі за ступню. Спрабаваў ісці. Не... было балюча.

— Заспанцы, чаго палезлі? — брыгадзір ужо быў не рады, што прагнаў нас. — Сядай на воз, — загадаў ён сябру і паклаў яго ровар на калёсы.

Мы рушылі ў горад. Ванька войкаў трохі менш. Я павольна круціў педалі ровара і маўчаў. З таго часу мы больш да шаўкоўніцы не ездзілі. А яшчэ праз два гады пакінулі горад назаўсёды. Не ведаю, ці жыве яшчэ тая шаўкоўніца... А можа, калі падраслі ўнукі ў брыгадзіра, ён яе спілаваў, памятаючы пра той выпадак з намі. Усё можа быць...

Але ягады былі ўсё ж надта смачныя. Можа таму, што елі ўпершыню ў жыцці...

* * *

Вяз быў нашым дрэвам. Праўда, не зусім нашым, а напалову. Мы яго дзялілі з суседам па прозвішчы Юрко. Хаты нашы стаялі надта ж шчыльна адна да адной. Прамежак паміж глухімі сценамі быў каля двух метраў.

Высокі вяз рос каля ганка Юрка, але большасць галін звісала над дахам нашай хаты, які быў крыты чаротам.

— Згніе ад гэтага вяза наша страха, ой, згніе, — жалілася баба дзеду.

— А шчо я зраблю? Вяз не наш, — адказваў з сумам дзед.

Яны не любілі вяз, а значыць, не любіў яго і я.

У Юрка было два сыны. Старэйшы адразу пасля арміі паехаў у сталіцу і там застаўся, а малодшы быў ад нараджэння глуханямы і жыў з бацькамі. Напачатку я баяўся яго. І ўсё ж ён быў незласлівы. Бацькі на яго не сварыліся, і ён з імі не спрачаўся, не махаў рукамі.

Знайшоў ён неяк каля райвыканкама нейкі часопіс з вялікім здымкам цягніка на адной старонцы. І усё мне паказваў пальцам на гэты здымак, спрабуючы нешта сказаць.

— Пу-пу-пу-у-у-у...

Я падказваў: «Поезд. Фу-фу-фу».

Ён усміхаўся ад таго, што я яго разумею.

Аднойчы нямчук знік. Юрчыха казала бабе, што ўкраў з камоды грошы і знік. Я падумаў тады, што ён уцёк да станцыі Гарынь, каб у жывую пабачыць цягнік. Чакалі яго тыдзень. Не вярнуўся. Звярнуліся ў міліцыю па дапамогу. Там паабяцалі шукаць. Можа, трохі і шукалі. Міналі месяцы, год, два, а нямчук так і не вяртаўся.

— Можа, забілі дзесь з-за гэтых грошай, што ў бацькоў узяў, — шкадавала немчука мая баба.

Цяпер мы, падшыванцы, сядзелі спакойна на ганку Юрка, не баючыся, што выйдзе з хаты нямчук. Хаваліся на ганку і ад дажджу.

Нямчук да ўцёкаў бачыў, што наш сусед насупраць, мой хросны, бяліў вапнай дрэвы ў садзе, і ён таксама пабяліў свой вяз. Яму не перашкаджалі.

— Бог не даў яму поўнага шчасця, няхай хоць гэта будзе яму ў радасць, — казала Юрчыха, калі хто жартаваў з гэтага фарбавання вяза.

Праз шэсцьдзясят гадоў нечакана перад вокнамі маёй мінскай кватэры вырас вяз. Нейкае дзіва! Каб я не забываўся пра свайго суседа нямко, якому так хацелася пакатацца на сапраўдным цягніку?..

Вы спытаеце, чаму я не прыгадаў іншыя дрэвы: вішню, грушу, яблыню, абрыкос, дуб? Дубоў у мястэчку не было. Сосны раслі на старых могілках каля Георгіеўскай царквы і каля бальніцы. А што тычыцца яблынь ды груш... Дык гэта хатнія, свойскія дрэвы. Яны маюць прывілеі і добры гаспадарчы догляд. Яны пад абаронай чалавека, а мае дрэвы былі, як кажуць, нічые, пад абаронай Бога, які над усім трымае апеку. Часам і ад дрэва можа залежаць твой лёс, ці нейкі паварот лёсу, а колькі яны даюць радасці і натхнення, апранаючы свае адзежы ў маі, і фарбуючы іх у кастрычніку.

Хіба ж гэта не дзіва? Яшчэ якое дзіва!





**Алена СТЭЛЬМАХ**

# ІВАН БЯДА

*Апавяданне*

Палат у дзённым стацыянары — дзве. Большую з іх — амаль актавую залу — займаюць жанчыны. Яны ці то часцей хварэюць, ці за здароўем сочаць пільней — адназначна не скажаш. І з імі лепш гэту тэму не распачынаць, бо такіх дыягназаў самі сабе наставяць, што і дактары ніколі не чулі. У мужчын усё значна прасцей. Палата памеру сціплага, нібы той катушок. Бывае, за дзень коўдра на каторым ложку нават не пакамячыцца.

Да дзённага стацыянара прыпісаны дзясятка паўтара кабет. Медсястра Святланка віруе вакол іх, як пад'ёмны кран. Ля кожнай выпускае доўгую стралу — ставіць кропельніцу, хуценька адшуквае жылку і спрытна іголкай цаляе ў яе. Дробненькія кропелькі гаючай вадкасці пачынаюць адна за адной весела скакаць па доўгай празрыстай трубачцы. Некалькі гадзін будзе доўжыцца іх танец. Сама пацыентка, каб не парушыць прычындалы, не павінна нават зварухнуцца. Але ж не здарма кажуць: язык не мае касцей. І нават у такім экстрыме ён без працы не сумуе. А як жа! Кабеты ўсе свае, мястэчковыя. А таму ў кожнай тэм надзённых, што самі на язык просяцца, як «камароў куслівых летам». Дзе яшчэ столькі навін пра гарадское жыццё-быццё пачуеш, як не тут, на бальнічным ложку?! Тут цябе і выслухаюць, і паспачуваюць табе, і параду дадуць — самую слушную.

Час бавіцца незаўважна, ад перагаворанага карысць і ў тым, што скаргі на хваробы губляюцца сярод больш «сакавітых» тэм: мясцовага начальства, гадляроў, той жа бальніцы… Тэрапію чалавечых зносін дактары таксама не скідаюць з вагаў лекавых сродкаў. Самі свяцілы ад медыцыны перакананы, што добрае слова іншым разам больш уплывовае, цудадзейнае, чым навамодныя таблеткі ці працэдуры.

---

*__Стэльмах Алена Анатольеўна__ нарадзілася 20 ліпеня 1965 года ў вёсцы Навасады Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна (1986), Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (2000). Працавала галоўным рэдактарам раённай газеты «Узвышша» (г. Дзяржынск), галоўным рэдактарам «Белорусской лесной газеты», намеснікам дырэктара «Выдавецкага дома «Звязда», цяпер галоўны рэдактар часопіса «Родная прырода».*

*Творы друкаваліся ў калектыўных зборніках «Созвучие» (2014), «Міншчына літаратурная» (2013), «Радзіма. Адзінства. Перамога» (2014), «Як мядзведзь пчаляром стаў» (2015), а таксама ў літаратурных выданнях Беларусі, Украіны, Таджыкістана, Кабардзіна-Балкарыі, аўтар кнігі для дзяцей «Дуб і крумкач» (2016).*

*Узнагароджана медалём імя Алі Шагенцукава.*

Здараецца, добразычлівая Святланка, робячы сур'ёзны выгляд, спрабуе прыструніць гаваркіх кабет. Дзяўчына яна з гумарам, не скупіцца на вясёлы жарт:

— Раскудахталіся. Гэта вам не куратнік. Зараз жа Міхайлаўне аб парушальніках бальнічнага рэжыму далажу — усіх на выпіску!

На нейкае імгненне жанчыны вінавата сцішацца, паміж сабой хітравата пераміргнуцца. Тут жа знойдуць сабе апраўданне, падладзяцца да Святланкі і неўзабаве зноў вернуцца да сваіх казанак.

…На прадвесні на стацыянар гуртам павалілі мужчыны. Так бывае ў сакавіку са снегам. Зіма ні з таго ні з сяго — як кідане гурбаў. Добраахвотніцы спрабавалі рабіць наконт мужчынскага імпэту да здароўя такія-сякія прагнозы. Але губляліся ў іх. Капаць агарод яшчэ не пара, дык чаго тады акупіраваць бальнічныя ложкі? На свой капыл вылучалі падазроныя ідэі спрактыкаваныя да мужчынскага лайдацтва жанкі.

Святланку зачапіла смялейшая за іншых Зося Кастрыцкая. Яна амаль усё жыццё працавала білетным кантралёрам, таму звыкла першай браць слова:

— Ты б нам якога мужчынку падсяліла. Чаго ім у калідоры час марнаваць. Вунь і месца вызвалілася — Пятроўна паздаравела.

Святланка, доўга не вагаючыся, адчыніла дзверы, і каб усе чулі, ветліва запрасіла:

— Іванавіч, заходзьце!

Тут жа на парозе з'явіўся невялічкага расточку каржакаваты дзядок. Жанчыны звычайна бессаромна пра такую мужчынскую постаць кажуць: метр з кепкай. Але ў шаноўным узросце паспрабуй разбярыся: ці сам такім чалавек урадзіўся, ці жыццё яго пашморгала, як аловак прытупіла.

Іванавіч у адной руцэ трымаў кіёк, але па рухавасці яго гаспадара было бачна, апірка таму патрэбна хутчэй для блізіру. Другая рука была занята гаспадарчай торбачкай, мабыць, з якой жонка яшчэ з пары сваёй даўняй маладосці хадзіла па магазінах. Зараз там ляжала ўсё неабходнае па загаданым доктарам спісе.

Дзядок накіраваўся ў кут, дзе толькі «перавёў дых» вызвалены Пятроўнай не ведаючы «халявы» ложак. Больш за дзясятак пар цікаўных вачэй моўчкі правялі навічка да месца яго дыслакацыі. Вось, аказваецца, што змагло па-сапраўднаму спыніць жаночае красамоўства.

Іванавіч замітусіўся са сваім скарбам: дзе б яго прыстроіць. Святланка ішла за паважаным пацыентам следам, і ўсе аргпытанні тут жа ўзяла на сябе. Літаральна праз некалькі хвілін яна ўжо намацвала на сухарлявай старэчай руцэ жыватворную жылу.

Іванавіч, скораны бальнічным парадкам, не мог даравацьжонцы, што яна сілком адправіла яго да дактароў.

— Дапякла… Прывязалі… Ляжу... Цешся, даражэнькая! — бурчэў сабе пад нос стары, што, зразумела, не маглі прапусціць міма вушэй яго суседкі.

— І навошта ж вы, Іванавіч, сваю кабету дакараеце? — не вытрымала ўсё тая ж Зося Кастрыцкая. — Ва ўсіх у вас, мужыкоў, жонкі благія. Сваім одумам жывяце, а як што здарыцца, дык толькі ад жонак, як сапраўдных прыяцелек, спагаду і маеце.

— Ведае мая старая, што я толькі аднаго доктара — пчалу, прызнаю. Сама палову пенсіі ў аптэцы пакідае, і што з таго? Хваробы чэпяцца да яе, як авадні ў летнюю спякоту. Але хіба вас, баб, пераспрачаеш? Хіміяй колькі сябе ні пічкай, зусім не тое, што прырода чалавеку дае, — Іванавіч быў непахісны ў сваёй тэорыі, як называў яе дасведчаным з літаратуры словам, — апіятэрапіі.

Старому падалося, тут яго, не тое што жонка, паслухаюць, а таму даў волю думкам:

— Вясна на парозе. Вуха да вулляў прыкладаў — усе жывыя. Чуў, як пчолкі гудуць. Каторая ўжо, можа б, і крылцы расправіць хацела, ды толькі азімкі яшчэ кусаюцца, — у думках пчаляр быў там, на сваёй пасецы, дзе абуджаная прырода пачынала круціць новае кола вірлівага жыцця.

Калі быў маладзейшым, пра гэта нават не згадваў, а як гады сталі браць сваё, сам сабе прыкмету вызначыў: калі пчолку па вясне зноўку ўбачыць, значыць, год яшчэ пражыве. І ляцелі яны, гады тыя шпарка, нібы коні незацугляныя… Смехам-жартам — амаль восемдзесят набегла яму ўжо.

Намаляваная пчалаводам карціна гармоніі жыцця захапіла ў палон увесь жаночы лазарэт. Жанчыны, забыўшыся на магічныя для іх кропельніцы, летуценна ўяўлялі сябе крылатымі падарожніцамі, у марах спускаліся да вясновых першацветаў, спешчаных сонейкам і цяплом... Іх душы напаўнялі жыццядзейнай энергіяй прачулыя словы надаранага ім чалавека.

Голас Святланкі вярнуў да рэчаіснасці:

— Іванавіч, вы б у нас вялі гутаркі пра здаровы лад жыцця. Скажу доктару, каб запісала вас у лектары.

Дзядок сумна ўсміхнуўся:

— Які з мяне лектар?.. Вось, каб не вайна, можа, і лекарам быў бы…

— Мусіць, вайна, і зараз вам баліць, раз так кажаце?

— Баліць, міленькая. Ой, як баліць…

Іванавіч сам ад сябе такога не чакаў, куляй з яго стрэліла — «баліць». Ніколі нават самому ў гэтым не прызнаваўся. А было ж таго болю — невымерана, нечалавеча праймала — цярпеў. Інакш, не выжыў бы. Вайна, ды ці толькі яна… Рубцы на сэрцы глыбокія, час іх зацягнуў, а не гояцца…

Яго выцвілыя вочы спыніліся на празрыстай вадкасці пухіра, якому яшчэ здзімацца ды здзімацца, — кроплі лекавага раствору не скора разбягуцца па целе, каб дапамагчы яму падужэць, як тое думалася жонцы. Можа, как б дзе ў іншым месцы, і не стаў бы ён варушыць памяць, але ж тут бальніца… Баліць…

— З Сямёнаўкі родам я, той, што на Палессі. Дзяцінства прадваеннае лёгкім не назавеш, але і радасці ў ім не адымеш…

Стары змоўк. Яго памкненне аддацца ўспамінам вярнула да сябе ўпартая думка: ці трэба перад незнаёмымі жанчынамі выварочваць свой пакутлівы лёс? Навошта гэтым кабеткам, якія прыйшлі сюды па здароўе, нечая збалелая споведзь? Яму, чалавеку, навучанаму жыццём, разбірацца ў людской спагадзе, хапіла гэтых некалькіх імгненняў, каб адчуць, што пакой напоўніла цішыня, усе маўкліва жадалі працягу яго аповеда. І ён не змог стрымацца…

— Край наш — у свеце лепшага не знойдзеш. Ці то рэчка, ці то лес, ці поле — кругом для дзятвы раздолле. І забаў якіх хочаш — рыбач, купайся, збірай грыбы…

Бацька мой славіўся прыроджаным майстрам-самавукам, хоць і два класы адукацыі меў. У калгасе з ранку да цямна ўсё нешта майстраваў, а ад прэмій адмаўляўся. Па-свойму ён да ўзнагарод ставіўся. Цягавіты, і дома парадак трымаў.

У чэрвені 1941 года нязнанае слова «вайна» даімчала і да нашай агорнутай лясамі Сямёнаўкі. Мы, меншыя, ні адразу ўцямілі што да чаго, а твары дарослых адразу сталі суровымі, па іх было зразумела: здарылася нешта вельмі страшнае.

Не, каб на сенажаць звыклай дарогай падводамі ехаць, ля сельсавета сталі збірацца вяскоўцы. Тыя жаночыя слёзы і зараз вярэдзяць маю душу. Так, як праводзячы мужоў на фронт, галасілі нашы мацеры — няўмольна, адчайна, я больш ніколі не чуў. Вогненная вайна вымакла ў слязах, але тыя першыя слёзы былі самыя горкія, самыя беспрасветныя…

Вайна разлучыла нас з роднымі. Мужчыны, на якіх усё спрадвеку трымалася на зямельцы, пайшлі, як казалі на вяскоўі, на перадавую. «А дзе яна, тая перадавая, дзе той фронт?» — перапытвалі мае аднагодкі адзін аднаго. На іх тварах з’яўлялася мужнасць, і хлопцы следам за бацькамі таксама хацелі ісці ваяваць. Хіба маглі мужчыны, пакідаючы родную вёску, уявіць, што і нам, безабаронным — дзяцям, жанчынам, старым — пекла не пазбегнуць?

У пачатку лета 1943 года атрад карнікаў акружыў Сямёнаўку. Многія з тых, хто застаўся, змаглі таксама помсціць — пайшлі ў партызаны. Непраходныя палескія гушчары ды балоты для немцаў былі недасягальнымі. Таму фашысты вынайшлі іншую кару. Сямёнаўку напаткаў вогненны лёс соцень беларускіх партызанскіх вёсак.

На зборы ворагі адвялі некалькі мінут. Маці схапіла сала, хлеб — першае, што прыйшло на розум. Кінулася да чыгунка, пад руку трапілі некалькі лыжак.

Усіх жыхароў немцы выгналі за вёску і на нашых вачах сталі падсаджваць пад стрэхі вогненныя факелы. Роднае месцейка, аблюбаванае далёкімі прашчурамі, і з нашымі яшчэ свежымі ад босых ног слядамі на пяску, задыхнулася ад чорнага дыму, ператварылася ў сцяну суцэльнага агню.

Хто-ніхто з вясковых падлеткаў спрабаваў уцячы. Немцы адразу бралі смельчакоў на прыцэл, стралялі... Як зрэзаныя каласы, клаліся мае сябрукі на жытнёвым полі. Вёска здранцвела ад нямога страху. Толькі было чутна, як вухкае, трашчыць полымя і са скрыгатам абрыньваюцца падгарэлыя пабудовы.

Успамінаецца тая ява, перад вачыма стаіць. Здаецца, сам сатана правіў тады на нашай зямлі свой крывавы баль. Толькі не ўскалыхнулася ад д’ябальскага дзікунства ні адна варожая душа…

Гэта быў пачатак трагедыі маёй Сямёнаўкі. Больш чым на кіламетр расцягнуўся натоўп людзей, якіх пад duлamі аўтаматаў пагналі невядома куды. Схіліўшы галовы (забаранялася глядзець па баках), ішла сярод тых гаротнікаў і наша сям’я па прозвішчы Бяда — маці, дзве сястрычкі і я — трынаццацігадовы хлапчук. І неслі мы цяжар найвялікшай бяды…

…У райцэнтры ўсіх загналі ў цэх завода, дзе раней выраблялі цвікі. Людзі адчайна адзін аднаму зазіралі ў вочы, пыталіся, не спадзеючыся на адказ: «Што з намі будзе?»

Сярод нявольнікаў пайшлі розныя здагадкі, страшэзныя імкнуліся адганяць. Як за надзею на жыццё, схапіліся за тое, што нас, магчыма, адправяць у Германію. Жахлівая ноч прайшла ў цемры і цеснаце. Людзі з клункаў даставалі ежу, якую ледзь паспелі ўхапіць. Не ў кожнага яна была, таму дзяліліся з тымі, у каго не было што з’есці.

На досвітку загергаталі немцы, паступіла гнеўная каманда: «На выхад!» Нявольнікаў, шпарка падганяючы, скіравалі ў бок чыгуначнай станцыі. Немцаў, па ўсім было відаць, гэта работа асабліва не напружвала. Ім было ўсё роўна: жывёлу грузіць у таварняк, ці заганяць туды людзей. Страху надавалі адкормленыя аўчаркі. Яны, рвучы ланцугі, раз’юшана скакалі каля нас, разявіўшы клыкастыя зяпы, брахалі, колькі мелі на тое сілы. Калі гучна грымнула засоўка на апошнім вагоне, эшалон рушыўся ў дарогу. Да нас дайшлі чуткі — на Захад.

Так наша сям’я апынуліся на чужыне — на Гамбургскай зямлі ў далёкай Нямеччыне. Нашым гаспадаром стаў тутэйшы баўэр. Па яго загадзе маці даіла і даглядала кароў. Я выконваў па гаспадарцы розную мужчынскую работу. Малодшая сястра Наста дапамагала спадарыні па кухні. Старэйшую сястру Паліну адлучылі ад нас, адправілі да другога гаспадара. І мы вельмі турбаваліся за яе.

Так, як і наша сям'я, у нямецкім рабстве апынуліся два маладыя французы і сталага ўзросту палячка. Яны да сельскай працы былі мала прыдатныя, таму стаўку гаспадар рабіў на нас, працавітых беларусаў. Па праўдзе кажучы, з нас гаспадары не вельмі здзекаваліся, але і расслабляцца не давалі. З нямецкай педантычнасцю патрабавалі выканання ўсіх работ.

Ёсць у мяне самая дарагая ў жыцці рэліквія.

Расказчык прыпыніўся. Паглядзеў на Святланку, сказаў:

— Падыдзі, дачушка, да мяне. У кішэні кашулі з левага боку гузік расшпілі, дастань тое, што там ляжыць.

Святланка сапраўды знайшла там пацёртую часам з нейкай выявай невялічкую паперку.

— Вось з гэтай іконкай з 1944 года я неразлучны. Тая самая палячка на Каляды мне сказала: «Іван, дару табе іконку. Яна выратуе табе жыццё».

Пасля гэтых слоў медычка зразумела значнасць для старога непрыкметнай на першы погляд паперкі. Дзяўчына прачытала ўслых напісанае рукой той жанчыны на зваротным баку іконкі: «Дарагі сыну, спадзявайся на маленькага Ісуса. Ён дапаможа табе на кожным кроку».

Святланка акуратна паклала іконку на тумбачку, а Іван Іванавіч прадоўжыў:

— З тае пары лёс яшчэ неаднойчы выпрабоўваў мяне: дзе асколкамі бомб і снарадаў, дзе судом «вядомай тройкі», дзе чарнобыльскім атамам. Гнуў лёс, як хацеў, хістаў ва ўсе бакі. Але, ці па волі самога Госпада Бога, ці то дзякуючы сардэчнасці чужой жанчыны, зламаць ён мяне не мог.

Тут стары зноў змоўк, быццам выбіраў з бяздоннай памяці найбольш адметнае.

— Што пераможа ў вайне Савецкі Саюз, адчулі нават мы, батракі. Немцы, нашы гаспадары, здаецца ўжо амаль не здзекаваліся з нас. Неўзабаве быў прыняты спецыяльны загад па стварэнні абаронных збудаванняў. Іх меркавалі зрабіць сіламі нявольнікаў. Мяне, як мацнейшага хлопца, гаспадар мусіў адправіць капаць супрацьтанкавыя акопы.

Галодны, брудны пад абстрэлам амерыканскай артылерыі, я апынуўся практычна на перадавой. Два тыдні мне здаліся пеклам, пакуль з адным такім жа як сам бедалагам, улучыўшы момант, не адважыліся ўцякаць. Паўсюль узрываліся снарады, але мы не спыняліся, беглі паміж варонкамі. І вось мне асколкам адарвала ў разлезлым чаравіку падэшву, а праз нейкі час другі асколак разарваў рукаво зношанага да дзірак паліто. Я сам дзівіўся, як мне тады шанцавала: ні нагу, ні руку нават не зачапіла. Шчасціла і майму таварышу. Яго таксама не параніла. Куды ісці мы не ведалі, але ішлі і ішлі ўсё далей. Наступалі нашы.

Доўга блукалі, асцерагаліся немцаў, шмат разоў я мог загінуць, але зноў шанцавала.

Нарэшце мы прыбіліся да саюзнікаў. Хапіла нам усялякіх допытаў, варожа да нас ставіліся, пакуль разабраліся, хто мы такія. Потым нас адправілі на фільтрацыйны пункт ужо на савецкім баку. Там нас таксама дапытвалі. Мы расказалі ўсё, як было з намі. Паверылі нам… Пасля прызвалі ў армію.

— Хто якую адукацыю мае? — запытаўся камандзір, знаёмячыся са строем салдат.

Аказалася, што сярод навабранцаў я самы адукаваны — закончыў сямігодку. Мяне прызначылі загадчыкам сховішча эвакуацыйнага аддзела. А гэта ж — афіцэрская пасада! Я стараўся, каб не спракудзіць. Мой жа бацька ў паляванні добры меў толк, і я ад яго многаму навучыўся. Ведаў, што патроны заўсёды павінны быць чыстыя, што павінны захоўвацца ў сухім месцы.

Так што скумекаў адразу, як прымаць франтавыя боепрыпасы і як іх захоўваць. Перш, чым пакласці снарады ў сховішча, іх вельмі старанна чысцілі. Цяжкая была гэта работа — ручная, марудная. Я сказаў камандзірам, што трэба прыдумаць які станок, каб лягчэй было. Сказаў, а яны паміж сабой: «Бяда — кемлівы хлопец. Хай майструе такую прыладу, дадзім яму два тыдні. Нічым іншым на гэты час яго не займаць». І хапіла ў мяне розуму зрабіць станок, які значна палегчыў працу салдат. Калі начальства аб'явіла падзяку, за ўсё жыццё першую такую вялікую радасць меў». Сказаўшы гэта стары на нейкі час ажно заззяў ад задавальнення. А потым нібы схамянуўся, спахмурнеў, працягваў:

— А неўзабаве я ледзь не трапіў пад расстрэльны артыкул. Чысціць снарады загадалі палонным немцам. Я ім спуску не даваў, камандаваў: рабіце як след! Мусіць, каторы з іх хацеў на мне злосць спагнаць. Праверка на складзе выявіла пачышчаны не па інструкцыі снарад. Адразу ж тэрміновы суд «тройкі», мяне абвінавацілі ў дыверсіі. Некалькі дзён чакаў… Але не расстралялі і не пасадзілі. Як уцалеў і на гэты раз — аднаму Богу вядома.

Служыў я ў войску ажно да 1950 года. У той год 17 кастрычніка вярнуўся ў родную Сямёнаўку. Цяпер я ўжо лічыўся былым стралком 227-й арміі запаснога стралковага палка. Людзі, перажыўшыя трагедыю ўласнага селішча, паблукаўшы па свеце, зведаўшы смак рабскай працы, вярталіся на свабодную зямлю, да сваіх вытокаў. Пазней успаміналі, як маўкліва страчала іх шэрае папялішча: чорнымі комінамі хат, што засталіся ад згарэлага жытла.

Ёсць комін, дык верыш, што адродзіш тут жыццё. Так і было. Пачалі будавацца мае вяскоўцы. Калі ўспамінаю той час, здаецца, і зараз адчуваю той смалісты пах дрэва. Зрубы раслі як грыбы. Паступова вяскоўцы абжывалі новыя вуглы, дзяцей нараджалі...

Але мая маці была ў няволі. І яна вярнулася раней, у сорак шостым, тулілася ў перакошанай зямлянцы. Без мужчынскай сілы аб новай будыніне яна не магла і марыць. На бацьку прыйшла пахавальная: загінуў смерцю храбрых у баях пад Масквой…

Вярнуўся я, убачыў яе нямоглую, селішча наша ўбачыў — як сэрца вытрымала… Калі мы з ёй круху супакоіліся, зарок сабе даў: «Што б ні было, аднаўлю бацькаўшчыну». Рук ад работы не чуў, але хату вабную, на восем акон, паставіў. Зруб узводзіў і на дзяўчыну заглядваўся — настаўнічала яна ў суседняй вёсцы. А калі хату, што ляльку, выбудаваў, пасватаўся да яе, сваёй Яніны…

Калі з Янінай браліся шлюбам, цвёрда рашыў: вазьму жончына прозвішча — Пашкевіч. Яна: «Як жа так? Муж, ды жончына прозвішча?» Я ёй: «Хопіць — набедаваўся, адгараваў, адвяду ад свайго роду зло ліхое, праклятае. Нам жа з табой, Янінка, дзяцей нараджаць, хай яны бяды не ведаюць».

— І згадзілася? — спытаў нехта.

— Згадзілася. І сапраўды, насталі шчаслівыя дзянёчкі. У сям'і трое дзетак адно за адным на свет з'явіліся. Два хлопчыкі і дзяўчынка — што бацькам лепшае трэба.

На рабоце — у леспрамгасе — начальства мяне хваліць, людзі паважаюць. Я ж да работы гарачы, а да гарэлкі — спакойны. Дом — поўны даброт. І на падвор'і ўсё: і конь, і каровы, і авечкі. Спрабаваў і нутрый разводзіць. Але, прызнаюся — млею за пчоламі, не магу без іх жыць. У нашым родзе спрадвеку ўсе мужчыны займаліся пчалярствам. Павялося гэта ад далёкіх прадзедаўпалешукоў. Вуллі раней за хату на сядзібе паставіў.

У 1964 годзе адзін такі ж як і я апантаны пчаляр з суседняй вёскі, падарыў мне кнігу «Пчала і здароўе чалавека». З тых часоў на памяць, усё што там

напісана, вывучыў. Можа, таму і жыву доўга, што ведаю, як у пчол усё разумна вядзецца. Калі так можна казаць, у іхніх, пчаліных, законах разбіраюся і пчалінымі дарамі з розумам карыстаюся.

Сказаўшы гэта, стары надоўга змоўк, аб нечым задумаўся. Жанчыны моўчкі ляжалі на ложках, разумелі, што нешта асабліваe зараз яго ўстрывожыла, раз перапыніў гаворку пра любімае — пра пчол…

Нарэшце Іван Іванавіч цяжка ўздыхнуў, зноў пачаў гаварыць:

— Дзень 26 красавіка 1986 года нібы лязом паласнуў па маім лёсе. Ці хіба толькі па маім? Ён канчаткова перакрэсліў лёс маёй Сямёнаўкі. Далёка бяда па свеце пайшла…

Радыяцыйны пыл, знішчальны для ўсяго жывога, густа рассеяўся там, дзе збіраючы жыватворны нектар, самаахвярна шчыравалі мае крылатыя працаўніцы. І чалавек, і пчала радыяцыю не чуе. Чалавека можна спыніць, каб не хадзіў там, дзе небяспечна. А пчала ляціць туды, куды яе вабіць прыгажосць. Хіба мог я растлумачыць сваім крылатым руплівіцам, што збіраюць яны цяпер на мядоўніках смяротную асалоду?

Зноўку Сямёнаўка няўцешна загаласіла: колькі людзі выплакалі палынна-горкіх слёз — рэчкі. Нябачны вораг у адно імгненне заўладарыў кветкай-зямлёй. Усё сваё, любае, крывавым мазалём нажытае, а не зачапі — паганае, ганебнае, маўкліва халоднае.

Зноўку маіх аднавяскоўцаў паклікала дальняя дарога… Зараз нават клунак нельга было браць з сабой. Звароту да гэтага мёртвага кута, казалі тыя, хто ведаў, больш ніколі не будзе…

Людзі кінуліся шукаць прытулку ў бяспечных месцах. Хоць і клапацілася пра нас дзяржава, але як змірыцца з тым, што трэба было неадкладна сарвацца з наседжанага котлішча, несці на сабе бядотны крыж чарнобыльскага перасяленца.

Я пакідаць сваё селішча не спяшаўся. Да апошняга глядзеў услед ад’язджаючым землякам, не верылася, што наша ціхае жыццё магло так ускаламуціцца.

Урэшце, паехаў і я ў чарговы раз шукаць іншую долю. Да якога берага прыбіцца, асабліва не наравіў. Адно хацеў — знайсці такое месца, каб і пчолам маім яно прыйшлося даспадобы. Вось так і апынуўся ў вашым горадзе, жыву на яго ўскрайку. Жонка хварэе, агарод даўно закінула, а я паціху варушуся — дзесяць вулляў трымаю. Заходзьце, мядком пачастую.

Супала так, што з апошнімі словамі старога ў яго цела збегла з кропельніцы і апошняя жыватворная кропля.

— Вы як змовіліся з ёю — сказала Святланка, вымаючы з вены іголку і адстаўляючы кропельніцу ўбок.

— Супала так, — усміхнуўся стары. — У жыцці ва ўсім трэба меру ведаць. — А гэта, што супала — добры для мяне знак.

У яго вачах засвяціліся агеньчыкі радасці ці ад таго, што яго выслухалі, ці таму, што вызвалілі ад лекавых путаў. Ён асцярожна ўзяў з тумбачкі іконку, ласкава правёў па ёй шурпатай далонню, пацалаваў і толькі тады паклаў назад у кішэню. Пасля жвавенька сабраўся, і на хаду развітаўшыся, гэтак жа хуценька знік за дзвярыма, як і з’явіўся ў палаце.

Назаўтра жанчыны не давалі Святланцы спакою, прасілі зазірнуць у калідор: можа, Іванавіч там аб’явіўся.

Але ні ў гэты, ні на наступны дзень яго там не было. За акном пачынала квітнець вясна. Пчала паляцела…



Лула КУНІ

# ДУША ПАТАНАЕ Ў БЛІЗКАЙ ДУШЫ

* * *

Тонкі голас пяе пра ласку,
Тонкі профіль мігціць ў акне.
Хто, калі мне расказваў казку,
Пра каханне, што не міне?
Тонкі голас, пяшчоты смага,
Холад каменю ў грудзях…
Хай не будзе! Не будзе знявагі
Тым, хто жарсць не падняў на сцяг.

Што ж тут робіцца, Божа, навокал?
Хто я? Дзе я? Хто тут са мной?
Ходзяць цені за краем вока,
Шоргат чуецца за сцяной.
Як жа лёгка віток мы зрабілі —
Ад пачатку адразу ў канец.
У рэчку лёсу мы двойчы ўступілі —
Не спазнаўшы кахання вянец!

Пачалося — вясёлым жартам,
Ды смяяцца нам не пара.

---

***Лула Куні (Жумалаева Лула Ізнаураўна)*** *нарадзілася 18 лютага 1960 г. у Грозным. Чачэнская пісьменніца, перакладчыца, журналістка, заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса «Нана». Працавала выкладчыкам кафедры агульнага мовазнаўства Чачэнскага дзяржаўнага ўніверсітэта, мастацкім рэдактарам часопіса «СтелаІад», рэдактарам аддзела паэзіі літаратурна-мастацкага часопіса «Ичкерия», карэспандэнтам газеты «Столица++», літаратурным супрацоўнікам часопіса «Вайнах», вядучым метадыстам Рэспубліканскай навуковай бібліятэкі імя А. П. Чэхава.*

*У суаўтарстве выдала шэраг паэтычных зборнікаў: «Каб зямлі жыць», «Лірыка-90», «Агнём апаленыя радкі» і інш. З'яўляецца таксама суаўтарам зборніка прозы пісьменнікаў Паўночнага Каўказа «Вайна даўжынёй у жыццё».*

*Заслужаны работнік культуры Чачэнскай рэспублікі, заслужаны журналіст Чачэнскай рэспублікі, член праўлення Саюза журналістаў Чачні. Узнагароджана медалём Саюза пісьменнікаў Расіі.*

Самі свята зрабілі жахам.
Светлы дом наш цяпер — нара.

Дзесь жанчына пяе пра ласку,
Тонкі профіль мігціць ў акне
Будуць, будуць ладзіцца казкі
Без мяне…

* * *

«Ды шчасця тут няма. А ёсць спакой і воля…»
Хлусня. Ўсё мітусня ды столькі болю.
Ў яйку спіць зародак Птушкі Сіняй.
Ды па-над ім вярба ад смутку стыне…
Мы, пад аховай роднай цеснаты
Не ведаем, як лёгка дом наш знішчыць.
І лепш не думаць нам аб папялішчах…
Ці смак жыцця ў няведанні святым.

## ПТУШКІ

Няма тых птушак, што за намі ў свет прыйшлі.
А свет сто раз паспеў ужо змяніцца.
Ды як раней — ў хвасце зямных камет
Перад труной сумлення мы вінімся…
Няма тых птушак, што былі ля нас,
З Зямлі сцірае нашы знакі час.
Пад хваляй Леты дух надзеі згас.
І следам — толькі колы па вадзе.
А тых, хто крылы даў, няма нідзе…

## ПАМІНАЛЬНАЯ

Шчаслівы будзь, край абяцаны мой,
Куды так доўга йшлі пустыняй продкі
Пяскі змяняў пясок душы зіхоткі,
Збіваліся ушчэнт гадоў калодкі,
Шатроў надзей пад ветрам век кароткі.

Шчаслівы будзь, край абяцаны мой.
І памяць прадзедаў —
Птушынай чарадой.

* * *

Душа патанае ў блізкай душы
За рысамі цела растане, як дым.
Пяшчота, што ў стане журбу патушыць,
Заззяе, бы мёду бурштын залаты…

* * *

Ці то ціхая музыка сну
Гэтай раніцай бела-ружовай,
Ці то проста туга па былому.
Неба сіні шматок ў беднай раме акна.
Ціхі шолах і рукі. Аскепкі шчырага смеху.
Рэха…
Той жа свет. Той жа сіні шматок. Ды спакою глыток.
Берагуць не ружовыя туркаўкі — жоўтыя рэкі.

* * *

Я завязла ў часе, калі
Маладыя мы і дурныя.
Недароблены, свет наш стаіць
І не скачам мы, як чумныя.
Нашай стрэчы чакае той час,
Час спаткання і нам ужо сніцца.
Што не ўбачым — не важна для нас,
Неба ціха з плячэй бруіцца.

* * *

Ўсё словы, словы… Толькі што мне ў іх?
Сябе ў словах я жыццё хаваю.
За іх цяплом я іншага не знаю.
А добра мне — прамовіце вы ўслых.
Даўно вы словам верыце, а я
У стане новы цуд для вас стварыць.
Люблю праз іх і веру я… ды й годзе.
Мне толькі ў словах існаваць і быць.

***З чачэнскай. Пераклад Валерыі РАДУНЬ.***



**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# КУЛЬТУРНАЯ ТРАДЫЦЫЯ ЯК КАНОН І СПАДЧЫННАСЦЬ У РЭЛІГІЙНА-ФІЛАСОФСКІМ І МАСТАЦКІМ ДЫСКУРСАХ: МАКСІМ БАГДАНОВІЧ І ПАВЕЛ ФЛАРЭНСКІ

Паняцце «традыцыя», несумненна, можна аднесці да асаблівага сацыякультурнага феномена, галоўныя характарыстыкі якога наўпрост спалучаныя з актыўна пераўтваральным стаўленнем да свету, з гатоўнасцю тварыць духоўную прастору свайго быцця, генераваць нестандартныя ідэі і падыходы да вырашэння задач, якія патрабуюць асаблівай сканцэнтраванасці і засяроджанасці. Цалкам зразумела, што фарміраванне ўнутраных духоўна-творчых інтэнцый і якасцей не адбываецца самаадвольна, хаатычна. Інтэлектуальны складнік прадугледжвае наяўнасць пэўных генетычна (псіхалагічна) зададзеных параметраў, якія атрымліваюць сваё развіццё, самаўдасканальваюцца падчас індывідуальнага і гістарычнага станаўлення, духоўнага росту, у працэсе сацыяльнай камунікацыі. Іншымі словамі, інтэлектуальны складнік грамадскага быцця неабходна разглядаць у цеснай сувязі з перадумовамі і фактарамі сацыяльнай эвалюцыі ва ўсёй складанасці яе гістарычнай абумоўленасці і рэпрэзентатыўнай прадстаўленасці.

Чалавек дзякуючы сваёй усвядомленай і мэтанакіраванай дзейнасці становіцца суб’ектам сацыякультурнага працэсу, носьбітам асаблівай культуратворчай інтэнцыі, надаючы традыцыі асаблівы антрапалагічны статус. Найперш гэта выяўляецца ў працэсе камунікацыі, у сувязі са спецыфікай дзейнасці чалавека, у якую ён уключаны з улікам яго прафесійнай, рэлігійнай, культурнай, нацыянальнай і іншых ідэнтыфікацый, што дазваляе трансляваць духоўны аспект жыццёвага вопыту. Антрапалагічны характар традыцыі можа выяўляцца ў малазаўважных, амаль непрыкметных момантах зносін, маўленні або прагаворванні. Нават звычайная паўза, маўчанне могуць набываць сітуацыйна насычаную сэнсавую, сімвалічную канатацыю на ўзроўні ментальных структур. Гэты момант дае падставу гаварыць пра існаванне нейкага нябачнага энергетычнага поля традыцыі, фіксуемага органамі пачуццяў адрасата ўзаемадзеяння. Іншымі словамі, пераемнасць сацыяльна-псіхалагічнага развіцця асобы можа адбывацца перадусім у форме духоўна-практычнай сувязі, якая ўстанаўліваецца паміж пакаленнямі. Менавіта інфармацыйна-камунікатыўны акт дапамагае сфарміраваць пэўны механізм пазнавання і самапазнавання, вылучыць адметныя рысы свайго, генетычна роднаснага свету як арганічна прымальнага асяроддзя існавання, якое спрыяе прысваенню, засваенню і ўзнаўленню традыцыйных форм камунікацыі.

Выдатны рускі філосаф П. Фларэнскі, як вядома, надаваў вялікую ўвагу «генеалагічным адносінам», «канцэпцыі радаводу». Свае погляды на прыроду традыцыі ў яе сувязі з радаводным, генеалагічным, спадчынным пачаткам ён раскрыў у кнізе «Имя рода» (1916) і ў галоўнай сваёй працы па тэорыі эстэтыкі «Иконостас» (1922). Па яго меркаванні, у працэсе засваення традыцыйна-спадчынных форм важную ролю адыгрывае старэйшына роду. Як ахоўнік і трансля-

тар традыцыі, ён павінен валодаць строга арганізаванай духоўнай канстытуцыяй, адпаведнымі асобаснымі характарыстыкамі, што ў найбольшай меры ўплывае на ступень паўнаты ахопу транслюемага матэрыялу, сапраўднай традыцыі. У працэсе засваення алгарытму паводзін і дзеяння істотнае значэнне набывае прыродная, унутраная сутнасць настаўніка як вешчуна, прадказальніка, які стварае вакол сябе асаблівы — ментальназначны свет — свет адносін, што, у сваю чаргу, узмацняе жаданне ўсведамляць сябе яго арганічнай, непарыўнай часткай. Ступень засваення шмат у чым абумоўлена момантам эмпатыі (суперажывання, пачуццёвасці), што робіць традыцыю як бы непасрэдна жывой, «плоцевай», якую можна рэальна адчуць, да якой можна дакрануцца.

Пры гэтым не кожную прыватную праяву «радавой» камунікацыі можна аднесці ў разрад традыцыязначнага чынніка. «Асобны стэрэатып, для таго каб яго можна было назваць традыцыйным, — адзначае В. Авяр'янаў, — павінен несці адказнасць за свой сегмент усеагульнага сэнсу. <...> Адно ўдала падабранае слова становіцца той “апошняй кропляй”, якая напаўняе чашу разумення традыцыі, робіць традыцыю жывой. У канчатковым выніку традыцыю як поўную сістэму заключае ў сабе ўся мова вобразаў і стэрэатыпаў, але нясе і кожнае слова гэтай мовы ў маштабе, сувымерным гэтаму слову» [1, с. 50]. Менавіта прысутнасць асобы настаўніка, старэйшыны, правадыра роду дазваляе засвойваць і ўзнаўляць глыбінную, сістэмную сутнасць традыцыі, усведамляць яе місійную і жыццеўстойлівую моц, быць упэўненым у яе стабільнасці, непарушнасці. Гэта метадалагічна і светапоглядна важны момант, патэнцыйна здольны стварыць эксклюзіўную асобасна-эмацыйную, духоўную сітуацыю, якая як нельга лепш заклікана служыць засваенню і рэгенерацыі культурных знакаў і архетыпаў, паводніцкіх (адаптацыйных) і каштоўнасна-светапоглядных модусаў, якія дазваляюць лягчэй арыентавацца ў гістарычна зменлівым, дынамічным грамадстве.

Асаблівую значнасць згаданая акалічнасць набывае ў сітуацыі нарастання светапогляднага крызісу, «здрабнення маштабу чалавечай асобы». Нельга не пагадзіцца з рускім філосафам І. Ільіным, які лічыць, што ў аснове традыцыі ляжыць «перадача структуры ўнутранага духоўнага акта», які рэтранслюе не столькі сэнсы, значэнні, прынцыпы, колькі саму «актавую будову» духоўнага вопыту, наўпрост звязанага з сакральна-дыялагічным, узнёслым.

Зрэшты, не кожная дыялагічнасць заклікана спрыяць узбагачэнню традыцыі, выступаць у якасці яе жыватворнага зерня, якое можа даць здаровыя ўсходы. Любая патэнцыйна магчымая форма далучанасці да традыцыі павінна мець пазітыўную скіраванасць — светаўладкавальную, светастваральную. Неабходнай умовай дасягнення па-сапраўднаму дзейснага, сінергійнага эфекту (ад слова сінергія — грэч. Sinergia  садзеянне, супрацоўніцтва, узаемадзеянне, сумесныя дзеянні) пры судакрананні з традыцыяй як цэласнасцю, якую нельга звесці да асобных яе складнікаў і якая мае дачыненне да кагнітыўных (свядомасных) структур, з'яўляецца ўстаноўка на гарманізацыю, зладжанасць, упарадкаванасць, што, у выніку, аказвае станоўчы ўплыў на эмацыйна-псіхалагічны стан чалавека. Дасягнуць арганічнай, пнеўматалагічнай (пнематалогія ад грэч pneuma — дух) сувязі з традыцыяй магчыма найперш шляхам авалодання прафесійным майстэрствам, набыцця ўстойлівых навыкаў у розных галінах творчасці, спорту, адукацыі, выхавання і г. д. Гэта пераканаўчае сведчанне таго, што традыцыя як духоўная эманацыя — не догма, не застылы, закасцянелы экспанат, а жывы арганізм, здольны да дыялектычнага развіцця, удасканалення, гарманізацыі, узбагачэння творчага патэнцыялу чалавека. Аднаўленне, «прайграванне» традыцыйных форм адбываецца як шляхам капіравальнага паўтарэння, так і творчага перайначвання, абнаўлення (адкрыцця). Гэтыя формы дыялектычнага падыходу заўважыў Фларэнскі, гаворачы пра капіістаў, якія тыражуюць здабыты ў гісторыі

канон, і пра стваральнікаў і ўзнаўляльнікаў канона, духоўных спадкаемцаў, якія атрымліваюць адкрыццё і транслююць яго ў цела традыцыі, а праз яго далей, — у «свет» [6, с. 87].

Мастацкімі сродкамі ў чымсьці падобная сітуацыя апісана ў вершах М. Багдановіча «Летапісец» (1911) і «Перапісчык» (1912). Да разумення «гісторыі» багдановічаўскія героі ідуць рознымі шляхамі: першы — шляхам ідэнтычнага захавання ўзору, канона, другі — шляхам творчага засваення, «прыхарошвання» матэрыялу, ствараючы, у выніку, новую якасць традыцыі. Але абодва, у рэшце рэшт, становяцца аднадумцамі, арганізатарамі, заканадаўцамі традыцыі ў самым высокім значэнні гэтага слова. Сваю задачу летапісец бачыць у тым, каб распавесці «ўсю праўду пра жыццё ў наш і прошлы час…» «І бачанаму мной — я годны веры сведак» [2, с. 86], — прызнаецца ён з пачуццём непадробнага гонару, выконваючы свой грамадзянскі абавязак, сваю гістарычную місію. Для перапісчыка першараднае значэнне набывае не сам факт механічнага перапісвання, а працэс яго мастацка-эстэтычнага афармлення, своеасаблівай мастацкай транскрыпцыі, перакладу, дзе важна ўсё: колер, абвядзенне (аблямоўка) літар, «спляценні завіткоў», «шматфарбныя застаўкі і канцоўкі». Ён — сапраўдны мастак, творца, больш за гэта, дэміург (греч. δημιουργός, літ. — які вырабляе рэчы для народа, адсюль — рамеснік, майстра, ад δεμος — народ і υργον — праца), для якога сама эстэтыка слова, у якім аб’ектыўна закладзены асновы традыцыі, набывае не проста змястоўнае, а сэнсавазмястоўнае, канцэптуальнае значэнне. Як сцвярджае Т. Чабан, Багдановіч ставіць тут важную праблему — «праблему нацыянальнай адметнасці мастацтва, без якой творы будуць не “жывой красой”, а толькі халоднай мёртвай копіяй…» [8, с. 493]. Ды і сам паэт рабіў беспрэцэдэнтную спробу стварыць новую мастацкую «карціну свету» праз культываванне «вечных», «быційных» каштоўнасцей жыцця, дзе самыя разнастайныя гісторыка-культурныя феномены выяўлялі б сваё гарманічнае адзінства і высокую ступень эстэтычнай дасканаласці. Гісторыка-літаратурныя алюзіі, рэмінісцэнцыі, эпіграфы з твораў, якімі густа аздоблены творы паэта, сведчаць аб свядомай эстэтычнай устаноўцы, арганічнай сувязі (ці, лепш, перагукванні) з мастацкім набыткам чалавецтва. Менавіта спадчыну мінулага, нерукатворныя помнікі даўніны Багдановіч разглядаў як неабходны сродак сувязі эпох, захавання пераемнасці і як крэатыўны матэрыял духоўнасці, культурнага прагрэсу.

Творам, які мае сапраўды маніфестуючы характар і дзе ставяцца пытанні сутнасці і прызначэння мастацтва, асэнсоўваюцца суадносіны формы і зместу, узаемадзеяння ў творчым працэсе традыцыі і наватарства, можа служыць «Апавяданне аб іконніку і залатару...» (1914). У ім Багдановіч блізка набліжаецца да думкі Францыска Скарыны пра еднасць прыгожага з карысным, формы і зместу. Вельмі паказальна і тое, што вершы «Летапісец», «Перапісчык», «Кніга», «Безнадзейнасць», «Касцёл св. Анны» сваёй тэматыкай, формай і зместавым гучаннем стылізаваныя пад канон літаратуры эпохі Адраджэння. Па сцвярджэнні аўтараў энцыклапедычнага даведніка «Скарына», мова «Апавядання аб іконніку і залатару…» таксама стылізавана паэтам пад прадмовы Скарыны і праўдападобна перадае каларыт яго выслоўяў.

У цэнтры дыялогу герояў «Апавядання...» — тая ж праблема суадносін традыцыйнага і інавацыйнага, кананічнага і таго, што ідзе ў разрэз з усталяваным, агульнапрынятым узорам. Іконнік Раман Якубовіч — прыхільнік традыцыяналізму, які звязваецца з нязменнасцю, кансерватыўнасцю формы выказвання, з літаральным наследаваннем прынятага канона. Залатар Антон Корж, наадварот, прыхільнік мастацтва наватарскага, эксперыментальнага, што, на яго думку, можа сведчыць пра сапраўдны мастацкі талент. Асноўным у іх спрэчцы з’яўляецца пытанне дапушчальнасці / недапушчальнасці новаўвядзенняў у прыняты, асвеча-

ны традыцыяй канон. Калі Якубовіч пазіцыянуе сябе непахісным прыхільнікам старога, спадчыннага, кансерватыўнага, то пазіцыя Каржа больш гнуткая, узважаная, у якой недвухсэнсоўна заўважаецца яго адабрэнне пошуку і эксперымента ў галіне формы і зместу. «…Не варт … рэч якую-небудзь толькі таму ганіць, што яна для нас за навіну прызнацца павінна. Бо ўсё тое, што цяпер навіною завецца, праз час які старыною мае быць, для людзей усіх станаў — звыклай, а ўшанавання і абароны годнай», — сцвярджае Корж. Сімптаматычна, што крытэрыем высокай эстэтычнай каштоўнасці твора мастацтва, згодна з перакананнем Каржа, выступае выкшталцонае, прыгожае («краса»). Вось чаму ён цвёрда ўпэўнены ў тым, што «вартасць малюнка толькі ад хараства ў выкананні яго залежыць…» [3, с. 62]. Сімптаматычна, што ў эстэтыцы Багдановіча паняцце Красы, Прыгажосці набыло гучанне ўсеагульнай, глабальнай катэгорыі, стала прадметам абагаўлення. Эстэтычныя асновы творчасці Багдановіча непасрэдна звязаны з пошукамі гармоніі, якая выяўлялася ў мностве аблiччаў. Прынцып «апаланізму» як прынцып адзінства, сінтэзу культур з'яўляецца асноватворным прынцыпам эстэтычнага крэда і самога паэта.

Замацоўваючы за творчай асобай права на эксперымент, які патэнцыйна змяшчае ў сабе інавацыйныя прыкметы, аўтар вуснамі свайго героя тым самым, па сутнасці, прызнаваў за ім і права быць заснавальнікам традыцыі. Паводле Багдановіча, задзейнічанне, прыцягненне ў сферу культуратворчасці інавацыйных тэхнік, іх актыўнае тыражаванне ў шматлікіх кантэкстах стварае перадумовы таго, што з часам створаны інавацыйны прадукт увойдзе ў жывую тканіну культуры, спрыяючы абнаўленню яе каштоўнасна-сэнсавага ядра.

І іконнік, і залатар (як і летапісец і перапісчык) заклапочаны, па сутнасці, тым, каб захаваць і перадаць нашчадкам кананічны, агульнапрыняты вопыт (хай і ў адпаведнай яго мадыфікацыйнай форме). Да месца будзе прывесці ў гэтай сувязі словы Фларэнскага, якія сведчаць аб важнасці фіксацыі і перадачы звестак, што раскрываюць і пашыраюць нашы ўяўленні аб свеце духоўным. На яго думку, падобныя перапісчыкі павінны ўсведамляць важнасць і адказнасць сваёй справы, таму што, па царкоўным устанаўленні, «маюць пэўны чын свяшчэннай арганізацыі Культа, займаюць пэўнае месца ў тэакратыі» [7, с. 87]. Разам з тым, ён усведамляў глыбіню, спецыфіку і неадназначнасць падобнага перапісвання, у якім назіраецца і «ўласны почырк» і «ўласнае выражэнне» [7, с. 72], прычынай чаго, на яго думку, становіцца жывая рэальнасць, «якая, і застаючыся сама сабой, можа ўяўляцца па-рознаму» [7, с.72]. Паводле яго перакананняў, і кананічны артэфакт не звязаны наўпрост з нарматыўнасцю, стэрэатыпнасцю, а мае на мэце цесную ўзаемазалежную сувязь усіх складнікаў іканапіснай справы. У выніку ідэал канона ў Фларэнскага ўяўляе сабой дастаткова рухомае дыялектычнае адзінства старога і новага. «Канон у разуменні Фларэнскага, — заўважае В. Авяр'янаў, — універсальны механізм творчага спадкаемства, адно з найменняў традыцыі як такой, адзін з твараў традыцыі, у якой яна з'яўляецца і жыве ў Царкве і ўвогуле ў культуры» [1, с. 327]. Пацвярджэнне таму — перакананне Фларэнскага ў тым, што «духоўная сутнасць з'яў культуры і тым больш Культа не памірае, яна пераўтвараецца, яна вядзе да новых вобразаў культурнай творчасці і выяўляе сябе праз іх часта больш дасканала і лепш за ранейшае» [7, с. 148—149].

З выказваннямі рускага філосафа шмат у чым салідарызуецца і Багдановіч, які вышэй згаданымі творамі паставіў пытанне аб суадносінах традыцый і інавацый у мастацкай творчасці, акцэнтуючы ўвагу на філасофска-эстэтычнай значнасці гэтай праблемы ў працэсе мастацкага пазнання рэальнасці. Згодна з мастацкай канцэпцыяй паэта, інавацыі ўяўляюць сабой неабходны складнік творчасці, яе арганічную частку. Інавацыйныя, наватарскія «ўцелясненні», на яго думку, не з'яўляюцца праявамі разбуральных інтэрвенцый, а выступаюць у якасці носьбітаў мастацкай каштоўнасці, адным са спосабаў мадэлявання

новай мастацкай рэальнасці. Яны разам з традыцыяй складаюць двуадзіны працэс стварэння мастацкага твора, які надае апошняму сэнсавую і эстэтычную каштоўнасць.

Працэс зараджэння інавацыйных форм і практык, паступовага пераходу іх у разрад традыцыі мае на мэце наяўнасць не проста суб’екта, а суб’екта, які займае дзейсную і актыўную пазіцыю і цесна ўключаны ў сацыякультурную прастору — сваю і чужую. Пытанне аб першапрычыне, абумоўленасці «культурнага выбуху», яго дэтэрмінаваных стымулюючых крыніцах, вектарах накіраванасці, механізме разгортвання «сеткавых сувязей», якія маюць сваім вынікам паступовае складванне стэрэатыпных форм і мадэлей укаранення, паступова набываючых якасць традыцыі, даволі складаны. Трэба разумець, што сама традыцыя не з’яўляецца строга адзінкавым, інварыятыўным прадуктам, а мае шэраг мадыфікацыйных адгалінаванняў, што складаюць своеасаблівы «даччыны субстытут» і надаюць ядру традыцыі дадатковую сэнсавую канатацыю. Таму можна казаць пра прадукаванае мноства традыцый, дакладней, традыцыйных форм, якія ўзнікаюць у працэсе культурагенеза, культурных, у тым ліку міжасобасных узаемадачыненняў, — як па лініі сінхраніі, так і па лініі дыяхраніі.

У гэтай сувязі важна падкрэсліць, што той жа Багдановіч не займаўся свядомай дэканструкцыяй чужой культурнай традыцыі, а стараўся «прышчапіць» яе да ўласнай культурнай мадэлі. Мэтай яго было захаваць і перадаць аўтэнтыку, першапачаткова зададзены сэнс прыцягнутага ў абсягі нацыянальнага культурнага канона высокагатункавага мастацкага матэрыялу. Падобнае «прышчапленне», гаворачы постмадэрнісцкай мовай, ні ў якім разе не выступае ў якасці агента мутацыі традыцыі, задача якога — памнажаць, пладзіць падманныя сімулякры-заменнікі. Наадварот, само прыцягненне ў арбіту субстратнай, аўтахтоннай культуры «статыкі» і «дынамікі» суперстратнай (чужой) традыцыі магчыма толькі пры захаванні суб’ектыўных і аб’ектыўных фактараў. З суб’ектыўнымі фактарамі звязаны момант «выбару аўтарытэтаў», наяўнасць духоўнага сугучча жыццёвага і творчага вопыту, падобных ці блізкіх мастацкіх і светапоглядных прыярытэтаў. Трэба браць пад увагу і спецыфіку дзейсна-гістарычнай свядомасці і культурнай прыналежнасці суб’екта як асобы і носьбіта пэўнай культурнай ідэнтычнасці. Немалаважнае значэнне мае таксама фактар аб’ектыўны — уласна жаданне ўпісаць сваю традыцыю ў шырокае поле сусветнай культурастваральнай дзейнасці, засведчыць факт культурнай пераемнасці. Вось чаму зборнік Багдановіча «Вянок» нагадвае векапомны Акропаль культуры, які непамерна пашырае сэнсавы гарызонт кнігі. Гэтаму спрыяюць розныя сродкі і прыёмы, пачынаючы ад манеры спавядальнасці лірычнага героя да вар’іравання тэматычных структураўтваральных блокаў і жанравага дыяпазону, руплівай шліфоўкі кожнага сэнсараду, давядзенне думкі да лагічнага завяршэння, успрыманне літаратурнага твора як эстэтычнага феномена. У выніку дасягаецца зайздросны эфект не проста дэманстрацыі (акумуляцыі) прыгажосці абраных паэтычных форм і жанраў (санет, трыялет, рандо, верлібр, белы верш, танка, хоку і г.д.), а як бы іх наўмысная акумуляцыя, «музеізацыя», «гербарызацыя», а значыць — увекавечанне з мэтай наступнага перманентнага паўтарэння-вяртання ў вечным кругабегу вершатворчасці і жыццятворчасці.

Максім Багдановіч добра ўсведамляў: каб стаць традыцыяй, якая мае ўсе шанцы набыць даволі значнае распаўсюджванне сярод носьбітаў пэўнага ментальнага і сацыякультурнага кода, інавацыя павінна адпавядаць умове ўключанасці ў гісторыка-культурны кантэкст, стаць часткай цэласнасці, якая надае ёй агульназначны статус. А для гэтага яна павінна валодаць велізарным унутраным патэнцыялам, які ўтрымлівае ўласцівасць «свядомага быцця» і мае ўсе перадумовы для стварэння новай сацыякультурнай рэальнасці або, па меншай меры, пераходу ў разрад яе складовай структураўтваральнай часткі.

Погляды М. Багдановіча на культуру як сукупнасць самых розных традыцый, канонаў, стратэгій, як на маналітнае адзінства ў сваёй разнастайнасці сугучныя поглядам сучасных філосафаў, якія даследуюць феномен традыцыі як катэгорыі гуманітарных ведаў. Шмат агульнага ў аксіялагічным падыходзе да традыцыйных, сталых форм культуры ў кантэксце іх суаднесенасці з сучаснасцю можна выявіць у філасофскай канцэпцыі нямецкага даследчыка Ганса-Георга Гадамера. Як і Багдановіч, калі мець на ўвазе ўніверсалісцкую скіраванасць яго творчасці, Гадамер не бачыць падстаў для канфлікту гісторыі і традыцыі. У сваёй філасофскай працы «Истина и метод» (1988) даследчык выключае канфліктнасць і супрацьстаянне розных культурных светаў, дапускаючы «зліццё гарызонтаў», што з'яўляецца падставай для фарміравання больш дасканалага ў духоўным плане, згарманізаванага грамадства. «Там, дзе пануе традыцыя, — заўважае Гадамер, — старое і новае заўсёды зноў зрастаюцца ў жывое адзінства, прычым ні тое, ні іншае наогул не аддзяляюцца адзін ад аднаго з поўнай выразнасцю» [4, с. 363]. Гадамер прызнае паліфанію, разнагалоссе, палілог, дзе кожнаму прадстаўлена права выказацца і дзе кожны новы «акт разумення» становіцца чарговай, вышэйшай прыступкай у жыцці традыцыі. Пры гэтым «вобразы» традыцыі ў іх камунікатыўнай прадстаўленасці ніколькі не мяняюць яе «ўзаконены» змест, набываючы ў новым культурным атачэнні іншы, набліжаны да «першавобраза», мадыфікацыйны відарыс, які, зрэшты, нельга звесці да «свабоднай камбінаторыкі элементаў», як прапануюць постмадэрністы, бо гэта прыводзіць да маргіналізацыі любой традыцыі. Апошнюю можна расцаніць як свядомую культуралагічную дыверсію, якая цалкам пазбаўляе традыцыю самастойнага, самадастатковага гісторыка-культурнага статусу.

Як мы не аднойчы падкрэслівалі, новае нараджаецца на перакрыжаванні, на мяжы сыходжанняў / разыходжанняў — паслаблення старых сувязей і ўзмацнення новых, прыцягнення ў сферу актуальнага вопыту іншародных сегментаў, дэталей, форм з мэтай іх сэнсавага перафарматавання ва ўмовах актуальнай культуры. Падобнае прысваенне абумоўліваецца наяўнасцю патэнцыйнай магчымасці разумення гэтай «формы» прадстаўніком іншакультурнай рэальнасці. У любым выпадку новае ствараецца і культывуецца ў выніку ўзаемадзеяння па самым шырокім спектры і кірунках — міжкультурным, міжрэгіянальным, межцывілізацыйным. Не трэба скідаць з рахункаў і міжасобасныя кантакты, момант суб'ектыўнасці, на які мы ўказвалі вышэй, звязаны з выяўленнем сімпатыі, асаблівага піетэту да асябечанага (асабіста засвоенага), прыўлашчанага артэфакта іншанацыянальнай культуры. Гэты момант дапамагае зняць супярэчнасць паміж аджылай сябе формай, творчымі прыхільнасцямі суб'екта і наноў успрынятай з'явай, з неабходнасцю прысвоенай і адаптаванай да ўмоў генетычна і культурна роднаснага асяроддзя. Асобаснае прысваенне чужароднай з'явы (мастацкага канструкта, артэфакта, культурнай інавацыі) выступае і своеасаблівай формай культурнай ініцыяцыі, набывае важны сэнс у развіцці і чалавечых, і міжкультурных, і міжцывілізацыйных зносін.

Прыклад творчага засваення традыцыі паказваў і сам М. Багдановіч. Мастак арыгінальнага таленту, ён здолеў па-майстэрску сінтэзаваць на нацыянальнай глебе культурныя дасягненні розных народаў, падняць мастацтва беларускага слова да лепшых узораў сусветнай літаратуры, адкрыць шырокія магістралі для ідэйна-эстэтычнага ўзвышэння беларускай паэзіі. Пры адчувальным уплыве розных мастацкіх стыляў і школ, кірункаў і плыней, эстэтык і форм паэзія Багдановіча выглядае даволі стройнай, адмыслова структураванай сістэмай, дзе ёсць свая мастацкая логіка, апраўданасць, завершанасць, дзе самыя разнастайныя гісторыка-культурныя феномены злучаюцца ў гарманічнае адзінства, у высокую эстэтычную дасканаласць. Паэт сапраўдны «спалучальнік» супрацьлегласцей. У асобе беларускага апалагета красы шчасліва

спалучыўся экуменістычны і ўніверсаліцкі дух. Праявай экуменістычных памкненняў бачыцца і спроба пошуку аб'яднальнага пачатку ў сферы пачуцця, ідэалу, нават калі гэты ідэал знаходзіцца ў рэтраспектыве. Гэты аб'яднальны пачатак Багдановіч бачыў не ў рэлігійным, боскім, а ў адкрытай культурнай секулярызацыі «боскай святасці», у набыцці ёю канкрэтнага, «цялеснага», блізкага — адчувальнага сэнсу, які ствараецца дзякуючы сапраўднай, жывой, а не эфемернай агульнасці пачуццяў. Духоўнае прасвятленне магчымае праз любоў і красу. Вось чаму яму блізкі, усцешны свет быццёвай, зямной гармоніі ў розных сваіх іпастасях, хай сабе і ў далёка не дасканалым выглядзе. Дзякуючы адчувальна спазнанаму, перажытаму ў рэальным жыцці ідэалу адбываецца пераўтварэнне, перайначванне духоўнага свету. Багдановічаўская «краса і сіла» нараджаецца з непахіснай і радаснай жыццесцвярджальнай надзеі на вечнае сузіранне зямной, «тут і цяпер», а не іншабыццёвай чароўнасці, — чароўнасці ў межах звычайнага штодзённага — *пачуццёвага* — жыцця, без нагнятання штучнага аскетычнага напружання.

Калі меркаваць па фармальна-зместавай скіраванасці яго творчасці, Багдановіч з'яўляецца прыхільнікам сімвалічнага паэтычнага канона, створанага на аснове мастацкага сінтэзу розных культурных светаў, узораў светабачання і светаадчування. Нездарма карціны, створаныя ягонай творчай фантазіяй, маюць у аснове сваёй містычную, сімвалічную накіраванасць і нагадваюць паэтычнае адкрыццё, у якім увасаблены духоўны свет быцця. Для Багдановіча не мае вялікага значэння, што становіцца прадметам яго мастацкіх рэфлексій, — свет прадметны, рэальны або свет выдуманы, створаны яго фантазіяй ці запазычаны з розных кніжных крыніц. Абодва яны валодаюць аднолькавай ступенню рэальнай прадстаўленасці, унушальнасці з прычыны таго, што маюць суб'ектыўную прыроду свайго паходжання. Калі экстрапаліраваць філасофскія гледжанні раней згаданага намі рускага рэлігійнага мысляра Фларэнскага на прыроду творчасці, то мастацкую спадчыну Багдановіча можна ўявіць у выглядзе сімвалічнага іканастаса, які лучыць у сабе гэтыя два светы (свет бачнага і нябачнага). Паэт творыць як бы па законах іканапіснай традыцыі, у якой няма нічога выпадковага, і кожны вобраз, і нават драбнюткія дэталі яго заключаюць у сабе пэўны сімвалічны сэнс. Вось чаму для яго такое істотнае значэнне мае ідэя сінтэзу, аб'яднальнай арганічнай сувязі пазнавальнага ўніверсума культуры, які для паэта існуе рэальна.

Доказам таму — кніга «Вянок» (1913), якая стала выдатным дасягненнем усёй беларускай літаратуры пачатку XX ст. Гэта — сапраўдны ўзор класічнага мастацтва, прыклад не толькі ідэйна-эстэтычнай дасканаласці, выверанасці, завершанасці, але і сведчанне інтэртэкставай адкрытасці, своеасаблівай паэтычнай і гістарычнай пасіянарнасці. Сімвалічна, што на тытульным лісце «Вянка» — адзінага прыжыццёвага зборніка паэта — стаіць знак Лебедзя, герб рода Завішаў, як сведчанне ўдзячнасці фундатарцы кнігі Магдалене Радзівіл. Але ж знак Лебедзя — знак прыгажосці і сімвал мастака-творцы. Лебедзь — адзін з ключавых сімвалаў мадэрнізму, яго эмблематычны вобраз, які сімвалізуе Боскае Натхненне, што параджае Красу-Паэзію. Кніга будуецца па прынцыпе адкрыцця, дзе кожны спрактыкаваны чытач як бы ідэнтыфікуе свой духоўны вопыт, вывярае яго па ім і папаўняе з яго дапамогай страчаныя або пашкоджаныя ўласныя культуразместавыя звёны. Можна меркаваць, што Багдановіч ставіў сабе звышзадачу стварыць *саборны паэтычны канон розных культур і цывілізацый*, які спалучыў бы і прымірыў у сабе гэтыя культуры.

Як вядома, фарміраванне светапогляду, мастацкіх прыярытэтаў і зацікаўленняў класіка беларускай літаратуры праходзіла пад адчувальным уплывам рускай культуры і літаратуры. У ліку тых, хто так ці інакш аказаў уплыў на адточванне ўласнай філасофска-эстэтычнай сістэмы Багдановіча, імёны А. Пушкіна,

А. Фета, А. Блока, І. Буніна, В. Брусава, К. Бальмонта, М. Кузміна, М. Гумілёва, С. Гарадзецкага. У тэзаўрус засвоенага і пераасэнсаванага сусветнага культурнага вопыту ўваходзяць і дасягненні еўрапейскай мастацкай традыцыі: антычнай (Гарацый, Авідзій, Анакрэон), новапарнаскай французскай (А. Рэмбо, П. Верлен, Т. Гацье), нямецкай (Г. Гейнэ, Ф. Шылер) і іншых літаратур. Унутранае падабенства і сэнсавая блізкасць паэзіі Багдановіча з тэмамі, матывамі, нарэшце, ідэямі сусветнай і, перш за ўсё, рускай літаратуры назіраецца нават на ўзроўні паэтыкі, самой формы верша, ідэнтычнасці «стылявога мыслення». І ў гэтым па-свойму засведчыў сябе не толькі факт усвядомленага пераймання, перастварэння вядомых узораў, але і велізарнае жаданне вербальнымі сродкамі ўласнай літаратуры адлюстраваць жыццё ва ўсёй шматграннасці, разнастайнасці. У гэтай сувязі галоўны сэнс намаганняў паэта, як думаецца, заключаўся ў тым, каб раскрыць, засведчыць сваю індывідуальнасць, сваё наўздзіў развітае пачуццё адзінкавасці, суб'ектнасці, унікальнасці свайго лёсу, непаўторнасці ўласнага духоўнага свету.

Як і Фларэнскі, Багдановіч шукаў адпаведнасці, якія маглі б засведчыць адзіны «каранёвы» пачатак станаўлення сусветнай духоўнай культуры. Тым самым ён падкрэсліваў ідэю духоўнага адзінства чалавечых культур і сакральных гісторыка-культурных сімвалаў, застылых у кананічных формах. Вобразна-сімвалічнымі сродкамі, шляхам трансляцыі мастацкага канона Багдановіч як бы спрабаваў вывесці цэласную *паэтычную тыпалогію духоўнасці, радаслоўную ўсёй чалавечай культуры*. Вось чаму і ў самой кнізе «Вянок», дзе так моцна выяўлены кананічны пачатак, выразна праступае жаданне паэта стварыць паэтычны «канон канонаў», што здолеў бы заключыць у сабе тэзаўрус усёй культуры і замкнуць на сабе ўвесь яе сэнс, здольны бясконца ўзбагачацца новымі інтэрпрэтацыямі.

Згаданая вышэй культуралагічная спецыфіка творчасці Багдановіча вынікае перш за ўсё з падкрэсленага рацыяналізму, інтэлектуалізму яго паэзіі, з трансфармацыі вобразных мадэлей розных эпох, татальнага панэстэтызму, культу Прыгажосці і інш. Паэт свядома звяртаўся да класічна-дасканалай (парнаскай), амаль рафінаванай паэтычнай формы верша. Неакласіцысцкія досведы Багдановіча, у адрозненне, да прыкладу, ад авангардысцкіх, не насілі дэструктыўнага характару, не мелі на мэце поўнае адмаўленне папярэдняга культурнага вопыту, а былі своеасаблівай формай яго кананізацыі. Неакласіцызм творчасці выявіўся найперш у спосабе мадэрнізацыі культуры шляхам культурнага кансерватызму, адаптацыі ў межах нацыянальнай традыцыі паэтычных форм, амаль ёй невядомых. З улікам гэтага можна казаць не толькі аб своеасаблівай школе паэтычнага майстэрства, але і пра факт унутранай эвалюцыі мастацкай сістэмы паэта, пра асаблівасці яго эстэтычных прынцыпаў. Усё гэта лішні раз сведчыць пра наватарскі, універсальны характары яго паэзіі і дазваляе глыбей спасцігнуць ролю паэта ў развіцці нацыянальнай літаратуры.

Такім чынам, разгляд культурнай традыцыі як канона і спадчыннасці ў прасторы рэлігійна-філасофскага і мастацкага дыскурсаў дазваляе зрабіць выснову, што гэтыя асновасутнасныя складнікі адыгрываюць незаменную ролю ў асобасным станаўленні суб'екта, спрыяюць працэсу яго сацыяльна-псіхалагічнага фарміравання і развіцця, самарэалізацыі патэнцыйных здольнасцей, уплываюць на складванне яго творчай актыўнасці. Гэта вельмі дзейсная форма далучанасці суб'екта да жывой разнастайнасці жыцця, што адкрывае шлях да ўспрымання сацыякультурнага кантынуума як спрыяльнай глебы пазнання сваёй сутнасці і ўсведамлення ўласнай арганічнай запатрабаванасці ў шматлікіх кантэкстах духоўна-практычнай дзейнасці. С. Іваноў, даследуючы механізм выбудоўвання і развіцця культурных сфер праз прызму актыўна дзейснага суб'екта, слушна заўважае, што «мастацкая дзейнасць, рэальна і найперш псіхалагічна-жыццёва

выступае ў сістэме чалавечай дзейнасці як духоўна-практычная сувязь і спосаб індывідуальнага засваення ўсеагульных сэнсазначных зместаў культуры, паколькі яна, як дзейнасць творчая, здольная актуалізаваць усе духоўныя і практычныя сілы чалавечай суб'ектыўнасці і забяспечыць зносіны людзей у найбольш кульмінацыйнай — творчай — фазе іх дзейнасці і найвышэйшым моманце актуалізацыі сябе ў іншых людзях і ў прадуктах культуры» [5, с. 360]. Адзначанае, да ўсяго, выступае ў якасці своеасаблівага метадалагічнага алгарытму, дзякуючы чаму і адбываецца самасцвярджэнне чалавека як свядомай — родавай істоты, здольнай раскрыць сваю ўнутраную сутнасць шляхам уключанасці ў сістэму каардынат «індывідуальнае — тыповае», «канкрэтнае — агульнасацыяльнае», «нацыянальнае — універсальнае». Дзякуючы шматмернаму, разнавектарнаму характару камунікатыўных адносін суб'ект спасцігае меру атаясамлення свайго «я» з акаляючым асяроддзем, у тым ліку і праз прызму аксіялагічных адносін да сябе і да іншых людзей у форме эмацыянальна-пачуццёвых перажыванняў. Вось чаму канон і спадчыннасць у інтэгральным сваім выражэнні могуць аказваць свой дзейсны ўплыў у працэсе камунікацыі, дыялагічных і палілагічных стратэгій, што дазваляе актывізаваць унутраныя, эмацыйна-пачуццёвыя і інтэлектуальныя складнікі асобы і задзейнічаць канал сувязі паміж унутраным і знешнім як прасторавымі каталізатарамі духоўнага поля суб'ектнасці. Камунікацыя выступае і важным ідэнтыфікацыйным маркерам, які дазваляе вызначыць ступень і паўнату сацыякультурнай пераемнасці, узнаўлення і трансляцыі аксіялагічных складнікаў сацыялізацыі.

Такім чынам, канон і спадчыннасць як арганічныя складнікі традыцыі ўбіраюць у сабе фундаментальныя якасці духоўна-практычнай дзейнасці, спрыяюць арганізацыі духоўнай прасторы развіцця чалавека, дазваляюць адчуць кроўнародную сувязь з набыткамі сваёй нацыі і ўсяго чалавецтва.

## Спіс літаратуры:

1. Аверьянов, В. В. Традиция и динамический консерватизм. (Издательская серия ИДК) / В. В. Аверьянов. — М.: Институт динамического консерватизма, ООО «Центральный издательский дом», 2012. — 696 с.

2. Багдановіч, М. Поўны зб. тв.: У 3 т. — Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды / М. Багдановіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992. — 752 с.

3. Багдановіч, М. Поўны зб. тв.: У 3 т. — Т. 2. Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. — Мінск: Белар. навука, 1993. — 600 с.

4. Гадамер, Х.-Г. Истина и метод / Х.-Г. Гадамер. — М.: Прогресс, 1988. — 699 с.

5. Иванов, С. П. Субъект художественного действия в постижении и развитии культурных сфер/ С. П. Иванов // Человек как субъект культуры / Отв. ред. Э. В. Сайко. — М.: Наука, 2002. — С. 331—365.

6. Флоренский, Павел, свящ. Сочинения в 4-х т. — М., 1992. — Т. 3 (2). — 351 с.

7. Флоренский, П. А. Иконостас. — М., 1994.

8. Чабан, Т. Космас «Вянка»: Літаратурны каментарый да «Вянка» Максіма Багдановіча / Т. Чабан // Багдановіч М. Поўны зб. тв.: У 3 т. — Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды / М. Багдановіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992. — 752 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 21 верасня 2016 года.

## Рэзюмэ

### Валерый МАКСІМОВІЧ

### Культурная традыцыя як канон і спадчыннасць у рэлігійна-філасофскім і мастацкім дыскурсах: Максім Багдановіч і Павел Фларэнскі

Новы змест нацыянальнага эстэтычнага канона ствараецца і культывуецца ў выніку ўзаемадзеяння па самым шырокім спектры і кірунках — міжкультурнаму, міжрэгіянальнаму, міжцывілізацыйнаму. На прыкладзе творчасці рускага філосафа П. Фларэнскага і класіка беларускай літаратуры Багдановіча даследуюцца два шляхі перадачы традыцыі — шлях ідэнтычнага захавання ўзору, канона і шлях творчага засваення, развіцця, стварэння новай якасці канона.


**Ключавыя словы**: эстэтычны канон, суб'ект, духоўная трансмісія, камунікацыя, сінергізм, традыцыя і інавацыя, космас культуры, культурны кансерватызм.


## Summary

### Valery MAXIMOVICH

### Cultural tradition as canon and heredity in religious-philosophical and art discourses: Maksim Bagdanovich and Pavel Flarensky

The new content of the national aesthetic canon is created and cultivated as a result of interaction on a wide range and directions — intercultural, interregional, intercivilizational ones. There are studied two ways of tradition transmission (through identical preservation of the sample and through creative learning, development, creation of the new quality of canon) on the example of works by Russian philosopher Flarensky and Belarusian classic Bagdanovich.


**Keywords:** aesthetic canon, subject, spiritual transmission, communication, synergy, tradition and innovation, culture space, cultural conservatism.



**Мікола ТРУС**

# УСМЕШКА КЛАСІКА: НАКІДЫ НЕКАНАНІЧНАГА ЛІТАРАТУРНАГА ПАРТРЭТА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

У беларускім літаратуразнаўстве існуе мноства тэм, асвятленне якіх звязана з моцнай традыцыяй, устаялымі аўтарытэтнымі меркаваннямі, класікай навуковага бачання. Так ці інакш гэта гісторыя гуманітарыстыкі сама па сабе, пройдзеныя этапы нацыянальнай сцверджанасці.

Сусветная культура і яе асэнсаванне развівалася ў пастаяннай зменлівасці канцэптуальных поглядаў, мастацкіх сістэм, творчых генерацый і г. д. Навуку і мастацтва заўсёды жывіла дынаміка, эвалюцыйныя канфлікты паміж старым і новым, пошук і эксперымент. Статыка, канфармісцкае або індыферэнтнае прынцце думкі, што «ўсё ўжо створана і напісана» вельмі часта спараджалі эпігонства, літаратурныя і мастацкія штампы, культурны застой. На наш погляд, дэкляраваны беларускім літаратуразнаўствам у канцы 1980-х гг. магістральны курс на новае прачытанне літаратурнай класікі ў рэшце рэшт звёўся да лёгкай рэтушыроўкі ранейшых поглядаў і тэкстаў. На гэта былі і ёсць свае аб'ектыўныя прычыны, адна з галоўных, як нам бачыцца, — пакуль дарэшты не адужаны і не пройдзены гістарычны этап дамінавання *нацыяабарончых пазіцый* у літаратуры і культуры наогул.

Тэма, заяўленая ў назве артыкула ў духу знакамітых загадак карціны тытана еўрапейскага Рэнесансу Леанарда да Вінчы, амбітна-правакацыйна прадугледжвае прапанову новых, нязвыклых падступаў да асвятлення аднаго з надзвычай далікатных абсягаў у беларускім літаратуразнаўстве — пісьменніцкай спадчыны М. Багдановіча. Зрэшты, на намінатыўным узроўні тэма была засведчана самім аўтарам «Вянка»: пад назвай вершаванага цыкла «Усмешкі» былі надрукаваны ў «Нашай ніве» (1912, № 23, 7 чэрв.) «Гутарка з паненкамі», «Пан і мужык», «Чытаю я журнал сучасны…», «Чаму у нас акамянеласці…», «Гутарка» [1, т. 1, с. 599].

Хрэстаматыйнае, цэльнае ўспрыманне жыцця і творчасці класіка нацыянальнай літаратуры афарыстычна-ёміста схоплена ў словах А. Бачылы «Максім Багдановіч. Гонар і боль беларускага народа», якія з акустычным эфектам рэверберацыі разышліся па многіх рэпрэзентатыўных тэкстах, прысвечаных паэту.

Так сталася, што традыцыйнаму вобразу «песняра чыстае красы» (А. Луцкевіч), «госця з высокага неба» (А. Смоліч), зафіксаванаму майстрамі выяўленчага мастацтва і скульптуры, як найлепш пасуе не ўсмешка (такіх выяў папросту няма), а шырока растыражаваныя мастакамі засяроджанасць, задуменнасць, пакутніцкі выраз твару. Відаць, таму на многіх палотнах М. Багдановіч выглядае значна старэйшы, чым на адведзеныя яму 25 гадоў жыцця.

Толькі адзін раз, але на даволі працяглы час, аматары і даследчыкі творчасці паэта былі ўведзены ў зман публікацыяй фотаздымка ўсмешлівага «Багдановіча», які мы прыводзім у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу. Невядомы малады чалавек, паспешліва ідэнтыфікаваны як класік беларускай літаратуры, патрапіў і на вокладку кнігі «Дарогамі Максіма» (1971) А. Бачылы [2], і на плакат «Максім Багдановіч. 1891—1981» (1981) У. Крукоўскага [3, с. 290], выкананы да 90-годдзя з дня нараджэння паэта. Сёння гэты казус успрымаецца багдановічазнаўцамі як свайго роду іранічна-ўсмешлівы эпізод у візуальнай гісторыі жыццяпісу паэта.



*Яраслаўскае акружэнне М. Багдановіча. Злева направа:
Варвара Какуева; Уладзімір Крылоў; невядомы малады чалавек,
памылкова ідэнтыфікаваны як М. Багдановіч; Ганна Какуева. Яраслаўль (?).
Пачатак XX ст. З фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча.*

Асоба М. Багдановіча, зафіксаваная ва ўспамінах сучаснікаў, найперш паплечнікаў па беларускай справе (Зоські Верас, В. Ластоўскага, Змітрака Бядулі і інш.), спрацоўвала на міфалагізацыю гэтага вобраза ў запамінальным мінорным гучанні. Такі працэс быў лагічны для таго часу, калі запатрабаванымі для грамадства станавіліся новыя кананічныя біяграфіі падзвіжнікаў нацыянальнай справы і пакутнікаў за свой народ. Узгадаваны далёка ад Беларусі «паэт з берагоў Волгі», як часам называлі М. Багдановіча, быў першым кандыдатам у новым почаце нацыянальнага пантэона. Заўчасна памерлы малады аўтар не быў замяшаны ў палітычных звадах, ідэалагічным супрацьстаянні асобных нацыянальных груповак, якое наступіла адразу пасля нашаніўскага перыяду, звязанага, найперш, не з палітычнымі амбіцыямі, а рэалізацыяй культурна-асветніцкіх праектаў.

Наша публікацыя — гэта аніякім чынам не гвалтоўны замах на міфалагізаваную біяграфію, вытрыманую ў канонах народнага спачування да жыццёвых нягод, што выпалі на долю М. Багдановіча, багата інтэрпрэтаваную стараннямі нашчадкаў у каардынатах любові і захаплення асобай і творчасцю вечна маладога паэта. Гэта спроба прадставіць творчую асобу не ў магістральных, добра распрацаваных каардынатах шляхоў спасціжэння, а ў парадыгме актуальнага абнаўлення цікавасці да культурнай спадчыны. Новае прачытанне літаратурнай класікі сёння ўжо не можа задаволіцца традыцыйнымі «мармурова-бронзавымі» падыходамі. Усё больш запатрабаванымі становяцца раней малавядомыя, факультатыўныя «жывінкі» жыццяпісу, здольныя прадставіць асобу ў арэоле звычайнай, прыцягальнай чалавечай абаяльнасці, і тым самым пашырыць дыяпазон яе сучаснага асэнсавання, наблізіць паэта да шырокай аўдыторыі, прастымуляваць дыскусійнасць даследчыцкага бачання.

**Іронія: не абмінуць і не пераблытаць.** Творчасць М. Багдановіча сведчыць, што паэту не былі чужымі ні гумарыстычныя, ні сатырычныя жанры. Аўтар «Вянка» ёміста і даволі крытычна выказаўся пра асобны абсяг сучаснай яму беларускай літаратуры ў лісце ў рэдакцыю газеты «Наша ніва» ад 14 лістапада 1912 г.

Развагі паэта з нагоды выхаду ў Вільні сатырычнай газеты закранаюць не толькі актуаліі нацыянальнай творчай і выдавецкай практыкі, але і дэманструюць праграмнасць агульных міфапаэтычных установак, шчыры клопат зацікаўленага ў дынаміцы літаратурнага працэсу чалавека: *«Атрымаў я 2 № «Крапівы», але, праўду кажучы, не дужа пякучая тая «Крапіва», бо, паночкі, ад розных жартаў пра цёшч ці інш., здаецца, даўно ўжо ўва ўсіх на языках мазалі намуляны. Не варт на гэтае грошы траціць. Палітычаскі гумар яе — рэч зусім іншай каштоўнасці. Яшчэ лепі тое, што да кожнага жарта Вы хоч за валасы, а прыцягнеце Вільню»* [1, т. 3, с. 249].

Нават у дробнай заўвазе адносна назвы запачаткаванага перыядычнага выдання М. Багдановіч дэманструе сваю схільнасць да большай мастацкай гнуткасці, перад просталінейнасцю гучання аддае перавагу лёгкаму іранічнаму падтэксту: *«Нябожчык Палуян неяк пісаў мне, што меліся выдаць “Жэўжык”, — названне куды лепш ад “Крапівы”»* [1, т. 3, с. 249].

Найбольш вызначальнай і паказальнай, на нашу думку, у двухмоўнага аўтара М. Багдановіча з’яўляецца майстэрства іроніі, апрабаванае ў розных культурнагістарычных эпохах і нацыянальных кантэкстах. Паводле беларускага літаратуразнаўчага вызначэння Вячаслава Рагойшы: «Іронія можа мець значэнне не толькі тропа, але і своеасаблівага мастацкага прынцыпу адлюстравання рэчаіснасці, асмяяння з т. зв. двайным сэнсам, падтэкстам» [4, с. 98].

Нізка «Вольныя думы» з адзінага зборніка «Вянок» скрозь аб’ядноўвае вершы, прысвечаныя жыццёвым парадоксам, крушэнню мар і спадзяванняў. Будуюцца творы па прынцыпе тэзіса і антытэзіса, які нечакана і лаканічна падводзіць неаптымістычную рысу пад вечнымі чалавечымі памкненнямі.

Паэт супрацоўнічаў з многімі перыядычнымі выданнямі, сярод якіх былі фенаменальна папулярныя сатырычныя і гумарыстычныя часопісы «Сатирикон» і «Новый Сатирикон», якія з’явіліся ва ўлонні рускай літаратуры Сярэбранага веку.

Між тым, ёсць прэцэдэнтныя падыходы разглядаць творы са згаданай нізкі ў іншай, «неіранічнай» плоскасці. Так, даследчыца Ева Ляванава называе верш «Мы доўга плылі ў бурным моры…» як найбольш паказальны пры разглядзе семантыкі катастрафічнага і адзначае, што ён «мог быць падказаны такой сумна вядомай падзеяй, як катастрофа «Тытаніка»… Падзея ўзрушыла ўвесь свет і многімі была ўспрынята як папераджальны знак чалавецтву, як перасцярога пра жахлівыя наступствы будучай глабальнай катастрофы — сусветнай вайны, насустрач якой крочыла Еўропа» [5, с. 39].

Нельга не пагадзіцца з калегай, што семантыка верша «ў падтэксце, у разлічаным на чытацкія здольнасці асацыятыўным патэнцыяле твора» [5, с. 40], але прывязка твора да гістарычнай падзеі ці асобы тоіць у сабе рызыку звужэння бачання твора. Прыклад таму — постмадэрнісцкае іранічнае тлумачэнне Альгердам Бахарэвічам назвы класічнага твора беларускай літаратуры «Новай зямлі» (захоўваем правапіс арыгінала): «На тое, каб назваць паэму менавіта так, а не інакш, Коласа, відавочна, натхніў ангелец Робэрт Скот, які за год да пачатку працы над паэмай выправіўся на барку «Тэра Нова» на Паўднёвы полюс есьці скураныя боты. Колас ня мог ня чуць пра тую экспэдыцыю — але напісаў сваю. Падарожжа сям’і лясьнічага Міхала па ваколіцах Нясьвіжу, Стоўбцаў, Слуцку (а дзядзькі Антося і па Вільні) у пошуках сваёй «Тэры Новы» ня менш займальнае — і ня менш трагічнае. Зрэшты, «Міхал лічыў Нясьвіж Парыжам» — і ў нейкім агульначалавечым сэнсе меў рацыю» [6, с. 125 — 126].

**М. Багдановіч і Г. Ахматава: тыпалогія іроніі ў паэтычным бачанні працэсу творчасці.** Амаль на тры дзесяцігоддзі М. Багдановіч апярэдзіў «праграмны метапаэтычны твор» (А. Жалкоўскі) [7, с. 1] Г. Ахматавай «Тайны ремесла» («Мне ни к чему одические рати…») (1940) з яго найчасцей цытуемымі радкамі: *«Когда б вы знали, из какого сора // Растут стихи, не ведая стыда…»* [8, с. 254].

Верш класіка беларускай літаратуры «Гутарка з паненкамі» (1912), тыпалагічна блізкі па сваёй іранічнай прыродзе з ахматаўскім, закранае не толькі і не ўласна таямніцы паэтычнага майстэрства, ён адкрыты для шырокіх чытацкіх асацыяцый:

*«Пабачце! Ластаўка малая*
*Для птушанят гняздо зрабіла*
*І клапатліва ўкруг лятае, —*
*Аж паглядзець прыемна-міла!»*

*«Вельмі шаноўныя паненкі!*
*Тут ёсць напэўна трохі цуду:*
*Ў гняздзечку міленькім і сценкі,*
*І дно яна зляпіла з бруду»* [1, т. 1, с. 128].

Важнасць, а таксама *праграмнасць* гэтага твора для М. Багдановіча можа пацвердзіць той факт, што ён існуе ў моцна адрозных беларуска- і рускамоўным варыянтах, якія былі ў адзін год апрабаваны аўтарам у дзвюх розных эстэтычных сістэмах, на старонках двух моцна адрозных па сваіх задачах выданняў: у народна-асветніцкай «Нашай ніве» (07.06.1912) і сатырычна-эпатажным «Сатириконе» (20.07.1912). Прычым, у рускім часопісе верш друкаваўся з рэдакцыйнай паметай «Пер.<евод> автора». Такім чынам, можам меркаваць, што сам Багдановіч вызначаў перша(моўнае)роднае права за беларускай «Гутаркай з паненкамі».

**Невялічкая анталогія слова і думкі** — так можна назваць дакумент, вядомы літаратуразнаўцам пад умоўнай назвай «Уласнаручны запіс М. Багдановічам афарызмаў і асобных моўных выразаў» [1, т. 3, с. 232 — 235].

Шэсць старонак, напісаных рукой класіка беларускай літаратуры, былі вернуты ў 1946 г. з пераможанай Германіі ў рукапісны фонд Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Пра гэтую падзею пісаў В. Вольскі ў часопісе «Беларусь» (1947, № 5): «…дакумент, напісаны рукою М. Багдановіча, з'яўляецца спісам афарызмаў і асобных моўных выразаў. Частка з іх належыць самому аўтару. Астатнія з'яўляюцца вытрымкамі з твораў іншых паэтаў і пісьменнікаў, якія з той ці іншай прычыны звярнулі на сябе ўвагу М. Багдановіча» [9, с. 32].

Упершыню тэкст быў апублікаваны ў кнізе Н. Ватацы «Максім Багдановіч. Паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры» (1977) [10, с. 110 — 112] у тым ліку з апісаннем самога рукапісу: «Частка выпісаных афарызмаў належаць самаму аўтару, астанія — цытаты з Горкага, Маякоўскага, Брусава, Хлебнікава, Баратынскага і іншых аўтараў, некаторыя афарызмы не падпісаны. Напісаны не зусім выразным почыркам на трох лістках у лінейку, чорным чарнілам, з двух бакоў (6 старонак). Папера, відаць, вырвана з запісной кніжкі. Лісткі пранумараваны чырвоным алоўкам: 6, 7, 8 лісты. Колькасць радкоў у шасці старонках аўтографа афарызмаў: 107. Памер паперы: 11 на 17,5 см» [10, с. 110].

Да прыведзенага апісання скрупулёзнай даследчыцы жыцця і творчасці М. Багдановіча трэба дадаць, што запісы ўключаюць 61 мінітэкст, з якіх не ўсе падпадаюць пад вызначэнне афарыстыкі. Гэта і асобныя словы, і словазлучэнні, якія аўтар «Вянка» планаваў ці ўжо выкарыстаў у паэтычных і празаічных тэкстах. Пералічаныя Н. Ватацы пісьменнікі, якія цытуюцца, адпавядаюць савецкаму іменнаму канону. На самай справе ўвага М. Багдановіча была значна шырэйшай, аб'ектыўна адпаведнай свайму часу і яго яркім асобам. І гэта ў час зняцця эмігранцкіх і рэпрэсаваных табу можа быць тэмай для асобнага даследавання, тым больш што з'яўляецца больш магчымасцей для ўстанаўлення аўтарства некаторых афарыстычных выслоўяў.

У пераліку імён, чые выказванні прыцягнулі ўвагу класіка беларускай літаратуры, Мікалай Міхайлоўскі (1842—1904), тэарэтык народніцтва, «властитель дум»


Прислониться къ чужому мнѣнію (мое).
Лакей, похожій на румынскаго министра
(Б. Садовскій)
Разсказываетъ особымъ достолюбезнымъ
тономъ (Б. Садовской).
Но критика — не геральдика (Ю. Энгель,
давъ очеркъ предшеств. композитора).
Говоря между нами, я парень не глупый
(Б. Садовской)

*Фрагмент старонкі запісаў М. Багдановічам афарызмаў і асобных моўных выразаў. З фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча.*

(С. Скіталец) рускай інтэлігенцыі пачатку ХХ ст.; Уладзімір Жабацінскі (1880—1940), лідар сіянісцкага руху, які меў чытацкае прызнанне і адзначаны крытыкамі пісьменніцкі патэнцыял — вырасці ў «арла рускай літаратуры» (А. Купрын); Аляксей Пешахонаў (1867—1933), эканаміст і журналіст, адзін з заснавальнікаў Народна-сацыялістычнай партыі (1906), міністр у Часовым урадзе і інш.

Уласна літаратурныя зацікаўленні паэта прадстаўляюць афарыстычныя вытрымкі з твораў Антычнасці, Сярэднявечча, іспанскай паэзіі XVII ст., англійскай літаратуры XIX ст. і інш. У гэтым пераліку вылучаецца запамінальны выраз, заснаваны на гульні слоў: *«Переводы стихов — словно женщины; если красивы — то неверны; если верны — то некрасивы»*. М. Багдановіч пазначыў яго як нямецкую прыказку. Вядома, што паэт выкарыстаў гэты выраз у якасці эпіграфа да рукапіснага зборніка аўтаперакладаў на рускую мову «Зеленя», з пазнакай *«Нем.<ецкая> писат.<ельская> поговорка»*.

Намі прасочана, што ў сучасных рускамоўных выданнях афарыстыкі аўтарам гэтых слоў, як правіла, называецца класік нямецкай літаратуры Генрых Гейнэ (1797—1856); зрэдку фіксуецца прыналежнасць гэтага выразу некаторым іншым заходнееўрапейскім і нават рускім пісьменнікам. Таму варта адзначыць, што ў гэтым выпадку мы маем справу з патэнцыйнай тэмай адмысловага даследавання, прысвечанага лёсу асобнага выслоўя ў розных культурных кантэкстах.

Найбольш прадстаўлена ў М. Багдановіча руская літаратура Сярэбранага веку ў яе розных стылявых напрамках, а таксама сатырыконцы — аўтары гумарыстычнага і сатырычнага часопіса «Сатирикон». Сатырыконцы з Багдановічавага спісу — асобы па тым часе надзвычай папулярныя, у іх ліку «каранаваныя» літаратурнай славай: «кароль гумару», галоўны рэдактар часопіса Аркадзій Аверчанка:

*«Попросите вашу маму, чтобы она не давала вам денег на почтовые марки»* (А. Аверченко).

Некалькі выказванняў належаць Барысу Садаўскому (1881—1952): *«Лакей, похожий на румынского министра»; «Рассказывает особым <u>достолюбезным</u> тоном»; «Говоря между нами, я парень не глупый».*

Багемна-рафінаваны Міхаіл Кузмін (1872—1936), чыя літаратурная слава на той час мела скандальны характар, і якому не раз даставалася ад сатырыконцаў, таксама прадстаўлены некалькімі запамінальнымі слоўнымі канструкцыямі: *«Ваше сердце поступает правильно: оно бьется и любит»*; *«Пробило не то час, не то — половину второго»*. Тэму першага выслоўя М. Багдановіч працягнуў і побач занатаваў сваю двухсэнсоўную, альтэрнатыўна-анатамічную ідыёму — *«Ожирение сердца»*.

Асаблівую цікавасць для нас уяўляюць улучаныя ўперамешку ў запісы выслоўі з пазнакамі «мое» і «М. Богданович», паколькі лагічна меркаваць, што ўказанне аўтарства сведчыць, прынамсі, пра неабыякавае стаўленне да сваіх твораў, годнасць паставіць іх побач з імёнамі прызнаных пісьменнікаў і грамадска-палітычных дзеячаў.

Менавіта гэтыя афарызмы напісаны ў стылі сатырыконцаў — дасціпна, з іроніяй. Але яны ж здольны справакаваць кагнітыўны дысананс, паколькі часам каардынальна не адпавядаюць раскрыццю закранутых тэм у паэзіі і прозе класіка беларускай літаратуры. Публікуем з захаваннем аўтарскіх пазнак (падкрэсліванне) і асноўных нюансаў правапісу, зверaных з першакрыніцай.

*<u>Прислониться</u> к чужому мнению (мое).*

*Ожирение сердца (мое).*

*Брови, чернее чем разлука с вами (М. Богдан.).*

*Мажорно настроенный ребенок (мое).*

*Лежачего не бьют, а вы бьете — и не краснеете (М. Богдан).*

*Старые мысли — словно остывшее, позавчерашнее кушанье (мое).*

*Мысли [закрэслена]. Женщины, словно пирожки — хороши горячими (мое).*

*Ноту «тянет-потянет, вытянуть не может» (М. Богдан).*

*Женщина без ребенка — словно колос без зерна; велика ли цена такому добру — знаете сами (М. Богданович).*

*Дамское рукоделье (о произв. женщин) (мое).*

*Нерукотворный (о ребенке) (мое).*

З гісторыі сусветнай літаратуры можна прыгадаць шмат пісьменнікаў, вядомых сваімі талентамі трапнасці слова. Але толькі для некаторых уласна афарыстыка стала неад'емным і паўнавартасным складнікам творчасці. Сярод такіх прыгадваецца найперш польскі аўтар Станіслаў Ежы Лец (1909—1966), чый зборнік папулярных выслоўяў убачыў свет амаль праз паўстагоддзя пасля напісання Багдановічавых.

Мяркуем, што нараджэнню такой самадастатковай формы пісьменніцкай творчасці аб'ектыўна паспрыялі характэрныя абставіны жыцця грамадства і мастацкай эвалюцыі творчасці еўрапейскіх аўтараў менавіта ў XX стагоддзі — з яго імкненнем да лапідарнасці, тэлеграфнасці стылю, пакадравай фіксацыі рэчаіснасці, «кандэнсацыі творчасці» (С. Е. Лец) і г. д. Калі прадстаўляць больш-менш маштабную кантэкстуальную падсветку, аналізаваць прэцэдэнтныя тэксты, то запісы М. Багдановіча пачатку XX стагоддзя будзе апраўдана разглядаць не толькі як цікавую рысу ў аўтарскім светапоглядзе, але і запачаткаванне пэўнай тэндэнцыі ў творчасці, прытым не толькі сваёй.

Праз 20 гадоў пасля накідаў М. Багдановіча, абнародаваў у эміграцыі свае афарыстычныя запісы сатырыконец Дон-Амінада (рус. *Дон-Аминадо*, сапр. *Аминад Шполянский*; 1888—1957), сёння вядомы аўтар не толькі ў эмігранцкім асяроддзі, але і рускай літаратуры наогул [11; 12]. Сярод шматлікіх выслоўяў, прысвечаных розным аспектам жыцця чалавека і грамадства, ёсць у яго выраз, наўпрост датычны афарыстыкі: «Юность довольствуется парадоксами, зрелость — пословицами, старость — афоризмами».

У 1935 годзе ў Парыжы выйшаў зборнік «Нескучный сад» [13]. Дарэчы, асобнік гэтай кнігі з дарчым надпісам «Дорогому Владимиру Михайловичу Зензинову с добрым чувством. Дон-Аминадо» захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Літаратурны крытык Георгій Адамовіч (1894—1972), прадстаўнік рускага замежжа, апублікаваў у эмігранцкай газеце «Последние новости» (1935, 2 мая) рэцэнзію на кнігу Дон-Амінада, у якой адзначалася: «Я умышленно употребляю слово «афоризм» и мысленно подчеркиваю его. Наша литература, в противоположность французской, до крайности бедна афористическим творчеством и почти ничем в этой области похвастаться не может. Кажется, Брюсов высказал мнение, что самый язык наш противится этой форме, что отчасти подтверждается катастрофическими неудачами в попытках перевести по-русски, с соответствующей точностью и силой, Ларошфуко или Лабрюйера. В Дон-Аминадо скрыт настоящий афорист, который способен был бы поколебать утверждение Брюсова. Говорю: «скрыт», потому что лишь изредка он дает себе волю, большей же частью добросовестно играет раз навсегда принятую роль» [14, с. 406].

Такое выказванне таксама здольна спрацаваць на думку, што афарыстыка М. Багдановіча была прадвесцем, адмысловым літаратурным прэцэдэнтам, але па шэрагу прычын засталася ў ценю невядомасці для розных нацыянальных культур, непрыцягальнай для даследчыцкай увагі.

**«Сатирикон» и «Новый Сатирикон».** Штотыднёвае выданне «Сатирикон» выходзіла ў Санкт-Пецярбургу ў 1908—1914 гг., яго спаткаемец «Новый Сатирикон» (1913—1918) публікаваўся ў перайменаванай Паўночнай сталіцы Расійскай імперыі г. Петраградзе. Рэдактарам абодвух выданняў быў у асноўным Аркадзій Аверчанка.

Сярод мноства сталічных і правінцыйных выданняў (іх на той час толькі сатырычнай скіраванасці існавала каля 250) часопісы пазіцыяналіся наступным чынам:

- штотыднёвы часопіс сатыры і гумару,
- багата ілюстраваны каляровымі малюнкамі і карыкатурамі часопіс вялікага фармату,
- малюнкі і тэкст лепшых рускіх мастакоў і пісьменнікаў.

З выданнем супрацоўнічалі вельмі папулярныя аўтары: Леанід Андрэеў, Іван Бунін, Аркадзій Бухаў, Яўгеній Венскі, Сяргей Гарадзецкі, Мікалай Гумілёў, Д'ор О. Л., Аляксандр Купрын, Тэфі, Саша Чорны і інш. Многія з сатырыконцаў пасля закрыцця часопіса ў 1918 г. апынуліся ў эміграцыі, на радзіме сапраўдны рэнесанс іх творчасці адбыўся ў 1990-х гг. Адзін з сучаснікаў пісаў, што дагэтуль у Расіі была сатыра, але не было смеху; з'яўленне часопіса азначала нараджэнне смеху.

У Петраградзе на Неўскім праспекце існавала выдавецтва «Новый Сатирикон», якое прапаноўвала тэматычныя падборы папулярнай друкаванай прадукцыі: гумарыстычныя альманахі, тэатральную і кішэнную бібліятэкі і інш.

Паколькі часопіс быў неверагодна папулярны сярод расійскай грамадскасці (яго рэгулярна чыталі імператар, чыноўнікі ўсіх рангаў, публічна цытавалі ў Дзярждуме), апублікавацца ў ім імкнуліся многія. Пра тое, што рэдакцыя праводзіла строгі адбор матэрыялаў і была вельмі патрабавальнай, сведчыць адмысловая рубрыка «Почтовый ящик "Сатирикона"», якую вёў у асноўным А. Аверчанка. У ёй коратка і хлёстка, у духу часопіса, даваліся характарыстыкі адкінутым допісам. Прывядзём асобныя мінірэцэнзіі, адна з якіх, што асабліва цікава, адрасавана жыхару шматнацыянальнага Мінска:

«Петербург. Бронницкая — Графу Б. —
Мужайтесь, граф! Стихи плохи».

«Минск — Липскеру… —
Моя невеста Роза
Не боится мороза;
И она вовсе без шипов —
Вот я каков!

Хорош, действительно. На вас нельзя смотреть без восхищения.

Ой, Липскер, Липскер! Чтобы вы таки были здоровы — зачем вы пишете таких стихов? Зачем вы нигде не признаете падежов?»

«Ростов-на-Д. — М. И. Га-ну. — «Я боюсь: а вдруг я зарыл свой талант?»
Не бойтесь — он не зарыт.
Он слишком поверхностен». («Сатирикон». 1912 г. № 51. 14 декабря.)

За супрацоўнікамі і аўтарамі выдання замацавалася найменне «сатырыконцы».

Да гэтай катэгорыі, як бачна з верша «Икра», М. Багдановіч адносіў і сябе:

*Приятель, что передо мной скорбел,*
*Ведет в большом издании отдел*
*Известий иностранных.*
*Теперь, наверно, моего знакомца*
*Поймет душа сатириконца* [1, т. 1, с. 337].

Іранічная назва твора адпавядае паняццю з сферы выдавецкай дзейнасці пачатку ХХ ст., гэта

*Густое, черное пятно,*
*На место вредное газеты заграничной*
*Наложенное к щедрости привычной*
*Решительною цензорской рукой…* [1, т. 1, с. 337].

У часопісе «Сатирикон» за подпісам **М. Б-вич** былі апублікаваны сёння вядомыя вершы «О, как уютно, чисто, мило…» (1912, № 30, 20 ліп.), «Городская любовь» (1912, № 46, 19 ліст.), «В горячем споре возражая беспрестанно…» (1912, № 49, 30 ліст.). Публікацыі ў часопісе «Новый Сатирикон» дагэтуль выяўлены не былі. Можна меркаваць, што для названых выданняў прызначаны некаторыя творы, якія ў Зборы твораў паэта пачалі друкавацца ў свой час з аўтографаў.

Навуковае вывучэнне дзейнасці часопіса мае свае традыцыі. У 1960 — 1970-х гг. даследаваннем паслядоўна, з выхадам выданняў кніжнага фармату займаўся адзін спецыяліст — Л. А. Спірыдонава (Еўсцігнеева) [15; 16; 17]. У апошнія дзесяцігоддзі актыўна выходзяць творы сатырыконцаў, але аналітычны разгляд большай часткай звадзіцца да прадмоў і пасляслоўяў, публікацый у перыядычным друку. На неабходнасць шматаспектных даследаванняў гэтай цікавай з’явы ў літаратуры і журналістыцы ўказваюць многія расійскія калегі.

**Дзіцячая тэма на старонках «Нового Сатирикона» і невядомы твор Багдановіча (?)**

Допіс (пакуль што назавём так) у часопіс «Новый Сатирикон», пра які пойдзе гаворка і які прэтэндуе на залічэнне ў спадчыну літаратурнага класіка, папярэдне патрабуе зрабіць некаторыя акцэнты. Гэтага вымагае і ўласна факт архіўнага адкрыцця, і ступень літаратуразнаўчай распрацаванасці тэмы (у нашым выпадку — «дзіцячай») у дачыненні да некалькіх кантэкстаў: творчасці М. Багдановіча (беларуска- і рускамоўнай), а таксама прадстаўленасці — у розным аўтарскім выкананні — на старонках названага перыядычнага выдання.

Часопіс аніяк нельга залічыць да дзіцячых, тым не менш творы адпаведнай тэматыкі публікаваліся досыць рэгулярна і прызначаліся, кажучы словамі Салтыкова-Шчадрына, «для детей изрядного возраста». У гэтым плане вельмі паказальная творчая практыка галоўнага рэдактара і мастацкага лідара часопіса Аркадзія Аверчанкі, аўтара кнігі «О маленьких — для больших. Рассказы о детях» (1916).

У гэтым выданні сабраны творы і выказаны думкі, якія ў многім тлумачаць рэдактарскую палітыку і аўтарскія прынцыпы «Нового сатирикона»:

«У детей всегда бывает странный, часто недоступный пониманию взрослых уклон мыслей.

Мысли идут по какому-то с в о е м у пути; от образов, которые складываются в их мозгу, веет прекрасной дикой свежестью» [18, с. 5].

У адным з твораў («Рассказ для «Лягушенка») на прапанову напісаць для дзіцячага выдання аўтар адказаў: «Это трудная задача, — признался я. — Мне случалось встречать восьмилетних детей, которые при угрозе отдать их бабе Яге моментально затихали, замирая от ужаса, и я знавал тринадцатилетних детишек, которые пользовались всяким случаем, чтобы стянуть из буфета бутылку водки; а при расчетах после азартной карточной игры, в укромном месте, пытались проткнуть ножами животы друг другу» [18, с. 106].




*Вокладка часопіса «Новый Сатирикон» з публікацыяй анекдота «Логика» М. Б. 1916 г. № 19. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

Асаблівую цікавасць уяўляе нерыфмаваны верш, які служыць прадмовай да кнігі і празрыста выводзіць на тыпалагічную сувязь з творчасцю класіка беларускай літаратуры:

Вы,
которые
любите их смеющимися,
улыбающимися, серьезными и плачущими…
Вы, которым дороги
они — всякого цвета и роста —
от
еле передвигающихся
на неверных ногах крошек,
с рученками, будто ниточками перехваченными
и губками, мокрыми и пухлыми —
до
ушастых веснущатых юнцов
с ломающимися голосами,
большими красными руками
и стриженными ежом волосами,
с движениями смешными и угловатыми —
— для вас эта книга,
потому что
большая любовь к детям водила рукой автора… [18, с. 3].

Прывядзём твор М. Багдановіча, добра вядомы біёграфам паэта, які датуецца ўмоўна 1910—1913 гадамі [1, т. 1, с. 703], па якім відавочна падабенства з прыведзеным урыўкам — і па арганізацыі тэксту, і па вобразнай сістэме:

*Больш за ўсё на свеце жадаю я,*
*Каб у мяне быў свой дзіцёнак —*
*Маленькая дачушка — немаўляшка,*
*Аня Максімаўна,*
*Такая прыгожанькая,*
*Цёпленькая, мокранькая,*
*З чорнымі валосікамі і броўкамі,*
*З цёмна-карымі вочкамі,*
*А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.*
*Зусім такая, як Вы,*
*Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай [1, т. 1, с. 427].*

Анекдот «Логика», падпісаны крыптанімам **М. Б.**, апублікавы ў № 19 часопіса «Новый Сатирикон» за 1916 год. Прывядзём яго поўны тэкст.

*Отец уговаривает сына рано вставать, причем рассказывает ему историю, как его знакомый рано утром нашел на улице кошелек с деньгами.*

*— Да, папаша, — сказал сын, — это правда, но человек, потерявший кошелек, еще раньше встал* [19, с. 8].

У гэтым нумары часопіс верны сваёй заўсёднай рэдактарскай палітыцы. Першая паласа адведзена карыкатуры на актуальную тэму вайны, гэтым разам дастаецца заакіянскай краіне. Дзядзька Сэм на караблі з лапатай перад куфэркам з манетамі. Унізе подпіс «Американское» і тэкст: «Оглушительный звон загребаемого лопатой золота мешает ему слышать крики о помощи утопающих в акеане…» А. Бухаў апублікаваў фельетон на Дзярждуму «Посетители. Апрель 1906 — апрель 1916». Дзіцячая тэма прадстаўлена на некалькіх старонках: гумарыстычнае апавяданне А. Аверчанкі «Цветы под градом» (с. 7—8); без указання аўтарства прыведзены тэкст «Тонкий подход» (размова дзіцяці і дарослага).

Сярод пастаянных аўтараў часопіса «Сатирикон» нам не ўдалося адшукаць з аналагічнымі загалоўнымі літарамі ў імёнах і прозвішчах. Цікава ў прынцыпе, чаму за гэтым анекдотам, жанрам па сваёй прыродзе ананімна-фальклорным, наогул захавалі аўтарства?

М. Багдановіч замацаваў сваю аўтарскую прысутнасць у названым штотыднёвіку крыптанімам ***М. Б-вич***, якім падпісаны вершы, апублікаваныя ў 1912 г.: «О, как уютно, чисто, мило…», «Городская любовь», «В горячем споре возражая беспрестанно…»

Паводле сістэматызацыі, праведзенай І. Саламевічам [3, с. 432—433], крыптанімам ***М. Б.*** (ініцыялы імя і прозвішча) падпісаны шэраг разнажанравых беларуска- і рускамоўных прац і твораў паэта. У 1913 — 1916 гг. такім чынам пазначана аўтарства на старонках рускіх перыядычных выданняў: «Голос», «Северная газета», «Русский экскурсант».

Калі папярэдне пагадзіцца, што перад намі твор М. Багдановіча (у раздзел «Dubia» ён адназначна павінен быць занесены), вызначаюцца як мінімум два нававыяўленыя факты, акрамя ўласна тэксту: прэцэдэнт супрацоўніцтва паэта з часопісам «Новый Сатирикон» (да гэтага былі вядомыя яго публікацыі ў больш папулярным «Сатириконе»); творчая практыка класіка беларускай літаратуры ў жанры анекдота. Дарэчы сказаць, што некалькі гадоў таму супрацоўніцай Літаратурнага музея М. Багдановіча Ірынай Мышкавец выяўлены невядомы твор аўтара «Вянка» — фельетон «Международный чемпионат и ярославцы», апублікаваны ў яраслаўскай газеце «Голос» (1909, № 189) за подпісам **Эхо** [20]. Гэтая знаходка таксама пацвярджае немалаважную прысутнасць іранічна-сатырычнага складніка ў творчасці класіка беларускай літаратуры.

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у якой мы працавалі з часопісамі «Сатирикон» і «Новый Сатирикон», захаваны далёка няпоўныя камплекты

названых выданняў. Таму відавочны перспектыўны кірунак працы ў кнігасховішчах Расіі з мэтай выяўлення твораў М. Багдановіча ў прынцыпе і пацвярджэнне або абвяржэнне яго аўтарства «Логікі» канкрэтна. Зусім не даследаванай, але вартай увагі, з'яўляецца тэма «Аркадзій Аверчанка і Максім Багдановіч».

## Спіс літаратуры:


1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992—1995. — Т. 1. — 752 с.; Т. 3. — 461 с.
2. Бачыла, А. Дарогамі Максіма / А. Бачыла. — 2-е выд., перапрац. і дап.— Мінск: Народная асвета, 1983. — 104 с.
3. Максім Багдановіч : энцыклапедыя; склад. І. У. Саламевіч, М. В. Трус; навук. рэд. М. В. Трус; рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. — 608 с.
4. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. — 2-е выд., дапрац. і дапоўн. — Мінск: Выш. шк., 1987. — 414 с.
5. Лявонава, Е. Семантыка катастрафічнага ў творчасці Максіма Багдановіча і еўрапейскі літаратурны вопыт / Е. Лявонава // Маладосць. — 2014. — № 5. — С. 36—42.
6. Бахарэвіч, А. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча / А. Бахарэвіч. — [Б. М.]: І. П. Логвінаў, 2012. — 421 с.
7. Жолковский, А. К. «Мне ни к чему одические рати…» (К тайнам ремесла Анны Ахматовой) / А. К. Жолковский. [Электронный ресурс]. — Режим доступа : http://www-bcf.usc.edu/~alik/rus/book/russianpoetry/15-odich-12.htm.
8. Ахматова, А. А. Стихотворения. Поэмы / А. А. Ахматова. — Москва: Дрофа, Вече, 2004. — 366 с. — (Библиотека отечественной классической художественной литературы).
9. Вольскі, В. Новыя аўтографы М. Багдановіча / В. Вольскі // Беларусь. — 1947. — № 5. — С. 32.
10. Ватацы, Н. Б. Максім Багдановіч. Паказальнік выданняў, аўтографаў і крытычнай літаратуры; пад. рэд. Р. Бярозкіна / Н. Б. Ватацы. — Мінск: Дзяржбібліятэка БССР імя У. І. Леніна, 1977. — 156 с.
11. Дон-Аминадо. Парадоксы жизни: Стихотворения, воспоминания, афоризмы; вступ. заметка, сост. и подгот. текста А. Ф. Маркова / Дон-Аминадо. — М.: Изд. Предприятие «Обновление», 1991. — 302 с.
12. Дон-Аминадо. Афоризмы / Дон-Аминадо // «Сатирикон» и сатириконцы; сост., вступ. ст. И. А. Мазнина. — М.: Эксмо-пресс : ЭКСМО-маркет, 2000. — С. 229—232.
13. Дон-Аминадо. Нескучный сад / Дон-Аминадо. — Париж: типогр. E.I.R.P., 1935. — 197.
14. Адамович, Г. Нескучный сад / Г. Адамович // Дон-Аминадо. «Чем ночь темней…»; сост., вступ. ст. и коммент. А. С. Иванова. — М.: Изд.торговый дом «Лет. Сад», 2000. — С. 405—408.
15. Евстигнеева, Л. А. Журнал «Сатирикон» и поэты-сатириконцы / Л. А. Евстигнеева. — М.: Наука, 1968. — 454 с.
16. Поэты «Сатирикона» : [Сборник] / Предисл. Г. Е. Рыклина; вступ. статья, биогр. справки, подгот. текста и примеч. Л. А. Евстигнеевой. — Л. — М.: Сов. писатель, 1966. — 364 с.
17. Спиридонова (Евстигнеева), Л. А. Русская сатирическая литература начала XX века / Л. А. Спиридонова (Евстигнеева). — М.: Наука, 1977. — 303 с.
18. Аверченко, А. О маленьких — для больших. Рассказы о детях / А. Аверченко. — Петроград: Издание журнала «Новый Сатирикон», 1916. — 186 с.

19. М. Б. Логика / М. Б. Новый Сатирикон. — 1916. — № 19. — С. 8.
20. Эхо. Международный чемпионат и ярославцы / Эхо // СБ Беларусь сегодня. — 14.03.2014. — С. 11.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 25 лістапада 2016 года.

**Рэзюмэ**

**Мікола ТРУС**

**Усмешка класіка: накіды некананічнага літаратурнага партрэта М. Багдановіча**

У артыкуле ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве разглядаецца іронія ў творчасці і светапоглядзе М. Багдановіча — у беларускім і рускім культурных кантэкстах пачатку XX ст. У якасці самадастатковай літаратурнай з’явы ацэньваецца афарыстыка паэта. Аб’ектам навуковай увагі становіцца таксама супрацоўніцтва класіка беларускай літаратуры з рускімі часопісамі «Сатирикон» і «Новый Сатирикон». У навуковы ўжытак уводзіцца невядомы твор М. Багдановіча, апублікаваны ў часопісе «Новый Сатирикон».

**Ключавыя словы:** літаратурны партрэт, іронія, гумар, сатыра, афарыстыка, Сярэбраны век, сатырычны часопіс, анекдот, архіўныя пошукі.

**Summary**

**Mikola TRUS**

**Smile classic: an outline of the non-canonical literary portrait of M. Bahdanovich**

In the first article in the Belarusian literary irony is seen in the works of M. Bahdanovich and outlook — in the Belarusian and Russian cultural contexts of the early twentieth century. As a self-contained literary phenomenon estimated afarystyka poet. The object of scientific attention is becoming the cooperation of Belarusian literature classics with Russian magazines «Satirikon» and «Novyi Satiricon». The scientific revolution was injected with unknown works of M. Bahdanovich, published in the journal «Novyi Satiricon».

**Keywords:** literary portrait, irony, humor, satire, afarystyka, Silver Age, a satirical magazine, anecdote, archival searches.



**Вячаслаў РАГОЙША**

# ПЕРАКЛАДЧЫЦКІ ВОПЫТ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

У адрозненне ад арыгінальнай літаратурна-мастацкай творчасці, найперш паэтычнай, перакладчыцкая творчасць *заўсёды* матывацыйна прадвызначана, абумоўлена пэўнымі мэтавымі ўстаноўкамі. Гэта толькі паэт можа, услед за Ганнай Ахматавай, са здзіўленнем усклікнуць: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи.» Перакладчык выразна бачыць (зрэшты, у гэтым яму дапамагаюць чытачы і крытыкі), дзе «сор», літаратурнае «смецце», а дзе багаты плён іншанацыянальнай літаратурнай нівы, якім яму патрэбна ўзбагаціць свайго чытача і роднае пісьменства. Зрэшты, і ў арыгінальнай творчасці, як слушна сведчыў Максім Багдановіч, «поэт всегда обдуманно творит», вобразна пацвердзіўшы гэту ісціну:

Что из того, что стих в душе кипит?
Он через холод мысли протекает
И тут лишь твердость формы обретает,
Как воск, что при гаданьи в воду влит.

*(«Сонет»)*

Праўда, у арыгінальнай творчасці суадносіны паміж рацыянальным і эмацыянальным, усвядомленым і інтуітыўным, некалькі адрозніваюцца. У адных паэтаў гэтак званая творчая «ланцуговая рэакцыя», як у Аляксандра Твардоўскага ці ў той жа Ганны Ахматавай, можа пачынацца з «іскры» слова ці тропа, г. зн. з семантычнага кампанента, у іншых, як ва Уладзіміра Маякоўскага, — з нейкага рытмічнага гулу, які толькі затым «пакрываецца словамі». Аднак і ў першым і ў другім выпадку вынікі нават самага гарачага паэтычнага натхнення калі не адразу, то пасля ўсё роўна працякаюць «через холод мысли»: твор праз нейкі час, адляжаўшыся, ацэньваецца «на цвярозы розум». Што ж да арыгінальнай творчасці паэта Максіма Багдановіча, то ў ёй заўважаецца арганічнае і звычайна адначасовае паяднанне таго і другога, эмацыянальнага і рацыянальнага, думкі і пачуцця. У той жа час дзейнасць Багдановіча-перакладчыка сведчыць пра *апераджальную ролю думкі, рацыянальнага пачатку* ў ёй. Ва ўсялякім разе — на пачатковым этапе перакладчыцкай творчасці, калі перакладчык «всегда обдуманно творит» (падкрэслім гэтае «всегда»), выбіраючы творы для перакладу. А выбар гэты якраз і прадвызначаўся *мэтамі, задачамі перакладу*.

Практычнае вырашэнне тых ці іншых перакладчыцкіх мэт звязана з актуалізацыяй пэўных функцый перакладу. Розныя перакладазнаўцы налічваюць розную колькасць гэтых функцый. Так, славак Антон Попавіч гаворыць пра тры: *інфармацыйную, грамадска-культурную і літаратурную*. Украінец Віктар Радчук вызначае чатыры: *пазнавальную, эстэтычную, узбагачэнне ўспрымаючай літаратуры, развіццё ўспрымаючай мовы*. На самай справе, такіх функцый можна налічыць значна больш, звыш дзесяці. Апрача *азнаямленчай* («інфармацыйнай», «пазнавальнай» — у тэрміналогіі А. Попавіча і В. Радчука), *эстэтычнай* (стварэнне самадастатковага, эстэтычна паўнацэннага твора),

*сацыякультурнай* («грамадска-культурнай» — А. Попавіч), *літаратуратворчай* і *моватворчай* («развіццё ўспрымаючай літаратуры», «развіццё ўспрымаючай мовы» — В. Радчук), вылучаецца яшчэ цэлы шэраг. Сярод іх — *генетычная* (роля перакладу ва ўзнікненні нацыянальнай літаратуры), *ідэйна-палітычная* (прыўнясенне ў свядомасць грамадства праз перакладны твор пэўных палітычных ідэй), *інтэрнацыяналізуючая* (удзел перакладу ва ўзнікненні полікультурнасці нацыі), *культураахоўная* (захаванне, развіццё роднай для перакладчыка культуры і яе сарцавіны — нацыянальнай мовы), *эўрыстычная* (выяўленне своеасаблівага перакладчыцкага таленту літаратара), *пабуджальная* (пераклад нярэдка выклікае імкненне пазнаёміцца з арыгіналам), *ілюстрацыйная* (пераклад урыўкаў з твораў дзеля пацвярджэння пэўных думак) і нават *утылітарная* (пераклад твораў «па знаёмстве», дзеля заробку і г. д.). Пераўвасабляючы той ці іншы твор, перакладчык звычайна кіруецца адной галоўнай мэтай: пазнаёміць свайго чытача з раней невядомым яму творам, наладзіць ці замацаваць міжлітаратурныя і міжкультурныя сувязі, удасканаліць нейкі стылёвы пласт роднай мовы, аргументаваць сваю думку пра вартасць нейкага замежнага пісьменніка (напрыклад, у крытычным артыкуле) і г. д. Пры гэтым актуалізуецца, аднак, не адна — вядучая — функцыя перакладу, але, як правіла, некалькі іншых. Так, кожны таленавіты і разумны перакладчык (а менавіта такім перакладчыкам быў Максім Багдановіч) не толькі жадае пазнаёміць свайго чытача з невядомым яму выдатным творам іншанацыянальнай літаратуры, але і імкнецца да таго, каб гэты пераклад быў адэкватным, эстэтычна паўнацэнным, каб ён пашырыў ідэйна-мастацкі патэнцыял роднай літаратуры, стылёвыя мажлівасці роднай мовы і г. д. Такі перакладчык, нават калі ён кіруецца найперш нейкай кан'юнктурнай мэтай, актуалізуе пры гэтым і некаторыя іншыя функцыі мастацкага перакладу: азнаямленчую, пабуджальную, нацыяахоўную ці нейкую іншую.

Як вядома, Максім Багдановіч супрацоўнічаў з некаторымі расійскімі перыядычнымі выданнямі (часопісамі «Русский экскурсант», «Жизнь для всех», «Национальные проблемы», газетамі «Голос», «Северная газета» і інш.) і дзеля звычайнага заробку. Найперш дзеля заробку ён па замове кіяўляніна Паўла Багацкага ўклаў і пераклаў на рускую мову і анталогію беларускага апавядання пачатку XX ст., якая, на жаль, своечасова не выйшла ў свет і рукапіс якой, мабыць, страчаны канчаткова. Заробак той мусіў пайсці на выданне «Вянка». Такім чынам, галоўная мэта Багдановіча як перакладчыка была чыста ўтылітарная. Аднак пры гэтым, зразумела, пераклад Багдановіча вырашаў не толькі ўтылітарную, але і некаторыя іншыя функцыі, прынамсі азнаямленчую і нават эстэтычную. Хоць вырашаць іх было (асабліва другую функцыю) даволі складана, бо, як пісаў перакладчык у рэдакцыю «Нашай нівы» 14 лістапада 1912 года, «пераклады выйшлі не зусім добрыя, бо арыгіналы часта маюць розныя перашкоды ў будоўлі фразы. Звычайна, трошкі абгладжваць я сабе дазваляў, але памятаваў добра, што перакладчык — не рэдактар, асабліва калі перакладае з такой блізкай мовы».

Канешне, найперш у імя азнаямлення рускіх чытачоў з творамі некаторых украінскіх паэтаў (Т. Шаўчэнкі, А. Крымскага, І. Франко, У. Самійленкі), а таксама беларуса Янкі Купалы перакладаў Багдановіч іх асобныя вершы на рускую мову. Але ж пры гэтым імкнуўся і да паўнацэннасці перакладаў як эстэтычна самадастатковых твораў, выяўляючы свае творчыя магчымасці як перакладчыка (*эўрыстычная* функцыя), садзейнічаючы развіццю ўсходнеславянскіх літаратурных кантактаў (*сацыякультурная* функцыя). Як, зрэшты, *не толькі азнаямленчая* функцыя актуалізавалася пры ўкладанні ім зборніка аўтаперакладаў «Зеленя», хоць гэта арыгінальная рукапісная кніжка прызначалася не для шырокага карыстання, а толькі для стрыечнай сястры паэта Ганны Іванаўны Гапановіч (Нюты), якая не валодала беларускай мовай і не магла ацаніць паэтычных вартасцей твораў брата. Урэшце, *не адны ілюстрацыйныя* функцыі выконвалі і шматлікія пераклады на рускую мову ўрыўкаў з празаічных і вершаваных твораў украінскіх і

польскіх аўтараў (М. Кацюбінскага, К. Тэтмаера, І. Франко, С. Чарнецкага), якія Багдановіч уключыў у свае ўкраіназнаўчыя працы «Угорская Русь», «Образы Галиции в художественной литературе». Гэтыя ўрыўкі былі нярэдка першай прэзентацыяй твора замежнага аўтара на рускай мове. Выкананыя на высокім перакладчыцкім узроўні, эстэтычна дасканалыя, яны *пабуджалі* рускіх (і чытачоў, і крытыкаў, і перакладчыкаў) звярнуцца да арыгінала.

Такім чынам, асобныя пераклады Багдановіча напрамую былі звязаны з *азнаямленчымі*, *ілюстрацыйнымі* і нават чыста *ўтылітарнымі* мэтамі (хоць, як мы бачылі, адначасова выконвалі і іншыя функцыі). Аднак аналіз усёй перакладчыцкай дзейнасці Максіма Багдановіча дазваляе вызначыць яе найгалоўную *матывацыю*. Як вядома, адной з першаступенных задач аўтара «Вянка» з самага пачатку яго творчасці была, па яго словах, наступная: «прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда». Бо, як пісаў Багдановіч у артыкуле «Забыты шлях», «мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія… Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавой культуры. Пры гэтым свядома вырашалася і другая надзвычай важная задача: «давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы». Гэта былі дзве цалкам усвядомленыя *мэты* не толькі арыгінальнай, але адначасова і перакладчыцкай творчасці Максіма Багдановіча. Зрэшты, яны дыялектычна ўзаемна дапаўнялі адна другую. Адсюль — актуалізацыя найперш такіх функцый мастацкага перакладу, як *літаратуратворчая* і *культурааховная*.

Значэнне багдановічаўскіх перакладаў найперш у тым, што яны ліквідоўвалі своеасаблівыя белыя плямы на літаратурнай карце беларускай нацыі, дапаўнялі ўвогуле небагаты ў пачатку XX ст. эстэтычны патэнцыял нацыянальнай літаратурна-мастацкай творчасці, пашыралі яе жанрава-стылёвы дыяпазон. Нельга не згадзіцца з Леанідам Казырам, што ў перакладах Максім Багдановіч «бачыў не толькі спосаб далучэння беларускага чытача да літаратур іншых народаў, але перш за ўсё — актыўны каталізатар, які павінен быў пашыраць і ўзбагачаць ідэйна-тэматычныя, вобразныя, сюжэтныя, фармальныя выяўленчыя сродкі і магчымасці роднай літаратуры і мовы». Скажам больш катэгарычна: пераклады свядома былі скіраваны не на чытача, на яго звычайныя будзённыя патрэбы, у тым ліку на далучэнне яго «да літаратур іншых народаў», а *ў першую чаргу на беларускую пісьменнасць*, каб «памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд». На чытача была скіравана найперш арыгінальная творчасць паэта, эсэіста і літаратуразнаўца Максіма Багдановіча, хоць і тут ён вырашаў дзве вышэй азначаныя задачы праз выкарыстанне розных вышуканых класічных форм верша (санет, трыялет, тэрцыны, рандо і інш.), прынцыпаў вершавання (гекзаметр, пентаметр, верлібр і інш.).

Зрэшты, як маглі далучаць беларускага чытача да іншанацыянальных літаратур беларускамоўныя пераклады Багдановіча, калі з усіх іх толькі некалькі пры жыцці перакладчыка з'явіліся ў друку? Так, з 22 перакладзеных вершаў Поля Верлена толькі 2 былі надрукаваны ў «Нашай ніве» («...У полі дзікім і апусцелым» і «Млоснасць»). Там жа былі змешчаны верш «…Ў паўночным краю на кургане» Генрыха Гейнэ (з 6 перакладзеных), «Дзве песні» рускага паэта Юрыя Святагора і чатырохрадковая філасафема Фрыдрыха Шылера «…Хочаш сябе ты пазнаць». Яшчэ некалькі перакладзеных вершаў («Грамада зорак «Карона» Авідзія — з лацінскай мовы, «…Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну» Агафангела Крымскага, «…Ўжо зноў не спаткаюцца тыя шляхі» Міколы Чарняўскага, «…Пекла было тут у тую часіну» і «Астры» Алеся — з украінскай мовы) увайшлі ў нізку «Старая спадчына» знакамітага «Вянка». Вось, бадай, і ўсё. Па розных прычынах толькі пасля смерці перакладчыка (у асноўным у «Творах» 1927 года выдання) з чарнавых і белавых аўтографаў быў апублікаваны асноўны корпус яго перакладаў з Поля Верлена (20 вершаў) і Генрыха Гейнэ (5 вершаў),

«Памятнік» Гарацыя, «Ікар і Дзедал» Авідзія, «Паўстанне» бельгійца Эміля Верхарна, «Санет» («…Я тайну ў глыбіні душы хаваю») француза Алексіса-Фелікса Арвера, «Паво» фіна Ёхана Людвіга Рунеберга, вершы рускіх паэтаў Аляксандра Пушкіна «…Сяджу я ў турме за рашоткай гады» («Узник»), Апалона Майкава «…Золата, золата падае з неба» («Летний дождь») і Міхаіла Розенгейма «…Цяжкая дарога» («…Тяжела дорога»). Немагчыма сёння вызначыць, якія аб'ектыўныя або суб'ектыўныя прычыны не дазволілі гэтым перакладам з'явіцца своечасова ў друку. Магчыма, і сам перакладчык бачыў недасканаласць (найперш моўную) некаторых з іх. Асобныя, што актуалізавалі ідэйна-палітычную функцыю (напрыклад, пераклад «Паўстання» Э. Верхарна, зроблены за тры гады да 1917 г.), відавочна, не маглі трапіць у друк з-за цэнзурных перашкод. І ўсё ж узнікненне абсалютнай большасці беларускамоўных перакладаў, тым больш тых, якія Багдановіч настойліва імкнуўся апублікаваць, было функцыянальна прадвызначана найперш дзвюма мэтамі — літаратуратворчай і культурaахоўнай (а ў шырокім сэнсе — нацыяахоўнай).

Так, пераклад урыўкаў з 8-й песні «Метамарфозаў» Авідзія («Ікар і Дзедал», «Грамада зорак «Карона») быў закліканы замацаваць у беларускай паэзіі антычны памер гекзаметра, пацвярджаючы дасканаласць імітацыі гэтага памера ў арыгінальных элегічных двувершах самога Багдановіча («Непагодаю маёвай» і «Пентаметры»). Своеасаблівым доказам дасканаласці ўласных класічных санетаў аўтара «Вянка» можа служыць і пераклад ім «Санета» А.-Ф. Арвера. А што да ўзнаўлення «Памятніка» Гарацыя, то гэта першы ў беларускай паэзіі і ледзь не адзіны да гэтага часу твор, напісаны асклепіядаўскім вершам. Памерам, які не змаглі адолець у свой час нават такія майстры рускага мастацкага перакладу, як М. Ламаносаў, Г. Дзяржавін, А. Фет і некаторыя іншыя.

Як вядома, Багдановіч як перакладчык найбольшую ўвагу ўдзяліў славутаму французскаму паэту-сімвалісту Полю Верлену. Пераклады з Верлена ён вельмі хацеў уключыць у свой «Вянок», пра што сведчаць яго лісты з Яраслаўля ў рэдакцыю «Нашай нівы», супрацоўнікі якой (найперш Вацлаў Ластоўскі) рыхтавалі зборнік да друку. «Надумаўся я памясціць у зборнічак і пераклады з Верлена… Пераклады да арыгінала блізкія і, калі я магу іх справядліва ацаніць, — добрыя», — пісаў Багдановіч у лісце ад 29 ліпеня 1912 г. І тут жа раіў: каб не павялічваць зборнік, выкінуць 20 уласных вершаў, а замест іх уключыць 21 пераклад з Верлена, стварыўшы ў «Вянку» асобны раздзел «З чужой глебы». Прычым, ён вызначыў і строгі парадак друкавання кожнага з гэтых перакладаў. Ужо адно гэта сведчыць пра тую значнасць, якая надавалася ім верленаўскім творам. Аднак па нейкай прычыне ні перакладаў з Верлена, ні самой нізкі «З чужой глебы» ў «Вянку» не аказалася. Зусім магчыма, што іх напаткаў лёс першых уласных вершаў паэта, абазваных некаторымі нашаніўцамі «дэкадэншчынай», творамі «не для народа». Тады ў рэдакцыі «Нашай нівы» з архіўных паліц на свет белы іх выцягнуў Сяргей Палуян, даказаў іх вартасць і пасадзейнічаў публікацыі. Цяпер жа такога Палуяна побач не аказалася, пераклады твораў сімваліста Верлена былі здадзены ў архіў…

Выдаўцы Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча ў 3-х тамах выканалі аўтарскую волю: у кнігу «Вянок» уключылі, як тое і хацеў паэт, асобны раздзел «З чужой глебы», а ў яго — усе пераклады з Верлена ў прапанаваным перакладчыкам парадку. І сталі надзвычай добра бачны матывы, якімі кіраваўся Багдановіч, не толькі перакладаючы Верлена, але і намагаючыся ўключыць пераклады ў свой першы (і апошні) прыжыццёвы паэтычны зборнік, ахвяруючы пры гэтым сваімі ўласнымі творамі. Пераклады з Верлена павінны былі выконваць найперш тыя ж функцыі, пра якія мы гаварылі раней: *літаратуратворчую і культураахоўную*. Уводзячы модны ў той час сімвалізм у кантэкст маладой беларускай літаратуры, беларускі паэт не толькі пашыраў яе выяўленчыя межы, паказваў, што «ў нас кожны кірунак можа мець цэннасць», але і дэманстраваў вялікія магчымасці бела-

рускай мовы, якая не горш за французскую здольная перадаваць самыя тонкія адценні думак і пачуццяў. А тым самым *даказвалася самастойнасць і вартасць беларускай мовы* (а не «наречия»), права беларусаў называцца не «племенем», а *народам*. Разам з тым такі тонкі лірык і віртуоз вершавання, як Поль Верлен, мог даць нават у адносна невялікай вершаванай нізцы своеасаблівы майстар-клас па «абробцы» верша, паэтычнай тэхніцы. А гэта было патрэбна не столькі самому Багдановічу, колькі дзясяткам маладых беларускіх паэтаў-пачаткоўцаў, якія, нацыянальна абуджаныя рэвалюцыяй 1905—1907 гг., «ад сахі і касы» масава ішлі ў літаратуру, — для «палепшання версіфікатарскай снароўкі». Максім Багдановіч у вершы «Песняру», звяртаючыся да такога паэта-пачаткоўца, «брата маладога», нагадваў, што «ў грудзях у людзей сэрцы цвёрдыя, быццам з камення», што трэба «каваць, гартаваць гібкі верш, абрабіць яго трэба з цярпеннем». Цяпер жа з маладымі беларускімі песнярамі гаварыў на іх мове агульнапрызнаны еўрапейскі літаратурны мэтр, ды не мовай заклікаў, а мовай жывых канкрэтных прыкладаў. Эстэтычна паўнацэнны беларускамоўны цыкл твораў Верлена, апрача ўсяго, з’явіўся, па сутнасці, своеасаблівым вучэбным дапаможнікам па паэтыцы верша, яго рытміцы, строфіцы, гукапісе…

Першы ўжо верш гэтага перакладнога цыкла «…Рыцар Няшчасце, што скрозь ездзіць пад маскай маўчком» — яскравы прыклад імітацыі антычнага пентаметра (заўважым у дужках, што ўкладальнікі 1-га тома ПЗТ паэта ў заўвагах да твора памылкова пішуць, што «верш перакладзены асклепіядаўскім вершам»). Пентаметр у Антычнасці звычайна ўжываўся разам з гекзаметрам, утвараючы элегічны двуверш. А тут — надзвычай рэдкі «чысты» пентаметр… З дапамогай Верлена Багдановіч дэманстраваў і мажлівасці александрыйскага верша («…Гул вулічных шынкоў; панельны бруд; каштаны», «…Трэск дроў; газніцы блеск няяркі; за сталом», «…Ноч. Дождж. Нябёс імгла. Абрысам цёмным рэжа»). Прысутнічае і такі рэдкі від сілаба-танічнага верша, як лагаэд («…Як раньш, пяе» — Я22Х2Я22Х2, «Плач сэрца майго» — Ам2Ан222). Сярод разнастайных вершаваных памераў (Х2, Х3, Х4; Я2, Я3, Я4, Я5, Я6; Д2, Д4; Ам2; Ан2, Ан4) вылучаюцца творы з цэзураваным усячэннем («…Ціхі і сіні блішча над хатай» — Д4Цу1Д2Д4Цу1Д2) і цэзураваным нарашчэннем («…У полі дзікім і апусцелым» — Я4Цн1Я4Цн1). Сярод строфаў сустракаюцца двухрадкоўі, трохрадкоўі, чатырохрадкоўі (найчасцей) і шасціраткоўі з мужчынскімі і жаночымі рыфмамі, звязаныя парнай, перакрыжаванай і апаяснай рыфмоўкай. Ёсць і цвёрдыя формы верша: санеты («Шынок», «Млоснасць») і тэрцына («Ракаўкі»). Паэты-сімвалісты асабліва ўпадабалі музычнасць верша. Сваім гукапісам, музыкай асанансаў і алітэрацый вылучаюцца і вершы Верлена. Гэтую ўласцівасць яны маюць і ў багдановічаўскіх перакладах («…Раяль цалуе тонкая рука», «Асенняя песня» і інш.). З сінтаксічных кампанентаў, залучаных для выяўлення самых тонкіх зрухаў пачуцця, заўважаюцца розныя паўторы, у тым ліку таўталагічныя, бяззлучнікавасць, рэфрэн, міжрадковы перанос, розныя рытарычныя фігуры і інш. Такім чынам, перад намі, сапраўды, наглядны курс паэтыкі верша ў яе практычным увасабленні. «Я шчыра жадаў бы, каб гэтыя вершы мелі дзе якой культурны ўплыў на нашых песняроў», — пісаў Максім Багдановіч, маючы на ўвазе некаторыя ўласныя творы. Гэта ён мог бы з поўным правам сказаць і адносна сваіх перакладаў вершаў Верлена. Бо менавіта такімі ж клопатамі быў праняты, узнаўляючы па-беларуску французскія арыгіналы, а пасля стараючыся іх апублікаваць у «Вянку».

Такім чынам, Максім Багдановіч як перакладчык актуалізаваў самыя розныя мэты перакладу: *эстэтычную, азнаямленчую, сацыякультурную, пабуджальную, ілюстрацыйную*, нават *утылітарную* і некаторыя іншыя. Аднак самыя галоўныя для яго былі — *літаратуратворчая і культурааховая*. Тым самым яго перакладчыцкая творчасць дапаўняла і ўзбагачала творчасць арыгінальную, што выконвала найперш тыя самыя мэты.

Цімафей ЛІЯКУМОВІЧ

# ВЫТАНЧАНАСЦЬ КРЫЛАТЫХ ВЫСЛОЎЯЎ

***Следовать за мыслями великого человека есть наўка самая занимательная.***

А. С. ПУШКИН

Напоўненасць твораў М. Багдановіча крылатымі выразамі — сведчанне выключных разумовых здольнасцей, гістарычнага мыслення, захапляльнай цікавасці жыццём, учэпістай назіральнасці, самабытнай адметнасці паэтычнага таленту, надзвычайнай чуйнасці і патрабавальнасці да слова і адчування меры славеснай гнуткасці, сур'ёзнага і адказнага ўнутранага падыходу да сваёй працы, палкага жадання паказаць свайму народу яго духоўную сілу і красу роднай мовы. Мастацкае майстэрства паэта выяўлялася ва ўменні адмаўляцца ад усяго лішняга, другараднага і выпадковага ў сказе, сканцэнтроўваць сваю думку на выяўленні галоўнага ў вобразнай сістэме, каб зрабіць патрэбнае ўражанне і ўздзейнічанне на чытача. Паспяхова дасягнуць такога эфекту было б немагчыма без руплівай апрацоўкі слова, без адчування ягонай важкасці ў адпаведным кантэксце, сэнсавага і стылёвага адзінага месца ў сказе, без клопату пра форму, у якой яно атрымае каларытную афарбоўку.

Прадуманае выказванне набалелага на сэрцы, задушэўных пачуццяў выразнымі выяўленчымі сродкамі з улікам рытмічна-інтанацыйнай пабудовы фразы, вершаванага радка і ўсяго твора надавалі зместу важкасць, а выразу афарыстычнасць, убіралі ў сябе народную мудрасць, адпаведную народнай маралі і народным поглядам на жыццёвыя з'явы. Вытанчаныя крылатыя выслоўі з твораў паэта, што ўражваюць вобразнай дакладнасцю і прываблiваюць сілай адметнага радка, — нагляднае пацвярджэнне заканамернасці той мастацкай вышыні, на якой знаходзіцца М. Багдановіч у беларускай культуры.

Аўтар «Вянка» любіў і захапляўся беларускім сродкам чалавечых зносін, выказваў на роднай мове думкі з уласцівым ёй фанетычна-граматычным ладам і імкнуўся паказаць арыгінальную красу, дапамагаў афармленню гутарковай мовы ў літаратурную, чым спрыяў афармленню беларускай інтэлігенцыі, для якой родная мова была «дорогой, близкой и понятной». Пісьменнік клапаціўся пра пашырэнне адраджэнскіх ідэй у беларускім грамадстве, пра ўдасканальванне мастацкага майстэрства беларускіх пісьменнікаў, таму хацеў сваімі творамі «давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы, бо я ім здавальняў нават у драбніцах, іншы раз вельмі цяжкіх /.../ Я шчыра жадаў бы, каб гэтыя вершы мелі дзе якой культурны ўплыў на нашых песняроў».

Дый да самога М. Багдановіча можна з поўным правам аднесці тую характарыстыку, якой ён тлумачыў асаблівасці творчай сістэмы рускага паэта першай паловы XIX стагоддзя Я. Баратынскага: «Поэт, поражающий сжатостью стиха, точностью эпитета, изящной афористичностью изложения, поэт, влекущий к себе неўстанной работой мысли, всегда глубокой и значительной...»

Алег Лойка, калі шукаў вытокі выключнай чуйнасці паэта да роднага слова, канстатаваў і падсумаваў: «Аб «стылёвым подзвігу» М. Багдановіча гавораць даследчыкі, калі пачынаюць аналізаваць мову яго паэзіі, якая ёсць па сваім духу, па сваёй культуры менавіта сучасная. Што? Багдановіч чуў, як мы гаворым, чуў нашы вершы? Гэта тым больш здзіўляе, бо як беларускі паэт, ён рос, пісаў большасць сваіх вершаў над Волгай, адарваны ад жывых крыніц мовы сваіх продкаў, ад жывой тагачаснай мовы беларусаў. Адказ на папярэдняе пытанне толькі адзін: чуў. Чуў гэтаксама, як чуў мову Францыска Скарыны, калі пісаў «Апокрыф» і «Безнадзейнасць», як чуў мову «Слова пра паход Ігаравы», калі перакладаў «Песню пра князя Ізяслава Полацкага». Чуў, бо роўна, як у будучым, быў у мінулым, бо яго паэтычны слых быў абсалютным, як музычны ў Бетховена ці Чайкоўскага».

А ад стылю, — як сцвярджаў В. Гюго, — залежыць магутнасць твора і бессмяротнасць паэта, бо прыгожыя выказванні аздабляюць прыгожыя погляды і меркаванні аб тым, што адпавядае гуманістычным ідэалам і законам характва, і замацоўваюць тое, што адначасова з'яўляецца і ўпрыгожваннем, і ўзбройваннем, таму што стыль для ідэі, па ягонай думцы, — тое ж самае, што эмаль для зуба.

Вядома, што М. Багдановіч надаваў значную ўвагу лаканічнасці, дакладнасці і вобразнасці выказвання трапнай думкі, унікліва прыглядаўся да каларытных выказванняў іншых пісьменнікаў, да народных прыказак і прымавак. Наглядна аб гэтым сведчаць ягоныя запісы рэльефных выразаў на тых нямногіх старонках, што выпадкова дайшлі да нас з блакнота, большая частка якіх, відаць, згубілася, а таксама эпіграфы да яго вершаў з афарызмамі і крылатымі выразамі з твораў А. Пушкіна, Я. Баратынскага, А. Фета, В. Брусава, П. Верлена, Г. Гейнэ, В. Гюго, якія лічыў важкім мастацкім кампанентам, што спрыяе выяўленню ідэі і праблемы твора, актывізуе чытацкую думку адпаведнымі асацыяцыямі.

Некаторыя ж з уражальных выказванняў сусветнавядомых літаратурных славутасцей выкарыстаны ім для напісання ўласных твораў, як, напрыклад, верша «Успамін» з апорай на выслоўе старажытнарымскага паэта Г. Катула, або — верша «Плакала лета, зямлю пакідаючы...», штуршком для напісання якога паслужыў пушкінскі верш «Цветы последние милей...»

Максім Багдановіч імкнуўся да таго, каб выявіць разнастайныя фарбы роднага слова, пры дапамозе якога беларуская славеснасць зрабілася значнай літаратурай славянскага свету, і ўнёс сваім талентам прыстойны ўклад у ажыццяўленне сваёй мары. У артыкуле «Глыбі і слаі» ў самахарактарыстыцы свайго творчага метаду адлюстравання рэчаіснасці адзначаў: «Ён усю сваю ўвагу звяртае на абразнасць зместу вершаў і разам з тым клапоціцца аб згушчанасці яго, спадзеючыся прыдаць ім праз гэта асаблівую сілу...» Свежыя і чаканыя, ёмістыя і выразныя праўдзівыя думкі па-мастацку чуйна апрацоўваліся і афармляліся ім у нацыянальна каларытных беларускіх моўных адзінках. Паэт зрабіў каштоўны ўклад у засваенне сродкаў адлюстравання рэчаіснасці і пашырыў перспектывы перад беларускім прыгожым пісьменствам.

Глыбокія пачуцці, дакладная насычанасць слушных сцвярджэнняў і выразнасць устойлівых вобразных думак М. Багдановіча і строга арганізацыйна-практычны парадак іх выказвання, якія адпавядалі жывой рэчаіснасці, настолькі сканцэнтраваны, што многія радкі, дзякуючы сваёй завершанасці і зразумеласці, нават вылучаныя з кантэксту, набываюць самастойнае значэнне і пры гэтым не губляюць духоўны змест твора, з якога ўзяты: «Адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць» («Забыты шлях»); «Усё знікае, праходзіць як дым / Светлы ж след будзе вечна жывым» («С. Е. Палуяну»); «Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш» («Песняру») і інш. Шырока выкарыстоўваў М. Багдановіч супастаўляльнае збліжэнне супрацьлеглых з'яў: «Ды што мне цемень вечнай ночы, / Калі глядзеў на сонца я...» («Трыялет»); «Браток! Ці ж вачэй не маеш — / Арлом варону называеш?» («Варона і чыж»); «...Рупная пчала / Умее ў соты мёд зыбраць і з

горкіх кветак» («Летапісец») і інш. Часам афарызмы выклікаюць чароўнадзіўнае ўражанне нечаканымі парадаксальнымі супастаўленнямі: «Хваробы лечаць і атрутамі» («Уступ»); «Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, — / Яны ж мне каменні давалі» («З песень беларускага мужыка») і інш. Шэраг афарызмаў М. Багдановіча яркасцю эмацыянальна-экспрэсіўных азначэнняў ператвараецца ў крылатыя словы: «Пралятайце гады, / Залатымі агнямі» («Маладыя гады»); «Пекна спяваюць і жабы» («Вы кажаце мне, што душа ў паэта...»); «Падымі угару сваё вока...» («Падымі угару сваё вока..»); «Не давайце чужынцамі быць!» («Пагоня»); «Не на трох кітах трымаецца зямля» («Пан і мужык») і інш., якія выкарыстоўваюцца ўжо як зліткі народнай мудрасці, бо дапамагаюць з новага боку зразумець і ацаніць нават знаёмыя падзеі, з'явы і ўяўленні, па-новаму асвятляць жыццёвыя праблемы. Крылатыя выслоўі М. Багдановіча, у якіх усё выказана даходліва і ясна і да таго ж лёгка запамінаецца, увабралі ў сябе непаўторны духоўны воблік паэта, ягоную творчую індывідуальнасць, светлыя парыванні яго душы і з надзвычайнай трапнасцю абмалёўкі выказваюць сутнасць досыць складаных з'яў, цвярозыя погляды на жыццё, на неабходнасць вызвалення прыгнечанага беларускага народа з путаў нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, на неабходнасць адраджэння беларускай культуры, на ролю літаратуры ў грамадскім жыцці. У сваю чаргу яны яскрава выяўляюць і ўдакладняюць ідэйны пафас адметнага беларускага класіка, дазваляюць адчуць асаблівы колер яго прывабнага слова.

Афарызмы М. Багдановіча — прамяністы доказ жыватворнай магутнасці беларускай мовы, сведчанне сталасці і мудрасці мастацкіх разлікаў і гуманістычнага светапогляду паэта, які абагаціў беларускую эстэтычную думку. Ім, акрэсленым трапна і лаканічна ў адточанай артыстычнай форме, наканавана з неаслабнай нязгубленай сілай западаць у душы прадстаўнікоў усё новых пакаленняў, працягваць энергічна служыць паспяховай мабілізацыі невычэрпнаму патэнцыялу сродкаў беларускай мовы і літаратуры і адначасова заставацца важным сродкам уздзеяння на свядомасць і паводзіны людзей, натхняць і накіроўваць дзейнасць чалавека на стварэнне культурных, духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей.



**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

# «ЛЮБОЎ МАЯ ВЫСОКАЯ, ЯК НЕБА...»



*Прабіўся праз гадоў пясок*
*Сцяблінкай тоненькаю, кволай*
*І я — шурпаты каласок*
*На ніве той, дзе сеяў Колас.*

Мікола МАЛЯЎКА

## «Гуляў у футбол, а тут...»

Хоць ва ўсіх друкаваных крыніцах засведчана, што «першыя вершы Міколы Маляўкі “Мой сусед”, “Вясенні час” былі надрукаваны ў газеце “Чырвоная змена” ў 1957 годзе», хачу засумнявацца ў дакладнасці такога сцвярджэння, бо гэта, упэўнены, адбылося раней. І не ў «Чырвонцы». Чым падмацавана мая выснова, гэта прычына сумнявацца?

Так выйшла, што і ён, вучань Мікалаеўшчынскай СШ Стаўбцоўскага раёна, і я, таксама вясковы школьнік, але з Гомельшчыны, пачыналі пісаць на дзвюх мовах — рускай і беларускай. З дзяцінства сябравалі з газетай «Зорька», з вялікай цікавасцю (і гэта — не збіты, трафарэтны выраз!) чыталі ўсе творы, якія

друкаваліся ў ёй, — вершы, апавяданні, аповесці з працягам. Тады ведалі, чым зацікавіць чытачоў, прывабіць да сваіх старонак. Асабліва прыцягвала творчасць аднагодкаў. Яно і не дзіўна: найперш цікавіўся тым, што самога захапляла, падштурхоўвала да напісання вершаў, давала надзею ўбачыць там свае радкі. І такія святы здараліся: мне, дзесяцікласніку, пашанцавала «прочитать свои стихи» каля «костра», «распаленага» рэдакцыяй на старонках жнівеньскага нумара газеты за 1959 год, прысвечанага пачатку новага навучальнага года. Верш называўся «Буду машинистом».

Менавіта ў газеце «Зорька» ўбачылі свет і першыя пробы пяра Маляўкі. Сам не адважыўся, пабойваўся, што не пройдуць, дык настаўніца рускай мовы і літаратуры Юлія Сяргееўна Тупяневіч, каму ён паказаў аднойчы напісаныя радкі, тайком ад свайго вучня адправіла іх у рэдакцыю. І — верш надрукавалі! Яго з’яўленне на старонках недасяжнай, здавалася б, рэспубліканскай піянерскай газеты было поўнай нечаканасцю для школьнага паэта. Пасля ён друкаваўся ў ёй даволі часта. Я і цяпер помню некаторыя радкі з тых яго рускамоўных вершаў: «И где-то пусть без нас // Клюют язи и щуки: // В колхозе в этот час // Нужнее наши руки».

Неўзабаве я быў нямала здзіўлены (нават шчыра пазайздросціў яму), калі ў газеце «Калгасная праўда», якую выпісваў бацька-брыгадзір майго школьнага таварыша Мішы Свірыдзенкі, прачытаў пра вынікі конкурсу на лепшы твор на тэмы сельскага жыцця, які праводзіла рэдакцыя газеты: Міколу Маляўку была прысуджана другая прэмія за вершы «Хлеб» і «Па загаду сэрца». Памер яе ўжо не помню, але па тых часах з’яўлялася даволі значнай. Як расказаў Мікола, з тых грошай ён змог выдзеліць нешта бацькам, хапіла на дарогу ў Карэлію, куды выбраўся пасля школы на заробкі, і на тое, каб там нейкі час харчавацца ў лес прамгасаўскай сталоўцы.

«Прабіцца» ж на старонкі «Калгаснай праўды» (цяпер яна «Сельская газета») дапамог зноў-такі шчаслівы выпадак. Аднаго дня па сваіх рэдакцыйных справах у Мікалаеўшчыну прыехалі карэспандэнты газеты Віктар Шымук і Генадзь Кляўко — маладыя на той час паэты. Даведаўшыся, што ў вёсцы жыве хлопец, які піша вершы і ўжо друкуецца ў мінскіх газетах, захацелі з ім сустрэцца. «Я з хлопцамі гуляў у футбол, а тут прыбягае пасланец са школы, кажа, што мяне шукаюць нейкія карэспандэнты з газеты. Нехаця пайшоў за ім са стадыёна. Бо дужа хацелася дагуляць да свістка, гол забіць, — з усмешкай прыгадвае Мікола. — Прывялі мяне да іх. Стаю перад імі, запыханы ды спацелы, не ведаю, што сказаць. А яны падаліся насустрач, руку адзін за адным падалі. Маладыя зусім, прыгожыя, з усмешкай на тварах. Пасмяяліся, убачыўшы мяне такога запыханага ды ўскалмачанага, пачалі распытваць, ці даўно пішу, дзе друкаваўся, што новага напісаў. Можа, і для іх нешта знойдзецца? Паабяцаў выслаць вершы на адрас, які яны пакінулі. Падабраў потым некалькі і паслаў. Што вершы надрукуюць, нават прэмію дадуць — мала спадзяваўся. А калі шчыра, дык і не думаў! А Віктар і Генадзь сур’ёзнымі хлопцамі аказаліся, зрабілі ўсё, каб падтрымаць мяне. Шкада, іх даўно ўжо няма з намі, а ўдзячны ім буду ўсё жыццё».

Пабачыўшы, што ў такой «дарослай» газеце могуць друкавацца нават школьнікі, я таксама рызыкнуў, адважыўся колькі разоў патурбаваць рэдакцыю сваімі вершамі і допісамі. Пару допісаў, памятаю, падкараціўшы, змясцілі. Пэўна, з лёгкай рукі Уладзіміра Шыціка, ён прысылаў адказы на мае журналісцкія практыкаванні. Як пісьменніка, я яго тады яшчэ не ведаў. Што ж да вершаў, дык з імі выйшла замінка. Спачатку недахопы ў іх знаходзіў літкансультант Мікола Хведаровіч, затым яны тэматычна не заўсёды адпавядалі патрабаванням рэдакцыі, а потым я зразумеў, што не трэба спяшацца «стукацца» туды, дзе могуць абысціся і без майго аўтарства. Ды ўсё ж разоў колькі надрукаваўся. Праўда, калі выданне ўжо выходзіла пад назваю «Сельская газета».

## «Адкуль ты мяне ведаеш?»

Мабыць, ні я, ні Мікола Маляўка і прысніць не маглі, што некалі сустрэнемся, нашы творчыя сцежкі збягуцца, да сённяшняга дня застанёмся блізкімі сябрамі. Нават — самымі блізкімі, па-братэрску шчырымі. Але гэта здарылася ў жніўні 1960 года, калі лёс звёў нас неспадзявана ў студэнцкім інтэрнаце. Спачатку ў тым, што знаходзіўся па вуліцы Дзімітрава (цяпер — праспект Пераможцаў), падчас здачы ўступных экзаменаў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Сустрэліся выпадкова, як толькі бывае такое часцей за ўсё ў кіно. Калі я пастукаўся з накіраваннем у камендацкую «прыёмную», каб даведацца, куды мяне паселяць, то ўбачыў там маладога хлопца з густой чупрынай чарнявых валасоў, якія прывабна «аздаблялі» прыгожыя рысы яго крышку смуглявага твару. Ён стаяў каля стала, за якім сядзеў камендант, штосьці занатоўваючы ў разгорнуты журнал, і трымаў перад сабою такое ж накіраванне з прыёмнай камісіі, якое было і ў мяне. Зіркнуўшы праз плячо ў ягоны «дакумент», я прачытаў прозвішча яго ўладальніка — Малявко Николай.

«Няўжо гэта той самы Коля Маляўка, чые вершы я чытаў у газеце, а потым убачыў надрукаванымі ў зборніку “Наш родны край”?» Па сваёй вясковай наіўнасці і з пэўнай доляй панібрацтва я, нядоўга разважаючы, паклаў яму руку на плячо і раптам прывітаўся, нібы выскачыў Піліп з канапель:

— Здароў, Мікола!

— Ты хто такі? Адкуль ты мяне ведаеш? — з ноткамі здзіўлення і недаўмення ў голасе павярнуўся ён да мяне. У той момант малады хлопец падаўся мне занадта сур’ёзным і не дужа прыветлівым, радым такому шапачнаму знаёмству. Калі ж я патлумачыў яму, хто я такі, адкуль яго ведаю, ён тым жа разам палагоднеў і ўсміхнуўся:

— А-а-а, дык здароў тады! — і працягнуў мне руку.

На здачу экзаменаў мы ўжо хадзілі разам, а ў аўдыторыі садзіліся побач. Праўда, уступныя экзамены ён здаў лепш за мяне — атрымаў дваццаць чатыры балы з дваццаці пяці — і ўжо ў час субяседавання Ніл Гілевіч сказаў яму адразу: «Можаце лічыць сябе студэнтам і рыхтавацца да паездкі на ўборку бульбы ў калгас».

Ужо студэнтамі (ён — стацыянара, а я — вячэрняга аддзялення) нам давялося падмацоўваць сваё знаёмства і сяброўства ў інтэрнаце па вуліцы Свярдлова, непадалёк ад чыгуначнага вакзала. Нейкі час жылі нават у адным пакоі, па чарзе спалі на яго ложку, бо я там займеў часовы прытулак на правах «зайца», больш, чым хто з усіх дзесяці насельнікаў, чуйнага да абходаў і праверак універсітэцкіх камісій і прыдзірлівага, скупога на лагодную ўсмешку, вусатага, як той коласаўскі рак, інтэрнацкага каменданта Сцяпана Прохаравіча. Забягаючы наперад, скажу: я быў шчыра, нават бязмежна ўдзячны Міколу за гэта незвычайнае суседства і дружбацтва, за яго добрае сэрца і спагаду, лічыў сябе яго даўжніком. І вельмі рады, што гэты «доўг» удалося яму вярнуць, і параўнаўча хутка. Калі ён перабраўся ў 1969 годзе з Нясвіжа ў Мінск, змяніў працу ў райгазеце «Чырвоны сцяг» на працу ў літаратурнай рэдакцыі Рэспубліканскага радыё, то таксама апынуўся ў ролі шукальніка прытулку — прыватнага сталічнага жылля. Мне на той час пашанцавала стаць гаспадаром прыстойнай халасцяцкай кватэры крышку камунальнага кшталту, якую выдзеліла рэдакцыя часопіса «Бярозка», таму я без асаблівага вагання і роздуму прапанаваў сябру пажыць у мяне. Цяпер мы спалі па чарзе, але ўжо на канапе ў маёй кватэры, аж да жаніцьбы. Спачатку — маёй, а праз нейкі час — ягонай, дзе мне выпаў гонар весці рэй з ручніком свата…

Але ж гэта было ўжо дзесяццю гадамі пазней, калі сталі «бацькамі» не адной кніжкі, паспелі больш-менш паспяхова «абжыцца» ў літаратуры, зрабіць колькі крокаў увысь па парнаскай лесвіцы. Тады ж, у студэнцкім інтэрнаце… Я не адзін раз бачыў, быў сведкам таго, як апантана і ўдумліва працаваў ён над



*Сяргей Панізнік, Алесь Разанаў, Мікола Маляўка.*

вершамі, быццам пацеры нашэптваючы парою паасобныя радкі, шліфуючы іх, дамагаючыся такім чынам найбольшай дакладнасці кожнага слова, як прынцыпова ставіўся падчас нашых літаратурных «пасядзелак» да абмеркавання твораў сяброў-пачаткоўцаў, да маіх. Нехта, здаралася, крыўдзіўся, выслухаўшы яго заўвагі, а хтосьці пагаджаўся з ім, бо разумеў, сам адчуваў: ён выказваўся па справядлівасці, не хаваў таго, што думаў, што магло дапамагчы, каб выправіць нейкі недахоп, ад якіх і сам не быў застрахаваны. Ды ўсё ж у нашых гарачых спрэчках (на крытыку не скупіліся!) верхаводзіў дух сяброўства і добразычлівасці, таму розныя там крыўды хутка забываліся…

Няшмат старэйшы за мяне (а нарадзіўся ён 13 снежня 1941 года), Мікола Маляўка пасля школы паспеў два гады папрацаваць, атрымаў не абы-якую, а памужчынску сталую, мазольную загартоўку на лесанарыхтоўках у Карэліі, куды падахвоціў паехаць на заробкі стрыечны брат — выпускнік Мінскага лесатэхнічнага інстытута, які ўжо на той час абжыўся там і змог даць яму сціплы часовы прытулак. Магчыма, дзякуючы гэтаму выкрутасу лёсу хутчэй, чым у каго з нас, адбылося станаўленне і сталенне яго несумненнага літаратурнага таленту, што ў рэшце рэшт надзвычай заўважна паўплывала на рост паэтычнага майстэрства, прыдало ўпэўненасці, а таксама імкнення да самастойнасці і настойлівасці ў пошуку запаветнага радка, жадання заставацца працалюбам. А ёсць гэта ўсё — і ўдача, і творчы поспех не прымусяць доўга чакаць, скажуць сваё слова.

За адзін год тройчы надрукавацца ў тагачасным часопісе «Маладосць», які рэдагаваў сам Пімен Панчанка, стаць аўтарам змястоўных падборак вершаў, заўважаных не толькі старэйшымі паэтамі — Міколам Аўрамчыкам, Анатолем Вялюгіным, Антонам Бялевічам, Сцяпанам Гаўрусёвым, Алегам Лойкам, Уладзімірам Паўлавым, Іванам Калеснікам, але і шматлікімі (таксама — не трафарэт!) чытачамі — хіба не радасць для маладога паэта? Хіба не знакавая прыступка да прызнання ўжо на самым пачатку творчай дарогі? Хіба не спадзяванне на паэтычны ўзлёт, на плён і будучыню ў літаратуры? Мой таварыш зведаў гэта, і ўжо тады…

## У гасцях у Ісакоўскага і…

Напэўна, найбольш значнай на той час падзеяй у творчай біяграфіі М. Маляўкі можна лічыць такі красамоўны факт: разам з паэтамі і празаікамі Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Міхасём Стральцовым, Анатолем Грачанікавым, Раманам Тармолам, Іванам Шальманавым ён стаў удзельнікам Усесаюзнай

нарады маладых пісьменнікаў, якая адбылася ў 1964 годзе ў Маскве. З тых дзён незабыўны ўспамін пакінула сустрэча з выдатным паэтам, ураджэнцам суседняй з намі Смаленшчыны Міхаілам Ісакоўскім. Шчыры сябра Беларусі, руплівы перакладчык твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Адама Русака, беларускую дэлегацыю Міхаіл Васільевіч прыняў па-свойску, у маскоўскай кватэры. Гаворка выйшла нязмушанай і ажыўленай. Адчуўшы ў маладых сяброў-літаратараў з братняй Беларусі цікавасць да сваёй творчай асобы і паэзіі, паэт нечакана палез у шуфляду стала, дастаў адтуль нейкі сшытак: «Вы думаеце, што я толькі песні пішу? Прачытаю вам вершы, якія не друкаваліся і, можа, не хутка яшчэ ўбачаць свет».

Пільна ўзіраючыся праз тоўстыя шкельцы па-свойму адмысловых акуляраў, часам збіваючыся пры чытанні, знакаміты паэт разняволена і даверліва чытаў ім верш за вершам, перагортваў старонкі «падпольнага сшытка», быццам расчыняў перад імі дзверы ў патаемныя сховы сваёй творчай «майстэрні». Госці, схопліваючы кожны радок, усё больш пераконваліся, якая смелая і глыбокая паэзія пульсуе ў радках славутага майстра, змаглі трошкі іншымі вачыма паглядзець на яго творчасць. А калі Рыгор Барадулін раптам папрасіў прачытаць пасляваенны верш «Враги сожгли родную хату», які з часам, як і многія іншыя, стаў песняй, гаспадар расчуліўся да слёз: толькі ён ведаў, колькі несправядлівых абвінавачванняў выпала вынесці яму, колькі давялося апраўдвацца перад рознымі дзяржаўнымі і літаратурнымі алілуйшчыкамі, хто ў штыкі сустрэў тады з'яўленне гэтага верша, бо ён, поўны трагізму і шчымлівага чалавечага болю, не адпавядаў, па іх перакананні, пафасу і настроям народа-пераможцы, прыніжаў радасць перамогі.

Развіталіся, як добрыя сябры, з пачуццём непрыхаванай радасці ад сустрэчы. Крышку падагрэтыя сціплымі чарачкамі пачастунку, і гаспадар, і госці жартавалі, сфатаграфаваліся на ўспамін…

Дзіўна, але гэтай сустрэчы магло б і не адбыцца. З-за касманаўта Юрыя Гагарына. Як ён мог «паспрыяць» таму, каб майго сябра (дый Івана Шальманава заадно!) заўчасна адправілі з Масквы дадому-дахаты? Пра той выпадак Мікола ўспамінае з гумарам.

А было ўсё так. Яшчэ напярэдадні ўдзельнікам нарады аб'явілі, што ў іх адбудзецца сустрэча з першым касманаўтам планеты Юрыем Гагарыным. Гэта ж павінна было стаць для маладых літаратараў з усіх куткоў Савецкага Саюза грандыёзнай падзеяй, незабыўным святам! Папярэдзілі, каб ніхто не спазняўся.

Быў вольны час і Мікола з Іванам (здружыўшыся за дарогу, студэнт і рабочы ўсе дні трымаліся ўсюды разам) вырашылі прайсціся па маскоўскіх вуліцах, бліжэй пазнаёміцца са сталіцай. Калі яшчэ выпадзе такое шчасце — прыехаць у Маскву?! Зайшлі ў кафэ, перакусілі. Калі праходзілі міма цырульні, больш спрактыкаваны ва ўсім Іван раптам прапанаваў:

— Слухай, Мікола, а чаму б нам не падстрыгчыся ў маскоўскай цырульні? Бачу, і табе, і мне не лішне касмылёў трохі скінуць. Тым болей, сёння з Гагарыным сустракацца будзем. Гэта ж, брат, падзея, ды яшчэ якая! Каб сорамна не было, калі што якое…

Але ж чэргі, яны і ў Маскве чэргі. Іх там ніхто не адмяняў. Пакуль выбраліся з цырульні, на сустрэчу з касманаўтам давялося подбегам шыбаваць. Ды ўсё роўна прыпазніліся. Праўда, высокаму госцю яшчэ не паспелі даць слова, але прэзідыум ужо быў у поўным зборы, а зала суцішылася ў чаканні гэтага моманту. Прабраліся хлопцы да сваіх месцаў, уздыхнулі з палёгкай: надта не спазніліся, паспелі!

Юрый Гагарын выступаў нядоўга. Гаварыў бадзёра, баявіта. Пасля сходу ўсе, хто знаходзіўся ў зале, пажадалі ўбачыць касманаўта бліжэй, сцяной абступілі яго. Мікола з Іванам, хоць і не дужа зблізку, ды ўсё ж убачылі знакамітую ўсмешку Гагарына, як ён раздаваў шчаслівёчыкам аўтографы. А іх герой космасу

ў тым людскім натоўпе, напэўна, наўрад ці мог заўважыць, як і выседжаныя ў маскоўскай цырульні адмысловыя, як ім падавалася, прычоскі. Затое не засталося не заўважаным іх спазненне.

— Дзе гэта вы швэндаліся? Чаму спазніліся на сустрэчу з Гагарыным? — прыжучыў абодвух пасля ўсяго іх куратар і кіраўнік дэлегацыі, сакратар ЦК камсамола Беларусі Арсень Ваніцкі. — Зараз закажу білеты на самалёт і першым жа рэйсам адпраўлю ў Мінск. А там потым разбірацца будзем! Вас папярэджвалі, каб не спазняліся? Папярэджвалі. А вы што дазваляеце тут сабе?

Як прызнаецца Мікола, гэта грозьба спачатку нават страху нейкага нагнала: а што калі і праўда ў Мінск адашле? Зноў непрыемнасцей дый сораму не абярэшся: з такога важнага літаратурнага сходу выгналі!

— Захацелі перад сустрэчай пастрыгчыся, у цырульню зайшлі, а там чарга. Не думалі, што затрымаемся надоўга, — першым знайшоўся і пачаў апраўдвацца байчэйшы на слова Шальманаў. — Але ж усё ў парадку. Галоўнае, мы пачулі, што гаварыў Гагарын, які наказ нам усім даў.

Пачуўшы пра цырульню, Арсень Мікалаевіч, хоць, можа, і не хацеў, ды не стрымаўся, міжволі заўсміхаўся, нават палагоднеў. Аднак, мусіць, палічыў за лепшае пакінуць ранейшую грозьбу ў сіле, таму яшчэ раз прыстрашыў:

— Калі даведаюся, што будзеце на семінарскія заняткі спазняцца ці хоць адзін раз прапусціце іх, — без усякай размовы дам каманду, каб вас адправілі адсюль дадому! Зразумелі?

Як было не зразумець?

Міне шмат гадоў. Заслужанаму пенсіянеру Арсеню Мікалаевічу Ваніцкаму (па сваё натуры чалавеку памяркоўнаму, не зласліваму) спатрэбіцца аднойчы завітаць у рэдакцыю часопіса «Вясёлка». Убачыўшы там Маляўку, «парушальніка парадку» колішняй Усесаюзнай нарады маладых літаратараў, прыгадаюць выпадак з маскоўскай цырульняй і абодва шчыра пасмяюцца: чаго не бывае ў жыцці па маладосці!..

А майму сябру, ужо праз гады, тая даўняя, па-свойму памятная сустрэча з Гагарыным, напэўна, падкажа задуму верша «Касманаўты», для якога ён змог знайсці ўзвышаныя і па-зямному цёплыя словы: «А ім нялёгка недзе // Пры зорках і пры сонцы: // Працуюць людзі ў небе — // Нібы ў чужой старонцы… // Паспагадайце дома, // У думках блаславіце — // Каб ім, зямлянам, добра // Жылося на арбіце».

## «Едуць маразы з белымі барадамі…»

Не памылюся, калі скажу. Што самым сапраўдным паэтычным хітом, як цяпер сказалі б, сярод філфакаўцаў (а магчыма, і сярод хлопцаў і дзяўчат усяго ўніверсітэта, хто цікавіўся паэзіяй), стаў верш Маляўкі «Чую галасы…», які «сышоў» са старонак часопіса «Маладосць». Вобразны, акрылены аўтарскай фантазіяй і пачуццём прасветленай юнацкай закаханасці, ён зачароўваў музыкай радкоў, шчырасцю гучання, той пранікнёнасцю, якая можа крануць самыя патаемныя струны чалавечай душы, прымусіць міжволі ўсміхацца ад чакання сустрэчы з хараством, з каханаю, хоць яна можа з’явіцца, апынуцца побач з табою, пэўна, толькі ў думках ды летуценнях. А калі табе ўсяго дваццаць і ўсё паўстае перад табою не ў замярэжаных марозам, а ў ружовых фарбах, у жывых колерах ды адценнях, у дзівосным святле, якія больш абнадзейваюць, чым расчароўваюць?

Чую галасы —
Недзе за гародамі
Едуць маразы
З белымі барадамі.

Снег глыбокі, лёд.
Коні прытаміліся,
Ля маіх варот
Маразы спыніліся.

Я гасцей сустрэў
У дзвярах з пашанаю,
З холаду сагрэў
Чаркай прыхаванаю.

— Коней, брат, выводзь…
— Што вы! Ноч такая!
Расказалі б хоць,
Хто вас так чакае.

— Кліча з тундры зяць
Пісьмамі трывожнымі,
Едзем працаваць
Майстрамі дарожнымі.

— Дзякуй вам, дзяды,
Радасць нечаканая —
Едзеце туды,
Дзе жыве каханая.

Завязіце ёй
Ад прастуды, ветру
Падарунак мой —
Ліпавага цвету…

Вецер у двары
Цэлы дзень галёкае.
Чаю завары,
Завары, далёкая.

Чуеш галасы —
Недзе за гародамі
Едуць маразы
З белымі барадамі.

Памятаю, той-сёй з сяброў-таварышаў, сустрэўшы Міколу, замест звычайнага прывітання «Дзень добры!» ці «Здароў!», працягваючы руку, прымаўляў з вясёлай усмешкай: «Чую галасы — недзе за гародамі едуць маразы з белымі барадамі…» Думаю, ад такога прывітання і сумны настрой, калі ён у тыя хвіліны надараўся ў майго сябра, імгненна распагоджваўся, выклікаў усмешку ў адказ.

Знаходзячыся ў блізкім інтэрнатаўскім суседстве з ім, я быў сведкам таго, як пакутна, але ўпэўнена, шліфавалася, набіралася паэтычнай спеласці і змястоўнасці, рыхтавалася да «выхаду ў свет» яго першая паэтычная кніжка, назва якой потым прыдумалася сама сабой — «Едуць маразы».

Колькі разоў перагледжаная і переалапачаная ім, як збожжа на таку, яна выйшла ў 1966 годзе, калі Мікола пасля заканчэння вучобы ў БДУ і кароткачасовага настаўніцтва адбываў пачэсны абавязак — служыў у арміі. Трапіўшы ў лётную часць, нёс аэрадромную службу, набіраючыся ўражанняў і назіранняў, якія стануць пазней сюжэтамі для новых вершаў і задумаю паэмы «Блакітная рота».

## Закаханы ў Карэлію і заняволены «Свабодай»

Само сабой зразумела, было ў зборніку «Едуць маразы» нямала радкоў, навеяных успамінам пра не такое ўжо даўняе знаёмства з суровай Карэліяй, пра сваю працу на лесанарыхтоўках, «брыгаду дарожную — дваццаць рабочых

сякер», з якою гартаваў «мускулы і душу». Пра што б ні расказваў малады паэт, ён заставаўся лірыкам, умеў вобразна і непаўторна перадаць малюнкі прыроды, суровасць клімату і побыту працаўнікоў гэтага паўночнага краю, заглыбіцца ва ўнутраны свет свайго лірычнага героя. Дух не холаду, а рамантыкі пранізваў яго вершы, цяпло сэрца, яшчэ не астуджанага скразнякамі лесасек, адчувалася ў шчырых і пранікнёных радках. Іх хацелася не проста чытаць, а ў думках і ўслых паўтараць услед за ім, міжвольна паддаўшыся рытму такога, не зусім звычайнага відовішча, як гэтыя таежныя «танцы»:

За музыкаў у нас—
Бензапілы,
Звонкія
Поўныя сілы.
І праясняецца дзень пахмуры
Над тайгою —
нашым Домам культуры.

Як на свяце вялікім,
Стомы не знаюць музыкі.
Не разбяруць старажылы,
Дзе — канчаюцца рукі,
дзе — пачынаюцца пілы.

Каля вогнішчаў стыць нялоўка —
І аж грыміць танцпляцоўка…

Ніхто з нас, маладых на той час шукальнікаў рыфмы і ўдалага радка, не мог адшукаць такіх вобразаў і параўнанняў, як гэта ўдавалася яму, бо нікому з нас, хто толькі развітаўся са школаю, не давялося «выязджаць з мужчынамі раскулачваць тайгу», увіхацца з бярвеннем на эстакадзе, не суседнічаць з маразамі, калі «нават ля кастроў не грэюць целагрэйкі». А ён пакружыўся ў гэтым непаўторным «белым танцы», што наладжвала на лесапавале завіруха — «адна жанчына на ўсю брыгаду», не зважаючы на стому, шчыраваў з пілою ды сякераю, нібы ў жывіцы, «варыўся ў катле» тамтэйшага, далёкага ад хатняй утульнасці і матчынай ласкі, распарадку, напоўніцу спазнаў, як мазольна зарабляецца кожны рубель, таму мог сказаць, можа быць, і трошкі пафасна, але ж надзвычай паэтычна:

Мы валім лес у снег глыбозны:
Не расстаёмся ў дождж з пілою.
Ад галавы да пят, як сосны,
Прапахлі свежаю смалою.

Не страшны нам цяпер ні спёка,
Ні маразы, ні вецер злосны —
Мы прасмаліліся глыбока
І будзем век звінець, як сосны.

Апрача паэтычных знаходак было ў яго вершах нямала таго, што адкрывала беларускаму чытачу гэты суровы і дзівосны край, знаёміла з яго людзьмі, прыродай і падзеямі, якія адбываліся на гэтай зямлі. Не толькі адзін я даведаўся тады пра нячутую ў нашых краях вёску Суёкі, дзе ў гады вайны, як і ў нас у Беларусі, фашысцкія захопнікі за калючым дротам канцлагера замарылі голадам і знішчылі сотні людзей.

Чаму я «зацыкліўся» менавіта на карэльскім цыкле вершаў Міколы, якія спачатку сталі здабыткам часопіса «Маладосць» і газеты «Чырвоная змена», а потым ужо — годна перавандравалі на старонкі першага паэтычнага зборніка, на яго «зялёнае святло»? Ды таму, што гэтыя вершы («Карэлія», «Гарачыня», «Лесаруб», «Суёкі», «На поўначы», «Дарожная брыгада», «Чую галасы…», «Пісьмо ў

Карэлію») «заўважылі» нават за мяжою, спачатку там з'явіліся «зацікаўленыя» водгукі на іх. Цяжка паверыць у такое цяпер, але ж яго нават зрабілі ссыльным паэтам, ахвярай тагачаснага савецкага рэжыму. Як гэта адбылося, як мне давялося «вызваляць» Міколу адтуль, спрыяць вяртанню на радзіму? Патлумачу. Аднак спачатку прыгадайма словы знакамітага лысагорца: «Быў час, быў век, была эпоха…» Ад сябе дадам: і свая палітыка ва ўсім і ўсюды. Якая?

Пасля нядоўгай літсупрацоўніцкай «абкаткі» ў газеце «Піянер Беларусі», мне ў маі 1962 года неспадзявана пашанцавала працаўладкавацца (замовіў слова за мяне пісьменнік Алесь Шашкоў) рэдактарам літаратурна-мастацкага аддзела замежнай рэдакцыі Рэспубліканскага радыё. Створаная вясною таго ж года, яна распачала штодзённа, у строга вызначаны вячэрні час, весці перадачы (вядзе і дагэтуль, ды не на адной беларускай, як тады, а ўжо… на васьмі мовах!), арыентаваныя на нашых суайчыннікаў, якія жылі за мяжою — у краінах Заходняй Еўропы, на амерыканскім кантыненце, у Англіі і далёкай Аўстраліі. Само сабой зразумела, што мы прапагандавалі савецкі лад жыцця, выкрывалі розныя негатыўныя з'явы ў капіталістычным свеце. А там, за кардонам, не спалі ў шапку, настойліва стукаліся ў нашы дзверы больш прафесійна ўзброеныя і спрактыкаваныя ў інфармацыйна-прапагандысцкім рамястве нашы «апаненты» — вядомая радыёстанцыя «Свабода». З тэрыторыі Заходняй Германіі, з Мюнхена, яна з дня на дзень трансліравала для жыхароў Беларусі шэраг розных перадач, у якіх мэтанакіравана рабіўся «падкоп» пад нашу рэчаіснасць, падвяргаўся сумненню савецкі лад жыцця, палітыка, якую праводзіў Савецкі Саюз. Перадачы, як і нашы, вяліся на беларускай мове, але паводле граматыкі Браніслава Тарашкевіча. Бебурнацы (беларускія буржуазныя нацыяналісты, як іх тады называлі ў нашым абыходку) знаходзілі самыя розныя зачэпкі, каб «сыпануць солі» на нашы ўсялякія «раны», звязаныя з гісторыяй, культурай, спадчынай, лёсам людзей (асабліва творчай інтэлігенцыі), якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій, «добразычліва» заступаліся за тых аўтараў, чые творы падвяргаліся крытыцы ў нашым тагачасным друку. Здаралася, такое «заступніцтва» яшчэ болей шкодзіла некаторым творцам, перад імі часцей запальвалася «чырвонае святло» недаверу: «Раз вораг хваліць, значыць, нешта падазронае ў гэтым ёсць!»

Адным словам, ішла не проста інфармацыйна-прапагандысцкая, а нават правакацыйная валтузня — хто каго больш балюча скубне ці ўкусіць, а там, глядзіш, і нейкія дэвідэнды пажнуцца.

Трапіў на вуду нашых «ворагаў» і Мікола Маляўка.

Тых свабодаўскіх радыёперадач і беларускамоўных газет «Бацькаўшчына» і «Беларус», якія выдаваліся за мяжою, ні я, ні мае калегі па рэдакцыі самі не бачылі і не атрымлівалі. Радыёхвалі, як маглі, на памежжы глушылі спецыяльныя ўстаноўкі, а газеты… якая пошта ў той час магла адважыцца выпісваць і дастаўляць іх табе? Аднак сёе-тое ўсё ж маглі пачуць і прачытаць. Радыёперахваты і нумары згаданых выданняў у рэдакцыю прыносіў наш куратар, як казалі, з адпаведных органаў, здаецца, па прозвішчы Іваноў. З гэтымі матэрыяламі пад грыфам «сакрэтна» ён спачатку знаёміў галоўнага рэдактара, з ім абмяркоўвалася, што рабіць, які «адлуп» падрыхтаваць, калі варта было, на той ці іншы «закід» бебурнацаў, са свайго боку пераканаць слухачоў, што яны перадаюць няпраўду, хлусяць.

Дык вось, аднаго разу пасля візіту ў рэдакцыю нашага «куратара» мяне паклікаў да сябе галоўны рэдактар Вацлаў Мацкевіч. Дарэчы, на той час самы малады сярод радыйных кіраўнікоў. Стаць галоўным у 27 гадоў, ды яшчэ ўзначаліць рэдакцыю замежнага вяшчання, яму, відаць, пашанцавала з-за таго, што ён быў ці не адзіны ў радыёкамітэце, хто цудоўна валодаў замежнай мовай — польскай. Да таго ж меў схільнасць да літаратурнай творчасці, спрабаваў свае сілы ў жанры памфлета, фельетона, нарыса. Пазней гэта заўважаць яшчэ раз, і пасля працы на

радыё і тэлебачанні Вацлаву Мацкевічу прапануюць заняць пасаду галоўнага рэдактара газеты «Голас Радзімы». Пазней. А тады…

— Ты не ведаеш маладога паэта Міколу Маляўку? — адразу запытаўся Вацлаў Генрыхавіч. — Дзе ён жыве ці вучыцца, і як можна з ім звязацца?

— Гэта мой сябра, — нічога не разумеючы, адказаў я. — Як і я, вучыцца на філфаку ва ўніверсітэце, жыве ў інтэрнаце на Свярдлова. А што такое?

— Прачытай, што нядаўна перадавала радыёстанцыя «Свабода», — і ён, разгарнуўшы папяровую папку, падаў мне з паўдзясятка аддрукаваных старонак. — За мяжою бебуранцы льюць слёзы па ім, лічаць, што малады паэт знаходзіцца ў зняволенні, сасланы ў Карэлію. Па яго вершах так мяркуюць. І хапіла ж у іх там фантазіі…

Сапраўды, аўтары радыёперадачы (я ж чытаў яе тэкст, зняты з плёнкі), цытуючы цалкам ці паасобна радкі з карэльскай нізкі Маляўкі, з адпаведнымі разважаннямі і «падаплёкай» да іх, не скупіліся на ўздыхі і жальбу, спачуваючы маладому паэту, беларускаму хлопцу, які з-за нейкіх там правін у выгнанні змушаны цяжка працаваць, трываць холад і пакуты, жыве на чужыне марамі пра волю, пра вяртанне ў свае родныя мясціны, да маці…

Канешне, мне дзіўна было чытаць такую лухту, знарочыста падмацаваную радкамі з Міколавых вершаў. Я ведаў, як ён пасля школы апынуўся ў далёкай адсюль Карэліі, як працаваў там. Працаваў сапраўды цяжка, але ж па сваёй волі, ніхто яго туды не высылаў. Ездзіў на заробкі. А вершы — гэта ж паэтычны ўспамін пра ўсё, што ўбачыў і перажыў, што запала ў сэрца, а ў выніку — дапамагло стварыць цэлы цыкл добрых, цікавых, свежых па задуме вершаў. Не кожнаму гэта ўдаецца зрабіць — усё ўбачанае і перажытае таленавіта «апрануць» у такую паэтычную форму, каб яно заўважылася людзьмі, зацікавіла іх. Што ж да Маляўкі, дык ён, напэўна, засмуціцца, даведаўшыся пра ссылку, у якой апынуўся па волі «дабрадзеяў» з радыёстанцыі «Свабода», і, мусіць жа, не менш узрадуецца: яго вершы заўважылі нават за кардонам! Пра гэта я і сказаў галоўнаму рэдактару.

— Раз ён твой сябра, то запрасі яго ў студыю, — прапанаваў галоўны. — Няхай ён сам раскажа, як усё было, як нарадзіліся гэтыя вершы, што новага напісаў, пра свае родныя мясціны няхай узгадае. Як-ніяк Якубу Коласу земляком даводзіцца. І вершы няхай прачытае, не два-тры, а болей. Каб можна было прыстойны ганарар выпісаць, студэнт усё ж. Перад запісам зайдзіце да мяне, хачу сам з ім пазнаёміцца, пагутарыць трохі…

Калі я патлумачыў Міколу, чым выклікана яго запрашэнне ў нашу рэдакцыю, ён спачатку нямала здзівіўся, а потым даў згоду запісацца, прачытаць у эфір свае вершы, спадзеючыся, што нашы далёкія землякі іх пачуюць, правільна зразумеюць, што яны навеюць некаму з іх самыя светлыя ўспаміны аб сваёй Бацькаўшчыне.

Радыёперадача, падрыхтаваная мною, потым яшчэ некалькі разоў паўтаралася ў праграмах нашага замежнага вяшчання, нават трапіла на радыёкамітэцкую «чырвоную дошку» — стала своеасаблівай маральнай узнагародай мне, як яе рэдактару. А Міколу я меў усе падставы выпісаць павышаны ганарар, якога, мусіць, яму хапіла і на нейкую абноўку, і на смачнейшыя харчы, і на сяброўскі пачастунак...

Што чакае яго наперадзе, якою выдасца далейшая творчая дарога, куды завязуць «маразы з белымі барoдамі», дзе зробяць прыпынкі, пазначаныя назвамі будучых кніг, з чым будзе прыходзіць ад юбілею да юбілею, які след пакіне ў роднай літаратуры, ён тады яшчэ, мабыць, не надта задумваўся. Як і мы ўсе, яго сябры-таварышы па жыцці і творчасці, па духу і памкненнях, якія натхнялі, гуртавалі і раднілі нас…

## З добрых, цёплых слоў…

Услед за «Маразамі», дзе з большай разбежкай, дзе з меншай, з-пад пяра Маляўкі да чытача «прыехалі» яго новыя паэтычныя зборнікі «Жалеза», «Лотаць», «Круг», «Эстакада», «Дар». За няпоўных дваццаць гадоў, здавалася б, не так ужо і сціпла, калі ўлічыць, з якою цяжкасцю вымагаліся «пазіцыі» ў тагачасных выдавецкіх планах, як «завозна» там было заўсёды. Таго, што можа адбыцца паварот на сцяжыну да дзіцячай літаратуры, тады яшчэ ў творчых планах паэта, аўтара шматлікіх лірычных вершаў, балад, паэм, мабыць, не дужа прадбачылася. Хоць, калі задумацца…

Першы крок быў зроблены, калі я працаваў ужо ў часопісе «Бярозка». На той час у рэдакцыі адчуваўся прыкметны дэфіцыт твораў працоўнай тэматыкі. Як здавалася начальству. Аднаго разу я і прапанаваў Міколу: «Можа б, ты паспрабаваў нешта напісаць для “Бярозкі”? Хутчэй надрукуешся, ганарар някепскі атрымаеш, а там, глядзіш, і на кніжку для дзяцей назбіраецца». «А чаму б не паспрабаваць, — нечакана згадзіўся ён. — Нейкія сюжэцікі ёсць».

Прайшло з тыдзень, і ён перадаў мне ў рукі… апавяданне «Свежыя барозны». Выручыў, бо паменела клопату, што паставіць у летні нумар.

Апавяданне спадабалася галоўнаму рэдактару Кастусю Кірэенку. Ён нават сам пажадаў сустрэцца з маладым аўтарам, пагутарыць з ім. Аб чым — не ведаю, не пацікавіўся. Можа, сваёй размовай з ім хацеў падахвоціць яго на далейшае супрацоўніцтва з «Бярозкай»? Я ж, не адкладваючы асабліва, зрабіў Міколу чарговы заказ на прозу. На гэты раз ён прынёс у рэдакцыю апавяданне «Брыгадзір», і яно было надрукавана ў вераснёўскім нумары часопіса за 1970 год. Каб стаць аўтарам дзіцячай кніжкі, такога моманту давялося чакаць роўна… трынаццаць гадоў!

Існуе меркаванне: не кожны пісьменнік, які ўмее таленавіта пісаць для дарослых, можа гэтак жа паспяхова працаваць і ў жанры дзіцячай літаратуры. Тут ёсць свая доля праўды. Але ж вядома нямала прыкладаў, якія сведчаць пра адваротнае, прынамсі, у нашай айчыннай літаратуры. Далёка хадзіць не будзем. Звернемся да творчасці таго ж Рыгора Барадуліна. Чытаючы яго вершы і казкі для дзяцей, не скажаш, што ў першую чаргу ён з’яўляецца непераўзыдзеным майстрам «дарослай» паэзіі, яе класікам. А Пятрусь Макаль, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Карызна, Казімір Камейша, Віктар Гардзей, Раіса Баравікова, Алесь Бадак?..

З тых, хто прыйшоў у дзіцячую літаратуру, як бы аддаў ёй сваю даніну пашаны, ужо маючы статус прызнанага творцы-лірыка, быў і Маляўка. Такой змене творчага іміджу, як цяпер сказалі б, нямала паспрыяў пераход на працу з Рэспубліканскага тэлебачання ў рэдакцыю дзіцячага часопіса «Вясёлка». І, як аказалася, надоўга. На 30 з лішнім гадоў. Праца над творамі іншых аўтараў, што друкаваліся ў «Вясёлцы», частыя сустрэчы з дзецьмі і настаўнікамі ў школах і дзіцячых садках, блізкае знаёмства з іх жыццём, пільнае пранікненне ў псіхалогію дзіцячай душы падказалі яму мноства новых тэм, сюжэтаў, фактаў, якія далі штуршок для творчага іх асэнсавання і ажыццяўлення, дапамаглі хутчэй асвойтацца, знайсці сябе ў новым, займальным, але не такім ужо лёгкім літаратурным жанры, дамагчыся плёну на зноў абраным творчым палетку. Аднак найпершым і неаспрэчным стымулам для наспелых «уваходзінаў» і клопатнага абжытку ў дзіцячай літаратуры стала, вядома ж, радасная сямейная падзея — нараджэнне дачкі Юлі. Менавіта ёй неўзабаве з выхадам кніжкі «Дзед і ўнучка» давялося стаць першай у шэрагу тых літаратурных герояў, якіх прывяла потым за сабою ў дзіцячыя паэтычныя зборнікі свайго бацькі.

Што ў сакрэты і таямніцы вучобы на дзіцячага пісьменніка Міколу Маляўку ўдалося пранікнуць даволі хутка, яскрава засведчылі зборнікі вершаў і казак, якія

выйшлі з-пад яго пяра пасля «Дзеда і ўнучкі»: «Салодкі лядзяш», «Як дом будавалі», «Вясёлая азбука», «Дзе жывуць казкі», «Папялушка». Асобна хочацца назваць празаічныя кнігі «Сядзіба, або Хата з матчынай душой» і «Коласаў абярэг». Першая з іх — гэта аповесць у абразках пра старыя рэчы вясковага побыту, звычкі і святы, якія шанаваліся нашымі продкамі, сталі гісторыяй, каштоўнай спадчынай нашага краю, здабыткам этнаграфічных музеяў. У другой — пісьменнік цёпла, пранікнёна і даходліва расказаў сённяшнім школьнікам пра жыццё і творчы шлях свайго знакамітага земляка, народнага песняра Беларусі Якуба Коласа. Маляўніча аздобленыя, умела перасыпаныя вершаванымі радкамі самога аўтара, яны сталі цікавай літаратурнай з'явай і нездарма былі адзначаны прэстыжнымі ўзнагародамі — спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» ў намінацыі «Мастацкая літаратура» і рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон».

Надзвычай змястоўнай, жанрава разнастайнай атрымалася новая кніга Міколы Маляўкі «Пачынайце дзень з усмешкі», якую выпусціла выдавецтва «Народная асвета». У ёй сабраны вершы, казкі, пацешкі, загадкі — творы, у якіх найбольш красамоўна праявіўся талент паэта, яго ўменне размаўляць з чытачамі: даверліва, дзе сур'ёзна, а дзе з усмешкай, з цёплым гумарком, што іх робіць пранікнёна-прасветленымі, прасякнутымі іскрынкамі дабрыні і любасці, дзіцячага захаплення.

«Пачынайце дзень з усмешкі, // Добрых, цёплых слоў, — // І атуляць нас, акрыляць // Ласка і любоў…» Гэтым настроем, гэтым пачуццём, як прамянямі ранішняга сонца, пранізаны ўсе раздзелы кнігі. Асабліва багаты на такія незвычайныя «падарункі» яе першы раздзел — «Я вясну гукаю». У ім змешчаны цэлы россып радкоў, якія, упэўнены, прыйдуцца чытачам асабліва даспадобы, заваладаюць іх увагай, прымусяць лішні раз усміхнуцца, іншымі вачамі паглядзець на ўсё, што адбываецца ў навакольным свеце, у прыродзе, у іх жыцці, бо ў тых ці іншых вершах яны абавязкова пазнаюць саміх сябе, абавязкова ўбачаць тое, што ўласціва ім самім, іх характару, звычкам, паводзінам, дапытлівасці. У творах шмат дзівос, і гэта таксама робіць іх адметнымі, прыцягальнымі для дзяцей, загадкавымі.

Хлопчык «…знайшоў за рэчкай куст парэчак, а пад ім гняздзечка — пяць яечак». Сам не забраў іх дадому, як гэта нярэдка робяць малыя, і не паказаў нават сваім сябрам. Хто не ведае нораву такіх жа равеснікаў? Гняздзечка было яго сакрэтам. Але ці надоўга? Адкрыць сакрэт герой твора абяцае тады, «як разгорнуць крылы птушаняты», як пачнуць лётаць і не змогуць трапіць у нечыя рукі: «Пакажу за рэчкай // Куст парэчак, // А пад ім гняздзечка — // Без яечак».

Альбо прыгадаем верш «Імяніннік». Хто ён такі, колькі гадкоў яму? Давайце будзем чытаць: «Ён нізенькага росту // І любіць нас, малых, // На бегавой дарожцы, // Апераджае ўсіх…» Гэта ўжо таксама загадкава. Загадкава з самага пачатку. І хочацца даведацца, а што ж далей. А далей даведаемся, як дзеці збіраюцца да яго ў госці, гадаюць, што ж узяць з сабою. Выйсце знайшлі ўсім гуртом, але… «Піроржныя-грыбочкі // З пяску спяклі наспех, // А ён панюхаў моўчкі, // Пакрыўдзіўся і збег». Па-мойму, не зусім звычайна, дасціпна і з добрым густам, з веданнем дзіцячай псіхалогіі расказаў паэт пра чатырохногага сябра дзятвы, і змог зрабіць гэта ўсяго ў шаснаццаці радках.

Вельмі характэрны ў гэтых адносінах яшчэ адзін верш — «Боршч з крапівы».

Цяперашнім малым «гурманам» такая страва можа здацца трошкі экзатычнай, нават неверагоднай. Дзецям жа ваеннай і пасляваеннай пары — многім дзядулям і бабулям сённяшніх дзяцей, каму наўрад ці вядомыя пакуты ад голаду, — гэты «ласунак» быў звычайнай з'явай у збяднелых вясковых (дый гарадскіх) сем'ях. Той-сёй з іх па старой памяці і ў нашы дні заказвае сабе вяс-

ною, калі маладзенькая крапіва не паспела яшчэ стаць злоснай ды куслівай, «з крапівы — абед». Як ні дзіўна, карысны для здароўя, багаты на вітаміны.

Не ведаючы, з чаго ён звараны, баршчом з крапівы ўсмак пачаставаліся і дзеці, героі згаданага верша. Якая была іх рэакцыя, як паводзілі яны сябе, калі раскрыўся сакрэт прыгатавання «смачнага баршчу»?

Першай да люстэрка
Кінулася Верка,
Затаіла дух:
Ці язык не ўспух?

А люстэрка Верцы
Усміхаецца:
Крапіва ў талерцы
Не жыгаецца.

Думаю, шмат каму з маленькіх чытачоў, не пакрыўджаных ядою дзяцей, пасля знаёмства з гэтым вершам захочацца папрасіць маму ці бабулю: «Хачу таксама на абед баршчу з крапівы».

Што за вясёлы птах звіў гняздо сабе… пад сумётам? Што за кракадзіл пасяліўся ў хлопчыка Антона ў слоіку? Як сабачка Жук баравікі збіраў? На каго падобны дожджык-грыбасей? Які гэта жаваранак спявае ў кватэры зімой? Што за белага вярблюда ўбачылі дзеці каля веснічак? Дзе песні ў колерах ткуцца? Папялушка «на беларускай мове Купалаў верш чытае». Хто яна? Чаму хлопчык Саша мыкаў, як бычок? Чым лечаць… язычок? Ад чаго ў Сярожкі пачалі расці… рожкі? А з чаго пачынаюцца ўсе здабыткі ў свеце?

Пра гэта ўсё, а таксама пра сёе-тое з жыцця дзяцей і прыроды чытачы даведаюцца, перагарнуўшы старонкі з раздзеламі «Я вясну гукаю», «Дзякуй за працу», «Зайчык са скакалкай».

Займальна, па-свойму вынаходліва, часам з іроніяй, а часам з лагоднай усмешкай, з народным досціпам напісаны казкі, якія склалі раздзел «Чароўны апельсін». Іх восем: «Зайчыкі», «Пра ступу, Бабу Ягу і Анёла», «Як чорта з хаты выганялі», «Разышоўся, яе заечае сала», «Воўчая грамата, або Чаму воўк вые», «Шэры госць», «Чароўны апельсін», «Пра Мядзведзя-пагарэльца і яго сяброў». Пад некаторымі значыцца: «З народнага». Аднак паэт не пайшоў шляхам даслоўнага пераказу вядомых сюжэтаў, як гэта нярэдка можна ўбачыць у некаторых аўтараў, а знайшоў свае хады, мастацкія дэталі, сваю даволі арыгінальную трактоўку падзей, якія адбываюцца ў іх.

Жыццёва, натуральна, сучасна пададзены сюжэты казак, якія ад пачатку да канца можна назваць чыста аўтарскімі, сваімі па задуме і знаходках, а самога паэта — казачнікам.

Чаму я не паскупіўся, магчыма, болей, чым хацелася б некаму, засяродзіўся на творчасці Міколы, адрасаванай дзецям, а таксама на зборніку «Пачынайце дзень з усмешкі»? Часта, калі гаворка заходзіць пра дзіцячую літаратуру, можна пачуць сакраментальную фразу, якая даўно ўжо ходзіць у пісьменніцкім асяроддзі: «Пісаць для дзяцей трэба так, як і для дарослых, але трошачкі лепш». Ды сваімі развагамі пра творчасць паэта для дзяцей і менавіта кнігу «Пачынайце дзень з усмешкі» хацеў пераканаць усіх прыхільнікаў яго таленту, некаторых даследчыкаў-літаратуразнаўцаў, што ён адпавядае дадзенай «стандартызацыі»: творы, што прынёс Мікола Маляўка ў дзіцячую літаратуру, — сапраўды высокай мастацкай пробы, сапраўды змястоўныя, складзены з добрых і цёплых слоў, прасветленых ласкай і любоўю да ўсяго роднага і зямнога, да нашых дзяцей. З клопатам пра іх будучыню. А добрая, шчырая ўсмешка… Хіба можна ўявіць без яе шчаслівае ў нечым дзіцця?

## «Радкі збіраў я сэрцам і душой…»

Калісьці, у дзяцінстве, чытаючы «Новую зямлю», я зайздросціў героям Коласавай паэмы, якія днямі бавіліся ў лесе, збіралі грыбы і ягады, купаліся ў Нёмане, лавілі рыбу. У нашых мясцінах такога хараства не было (бліжэйшы лес за восем кіламетраў знаходзіўся), таму я і зайздросціў ім. А пасля ўжо — і Колю Маляўку: ён жа таксама нарадзіўся там, «дзе льецца Нёман срэбраводны», жыў у вёсцы Мікалаеўшчына і вучыўся ў школе, якая носіць імя народнага паэта Якуба Коласа, хадзіў па тых сцежках, дзе калісьці хадзіў яго славуты зямляк, слухаў успаміны людзей, якія сустракаліся з ім, былі сваякамі, разам гасцяваліся. Каб не сяброўства з Міколам, гэту красу я ўбачыў бы, напэўна, не вельмі хутка. А з ім…

Вясною 1961 года, якраз, памятаю, на Вялікдзень, ён запрасіў мяне ў сваю Мікалаеўшчыну. Ехалі са Стоўбцаў цягніком, а адтуль ужо тэпалі да вёскі пехатою. Былі маладыя, бадзёрыя, і дарога ў дванаццаць кіламетраў, то полем, то праз лес, не ўсюды добра падсохлая і ўезджаная, здалася не такой ужо доўгай і стомнай. Тады я і ўбачыў упершыню вясновы Нёман, крыгаход на ім, а галоўнае — пазнаёміўся з Міколавымі бацькамі: ціхмянай і ласкава-прыветлівай цёткай Зінай і часцей усмешлівым, чым задумна-панурым, дзядзькам Сашам, як назваў яго, забегшы ў хату, братаў дружбак Саша Камароўскі. Так-так, будучы паэт Алесь Камароўскі. А ў той раз ён сарамліва паказаў Міколу і мне свае вершы, яшчэ кволыя, вучнёўскія, аднак Мікола, як зямляк, не паскупіўся на пахвалу, падтрымаў паэтычны запал пачаткоўца: «Малайчына!» Мы забралі іх з сабою ў Мінск. Неўзабаве адзін з тых вершаў, «На беразе Нёмана», падпраўлены Міколавай рукою, быў надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі», дзе я тады супрацоўнічаў і пастараўся даць яму «зялёную вуліцу». І, як аказалася, справядліва. Здольны пачатковец з часам апраўдаў наш «аванс», нашу з Міколам падтрымку.

З нашых паездак на Міколаву радзіму запомнілася яшчэ адна: вяртаючыся ў Мінск (і зноў жа — ранняй вясною!), ён у той раз прапанаваў праведаць у Стоўбцах сваю любімую настаўніцу, яго «першага рэдактара» Юлію Сяргееўну Тупяневіч. Часу да адыходу цягніка хапала, і я паслухмяна рушыў услед за Міколам на вулачку, што знаходзілася непадалёк ад чыгуначнай станцыі. Мне надзвычай цікава было пазнаёміцца з гэтай прыветлівай з выгляду жанчынай, а яны абодва не хавалі радасці і замілавання ад нечаканай сустрэчы. Нечаканай — для яе, а мой сябра, як я зразумеў, даўно рыхтаваўся, выбіраў час, каб наведацца ў гэты дом, убачыцца з блізкім яму чалавекам, падзяліцца навінамі са свайго жыцця-быцця, даведацца, як жывецца ёй цяпер, што клапоціць былую настаўніцу. Сыпаліся роспыты, усплывалі нейкія ўспаміны, і я стараўся не перабіваць іх, а толькі слухаць, бо чым я мог, выпадковы госць, «разбавіць» тую душэўную для іх гамонку?

Як для самых родных людзей, на ўсё жыццё застаўся ў Міколавым сэрцы куточак, сагрэты пачуццём бязмежнай любасці і глыбокай павагі да сваёй школьнай настаўніцы Юліі Сяргееўны. Вайна пазбавіла яе сямейнага шчасця — забрала сыноў, «і ўсё, што не магла аддаць сынам», яна «не ўтойвала ў душы засмучанай», з любоўю аддавала сваім вучням. А юнаму вершатворцу і ахвотніку да кніг Колю Маляўку, мабыць, найбольш ад усіх.

Такой шчырай дружбе, такім узаемаадносінам, што ніколі не пакідалі іх, здатнага вучня і чулага, добразычлівага педагога, можна было толькі пазайздросціць. Адчуваю, яна нямала ганарылася тым, што дапамагла здольнаму вучню вызначыцца ў жыцці, упэўнена выбрацца на літаратурную сцяжыну, а ён — тым, што змог апраўдаць яе спадзяванні, змог дамагчыся таго, у што яна, ведаючы яго настойлівасць і ўпартасць, канечне ж, верыла. Нават выйшаўшы на пенсію, працягвала цікавіцца, дзе друкуецца, якая новая кніжка ў яго выйшла. Мікола ведаў гэта, таму стараўся не забываць запаветны стаўбцоўскі адрас, радаваў Юлію Сяргееўну кніжкамі з аўтографамі. А калі ў іх сям'і нарадзілася дачка, доўга не раздумвалі, як яе назваць. Назвалі Юляй. Мабыць, былая настаўніца была ўзрада-



*Мікола Маляўка з бацькамі.*

вана і ўсцешана такой навіной. Праз гады, працуючы над кнігай «Старая зямля», паэт узгадаў вобраз школьнай настаўніцы, прысвяціў ёй адзін з вершаў, дзе ёсць такія радкі прызнання:

Спрыяла ўсім нам, дзецям, як свая.
І ёй, ад хвалявання анямеўшы,
Я нёс на суд свае заметкі, вершы —
Радкі пра ўсё, што чуў і бачыў я,
Радкі з няроўным пульсам пачуцця.
Вучыла думаць, летуценіць, верыць
Яна, рэдактар наш і крытык першы, —
Настаўніца любімая мая…

Было б, напэўна, вялікай несправядлівасцю ды ўпушчэннем з майго боку, калі б я «прайшоў міма» яго «Старой зямлі» — кнігі, сапраўды ўнікальнай, сапраўды змястоўнай і праўдзівай, для аўтара — галоўнай кнігі жыцця. Чаму я так думаю і сцвярджаю? Магчыма, не варта было б нагадваць лішне, штосьці параўноўваць, шукаць блізкасці ў паказе падзей, абмалёўцы персанажаў, раскрыцці ўнутранага свету літаратурных герояў, у маляўнічасці навакольных краявідаў, у паказе чароўнасці прыроды, але ж назойліва напрошваецца згадка пра «Новую зямлю» Якуба Коласа, жаданне правесці пэўную паралель паміж імі, бо абедзве — цікавыя з'явы і здабыткі нашай беларускай літаратуры. Зноў жа — на мой розум, як мне думаецца.

«Паэтычнай энцыклапедыяй жыцця беларускага народа дарэвалюцыйнага перыяду» называюць крытыкі і літаратуразнаўцы «Новую зямлю». Што гэта сапраўды так — усімі даказана грунтоўна і даўно. Але кнізе яшчэ не хапае пасапраўднаму сур'ёзнай і зацікаўленай гаворкі пра яе мастацкія вартасці, глыбіню паказу падзей і людскіх лёсаў, разнастайнасць паэтычных вобразаў і літаратурных персанажаў. «Старая зямля» — гэта кніга лёсу адной вёскі не далёкага дзесьці, а нашага часу, можна сказаць, драма яго роднай Мікалаеўшчыны. І ці толькі яе адной?! Некалі гаспадарлівая, гасцінная, песенная, яна заняпала: паміраюць людзі і хаты, зарастаюць травою і кустоўем агароды, дзічэюць сады. Чаму так здарылася? Адкуль прыйшла бяда? Ці ёсць якое выйсце з усяго бязладдзя і заняпаду?

Паэту, сыну слыннай вёскі, балюча бачыць усё гэта, бо ён з гадамі не забыў сцежку да роднага парога, да знаёмых змалку ваколіц і людзей, як і жыў калісь, жыве з імі і цяпер, удзячны ім за тую навуку і жыццёвую мудрасць, якімі яны шчодра дзяліліся з паэтам у маленстве і далёкім ужо юнацтве.

Я тут, сярод аднавяскоўцаў, рос,
Вучыўся ў іх, калі было мне туга,
Давер'ем даражыць, не падаць духам.
Каб расказаць пра мікалаўцаў лёс,
Я з імі шчыраваў у сенакос,
Вазіў снапы на ток, хадзіў за плугам,
Капаўся ў кнігах, старажылаў слухаў, —
Цярпліва крыж свой кожны з продкаў нёс.

Магчыма, скажа дазіроўшчык праўды,
Што ў вершах шмат кантрастных перападаў,
Гармоніі і ладу не стае, —
Ды так жылося ў вёсцы чалавеку:
Падобны, знаю, землякі мае
На ўсіх вяскоўцаў у дваццатым веку.

Шматпланавы абсяг «Старой зямлі», ахоп падзей і рэалій штодзённага сялянскага побыту, што, як фарбамі мастака, перададзены моваю высокай паэзіі, — гэта нават не загадкавы востраў, а схаваны за шчыльнай заслонай часу і мноствам жыццёвых з'яў і лёсаў мацярык, дзе ёсць усё, каб радавацца жыццю, а не засмучацца яго яваю: «Які прыўкрасны свет!.. І дзьмухавец, // І святаяннік, і чабор, і смолка. // Смяюцца дзеці. Мёд збірае пчолка. // Па лузе бусел ходзіць, як касец. // Гамоніць лес грыбны з канца ў канец. // Уночы светла — хоць збірай іголкі, // А днём над Мікалаўшчынай вясёлка // Гарыць, як свету гэтага вянец». Гэты мацярык, гэты куточак свету ў паэта густа населены людзьмі і вобразамі, якія найбольш блізкія і дарагія яму. Ад маці, бацькі, радні і суседзяў — да ўсіх «мікалаўцаў»: самых знакамітых, а большасцю сваёй — простых, знаёмых з маленства вяскоўцаў-землякоў, равеснікаў і нашчадкаў славутага песняра Якуба Коласа, сваіх сяброў, пра каго, на вялікі жаль, давялося ўжо згадваць у мінулым часе. З іх спрадвечна-спадчыннымі клопатамі, працай, спадзяваннямі на лепшую долю, засмучэннямі і радасцямі жыцця. З іх сялянскай мудрасцю і дабрадзейнасцю, якую не змаглі замуціць і згасіць у глыбіні душы, як свечку ці лучыну, ніякія выпрабаванні жыцця і лёсу, — «стараліся, каб быў у працы лад», «жылі без крыўды, зайздрасці і звад». Шчыравалі за плугам і з касой, на жніве і на сенажаці, на ферме і на сваіх сціплых агародах, каб выжыць, не страціць веры ў дабро, годнасці і любові да зямлі, якая нарадзіла і ўскарміла іх.

І раптам, быццам хто начараваў, усё з бегам часу змянілася ў гэтым куточку свету. Як у прыродзе, так і ў душах людзей, у іх псіхалогіі, паводзінах і ўчынках. Аўтару балюча назіраць і ўсведамляць: «Адкуль у вёсцы марнатраўства дух?», «Араць і сеяць — ім не па душы. // А як пражыць, гуляючы, без хлеба?», «І новая зямля — старою стала. // Забыла, як паруе баразна», «Дзе лес пры мне шумеў — цяпер прагал, // Сякеры знак і чорны след падпалу. // У краі палясоўшчыкаў не стала // Такіх, як бацька Коласаў Міхал», «Гуляюць, п'юць да самазабыцця», «На ферме ён не прасыхаў і дня», «"Гасцей" начных у нас баяцца хаты. // Запоры — на дзвярах, на вокнах — краты», «На лавачках вясковых — ні душы», «Змяніўся час, і нават на Каляды // Гасцям з "казой" і песнямі не рады», «Цяпер ляжыць у соснах і бярозах // Амаль уся мая старая вёска, // Сяброў і родных болей, чым жывых», «Гармонік-весялун даўно маўчыць»… Адно ўсцешвае паэта, наводзіць на весялейшы роздум: «За плотам садзіць яблыньку хлапчук, // Стараецца з памочніцай-рыдлёўкай: // Зямлёй карэнне засыпае лоўка, // Калок забіў, каб не сагнула ў

крук…»; «Зялёны свет сядзіб у заняпадзе, — // І трэба дбаць, ратуючы зямлю, // Пра пакаленне новых дрэў у садзе…»

Стараючыся заглянуць у дзень заўтрашні, паэт і думае, і разважае, што трэба зрабіць, каб на старой зямлі закрасавала новае жыццё, больш людскае, шчаслівае і прывабнае: «Шкада, не ўсю красу мы захавалі, // Будучы эдэм з агню і сталі. // Не паўтарайце нашых горкіх слёз // І беражыце родны свет, нашчадкі, — // Увесь, // Ад ніў і рэчак — да нябёс, // Ад храма ў вёсцы — да птушынай хаткі».

Арыгінальнасць ды ўнікальнасць, мастацкая і паэтычная прывабнасць кнігі «Старая зямля», яе філасофская заглыбленасць і бясспрэчная свежасць, мабыць, не аднаму мне падасца ў тым, што аўтар выбраў для ажыццяўлення сваёй не зусім звычайнай задумы не зусім звычайную форму верша: «Старая зямля» Маляўкі — гэта гісторыя роднай вёскі, у якой «свая прапіска, ад гарадоў і аўтастрад няблізка», «Стаўбцоўскага, над Нёманам раёна», напісаная моваю санетаў. Іх у кнізе — больш за трыста. Калі задумацца, то цяжка нават уявіць, колькі цярплівасці, вынаходлівасці, майстэрства, умення асэнсаваць і дастаць на свет Божы з глыбіняў памяці безліч падзей, з'яў, імён, усю гэту «хроніку вясковага жыцця», якую захавала памяць, каб расказаць, вярнуць пражытае і перажытае землякамі і нашчадкамі, нам з вамі, жывым!

Я ўпэўнены, мой сябра не крывіў душою перад сабой і часам, прызнаючыся, не хаваючы сваіх пачуццяў:

Радкі збіраў я сэрцам і душой,
Як кветкі, рассыпаліся санеты
Зімы і восені, вясны і лета.
Тады я спырснуў іх жывой расой,
Спавіў з любоўю светлай дзеразой,
Каб сталі для мяне і вас букетам, —

І вось яны ў адным букеце гэтым
На сонцы ззяюць сціплаю красой…

З чым іншым, а з гэтай думкай паэта я асабіста не магу пагадзіцца: «букет» атрымаўся ў яго самай зіхотка-дзівоснай і непаўторнай красы, варты замілавання і асалоды! Адно даводзіцца шкадаваць: чамусьці на дзіва мала знайшлося зацікаўленых асоб (калі не лічыць публікацыі Васіля Макарэвіча ў часопісе «Нёман», Яўгена Міклашэўскага і Алеся Марціновіча ў «Полымі») сярод крытыкаў, літаратуразнаўцаў і даследчыкаў роднага слова, нават сярод чыноўнага люду, хто б падаў голас, каб гэта вартая вышэйшай адзнакі кніга была заўважана на дзяржаўным узроўні. Хіба іх шмат з'явілася ў нашай літаратуры ў апошнія дзесяцігоддзі?..

Але ж для сапраўднага творцы (а ў гэтым я не сумняваюся), які шчыра адданы роднай зямлі, нашай літаратуры і які не забыў з любасцю пазначыць на сваёй кнізе «Бацькам маім, землякам, роднаму краю — прысвячаю», мабыць, «гульня ў лаўрэаты» — не галоўны клопат, не самамэта. Падуладны задуме, паэт, быццам тыя грыбы ды ягады ў прынёманскім лесе, не стаміўся «збіраць радкі», вышукваць у сховах памяці і ў жыцці родных мясцін новыя сюжэты, годныя стаць паэтычным працягам сваёй галоўнай кнігі. І вынік ёсць: не так даўно выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ў серыі «Кніжная паліца школьніка» выпусціла ў свет новае, значна дапоўненае выданне кнігі Міколы Маляўкі «Старая зямля». На гэты раз у яе ўвайшло ні многа ні мала, а 450 санетаў. «Спавітых дзеразой» і, як ластавачкі ў падстрэшшы матчынай хаты, сагрэтых любасцю і цеплынёй да родных мясцін, да людзей, да спрадвечнай красы Наднямоння.

І яшчэ адно прыемна ўсцешвае: на гэты раз аўтару, каб выдаць «Старую зямлю», не давялося выпрошваць патрэбныя грошы ў не заўсёды шчодрых спонсараў, адчувальна «церабіць» сямейны бюджэт ды свой «пенсійны фонд» —

кніга выйшла за дзяржаўны кошт. І накладам — дзве тысячы асобнікаў. Значыць, ёсць спадзяванне, што яна трапіла ў бібліятэкі, яе заўважаць і з цікавасцю пазнаёмяцца чытачы.

## «Мая хата — не з краю…»

Чамусьці ў свой час не занатаваў, каму з вядомых філосафаў старажытнасці належыць гэта выказванне, а словы засталіся ў памяці: «Людзі адчуваюць сябе бадзёрымі да той пары, пакуль яны вясёлыя». А што такое весялосць? Напэўна ж — усмешка, жарт, цудоўны настрой, навакольны свет у вясёлкавых колерах, радасць. І стварэнню такога настрою надзвычай станоўча часцей за ўсё спрыяе пачуццё гумару ў самім чалавеку, а калі яго бракуе — можна паспрабаваць гэты «недахоп» кампенсаваць кніжным гумарам — даступнымі для ўсіх «лекамі без аптэкі».

Нібы ў падтрымку вышэй згаданага мудраслова і вартасці «народнага рэцэпту» склалася ў мяне чатырохрадкоўе, якое я пакідаю ў якасці аўтографа на сваёй кнізе «Прызба, альбо Смяяцца — не плакаць»:

Жыццё як ні складзецца,
Трымайце ў галаве:
Хто часцей смяецца,
Той даўжэй жыве.

Праўда, жаданне пасмяяцца не заўсёды ўзнікае ад вясёлага настрою, не заўсёды ўсім падабаецца «зубаскальства». Асабліва, калі нехта смяецца… з цябе самога, калі ты сам стаў аб’ектам нейкага жарту, тым болей — крытыкі ці насмешкі. Не злічыць, напэўна, такіх з’яў і кур’ёзаў, што падкідаюць нам часамі, «падсаджваюць на пяро» паўсядзённы побыт, сямейныя стасункі, чыноўныя норавы, заганныя ўчынкі і паводзіны людзей, розныя пацешныя здарэнні, якія становяцца сюжэтамі для гумарэсак, баек, пародый, эпіграм, нават для чыста народнага гумару — анекдотаў.

Гумарыстычны жанр — не надта лёгкі. Не ўсім удаецца з наскоку, увішна «забрытаць» вясёлага, але наравістага коніка, шпарка, без прыгод гнаць яго па не такой ужо роўнай дарозе, быць спакойным за свой «намалот», таму, відаць, і паэтаў-гумарыстаў, паэтаў-байкапісцаў, паэтаў-сатырыкаў у нашай літаратуры можна па пальцах пералічыць. Але ж усе ведаюць: такія творы найбольш падабаюцца людзям, бо яны знаходзяць у іх тое, што патрэбна іх душы, узнімае настрой, а ў таго-сяго міжволі абуджае жаданне прыслухацца, задумацца, пільней прыглядзецца да сваіх учынкаў і паводзін: «А ці не пра мяне гэта байка, гэты насмешлівы верш? Не хапае, каб людзі смяяцца пачалі, пальцам тыцкаць у мой бок: гэта ж пра яго!» Праўду ж, напэўна, кажуць, што смеху баіцца нават той, хто, здавалася б, нічога не баіцца. Такая ўжо сіла тоіцца ў жартоўных ды сатырычных творах. Здавалася б, зусім бяскрыўдных, легкадумных…

Як яно сталася (ці выпадкова, ці прадумана), аднак і ў творчасці Маляўкі адбыўся паступовы, але адчувальны паварот да сатыры і гумару, калі лірыка, быццам нехаця, змусіла пасунуцца крышку ўбок, саступіць іранічным ды задзірыстым «суседкам», тым самым даўшы сцвярджальна «заіскрыцца» яшчэ адной паэтычнай грані самабытнага майстра. А з чаго можна (і варта!) пажартаваць ды пасмяяцца, за што не грэх таго-сяго адсцябаць вастраслоўным «венікам», чаму не шкодзіла б таму-сяму павучыцца, каб не быць абсмяяным, дзе магчыма адшукаць вясёлы настрой, ён, паэт, рашыў падказаць, падрыхтаваўшы і аддаўшы на суд чытачоў новую і тымчасова — першую (так-так, сапраўды першую!) кнігу сатыры і гумару «Нябесны фатограф». Колькі ён ішоў да яе, з чаго пачынаў?

У яго, не заўсёды ўсмешлівага ды вясёлага з выгляду, схільнасць да гэтага адмысловага жанру прабілася праз прызму лірычнага ўспрымання свету і падзей яшчэ ў нашым студэнцтве. Як жывым водгукам на рэаліі студэнцкага жыцця і побыту з'явіўся ў яго твор, які неўзабаве стаў сапраўдным здабыткам студэнцкага фальклору, асабліва на родным філфаку, сярод аднакурснікаў, — жартоўная паэмка «Ліверная каўбаса». Ведаеце такую? Ведаеце і, мабыць, бачылі, бо часам яшчэ прадаецца. Але ж яна ўжо не такая смачная, як была раней. Гэты прадукт часцей чым які верхаводзіў тады ў сціплым студэнцкім рацыёне, у інтэрнацкім «меню». Асабліва перад стыпендыяй. І Мікола склаў самую сапраўдную оду гэтай прызнанай спадарожніцы студэнцкага застолля. Спачатку яна існавала ў рукапісным выглядзе, а потым, каб надарылася магчымасць неяк фінансава падтрымаць аўтара, а з гэтым — хоць часова, як на той Вялікдзень, разгавецца за больш прыстойным сталом пасля атрымання ганарару, мы парілі Міколу аднесці гэту жартоўную паэмку ў рэдакцыю часопіса «Вожык». Дзе-дзе, а ў гумарыстычным часопісе яе павінны надрукаваць. Мікола пагадзіўся з нашай думкай, аднак… Такога свята, як сяброўскі пачастунак, дачакаліся не ўсе. Што ліверная каўбаса мае і трошкі іншы смак, чым тады, у напаўгалодным студэнцтве, сам аўтар адчуў ажно… праз дзесяць гадоў, калі сур'ёзна-жартаўлівая «Ліверная каўбаса» ўпершыню ўбачыла свет у яго паэтычным зборніку «Лотаць», зрабіўшы свой пачэсны «ўзнос» у не такі ўжо сціплы аўтарскі ганарар і падмацаваўшы спадзяванне на традыцыйны сяброўскі пачастунак у кафэ «Чорныя скалы». Як тут не сказаць: лепш позна, чым ніколі!

З гадамі вершам і байкам, кшталту «Плотачка», «Бацяны», «Рогі», «Балерына» (пра свінню, якая хацела стаць артысткай балета), «Вуж-даяр», «Сучка з завушніцамі», «Сава і акуляры», «Лысы розум», «Філасофскі тост», «Стары пень» дый іншым, у нечым «лагодным» і не такім ужо «куслівым», усё часцей і настойлівей пачалі «пераходзіць дарогу» творы выразнага крытычна-сатырычна-публіцыстычнага гучання: «Спектакль», «Такая ўжо хвароба ў нас…», «Адны пытальнікі ў жыцці», «Перабудова», «Куды ідзём?», «Валютная крама», «Тое, што пасеялі, збіраем», «Пні прагрэсу», «Людзі з краю», «Радзівіл», «Цяжкі воз», «Скарга», «Куцця», «Анекдот»… Шчодра «падперчаныя» яваю сучаснага жыцця, не ўсім зразумелай «перабудовай», што адбылася ў нашым грамадстве і ў свядомасці людзей, яны, гэтыя «прысмакі», умела згатаваныя і пададзеныя таленавітым майстрам, вартыя самай высокай катэгорыі, дабрадзейна папоўнілі чытацкі «рацыён», дагэтуль не страцілі сваёй свежасці і надзённасці. Каб ніхто не падумаў, што мае высновы і развагі не маюць пад сабой адпаведнага падмурку, прапаную ўчытацца ў такі хаця б сатырычны абразок:

У век тэхнічнага прагрэсу
Хапае пнёў без галавы,
І вось ужо на месцы лесу
Гуляе вецер шалявы.

Прагрэсу пні, яны не дрэмлюць,
Вядуць з прыродаю вайну:
На хлебным полі садзяць дрэвы,
У лесе сеюць збажыну.

На дол упаўшы, вянуць кроны
І засыхаюць карані —
Усюды, дзе ў кутках зялёных
Сядзяць яны, прагрэсу пні.

Як быццам з добраю душою,
Пра хлеб клапоцяцца, чуваць,
А хлеб купляем за мяжою,
Бо пні — нялёгка карчаваць.

Магчыма, нехта з гэтым не пагодзіцца, аўтар, маўляў, яўна перабольшвае, не ў той бок гне. Ужо не так смехатворна і бяздумна ўсюды абыходзімся з прыродай, дый хлеб, здаецца, перасталі купляць за мяжою, свайго намалоту хапае. Але дзе гарантыя таго, што гэта не можа паўтарыцца, паўстаць з нябыту? Хіба мала яшчэ ў нас засталося «пнёў прагрэсу», «людзей з краю», «упаўнаважаных з раёна», адзін з якіх «злысеў, а верыць, як дзіця, што на зямлі расце куцця», каб пра гэта маўчаць ці пагаджацца з прымаўкай «Мая хата з краю — нічога не знаю»?

Напэўна, з цвёрдым перакананнем «Не, мая хата — не з краю» Маляўка ў сваіх найбольш знакавых зборніках «Аднавякоўцы», «Зімні дождж» (Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова), «Ручнічок на крыжы» (прэмія Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі), «Дзічка ў полі» змяшчаў цэлыя раздзелы сатыры і гумару, якія і ажыўлялі іх, і рабілі больш змястоўнымі, прывабнымі для чытачоў. Я ж сам, апрача ўсяго іншага, знайшоў у яго байках і гумарэсках нямала радкоў, надзвычай трапных і дасціпных, якія маюць поўнае права здзіўляць, застацца ў нашым абыходку россыпам крылатых выслоўяў: «Ды лепей праўды перац, чым мёд на языку», «Калі не даў Бог розуму, не дапаможа лысіна», «Вось так, танцуй, свіння, каля свайго карыта», «За сок агітуюць удзень, начуюць — у выцвярэзніку», «Ці не вядуцца дзе вужы, што смокчуць сырадой чужы?», «Не вернецца Казёл, дык знойдзецца Баран»…

Як вядома, час не стаіць на месцы. Дзе павольней, а дзе імклівей, ён працягвае рух наперад, прыносячы ў жыццё мноства перамен. З бегам дзён узнікла безліч новых, раней непрадказальных нават сюжэтаў, для майстроў «вясёлага цэху». Не застаўся, як бачым, абыякавым да ўсяго, што робіцца ў гэтым свеце, і паэт-лірык, паэт-казачнік, мой таварыш Мікола Маляўка. Яго творчы «куфэрак» за апошнія часы папоўніўся не адным дзясяткам займальных, па-народнаму ўсмешлівых і дасціпных твораў — гумарэсак, баек, жартаў, пародый, што дало яму, нарэшце, мажлівасць — парадавацца выхаду ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» асобнай кнігі. І калі я цяпер да папярэдніх дзвюх «атэстацый» дадам, што ён — паэт-гумарыст, спадзяюся, са мной ніхто спрачацца не стане. А хто засумняваецца, няхай знойдзе час пазнаёміцца з «Нябесным фатографам». Упэўнены, нікому сумна не будзе, а толькі захочацца весялей зірнуць на гэты свет. Калі не засмяяцца, дык усміхнуцца — абавязкова.

## «На покуці веку нашага…»

З нейкім настальгічным пачуццём бяру ў рукі Міколаву кнігу выбранага «Покуць». Выдадзеную да яго 60-годдзя. З аўтографам, які пакінуў ён на гэтым падарунку: «Дарагі Мікола! Няхай грэюць нас цяпер, на покуці веку нашага, успаміны — пра маладыя гады, маладыя жаданні. Здароўя табе, дружа, творчага плёну, радасці — у дзецях і ўнуках». З настальгічным, бо кніга вяртае мяне ў нашы трошкі маладзейшыя гады (калі весці адлік ад сённяшняга дня), якім суджана было надоўга сысціся пад дахам рэдакцыі часопіса «Вясёлка». Сюды я перайшоў з часопіса «Бярозка», не пабаяўшыся змяняць пасаду адказнага сакратара на сціплую пасаду літаратурнага рэдактара. З грашовай «усушкай», вядома. Я адважыўся на такі, можа, крышку авантурны крок, бо зразумеў і чамусьці быў перакананы, што на той момант у «Вясёлцы», сярод тых людзей, якія працавалі там (Уладзімір Ліпскі, Тамара Тарасава, Мікола Маляўка, Яўген Ларчанка), пачуюся больш утульней і прыдатней, чым у «Бярозцы». Да таго ж — зноў блізка сыдуся з ім, з Міколам. Шчырым і надзейным ва ўсім сябрам, з кім тады часцей даводзілася сустракацца і тусавацца, мабыць, толькі ў ганарарныя дні ды сямейныя святы.

Гэта «спатканне» ў «Вясёлцы» расцягнулася на васямнаццаць гадоў. Працавалася ў ахвотку, бо ўдавалася лёгка знаходзіць агульную мову, усё рабілася ў атмасферы шчырасці і даверу, бо шмат у чым былі аднадумцамі. Не скажу, што



*Мікола Чарняўскі і Мікола Маляўка.*

спачатку ўсё давалася лёгка. На новым месцы мне давялося сур'ёзна... перавучвацца: адвыкаць ад стылю піянерскага часопіса і прызвычайвацца да стылю і мовы часопіса для дзетак-малалетак, пазбягаць шматслоўя і залішняй дыдактыкі ў творах. Тады, мабыць, упершыню мне выпала доля на ўласным вопыце спасцігаць глыбіню і сутнасць крылатага выслоўя: «Сцісласць — сястра таленту». А такога «таленту», як я сам змог адразу ж пераканацца, у параўнанні з Міколам у мяне яўна бракавала.

Згадваючы той час, я дзіўлюся, колькі вытрымкі, сяброўскай добразычлівасці і прафесійнага ўмельства давялося прыкласці Міколу, каб я хутчэй спасціг сакрэты вясёлкаўскага рэдагавання, перастаў адчуваць сябе нейкім вучнем-няўмекам, змог пазбавіцца ад ранейшага «грузу», трывала стаць на «новыя рэйкі». Ён сам апантана, нястомна працаваў над падрыхтоўкай пісьменніцкіх рукапісаў да друку, над дзіцячай творчасцю (часам быццам размалёўваў іх, бо карыстаўся стрыжнямі розных колераў), тое ж даводзілася рабіць і мне, каб давесці той ці іншы твор да патрэбнай кандыцыі, да адпаведнага ладу. Прызнаюся, часам у душы радаваўся, як дзіця, калі Мікола мала прыкладваў руку да падрыхтаванага мною рукапісу, не рабіў значных папраўак, і пачуццё ніякаватасці, нават сораму авалодвала табою, калі нейкі рукапіс раптам «расквечаваўся, ад яго прыдзірлівага «праходжвання» па ім. Не, ён не займаў пасаду галоўнага рэдактара, але ж я называў яго «шэфам». І па-сяброўску шчыра, і на правах аднаго са старажылаў «Вясёлкі» на той час.

Заходзячы ў рэдакцыю, сябры-пісьменнікі часта паджартоўвалі з нас, ахрысціўшы царскімі імёнамі — Мікалай Першы і Мікалай Другі. Прызнаюся шчыра: мне асабіста такое незвычайнае «ўшанаванне» падабалася. І мой сябар прымаў яго з усмешкай: хіба не дасціпна? Адно скажу: нягледзячы на такую «тытуляванасць», і ён, і я былі памяркоўнымі «самадзержцамі», заўсёды стараліся добразычліва і па-людску абыходзіцца з аўтарамі. Асабліва не злоўжывалі іх даверам. Канешне, можа, у некага і ўзнікалі нейкія крыўды (як ні клапаціся, а ўсім наўрад ці дагодзіш, нават пры царскіх мажлівасцях), аднак ніколі не ўзнікала «аўтарскіх бунтаў», мала знаходзілася нязгодных з палітыкай друкавання ў «Вясёлцы».

Як там «царавалася» тады, шмат хто з пісьменнікаў па сённяшні дзень успамінае з настальгічным сумам. Але гэта — між іншым...

Не злічыць, напэўна, літаратурных сустрэч і свят у школах, бібліятэках і дзіцячых садках, на якія хадзілі і ездзілі разам з Міколам, з вясёлкаўцамі. На той час была ў рэдакцыі і свая завядзёнка: з усімі святамі, днямі нараджэння, рознымі прыемнымі падзеямі ў жыцці кожнага супрацоўніка «Вясёлкі» — віншаваць вершаванымі прысвячэннямі. Іх звычайна пісалі Мікола ды я — паэты ўсё ж. Частка іх нават была выдадзена, увайшоўшы ў рэдакцыйнае ратапрынтнае выданне «“Вясёлка” святочная». Там ёсць і радкі, якія ён прысвячаў мне, а я — яму. Наогул, каб сабраць усе, што маюцца ў нашых хатніх архівах, у кожнага з нас іх назбіралася б на асобны зборнік. Праўда, некаторыя ўсё ж трапілі ў нашы кніжкі, мы не пабаяліся паказаць іх «свету цэламу», бо пісалі шчыра, ад душы, з прыкідам не на альбомнасць, а на іх паэтычную вартасць. Што ж да Міколы, дык ён паводле верша, які прысвячаў мне, нават даў назву аднаму з паэтычных зборнікаў — «Дар».

Здаралася, не прыходзілі ў нечым да згоды, успыхвалі спрэчкі (я не заўсёды пагаджаўся з тым, як ён часам правіў творы некаторых аўтараў, асабліва дзяцей, каб яны, на яго думку, «прыстойна выглядалі на старонках» «Вясёлкі»), аднак ніколі не ўзнікала ніводнай сваркі, крыўды. Такога, што раптам азмрочвала б нашы ўзаемаадносіны, прынесла ў нашы сэрцы «пахаладанне» і нядобразычлівасць. За паўстагоддзя з хвосцікам нашай дружбы я не памятаю, каб паміж намі прабегла «чорная кошка» недаверу і сумнення, хоць у Міколы (сябры гэта ведаюць) характар своеасаблівы, не заўсёды бывае лагодны і сцішаны: можа імгненна «ўспыхнуць», выказаць у вочы, што думае, і што не заўсёды ўсім падабаецца, але гэтак жа хутка «адысці» і «распагодзіцца», быццам ніякага «ўзгарання» і не было блізка. Не ўсе, каму часам кажу, вераць, што можна столькі доўга сябраваць, лічы, жыць, як тыя суседзі, адзін пры адным, давярацца адзін аднаму і ні разу нідзе і ні ў чым не «пракалоцца», захаваць самыя шчырыя і даверлівыя дружбацкія стасункі. І творчыя, і сямейныя. Хто ў гэтым «вінаваты» — цяжка сказаць. Ці я, ці ён… Мабыць, толькі збоку яно відней…

Наогул, калі ўзяць толькі творчыя стасункі, то ўбачыцца даволі цікавая, пасвойму адметная і рэдкая з’ява: у нас з Міколам нямала сваіх супадзенняў, нават сінхроннасці ў атрыманні ўзнагарод. Тут усё выглядае, нібы ў тым спаборніцтве, хоць у літаратуры дамагацца перамог, прызнання і ўзнагарод куды цяжэй, нават мала перспектыўна і верагодна. Аднак жа здараецца: тройчы мне даводзілася «даганяць» Міколу Маляўку ў гэтым незвычайным «забегу»: спачатку ён станавіўся лаўрэатам літаратурных прэмій (1992, 1997, 2002), потым — я (1995, 2001, 2002). Яшчэ двойчы такія святы супадалі: у адзін дзень (4 верасня 2007 года) атрымлівалі з рук Прэзідэнта дзяржаўныя ўзнагароды — медалі Францыска Скарыны, таксама ў адзін і той жа дзень выпала абодвум убачыць сябе сярод узнагароджаных медалём Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру» ў снежні 2012 года.

Я адчуваю, некаму гэты факт можа падацца дробязным, трошкі паказушным з майго боку, не вартым таго, каб яго ўзгадвалі, а для мяне асабіста ён — знакавы, у нечым сімвалічны. Я не сумняваюся ў такой, здавалася б, выпадковасці, я нават схільны лічыць гэтыя ўзнагароды, іх супадзенне і значнасць — той красамоўнай узнагародай, якая духоўна змацоўвае нашу дружбу, нашы памкненні ў літаратуры, робіць іх трывалейшымі і ў нечым паказальнымі, сцверджанымі самім жыццём. Чаму я так лічу? Бо па сённяшні дзень у нас няма сакрэтаў, ні сямейных, ні творчых, бо па сённяшні дзень мы не лічым за сорам і не баімся дзяліцца задумамі, шукаць адзін у аднаго парады, аддаць на суд таварыша тое, што напісана табою, у чым часам сумняваешся. Як і ў маладыя гады, не адмахваемся абыякава, вучымся шукаць у творы «рацыянальнае зерне», вучымся слухаць, разумець адзін аднаго і прымаць заўвагі, абы гэта было на карысць літаратурнага твора і патрабавальнага чытача. А вучоба, як вядома, ніколі нікому шкоды не прыносіла. У якім бы ўзросце ты не хінуўся да яе.

Калі ўжо гаворка перайшла ў такое рэчышча, хацеў бы падзяліцца сваім назіраннем: мяне (і, мабыць жа, многіх з майго пакалення) здзіўляе «аднаасобніцтва» і «хутаранскі сіндром», якія прысутнічаюць сёння ў творчых стасунках маладзейшых братоў па літаратурным занятку, з іх перакананнем, безразважна падмацаваным значнай доляй самаўпэўненасці: «Самі з вусамі». Ці не пра гэту з’яву ў паводзінах маладых трошкі скептычна і самакрытычна яшчэ ў гады сваёй маладосці азваўся Мікола: «Адмахваемся: “Самі з вусамі” // А да ўсяго не даходзім самі. // Прызнацца ў гэтым другім не хочам // І там, дзе плакаць павінны, — рагочам, // Крычым, галаву задзіраем, як пеўні. // А збоку глядзяць і думаюць, пэўна, // Настаўнікі нашы, людзі з вусамі: // “Якія разумныя! Самі ды самі…”».

Думаецца, маладзейшыя з часам зразумеюць гэты дакор паэта. Галоўнае — каб хутчэй…

## «Каб заўтра цёмна не было…»

Прыгадваю ўсіх, з кім калісьці выбіраўся на пакручастую сцежку, што вяла да храма яе вялікасці Паэзіі, радаваўся святу не такіх яшчэ частых надрукаваных радкоў — даўніх сяброў і проста добрых хлопцаў, сваіх равеснікаў, не абдзеленых прыхільнасцю Госці нябеснай. Прыгадваю — і азіраюся: колькі іх засталося, дзе яны? Некаторых ужо няма незваротна, іх забрала Вечнасць (Анатоль Сербантовіч, Хведар Чэрня, Рыгор Семашкевіч, Іосіф Скурко, Мікола Міцкевіч, Пятро Сушко, Міхась Вышынскі, Міхась Зарэмба, Эдуард Зубрыцкі), некаторыя прымоўклі (ці вінаваты самі ў гэтым?), быццам схаваўшыся за шчытом неспадзяваных праблем і з’яў, што абрынуліся на людзей, завалодалі іх пачуццямі і свядомасцю, выбілі з прывычнай каляіны, надламілі псіхалагічна. Разгубленыя, сталі шукаць сябе хто ў чым пабочным, далёкім ад лірыкі, а бліжэйшым да бізнесу і прадпрымальніцтва, не здолеўшы знайсці сіл і матывацыі застацца ў новым часе такімі ж стараннымі «служкамі Музы», як і раней.

Некаторыя ж, нягледзячы ні на якія выбрыкі і выбракі лёсу, спакусы, якія, здавалася б, ахапкамі стала кідаць пад ногі і ў вазкі прымхлівай самастойнасці расцугляная ды разняволеная ява, не купіліся на іх, не спыніліся ў разгубленасці перад невядомасцю і неакрэсленасцю жыцця, як на раздарожжы, а засталіся верныя свайму прызванню, прафесійнай годнасці, літаратуры і роднаму слову, а разам з усім — Беларусі. І, напэўна, трэба толькі радавацца, што Міколу Маляўку сярод «адступнікаў» і «маўчуноў» месца не знайшлося. Можа, таму, што не шукаў яго там? А можа, хутчэй за ўсё, паспрыяў прыклад слыннага земляка Якуба Коласа, яго жыццё, якое не заўсёды, не ва ўсе часы ткалася з ясных зор і сонечных праменняў, пачуццё духоўнай і душэўнай роднасці, адказнасці і абавязку перад вобразам і памяццю народнага Паэта і Настаўніка: «Я з тое нівы каласок. // Дзе Колас вечна быў заняты: // Араў няўдобіцу, пясок // І сеяў мудрасці зярняты»?

Па сваёй прыроджанай сціпласці мой сябра можа толькі скупа ўсміхнуцца, выслухаўшы гэта меркаванне, сказаць самому сабе ў думках: «Калі яно цікава ведаць, думайце, як хочаце, я не забараняю. А вершы… Хіба можна штучна затрымаць іх, перагарадзіць ім дарогу, калі ім не дрэмлецца ў сховах душы, калі паэзія прыносіць мне радасць? Хіба можна здрадзіць ёй за гэта?»

Застаючыся ў палоне самых розных тэм і вобразаў, што падказваюць жыццё і сучаснасць, імкнучыся ісці ўпоравень з часам, паэт не спыняецца ў пошуку, жыве творчасцю, працягвае «за кожным вершам бачыць чалавека, жывога ці сышоўшага ў нябыт», настойліва сцвярджаць, паўтараць, як матчыну малітву: «Любоў мая высокая, як неба, // Любоў да краю, мілага заўжды: // Яна — ад плуга, ад касы і цэпа, // Яна — ад чысціні жывой вады, // Яна — ад сілы маладога хлеба, // Яна, зязюляй лічачы гады, // Не рвалася туды, за свет, дзе лепей, — // А ўсё трывала,

суш і халады». Працягвае шчыраваць, хоць да нашага занятку, асабліва да паэзіі — прызнанай і спрадвечнай «царыцы літаратуры» чамусьці надта ж холадна пачалі ў апошні час ставіцца ў выдавецтвах, прымушаюць рукапісы цягам доўгіх гадоў «адлежваць бакі» ў цянётах пахіленых ад перагрузкі выдавецкіх шаф ці нярэдка — проста адмаўляюцца іх прымаць, у якасці суцяшэння пытаючы: «Можа, проза ёсць?» Быццам проза зможа адказаць на ўсе пытанні, пастаўленыя часам і жыццём, глыбей адцеміць перыпетыйнасць нашых паўсядзённых рэалій, замяніць той духоўны прагал, тую «высечку», што пакінулі ў душах, свядомасці і ўчынках людзей «няпэўнае жыццё, няпэўны час». Аднак жа заўсёды верыцца ў лепшае. Не ў змрок і цемень, у будзённую шэрасць, а ў святло. Нават тых жа… бяроз.

Я не ўяўляю свету без бяроз.
Сярод ялін і хвой — святла палосы,
Яны не гаснуць і ўначы, бярозы,
Яны заўжды, у спёку і ў мароз,
Высвечваюць і наш жыццёвы лёс…

Сцвярджаючы гэту ісціну, паэт працягвае верыць:

І людзі ёсць у кожным пакаленні
Такія ж светлыя, без хмаркі ценю.
На плошчы шумнай і ў лясной глушы
Яны нясуць, не цьмеючы ў знямозе,
Святло ў вачах, святло ў сваёй душы,
Каб весялей сучаснікам жылося.

Годна заняўшы пачэсны пасад на покуці нашай роднай літаратуры, Мікола Аляксандравіч і ў свае 75 нікольki не пастарэў душою, не страціў імкнення да пошуку, плённа працуе. З непахісным перакананнем, што з гадамі «строгай адказнасці болей за кожную справу і слова», ён застаўся такім жа няўрымсным, дбайным і ўдумлівым творцам, якім я помню яго здавён: паэтам-летуценнікам, паэтам-грамадзянінам, чуйным да ўсяго Майстрам, для каго галоўнае — «не імя пакінуць, а Слова», хто не здрадзіў свайму прызванню, не страціў веры ў сілу жыцця і любові, дабрыні і сяброўства, у высакароднасць і чысціню кахання, у дабрадзейную сілу святла. І ў першую чаргу — святла чалавечых душ. Нашых з вамі, і тых, каму доўжыць вякі пасля нас: «Захоўвайце ў душы святло, // Каб заўтра цёмна не было, — // Захоўвайце святло…»



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ДОН КІХОТ З КАПЫЛЬСКІХ ПАГОРКАЎ

*Капыльшчына, як далёка не кожны куток Бацькаўшчыны, багатая на таленты. Шмат дала яна і пісьменнікаў. Каторае імя ні возьмеш — годнае яно, з багатымі творчымі набыткамі. Але ў гэтым шэрагу асаблівае месца належыць Мендэле Мойхер-Сфорыму. Ягоны малодшы паплечнік па пяры Шолам-Алейхем па праве назваў яго дзядулем яўрэйскай літаратуры. Менавіта аповесць Мендэле «Маленькі чалавечак», упершыню надрукаваная на ідыш у 1864 годзе, паклала пачатак сучаснай яўрэйскай літаратуры. Аднак Мендэле Мойхер-Сфорым — класік прыгожага пісьменства і на іўрыце. Дык перагорнем старонкі жыцця і творчасці гэтага выдатнага пісьменніка. Таму спачатку перанясёмся ў Капыль 30-х гадоў XIX стагоддзя.*

*У 1827 годзе з'явіўся адзін з указаў імператара Мікалая І, паводле якога яўрэяў, якіх дагэтуль не прызывалі ў армію, пачалі браць у рэкруты. Аднак ахвочых служыць верай і праўдай цару-бацюшку, Айчыне знаходзілася не шмат. Старэйшына капыльскага кагалу рэб Хаімка знайшоў выйсце, якім карысталіся і ў іншых населеных пунктах. Шукалі наймітаў (праўда, гэтую ролю калі-нікалі выконвалі і самі члены кагалу), якія лавілі на дарогах маладых яўрэяў і за пэўнае ўзнагароджанне аддавалі іх у рэкруты. Каб дзяцей заможных бацькоў абышла падобная павіннасць, іх пры нараджэнні ў так званых сказках, а прасцей — метрычных кнігах, не рэгістравалі. Але які-небудзь пільны чыноўнік, праглядаючы гэтыя кнігі, мог лёгка здагадацца, што нешта не так. Па мястэчку гайсала куды больш дзяцей, чым было запісана. Рэб Хаімка і тут знайшоў выйсце. Хлопчыкаў з багатых сем'яў проста прыпісвалі да бедных. Атрымлівалася, што ў якога-небудзь рамесніка восем, а то і болей дзяцей, якіх можна браць на вайсковую службу. І бралі, часам па двое-трое з адной сям'і, але сыноў беднякоў.*

*Гэткім шляхам пайшоў і адзін з капыльскіх верхаводаў кагалу Мойша Бройдэ. Калі нарадзіўся сын, запісаў не Шолам-Якавам Бройдэ, а Шолам-Якавам Абрамовічам. Пра дату ж нараджэння яго па-сённяшні дзень пэўнасці няма. Бадай, трэба прытрымлівацца меркавання даследчыка творчасці Мендэля Мойхер-Сфорыма пісьменніка, публіцыста Майсея Беленькага, між іншым, таксама нашага земляка — нарадзіўся ў Дуброўне. М. Беленькі перакананы, што адбылося гэта 20 снежня 1836 года па старым стылі. Дарэчы, па пашпарце сын Бройдэ значыўся як Саламон Майсеевіч Абрамовіч. А калі дадаць літаратурны псеўданім, то атрымліваецца, што ён быў чалавекам з трыма прозвішчамі.*

## Што ні гісторыя — абуджае фантазію

Дом Бройдаў — у самым цэнтры Капыля, на местачковым рынку. Атынкаваны і пабелены знадворку, ён быў бачны здаля. Як бы запрашае да сябе: заходзь, не саромейся. Гаспадыня Сара — жанчына кампанейская, таварыская, любіла з людзьмі пагаварыць, а выкарыстаўшы зручны момант, сваім дастаткам пахваліцца. А гэта, вядома, лепей рабіць, калі сабраць сяброўак. Іх у Сары было шмат, і

ўсе ёй раўня. Жонкі, альбо сёстры, а часам і маці карчмароў, шынкароў, ліхвяроў. Заўсёды ў доме Сары і радні гаспадара заезджага дома месца знаходзілася. Як не запрасіць іх — не нейкая ж там галота.

Не цярпела Сара шаўцоў, краўцоў, гарбароў — усіх гэтых рамеснікаў, ці пярэхрыстаў розных, як любіла казаць яна. Хіба ж можна ўспрымаць усур'ёз гэту галоту, якая не памятае свайго роду-племені? Іншая справа яны — Бройды. Муж Мойша — чалавек паважаны ў грамадзе. Не абы-хто, а арандатар каробачнага збору (так называўся спецыяльны падатак на мяса, які яўрэі плацілі пры царызме. — *А. М.*). Сам рэйб Хаімка з ім на роўных. А ці яна, Сара, сваім паходжаннем не можа пахваліцца? Блізкія яе сваякі — багатыя, пастаянна пры грашах, ліхвярствам займаюцца і пакрысе ў банкіры выбіваюцца. Хто ў Вільню падаўся, а хто ў Мінску ўладкаваўся, і кожны справу сваю ведае.

Запросіць Сара сяброўак на вячоркі — глядзіш, у гурце і час хутчэй бяжыць. Лёгенька паміргвае полымя лучыны… А жанкі не аднымі языкамі мянташаць, а і справу робяць. Хто прадзе, хто апранаху якую падшывае, а размова, быццам ручаёк вясновы. Непрыкметна з'явіўся, адкуль узяўся — дакладна сказаць нельга, аднак не спыніць яго. Усё больш гаманкім, шумлівым становіцца, нораў паказвае. Так і жанкі… Адна не паспела выгаварыцца, як другая яе прыспешвае… Дай і ёй слова сказаць.

Якіх толькі гісторый яны не ведаюць! І адна за другую страшнейшая. Бывае, пачуеш каторую — ад страху вочы хочацца заплюшчыць. Здаецца, валасы на галаве падымаюцца. Гэткая жудасная. Усё нутро холадам пранізвае. Асабліва калі расказвае старая Лейбчыха. Толькі з'явіцца яна, як Шолам-Якаў спяшаецца заняць сваё звыклае месца ля прыпечка. Зручней не прыдумаеш. І цёпла — як не выстуджваецца за дзень печ, ад чарэні хоць крыху цяплом патыхае. А галоўнае — зручна… Сам ты нікому не перашкаджаеш, калі жанок наб'ецца, што і ступіць нельга. Сядзіш сабе ўнізе і толькі вушы «вострыш», каб самае цікавае не прапусціць. Яно акурат з прыходам Лейбчыхі і пачынаецца. Да гэта прывыклі і жанкі, а не толькі ён, Шолам-Якаў.

Старая ж пра ўсё здагадваецца. Заходзіць годна. Здаецца, нават крок у яе больш упэўненым становіцца. Спяша здароўкаецца з гаспадыняй, а затым і з астатнімі. А праз якую хвіліну…

— Ці можаш ты, Сара, паверыць? — што б ні расказвала Лейбчыха, заўсёды звяртаецца непасрэдна да гаспадыні. Адказу пры гэтым не чакае, бо ён і не патрэбен. — Дык вер, Сара, не вер, а такое аднойчы адбылося, што і паверыць цяжка. Як кажа мой стары Ёсель: «Ты і сама не верыш таму, што гаворыш». А чаму я гэта, Сара, не веру? Калі б Лейбчыха не верыла, Сара, дык навошта Лейбчыха раказвала б? А таму Лейбчыха і расказвае, Сара, што ў тое, пра што расказвае, яна верыць.

Шолам-Якаў — сама ўвага. Чакае, калі Лейбчыха да самага галоўнага пяройдзе. Чакаюць і ўсе, хто сабраўся ў хаце. Чакае і сама Сара. Чакаюць з вялікім нецярпеннем, бо ведаюць, наколькі ахвочая Лейбчыха пагаварыць аб тым, што да самага галоўнага ніякага дачыннння не мае. Нарэшце, яна, прыгадаўшы яшчэ некалькі разоў свайго Ёселя і абазваўшы яго пры гэтым не самымі лепшымі словамі, а таксама не менш разоў звярнуўшыся да Сары, як бы просячы далейшага дазволу расказваць, пачынае:

— У чалавека па імені Гаўрыіл, які жыў у мястэчку…

Назва мястэчка для Шолама-Якава — не істотная. Як урэшце і для ўсіх астатніх. Важна тое, што адбылося. Адбылося ж, калі верыць Лейбчысе, — а ёй даўно ўсе вераць — вось што. У таго самага Гаўрыіла нарадзіўся сын. А паколькі па яўрэйскім звычаі трэба зрабіць хлопчыку абразанне, запрасіў Гаўрыіл да сябе старога Элю, які добра ведаў сваю справу. Эля жыў непадалёку ад мястэчка. Узяў Эля з сабой слугу, і абодва адправіліся ў дарогу. Амаль да самага мястэчка даехалі без прыгод. На пагорку паказаліся першыя хаты.

— І тут…

Пачуўшы гэта, Шолам-Якаў ажно прыўстаў. Ён даўно чакаў, калі адбудзецца нешта надзвычайнае. Цяпер толькі б не прапусціць ніводнага слова.

— І тут, — Лейбчыха абвяла ўсіх позіркам, — бачыць Эля на пагорку… больш за сотню тысяч чарцей і ведзьмаў…

У хаце маўклівая цішыня. Шолам-Якаў ад хвалявання нават кончык языка прыкусіў. Не ўстрымалася, праўда, Сара:

— Можа, больш за сотню?

Пачуўшы гэта, Лейбчыха так зірнула на гаспадыню, што тая ад гнеўна-пагрозлівага позірку ажно сцялася.

— Больш за сотню тысяч чарцей і ведзьмаў убачыў на пагорку Эля, — працягвала Лейбчыха. — І ў кожнай ведзьмы… І ў кожнага чорта з рота полымя шугала. А яшчэ вакол іх агонь палаў… Чорны гэткі, а вакол яго нячысцікі скачуць. Прыгледзеўся Эля ўважлівей і ледзь не самлеў…

Пры гэтых словах некаторым жанкам дрэнна стала. Пачалі хрысціцца, хапаць шырока раскрытымі ратамі паветра.

Страшна і Шоламу-Якаву, але ён … мужчына, таму мужна трымаецца. Хіба што падняўся, прытуліўся да печы. А Лейбчыха, быццам нічога надзвычайнага і не адбылося, працягвае:

— Ледзь не самлеў Эля, калі ўбачыў, як нячысцікі перакідваюць з рук на рукі тое самае дзіця, да якога ён едзе. Іншы б на яго месцы разгубіўся, спалохаўся б, ды не такі Эля. «Дай мне хутчэй вады з маёй бутэлькі!» — загадаў ён слузе. А сам узяў сем нажоў, сем дошак, сем чаравікаў…

Як ні страшна Шолам-Якаву, як ні цікава хутчэй пра ўсё даведацца, а сабраўся было запытацца: адкуль жа гэтыя самыя нажы, дошкі і чаравікі ў Элі ўзяліся? Прытым у такой вялікай колькасці. Магчыма, і запытаўся б, ды яго позірк сустрэўся з матчыным. А Сара, бадай, здагадвалася, што ў сына ў галаве. Строга паглядзела яму ў вочы — зразумеў Шолам-Якаў, калі запытаецца пра ўсё гэта ў старой Лейбчыхі, не здабраваць яму.

А Лейбчыха і задаволеная, што на ўсіх жах навяла:

— У кожны чаравік Эля паклаў па адным нажы. Потым зняў свае чаравікі з ног, двойчы памыў рукі, выставіў наперад вялікі палец левай рукі і прамовіў: «Сілай святога духа гэткага і гэткага я здымаю чары з мужчын і жанчын, з чарцей і ведзьмаў, каб не было шкоды дзіцяці».

Зноў Шолам-Якаву карцела запытацца ў Лейбчыхі. Цяпер пра тыя сем дошак, якія ўзяў рэб Эля. Навошта яны яму, калі і без іх усё як мае быць абышлося. Але прамаўчаў. Нават у матчын бок не зірнуў, ведаючы, што і гэтым разам яго празмерная цікаўнасць нічога добрага не абяцае. Не церпіцца толькі хутчэй пачуць заканчэнне гэтай гісторыі. А ён, як і заўсёды ў Лейбчыхі, можна сказаць, шчаслівы.

— Толькі прамовіў Эля словы-закляцце, як усе чэрці і ведзьмы — усе да аднаго! — загінулі. А дзіця жывым-здаровым засталося. Узяў яго Эля з сабой ды ў мястэчка хутчэй. Убачылі ў хаце Гаўрыіла старога з дзіцем, вельмі здзівіліся. Кінуліся да парадзіхі, а каля яе замест дзіцяці ляжыць салома і мякіна…

Жанкі перагаворваюцца, горача, усхвалявана абмяркоўваюць пачутае. Нешта гаворыць і Лейбчыха. Відаць, збіраецца чарговую гісторыю расказваць, ды Шолам-Якаў цяпер не вельмі прыслухоўваецца. Ён ужо з нецярпеннем чакае, каб наведвальнікі хутчэй разышліся па хатах і можна легчы спаць. А там неўпрыкметку праляціць ноч, настане новы дзень і ён пабяжыць да сяброў. Гэткіх жа, як і сам ён, капыльскіх хлапчукоў. Найперш зазірне да суседскага Бенчы. Ён амаль аднагодак Шолам-Якава. Яны даўно хаўрусуюць, таму ніякіх сакрэтаў адзін ад аднаго не маюць. Праўда, бацькам Шолам-Якава гэтае сяброўства не вельмі падабаецца.

А Шоламу-Якаву што? Палаецца маці, паўшчувае бацька… Затое Бенча яго заўсёды зразумее. Пагамоняць, падзеляцца сваімі сакрэтамі і хутчэй у нізіну. Туды, дзе рэчка Каменка бруіцца, а адразу за ёй, узбіраючыся на пагорак, пачы-

наецца лес. Туды таксама не лішне наведацца. Калі ж бацькі не адпусцяць Бенчу, можна іаднаму. Усё ж у Бенчы клопатаў стае, даводзіцца шмат дапамагаць па гаспадарцы, а сам Шолам-Якаў куды больш вольны. Ні бацька, ні маці надта не прымушаюць яго працаваць. Усяму свой час — мяркуюць яны.

## Чаму? — пытанне з пытанняў

Дапытлівы, уражлівы, назіральны Шолам-Якаў назаўсёды запомніў і многае з таго, што адбывалася ў Капылі ў час ягонага маленства. Іншая справа, што далёка не заўсёды мог своечасова знайсці адказ на тое, што цікавіла яго, а часам выклікала і звычайны пратэст сумленнага маленькага грамадзяніна. Штодзённыя будні ставілі перад ім пастаянныя «чаму?». Урэшце з гэтага жадання дайсці, дакапацца да першаасновы, ісціны паступлова і фарміраваўся яго характар, светапогляд. Ці не першае, на што звярнуў увагу, неадпаведнасць паводзін многіх людзей з тым, хто яны былі ў сапраўднасці. Не ў апошнюю чаргу гэта тычылася і рэба Хаімкі. Ні для каго не з'яўлялася сакрэтам, наколькі ён — жорсткі чалавек. Казалі (зразумела, за вочы), што нічога святога за душой не мае.

Бедныя яўрэі баяліся яго горш за чуму. Асабліва ў сем'ях, дзе гадаваліся хлопцы. Хаімка ж, калі ўдавалася набраць чарговых рэкрутаў, дома разыгрываў самы што ні ёсць спектакль. Вярнуўшыся дахаты, стомлена садзіўся ў вялікае скуранoe крэсла, што засталося яму ў спадчыну ад бацькі, і прамаўляў малітвы. Пры гэтым заліваўся горкімі слязьмі. Калі б не было вядома пра яго хаўрусаванне з наймітамі, якія сочаць на дарогах за нявіннымі ахвярамі, няцяжка падумаць, што гэта духоўна ачышчаецца сумленнейшы чалавек. Не адпавядала рэчаіснасці і тое, чаму навучаўся Шолам-Якаў у хедары, куды пайшоў у шэсць гадоў. У розных свяшчэнных кнігах пісалася адно, а ў жыцці ўсё было інакш. Яўрэйскіх беднякоў не ў апошнюю чаргу прыгняталі супляменнікі, якія выбіліся ў людзі.

Між іншым, пра гэта ў свой час пісаў і ўраджэнец Капыля, крытык, публіцыст 60-х гадоў XIX стагоддзя Абрам-Якаў Паперна: «Капыльскія патрыцыі, якія ганарыліся сваёй рэлігійнай вучонасцю, сваім дастаткам і знатнасцю, пазіралі зверху ўніз на рамеснікаў, балаголаў, падзёншчыкаў і іншых». Для заможнай сям'і лічылася ганьбай мець сваяком краўца, шаўца ці іншага рамесніка. Іншая справа — прадстаўнікі патрэбных прафесій. Тыя ж шынкары, карчмары, ліхвяры, якіх вельмі і паважала маці Шолама-Якава.

Царскія ўлады да пары да часу знаходзіліся на баку багатага яўрэйства. Але неўзабаве з'явіліся два чарговыя ўказы Мікалая I. Паводле іх яўрэям забаранялася насіць традыцыйную сярэднявяковую вопратку. Хлопчыкаў у рэкруты пачалі браць з дзесяці—дванаццаці гадоў. Аб тым, як гэтыя ўказы праводзіліся ў жыццё, Мендэле Мойхер-Сфорым праўдзіва расказаў у аўтабіяграфічнай аповесці «Шлёма, Хаймаў сын».

У адзін з дзён мястэчковыя ўлады загадалі Мойшу Бройду сагнаць усіх яўрэяў на плошчу. Не паспелі спалоханыя людзі разабрацца, што і да чаго, як ім прымусова пачалі стрыгчы бароды, падразаць кафтаны. Таго, хто выказваў незадавальненне, а то і супраціўленне, жорстка збівалі. Як загад прагучала: «З сённяшняга дня вы не маеце права насіць ні штраймел, ні кафтанаў, ні паясоў, ні жаночых турбаноў. Вы павінны апранацца па-нямецку. Усіх дзяцей — у школы».

Як быццам, гэта былі клопаты аб выхаванні, адукацыі. Але ў звычайных школах дзецям было лягчэй, чым у хедары. Таму бацька Шолама-Якава паклапаціўся, каб з ім займаўся спецыяльна наняты выхавацель — меламед Ёся Рубенс. Меламед, праўда, і ёсць настаўнік хедара. Але індывідуальныя заняткі, зразумела, адрозніваліся ад тых, што практыкаваліся ў гэтай навучальнай установе. Рубенс са сваім вучнем вывучаў не столькі тое, што звязана з рэлігійнай схаластыкай, колькі надаваў вялікую ўвагу прадметам, веданне якіх спатрэбіцца ў паўсядзён-

ным жыцці. Да ўсяго хатні настаўнік аказаўся цудоўным разьбяром па дрэве і камені. Гэта таксама былі своеасаблівыя ўрокі — урокі прыгажосці.

Немалаважна і тое, што Шолам-Якаў з маленства гадаваўся хлапчуком дапытлівым, кампанейскім. Яшчэ ў падлеткавым узросце зблізіўся з дзецьмі яўрэйскіх беднякоў. Знаходзіў агульную мову і з іх бацькамі. Прынамсі, сваім чалавекам стаў у доме каваля Айзіка, часта заходзіў да сталяра Герца Кейлеса. Пра знаёмства з імі таксама расказаў у аповесці «Шлёма, Хаймаў сын». Заўважыў, што, наколькі бедна і панура выглядалі хаты рамеснікаў звонку, настолькі весела, ажыўлена было ў іх, якімі гасціннымі людзьмі з'яўляліся іх гаспадары: «Вось стаіць, напрыклад, Іцык-кравец з прасам у руках і пачынае граць марш, адбіваючы такт прасам, а чаляднікі, хлопцы вакол стала, спрытна працуючы іголкай, дапамагаюць, хто чым можа… Тут, у рамеснікаў, спяваюцца часта песні, якія яны самі складаюць. Гэтыя песні разыходзяцца потым па свеце, між людзей, трапляюць у вусны дзяўчат, служанак і набываюць назву народных…»

Запомніўся Шолаву-Якаву і капыльскі фельдшар Шлумовіч. Ён адрозніваўся ад местачковага яўрэйства тым, што, прытрымліваючыся перадавых поглядаў, не баяўся адкрыта выказваць незадавальненне некаторымі догмамі іудаізму. Не заўсёды прытрымліваўся і яўрэйскіх абрадаў. Юнак ахвотна наведваўся да яго. Разам з Шлумовічам абмяркоўваў пытанні, якія найбольш цікавілі яго. Такія гутаркі станавіліся таксама ўрокамі, але ўжо ўрокамі грамадзянскасці, сталення, спрыялі выхаванню актыўнай жыццёвай пазіцыі.

Невядома, як бы склалася далейшае жыццё Шолама-Якава, калі б нечакана цяжка не захварэў бацька. Спадзяванні, што паправіцца, не спраўдзіліся. Пайшоў у вечнасць у 41 год. Тады Шоламу-Якаву, як вядома, споўнілася ўсяго чатырнаццаць. Каб лягчэй было, маці адправіла яго да багатых сваякоў у Цімкавічы. Гэта — недалёка, усяго ў вёрстах дванаццаці ад Капыля. Але ў чужым доме — не ў сваім. Маркоціўся, бо ўпершыню разлучыўся з блізкімі людзьмі. Гняла і душэўная адзінота: сваякі жылі сваім жыццём, а ён — сваім.

Добра тое, што асабліва не ўмешваліся ў ягоныя справы, прадставілі самому сабе. Шоламу-Якаву гэта толькі і трэба. Дома не заседжваўся. Любіў паблукаць берагамі мясцовай рэчкі — тады яна была хуткаплынная, не тое, што цяпер, калі ператварылася па сутнасці ў канаву. Завітваў у Скіп'ёва. Да яго ад Цімкавіч таксама рукой падаць. Прысеўшы дзе-небудзь на ўзлеску, давяраў свае няпростыя думкі векавому лесу. Дый адкуль было з'явіцца вясёламу настрою, калі нясцерпна цягнула дамоў. Подбегам за дзве з нечым гадзіны можна дабрацца ў Капыль. Напаткаеш жа спадарожную фурманку — куды хутчэй.

Калі жыць у сваякоў стала зусім нясцерпна, збег, нават не развітаўся. Маці, убачыўшы яго, спачатку занепакоілася, падумала, што нешта здарылася. Але, калі ўсё расказаў, супакоілася. Ды, бадай, радавалася ягонаму вяртанню. Толькі паўшчувала, што не папярэдзіў сваякоў. Магчыма, шукаюць яго… Потым разам пачалі думаць, як быць далей. Шолам-Якаў выказаў жаданне ўладкавацца на якуюнебудзь работу ў Капылі. Маці, аднак, меркавала інакш. Канешне, яна разумела, што няблага, калі сын знаходзіцца поруч. Але не хацела, каб зноў хаўрусаваў з ненавіснай ёй галотай — да дзяцей з простых сем'яў Сара Бройдэ па-ранейшаму ставілася з пагардай. Дый някепска, каб сын атрымаў добрую адукацыю. Зрабіць гэта можна ў Слуцку.

## Заручыны сарвала… курыная нага

У Слуцку тады знаходзіўся адзін з буйнейшых на Беларусі ешыботаў. Ешыбот — гэта, як вядома, чарговая па ступені пасля хедара яўрэйская рэлігійная школа. Што ўяўляла сабой гэтая праслаўленая вучэбная ўстанова, бадай, лепш не скажаш, чым гэта зрабіў пісьменнік Уры Фінкель, аўтар кнігі «Мендэле

Мойхер-Сфорым»: «Гэта была школа па выпрацоўцы сапсаваных, фальшывых крывадушнікаў, адвечных калек, грубых цынікаў, «чарвякоў у хрэне». Гэта была феадальна-рабінская казарма, у якой муштравалася цэлая армія салдат для рабіннай алігархіі».

Дый сам Мендэле пра вучобу ў ешыбоце пакінуў красамоўнае сведчанне: «Хлопцы, якія мелі хлеб ці грошы, гандлявалі, а тыя, хто не меў ні хлеба, ні грошай, займаліся крадзяжом, сядзелі і расказвалі адзін аднаму жудасныя гісторыі: пра разбойнікаў і волатаў, пра чараўнікоў і чарцей, што з'яўляюцца ўначы на полі і зводзяць людзей, пра мерцвякоў, якія пакідаюць свае магілы і блукаюць па навакollі і лечаць хворых людзей палявымі травамі ці мучаць грэшнікаў…»

Дзякаваць богу, ва ўсіх гэтых жудасных расказах (як і ў тых, якія ён чуў у маленстве ад старой Лейбчыхі) быў і станоўчы бок. Яны абуджалі фантазію, развівалі вобразнае мысленне, што, безумоўна, асабліва важна для тых, хто мае задаткі таленту. Таму ўсё гэта ў далейшым, калі Шолам-Якаў стаў пісьменнікам, аказала яму добрую паслугу пры напісанні мастацкіх твораў. Нельга абысці і такі момант. Безумоўна, гэта добра, што сёння мы пераацэньваем мінулае. Кепска, аднак, што часам кідаемся ў крайнасці. Як бы там ні было, а менавіта ешыбоцкія будні абуджалі ў Шолама-Якава нянавісць да тых, хто прыгнятае іншых, прымушалі задумацца над сацыяльным расслаеннем у грамадстве. У ешыбоце таксама панавала насілле. Яго навучэнцы адчувалі не толькі з боку выкладчыкаў. Не было згоды і паміж імі самімі. Мацнейшыя, больш фізічна здаровыя ешыботаўцы імкнуліся жыць за кошт слабых. Хітрэйшыя падманвалі менш прыстасаваных да паўсядзённых будняў. Паколькі вучні знаходзіліся не на поўным дзяржаўным забеспячэнні, яны звычайна хадзілі па гарадскіх дамах і шукалі гаспадароў, каб пасталавацца. На наступны дзень кіраваліся да новага гаспадара. Шанцавала, канешне, больш увішным. Нярэдка і тут не адбывалася без падману.

У навучэнцаў выхоўвалі рэлігійны фанатызм. Што цікава, ніхто з падлеткаў асабліва гэтаму не праціўіўся. Хіба што Шолам-Якаў з яго ўражлівай душой, непрыняццем ім несправядлівасці ў самых розных яе праяўленнях не мог спакойна ставіцца да таго, калі праяўлялася насілле. Вядома, не ў яго сілах было спыніць гэта, але ў душы назаўсёды заставаўся след. Як тая незагойная рана, ён пастаянна нагадваў пра сябе. Для пісьменніка ж гэта важна тым, што некалі перажытае праз шмат гадоў асэнсоўваецца ў творах. Невыпадкова ў аповесці «Шлёма, Хаймаў сын» Мендэле Мойхер-Сфорым з болем расказвае, як у Слуцку натоўп пакараў нявінную жанчыну. Толькі за тое, што тады ў горадзе лютавала дыфтэрыя, якая забрала шмат дзіцячых жыццяў. Знайшліся ахвочыя западозрыць бедалагу ў злым чарадзействе. Маўляў, бачылі, як размаўляла з нейкім незнаёмым мужчынам, адсюль і ўсе беды. Абвінавачваннямі, на жаль, гэта не скончылася. Цемрашалы забілі гэтую жанчыну.

Ешыбот Шолам-Якаў, праўда, так і не скончыў. З-за недарэчнага выпадку ўсё адбылося. Хоць калі б не гэты выпадак, магчыма, ягонае жыццё павярнулася інакш, аднак тады не было б пісьменніка Мендэля Мойхер-Сфорыма. Канешне, час не мае зваротнага адліку, тым не менш… Але, што адбылося, тое адбылося.

На Шолама-Якава звярнуў увагу слуцкі рэб Ейна. Чалавек багаты, меў нават сваю сінагогу. А калі багаты, то і ўплывовы. У адным яму не пашанцавала — дачка была вельмі непрыгожая. Таму і не знаходзілася жадаючых узяць яе ў жонкі. Невядома па якой прычыне, але рэбу Ейну прыглянуўся Шолам-Якаў. Палічыў, што лепшага зяця яму і не трэба. На здзіўленне ўсіх, хто ведаў яго, ён асабліва і не праціўіўся. Відаць удалай жаніцьбой хацеў паправіць сваё матэрыяльнае становішча.

Дайшло да заручын. Але ў час іх адбыўся непрадказальны выпадак. За святочным сталом Шолам-Якаў няўдала падчапіў відэльцам курыную нагу. Яна сарвалася і паляцела, трапіўшы якраз у вока будучаму цесцю. Рэб Ейна так абурыўся, што даў жаніху ад варот паварот. Пасля гэтага Шолам-Якаў назаўсёды развітаўся і са Слуцкам. У сценах ешыбота яму і так даўно было невыносна цяжка, а тут яшчэ стаў яшчэ і пасмешышчам сярод таварышаў па вучобе і выкладчыкаў.

## У дарозе не без трывогі

Пайшоў Шолам-Якаў па свеце. Трапіў у Вільню, дзе жыў багаты сваяк Бройдаў. Нават крыху правучыўся ў мясцовым ешыбоце, але абстаноўка ў ім мала адрознівалася ад той, што была ў Слуцку. Таму пакінуў вучобу і падаўся дамоў. Па прыездзе даведаўся, што маці выйшла замуж за багатага млынара з хутара Мельнікі, гэта непадалёку мястэчка. Айчым наўрад ці ўзрадаваўся б пасынку. Але ў яго падрасталі ўласныя дзеці, якім патрэбен быў хатні настаўнік.

Пасяліўшыся ў Мельніках, Шолам-Якаў спачатку не пашкадаваў. Вакол хутара была на дзіва маляўнічая мясцовасць. Вабіла да сябе і вялікая рака. Там, дзе стаяў млын, вада з шумам і грукатам спадала зверху, круцячы вялізныя колы. І гэты шум, і гэты грукат выклікалі нейкі своеасаблівы настрой. Надзвычай лірычны, узнёслы. З задавальненнем сядзеў адзін на беразе, узіраючыся ў блакіт нябёсаў, падстаўляючы твар свежаму ветру і сонечным промням. Звычайна спяшаўся сюды закончыўшы заняткі з дзецьмі. А яшчэ, як і ў Цімкавічах, блукаў па наваколлі. І, дзіва-дзіўнае: усё часцей хацелася сесці за стол, схіліцца над чыстым аркушам паперы, каб выказаць на ёй тое, што не давала спакою.

Перапісваў і тэксты песень, якіх нямала чуў у Капылі ад Іцкі-шаўца. А пасля ўзяўся за п’есу. Не сказаць, каб яна давалася лёгка. Усё ж гэта для яго было нязвыклым. Тым не менш пісаў, здзіўляючыся, як новае захапленне авалодвае ўсёй ягонай істотай. Не менш здзіўляўся і таму, што пасля гэтай працы больш спакойна і ўсцешна станавілася на душы. Нібыта палёгку атрымліваў ад трывог, якія не пакідалі, ад жыццёвай неўладкаванасці, якая гняла, пастаянна напамінаючы аб сабе. Як-ніяк, а час бег, узрост пад дваццаць набліжаўся. Ніякага ж сталага прытулку не меў. Дый занятку, які б прыносіў задавальненне, па сутнасці так і не знайшоў. Канешне, сякую-такую работу можна было падшукаць і ў Капылі. Аднак думка, што трэба назаўсёды застацца ў мястэчку — няхай і родным, але з аднастайным, пазбаўленым хоць нейкай перспектывы жыццём — не радавала. Наадварот, засмучала, выклікала няпэўнасць. Душы прагнулася прастору, перамены абставін.

Хацелася ўзяцца за штосьці-небудзь такое, што магло б перайначыць жыццё, надаць яму пэўнасць, скіраваць у тое рэчышча, з якога абавязкова пачынецца нешта важнае. Калі ж такая ўзнёсласць памкненняў, дык не надта думаецца, што тое ці іншае рашэнне павінна быць узважаным, інакш вынікі могуць стаць непрадбачанымі. Так і сталася, калі выпадкова пазнаёміўся з нейкім кульгавым Аўрамелем. Гэты Аўрамель меў авантурны характар. Інакш з-чаго б гэта раптоўна вырашыў падацца на Валынь. Але гэта імпанавала і Шолам-Якаву. З’яўлялася магчымасць пачаць новае жыццё, а што загадзя невядома, чым вандроўка скончыцца, тым больш прывабна.

Раіцца ж асабліва не было з кім. З маці даўно не меў паразумення, а айчым… Айчым — чужы чалавек. Старэйшай сястры-развядзёнцы дай божа з уласным жыццём разабрацца. Меншыя ж і так самі па сабе. Таму з прыняццем рашэння вагаўся нядоўга. Толькі непакоіўся, каб Аўрамель не перадумаў. Аднак той пры чарговай сустрэчы заявіў рашуча: «Збірайся, ды хутчэй!» Шолам-Якаў падгаварыў разам вандраваць і сваю цётку з дзіцем. І не пашкадаваў, што так зрабіў.

Уліп ён з новым сябрам. Як у той прымаўцы: «Трапіў у нерат — ні ўзад ні ўперад». Мала таго, што Аўрамель аказаўся звычайным жабраком. У дарозе і яго прымушаў прасіць міласціню. Калі што і ўзнімала настрой, дык тое, што побач блізкія душы знаходзіліся. Дый меркаваў, што лягчэй стане ў Камянец-Падольску. Там жыў яго даўні сябра, які быў родам з Грозава, якое таксама не так і далёка ад Капыля. Быў упэўнены, што ён дапаможа земляку. Ды аказалася, што сябра некуды выехаў.

## Выйсце — усё ж ідыш

Зусім было апусціў рукі. Аднак, пакідаючы Камянец-Падольск, па дарозе напаткаў юнакоў, якія ехалі насустрач у вазку. Сярод іх аказаўся і сябар. Даведаўшыся, у якое цяжкае становішча трапіў Шолам-Якаў, запрасіў да сябе. Праз некаторы час пазнаёміў з вядомым мясцовым дзеячам, настаўнікам, знаўцам Бібліі Аўраамам-Бэрам Гатлоберам. Гэтае знаёмства і вызначыла далейшы шлях Шолам-Якава. Ён пачаў вывучаць рускую і нямецкую мову — урокі давала дачка Гатлобера. Па-сапраўднаму зацікавіўся сусветнай літаратурай. Пісаў трактаты, у якіх узнімаў надзённыя праблемы выхавання, асуджаў талмудысцкую адукацыю, выкрываючы яе дагматызм, схаластычнасць.

У 1857 годзе Шолам-Якаў дэбютаваў у газеце «Хамагід» артыкулам «Ліст па пытаннях выхавання». Назва «Хамагід» у перакладзе на беларускую мову азначае «Прапаведнік». Гэтая газета была першым штотыднёвым выданнем, разлічаным на яўрэйскага чытача. Выходзіла ў мястэчку Лік у Прусіі. Пра тое, што артыкул надрукавалі, Шолам-Якаў даведаўся ад свайго старэйшага брата Гіршы, які жыў у адным з мястэчкаў Беларусі. Аднак, атрымаўшы ад яго разам з пісьмом нумар «Хамагіда» са сваім матэрыялам, вельмі здзівіўся, бо ніякага артыкула рэдакцыі не прапаноўваў. Адбылося ж вось што…

Шолам-Якаў не толькі рэгулярна паведамляў брату аб тым, як жыве, а і дзяліўся з ім уласнымі поглядамі па розных пытаннях. Неяк вырашыў паразважаць аб праблемах выхавання. Атрымалася нешта накшталт трактата. Матэрыял перапісаў і чыставік адправіў Гіршу. Чарнавік жа пакінуў на пісьмовым стале. З ім выпадкова пазнаёміўся адзін камянец-падольскі асветнік. Паколькі ў трактаце ён знайшоў арыгінальныя меркаванні па ўзнятым пытанні, вырашыў пераслаць ліст Гатлоберу, які на той час працаваў дацэнтам у Жытоміры. Гатлобер, у сваю чаргу, прапанаваў развагі Шолама-Якава рэдакцыі газеты «Хамагід», з якой падтрымліваў сувязі.

На гэты час Шалом-Якаў паспяхова здаў экзамены ў так званае казённае вучылішча і мог займацца педагагічнай дзейнасцю. Але першая публікацыя рэзка змяніла яго жыццёвы накірунак. Узрадаваны тым, што заўважаны, захацеў цалкам прысвяціць сябе публіцыстыцы. Пераехаў у Бярдзічаў, дзе шмат пісаў артыкулаў, розныя трактаты. А ў 1860 годзе выйшла яго першая кніга публіцыстыкі «Мірны суд». У ёй 24-гадовы аўтар палемізаваў з вядомым тады педагогам і пісьменнікам, аўтарытэтам у яўрэйскім асяродку Лазарам Цвейфелем. Не пагаджаўся з яго спробай адшукаць кампраміс паміж хасідызмам і асветай. Рабілася гэта тактоўна і аргументавана. Кнігай «Мірны суд» адразу звярнуў на сябе ўвагу.

Не прайшла незаўважанай і ягоная перакладчыцкая дзейнасць. Найперш таму, што добра адчуваў павевы часу. Пачынаючы з 60-х гадоў XIX стагоддзя, у грамадстве ўсё больш запатрабоўвалася прыродазнаўства. Не абышлі яго ўвагай і прагрэсіўна настроеныя яўрэйскія асветнікі. Яны былі ўпэўнены, што неабходна як мага лепш і больш прапагандаваць гэтую навуку. З такой мэтай Шолам-Якаў і ўзяўся за пераклад трохтомнай «Натуральнай гісторыі» Ленца. Першая кніга, прысвечаная млекакормячым, пабачыла свет у 1862 годзе на іўрыце — старажытнаяўрэйскай мове. Гэтай мовай карысталіся прадстаўнікі вышэйшых слаёў яўрэйскага грамадства. На іўрыце Шолам-Якаў неўзабаве надрукаваў і навелу, пасля чаго ўзяўся за раман «Бацькі і дзеці», паклаўшы ў яго аснову гэты твор.

Здавалася б, далейшая вядомасць наканавана. На жаль, гэтага не атрымалася. На тое, бадай, дзве прычыны. Шолам-Якаў адразу замахнуўся на буйны празаічны твор. Жанр жа рамана, як вядома, патрабуе немалога мастакоўскага майстэрства, якога ў маладога аўтара пакуль не было. Дый з творам пазнаёміліся нямногія. Просты народ іўрыт не ведаў, ён размаўляў на ідыш. У роспачы Шолам-Якаў мусіў прызнацца: «Вось я стараюся пранікнуць ва ўнутранае жыццё майго народа, каб потым апісаць яго на мове Бібліі. Але хіба не праўда, што большая частка майго народа не разумее гэту мову і ведае толькі ідыш. Дзеля чаго ўся

гэтая разумовая і фізічная праца пісьменніка, калі ён бескарысны для народа? І пытанне «для каго ж я працую» неадступна праследуе мяне».

Значыць, каб цябе заўважылі, у далейшым трэба было пісаць на ідыш. Але гэта была палка з двума канцамі. Свае чытачы, безумоўна, адразу знойдуцца, што, несумненна, пойдзе на карысць. У той жа час, несумненна, не абыдзецца і без незадаволеных. Але ў сваім жаданні быць зразумелым тымі, для каго і пісаў, ужо не мог спыніцца. Трэба было канчаткова вырашыць, як быць далей. Чым хутчэй гэта адбудзецца, тым лепш. Доўга душа, кажучы словамі Максіма Гарэцкага, дваіцца не магла: «Думка, што творамі на яўрэйскай мове я настрою супраць сябе так званую грамадскую думку, мяне вельмі непакоіла, але ўсведамленне карысці майго ўчынку ўзяло нарэшце верх над пачуццём памылковага сораму, і я сказаў сабе: няхай будзе тое, што будзе! Я буду змагацца ў першых шэрагах за гэты самы жаргон і буду ім служыць майму народу!»

## Чалавечак у… вачах

Словы не разышліся са справай. У пецярбургскім штотыднёвіку «Колме-вассэр», што па-беларуску азначае «Голас апавяшчаючы», з № 45 1863 года па № 6 1864-га быў апублікаваны першы твор Шолама-Якава на ідыш — аповесць «Маленькі чалавечак». Тым самым і нарадзіўся пісьменнік Мендэле Мойхер-Сфорым. Шалом-Якаў Бройдэ, ён жа па пашпарце Саламон Майсеевіч Абрамовіч, адмовіўся ад гэтых двух прозвішчаў невыпадкова. Не хацеў, каб хто-небудзь здагадаўся аб сапраўдным аўтарстве, не папракаў, што асмеліўся пісаць не іўрыце.

Дарэчы, рукапіс быў падпісаны зусім не імем Мойхер-Сфорым, а Сендэрл-кніганоша. Сендэрлам звалі чалавека, якога з канякай, запрэжанай у лёгкія драбінкі, можна было часта напаткаць, як у самім Бердзічаве, так і ягоных ваколіцах. Ён прадаваў не толькі кнігі, а і тавары, неабходныя ў паўсядзённым ужытку. Па-яўрэйску ж кніганоша гучыць, як мойхер-сфорым. Гэтым і пакарыстаўся выдавец штотыднёвіка «Колме-вассэр» Аляксандр Цэдэрбаўм. Імя Сендэрл памяняў на Мендэле, дадаў слова кніганоша па-яўрэйску і, калі ласка: Мендэле Мойхер-Сфорым. Зрабіў гэта не без дай прычыны. Па-яўрэйску Аляксандр азначае Сендэр. Таму і падумалася выдаўцу «Колме-вассэра», а ці не наўмысна Шолам-Якаў правёў такую паралель: Аляксандр — Сендэр — Сендэрл? Як быццам, у гэтым нічога благога. Будучы выдаўцом, ён, Сендэр Цэдэрбаўм, таксама з'яўляецца свайго роду «кніганошам», нясе ў народ свет ведаў. Але, разважыўшы, вырашыў, што ўсё ж лепш, калі ў літаратурным прозвішчы аўтара «Маленькага чалавечка» не будзе ніякай двухсэнсоўнасці.

Так і з'явіўся на літаратурнай арэне «Мендэле-кніганоша». Ён прыйшоў, каб сказаць праўду пра яўрэйскі народ. Нават такую праўду, якую да яго замоўчвалі, бо яна пры ўсёй сваёй аб'ектыўнасці, непрадузятасці для многіх, як стрэмка ў воку. Ад яе адмахваюцца, яе не хочуць прызнаваць. Ды без яе ўсё ж нельга, бо яна — ачышчальная ў сваёй сутнасці, вядзе да аздараўлення грамадства, паляпшэння яго, а яшчэ, што вельмі важна, прымушае перадавыя слаі яго задумацца, як трэба шмат зрабіць для таго, каб клімат у ім стаў для чалавека больш спрыяльным. Пабудаваная ў форме маналога самога «маленькага чалавечка» Іцхока-Аўрэмла (праўда, часам аўтар выступае і ад свайго імя), аповесць на дзіва псіхалагічна глыбока раскрыла саму душу яўрэяў. Пра гэта Мендэле прама сказаў, укладаючы ў вусны галоўнага героя тое, пра што думаў сам: «…я ж таксама яўрэй, у мяне таксама, як кажуць, жывая душа і ёй таксама хочацца да ўсяго прыслухацца, прынюхацца, як і кожнай яўрэйскай душы. Гэта ж часта прыносіць карысць».

Асноўная ж увага, зразумела, скіравана на спасціжэнне менавіта душы галоўнага героя. Іцхок нарадзіўся ў мястэчку Бязлюдаве. Сама назва гэтага населенага пункта — па-свойму сімвалічная. Канешне, людзей у Бязлюдаве нямала, ды пера-

важна гэта тыя, хто штодня мусіць змагацца за выжыванне. Неабходнасць гэтага Іцхок адчуў на сабе ці не з самага нараджэння. Упершыню свет пабачыў у беднай сям'і, бацька памёр, калі сын быў яшчэ ў пялюшках. «Песціць мяне не песцілі, — прызнаецца ён, — не цалавалі, не лашчылі, не абдымалі, як іншых людзей, і калі я часам плакаў, мяне спынялі, улагоджвалі не прысмакамі, ні цукерачкамі і цацкамі, а аплявухамі і кухталямі. […] Гадаваўся я, як шалёны конь у стэпе, — агрубелы, адзічэлы, меў схільнасць да дурной гарэзлівасці, паганых свавольстваў». А яшчэ была ў яго звычка, «глядзець таму, хто гаворыць у рот, зазіраць яму ў вочы», што маці надта не падабалася: «не раз калаціла мяне за гэта, біла смертным боем». Але аднойчы, калі сын захварэў, падабрэла. Іцхок асмялеў, запытаўся: «[…]скажы мне, мама, што гэта за чалавечак у цябе ў вачах?» Маці ўсміхнулася і адказала: «Дурненькі, чалавечак — гэта душа! Чалавечка няма ні ў вачах звяроў, ні ў вачах скаціны, ён — толькі ў чалавечых вачах».

Апошняе па сутнасці і вызначыла далейшыя паводзіны Іцхока Аўрэмла: «[…] чалавечак не выходзіў у мяне з галавы. Мне чамусьці так хацелася быць чалавечкам! Ці не жарт, чалавечак жа — душа! І ўсяго з блыху; здавалася б, дробязь, а разам з тым — жывы дух, само жыццё!.. Мяне захапіла думка: як бы дабрацца да гэтага чалавечка? І я стаў упарта думаць аб гэтым». Чым больш сталеў, тым падобная думка ўсё настойлівей авалодвала ім. З рознымі людзьмі даводзілася сутыкацца Іцхоку, шмат несправядлівасці бачыў, многа нягод перажыў, крыўд, абраз. Але і спасцігнуў галоўнае для сябе: калі чалавек «становіцца чалавечкам, да яго прыходзяць і багацце, і шчасце, ён дасягае ўсяго, чаго хоча». Значыць, трэба імкнуцца да гэтага: «[…] стань чалавечкам, Іцхок-Аўрэмл! Зрабі ўсё, што можаш, і стань чалавечкам, будзеш жыць шчасліва, у багацці, у пашане, расправіш свае костачкі!..» Гэты голас ні на хвіліну не пераставаў свідраваць мой мозг».

## Новыя абставіны — новы Іцхок-Аўрэмл

Мастацкая задума Мендэля Мойхер-Сфорыма была падначалена таму, каб праўдзіва паказаць, як яго герой, імкнучыся да таго, каб стаць маленькім чалавечкам, прыстасоўваўся, прыніжаўся, абы толькі знайсці якога-небудзь багатага, уплывовага чалавека. Пры ім можна самому знаходзіцца ў цяні, але, разам з тым, дзякуючы яго вялікаму аўтарытэту, самасцвярджацца, пры гэтым не абцяжарваючы сябе маральнымі прынцыпамі.

Уражвае сваёй праўдзівасцю і вялікім сатырычна выкрывальным пафасам гісторыя кахання Іцхока-Аўрэмла. Голда, з якой ён выпадкова пазнаёміўся, аказалася дачкой таго Якабзона, які некалі дапамог яму, калі ён апынуўся ў цяжкім становішчы. Тады яна была маленькай дзяўчынкай і Аўрэмл, зразумела, яе не помніў. Цяпер гэта дарослая дзяўчына. Паколькі бацька ўжо некалькі гадоў, як памёр, Голда сама ўтрымлівае старую маці і малодшую сястру, працуючы швачкай. Заробкі малыя, таму сям'я ледзь зводзіць канцы з канцамі: «Жывецца цяжка […], заробку Голды ледзь-ледзь хапае на самае неабходнае. Але грэх скардзіцца, бо як-ніяк, а ўсё ж жывецца. Адзін Бог ведае, што б з імі сталася, калі б не Голда».

У доме гэтай прыгожай дзяўчыны ён стаў частым госцем, туды яго «быццам магнітам цягнула». Адразу сам і адказвае чаму. Адказ гэты нечаканы, хоць і шчыры: «Мяне прыцягвалі да дзяўчыны не яе вартасці, не яе выхаванасць, не тое, як яна сумленна зарабляе свой хлеб і ўтрымлівае старэнькую маці і сястрычку. Не! […] Грошы — вось тая мера, якой я вымяраў чалавечыя вартасці, тыя вагі, на якіх я ўзважваў все віды чалавечай сумленнасці. Малойцам, разумнікам — чалавекам я лічыў таго, хто меў грошы і жыў у задавальненне. Як ён іх атрымліваў і за чый кошт жыў, значэння не мела. Над усімі гэтымі дробязямі задумваюцца толькі беднякі, няўдачнікі з пачуцця зайздрасці і злосці, а яшчэ каб ачарніць другога і тым самым загладзіць свае ўласныя недахопы, якія з'яўляюцца прычынай таго,

што яны няўдачнікі, нікчэмныя людзі. […] Не! Не сумленнасць, не душэўныя вартасці Голды падабаліся мне, падабаўся толькі яе прыгожы твар, мяне прываблівала да яе ганебнае плоцевае пачуццё. Чаго я дамагаўся гэтым сваім каханнем, мне тады яшчэ самому не было зразумела, — пакуль я наведваў Голду».

Але ўсе захады, што рабіліся, былі ў духу маленькага чалавечка — няхай і паступова, але абавязкова дабіцца свайго: «Спачатку я даў ёй заказ — пашыць мне сарочкі, манішкі, потым прыходзіў ужо без якой-небудзь прычыны, проста як добры знаёмы». Нават не звяртаў увагі на тое, што ў доме Якабзонаў рэгулярна бывае малады чалавек, якога звалі проста па імені — Міхл. Урэшце даведаўся, што ён жаніх Голды…

Мендэле Мойхер Сфорым, па-ранейшаму застаючыся тонкім псіхолагам, яшчэ глыбей пранікае ў душу «маленькага чалавечка» Іцхока-Аўрэмла. Здавалася б, пра яго і так сказана ўжо ўсё. Ды дзе там! Адначасова даюць аб сабе знаць два моманты. Сам характар галоўнага героя такі, што колькі ні раскрывай яго, абавязкова можна знайсці штосьці недасказанае, да канца не высветленае. Талент жа здатны абавязкова прыкмеціць тое, што дагэтуль як бы прайшло па-за ўвагай. Падаць яго так, што вобраз стане яшчэ больш узбуйненым. Новыя абставіны — новы і Аўрэмл. Канешне, ён і ранейшы, ды толькі няма мяжы ягонай прыстасаванасці да абставін, таму яшчэ больш раскрываецца ягонае гідкае нутро: «З таго часу (калі даведаўся, што мусяць адбыцца заручыны. — *А. М.*), я адносіўся да Міхла як да ворага, які стаіць на маім шляху, і ўсё думаў, як яго прыбраць. З кашэчай пяшчотай лашчыўся я да Голды, да яе маці, імкнуўся зачараваць іх мілай салодкай гаворкай, гуляў з маленькай Шэйндэле, прыносіў ёй то цукерку, то цацку — спадзеючыся заваяваць такім чынам іх сэрцы і выцесніць Міхла, прыбраць яго са шляху». Так «прайшло ўсё лета і большая частка восені. Я са скуры вылазіў дзеля свайго вялікага кахання, але нічога не мог дамагчыся. Справа ішла да таго, што Міхл павінен быў вось-вось стаць жаніхом Голды».

Гэтага Іцхок-Аўрэмл ніяк не мог дапусціць. Зрабіў так, як мог зрабіць толькі ён: чалавечак маленькі, а подласць велізарная. Пастараўся, каб Міхла забралі ў рэкруты. Іцхок-Аўрэмл, як ні ў чым не бывала, заявіўся да Якабзонаў, паспачуваў. А сам … «Я паядаў яе (Голду. — *А. М.*) вачыма, аглядваў з ног да галавы. Так воўк глядзіць на ягня, аскаліўшы драпежную пашчу. І думаў я пра сябе: «Нічога, будзеш маёй, з маіх лап ты ўжо не выслізнеш».

Сапраўды, не выслізнула. Стала Голда жонкай «маленькага чалавечка». Прыйшло да яго сямейнае шчасце. Толькі нядоўгім было яно: «Маё ранейшае каханне астывала чым далей, тым больш. Прыгожы твар Голды стаў для мяне абыдзенным, я ў ім ужо нічога асаблівага не бачыў, — твар як твар, з носам, з вачыма. […] У душы я ўжо шкадаваў аб сваёй жаніцьбе. Навошта мне было, раздумваў я, надзець на сябе такі цяжкі хамут — цэлую сям'ю, якая аб'ядае мяне, разарае». Да ўсяго «вялікі багач, вялікі і магутнейшы, чыёй душой з'яўляўся Ісер (адзін з апекуноў Іцхока Аўрэмла. — *А. М.*), ні з таго ні з сяго раптоўна памёр, і вятрак стаў — колы больш не вярцеліся!.. Са смерцю гэтага багача яго душа — мой рэб Ісер — згубіў сваё прыстанішча, а паколькі Ісер ужо не бачыўся чыёсьці душой, то я тым і больш — усё рассыпалася ў пух і прах». Прасцей кажучы, Іцхок-Аўрэмл застаўся ні з чым.

## У пошуку… дурняў

Трэба аддаць Іцхоку-Аўрэмлу належнае. Ён хоць і цынік, але ягоны цынізм, як ні дзіўным можа падацца падобнае сцвярджэнне, — здаровы. У тым сэнсе, што — праўдзівы: «Дохлае стварэнне не выклікае ў чалавека такое цяжкае, такое сумнае ўражанне, як стварэнне, якое быццам «дохлае», але ўсё яшчэ мае нейкія прыкметы жыцця. Кажу гэта з нагоды сябе і яшчэ многіх істот. […] труп, у

крайнім выпадку, труп: ён не жыве і яму нішто не трэба, але тыя людзішкі, тыя стварэнні, пазбаўляючыся апоры і страчваючы даход, ад якога на працягу многіх гадоў залежаў іх дабрабыт, становяцца незвычайнымі трупамі, жывымі, дрыжачымі трупамі, якія хочуць есці, піць, хлябнуць хмяльнога, ім абсалютна ўсё трэба! Але ж што ім рабіць, калі яны зусім бездапаможныя, калі яны, не пра вас будзе сказана, знявечаныя гаротнікі, у якіх ёсць, здавалася б, і рот, і рукі, і ногі, але ні на што яны не прыгодныя!..

Сэрца, далібог, разрываецца, калі глядзіш на гэтыя жывыя трупы, на гэтыя вартыя жалю, даруйце, пратухлыя істоты.

Такой істотай быў і я, калі пакінуў Ісера. Я не ведаў, што рабіць, за што ўзяцца — я нічога не ўмеў і да нічога не быў здатны, я быў толькі чалавечак. Маё становішча было тады вельмі паганае».

Давялося Іцхоку-Аўрэмлу «жыць за кошт назапашанага. З-за гэта ён «заўсёды быў злы, нікому ў доме не даваў спакою, да кожнага прыдзіраўся. І жадаў, каб хутчэй памерла цешча, якая з кожным днём слабела. Калі ж яе не стала, з радасцю ўздыхнуў: «Бабулька была пакуль яшчэ толькі другой маёй ахвярай. Крыху пазней павінна была падысці чарга трэцяй ахвяры — худой, змардаванай Шэйндэле!..» А яшчэ зразумеў, што яго сапраўднае ўратаванне ў тым, каб цалкам выкарыстоўваць тое, што яму дагэтуль дазваляла дасягаць поспеху: «Хутка мне стала ў цяжар тое, што сяджу склаўшы рукі дома і даю плеснець міламу дару, што жыў глыбока ўва мне, дару быць чалавечкам. Грэх, далібог, каб такая страсць гібнула дарэмна, каб прападаў такі мілы дар, стаў ляжалым таварам, калі я яшчэ малады, поўны сіл, магу абладжваць бліскучыя справы і хадзіць у золаце. […] Пакуль я яшчэ малады, пакуль у мяне ёсць крыху грошай, я абавязаны адправіцца на пошукі ўдачы, знайсці сваё шчасце».

Развітаўшыся з цяжарнай жонкай, Іцхок-Аўрэмл пайшоў куды вочы глядзяць. Хоць, калі быць ужо дакладным, дык ягоныя вочы глядзелі на Глупск, які ўпадабаў з-за таго, што, па ягоным меркаванні, «гэта вялікі яўрэйскі горад з мноствам дурняў, якія ахвотна дазваляюць любому вадзіць сябе за нос». Іцхок-Аўрэмл, як вядома, рабіў гэта ахвотна і ўмела, шукаючы да таго, хто яго цікавіў, належны падыход. Успрымаючы Аўрэмла ўдаўцом, хутка знайшліся жадаючыя зрабіць яго зяцем самага ўплывовага чалавека ў Глупску, які «меў чатырохпавярховае імя — рэб Ёсеф-Маркл рэб Моніш-Лэйбелес». Аўрэмл доўга не вагаўся, нягледзячы на тое, што яго жонка «ў параўнанні з Голдай выглядала як абязьяна побач з чалавекам». Дый развёўся з Голдай, нягледзячы на тое, што яна нарадзіла яму сына.

Здзіўляцца не трэба. Тым самым галоўны герой твора чарговы раз засведчыў тое, чаго ён прытрымліваўся ўсё сваё жыццё: «[…] быць чалавечкам — значыць прыстасвацца і піць чужую кроў, жыць падманам…»

## Ваяўніча, але з дабрынёй

Аповесць «Маленькі чалавечак» паспрыяла з'яўленню ў яўрэйскай літаратуры вялікага пісьменніка, светаўспрыманне якога «трэба вызначыць як ваяўнічы гуманізм» (М. Беленькі). Твор меў вельмі шырокі рэзананс. Ім зачытваліся. Следам за першым выданнем у 1865 годзе, праз год з'явілася другое, а ў 1879-м «Маленькі чалавечак» пабачыў свет у моцна перапрацаваным выглядзе. На такі крок Мендэле Мойхер-Сфорым пайшоў невыпадкова. У аповесці яму хацелася ўзмацніць асобныя моманты, вобраз галоўнага героя яшчэ больш псіхалагічна заглыбіць. Дый «Маленькі чалавечак» быў для яго вельмі дарагі. Разумеў, што гэты твор стаў, па асабістым прызнанні, «краеугольным каменем новаяўрэйскай літаратуры». У гэтым прызнанні Мендэле важны і такі момант: «[…] і я пасябраваў з мовай ідыш».

На думку М. Беленькага, «ваяўнічы гуманізм» Мендэле Мойхер-Сфорыма найбольш поўна раскрыўся ў ягонай п'есе-памфлеце «Такса, ці Банда дабрадзеяў

горада», напісанай у 1869 годзе. Спецыяльны падатак — такса ці, інакш кажучы, каробачны збор даваўся ў водкуп каму-небудзь з багачоў. Зразумела, што атрымаць яго знаходзілася нямала жадаючых. Як відавочна і тое, што нярэдка сярод іх былі тыя, хто пры гэтым кіраваўся толькі ўласнымі інтарэсамі і пад выглядам клопатаў аб чысціні іудзейскай рэлігіі вяршыў свае брудныя справы.

Мендэле Мойхер-Сфорым зрываў маску з такіх дабрадзеяў, паказваў іх сапраўдны твар, выкрываў, наколькі бессаромна яны прыгнятаюць тых, хто трапляе ў залежнасць ад іх. На дзіва пераканаўчымі атрымаліся ў творы Іцык Сподзік, Юдл Штандгафт, Шмае Там, Ёселе Шыдэр, якія, калі ўважліва прыгледзецца да іх, звычайныя жулікі. Дый тыя, хто скача пад іхнюю дудку, не лепшыя, а ў чымсьці нават і горшыя, бо мусяць дзейнічаць так, каб і сваіх гаспадароў задаволіць, і самім не застацца ў крыўдзе.

Каб дасягнуць большай выкрывальнасці, аўтар «Таксы…» у асобных выпадках ужывае гратэск, а гэта толькі ўзмацняе сатырычную скіраванасць п’есы-памфлета. Калі ў «Маленькім чалавечку» Мендэле Мойхер-Сфорым толькі пачаў раскрывацца як сатырык, дык у «Таксе…» ён дасягнуў надзвычайнага поспеху ў выкрыцці тых, хто паразітаваў на сваім народзе. Таму і аповесць «Маленькі чалавечак», і п’еса «Такса, ці Банда дабрадзеяў горада» мелі не толькі шматлікіх прыхільнікаў. Гэтыя творы выклікалі і нянавісць з боку таўстасумаў. Мендэле Мойхер-Сфорыму давялося, уцякаючы ад праследаваццеляў, развітацца з Бярдзічавам і пераехаць у Жытомір.

Аднак не пісаць ён ужо проста не мог. У 1873 годзе надрукаваў аповесць «Кляча». Гэты твор, як, бадай, ніводзін іншы, алегарычны, але і не пазбаўлены ледзь прыкметнай іроніі, што спалучаецца з мяккім, прасветленым лірызмам. Апроч таго, рэальнае перакрыжоўваецца з фантастычным. Малады чалавек Іскролік, які ўваходзіць у таварыства «Абарона жывёл», убачыў неяк ледзь жывую каняку, за якой гналіся хлапчукі і сабакі. Бедная жывёліна, уцякаючы ад іх, неслася па полі. Ды праследавацелі не адставалі. З апошнімі сіламі каняка дабралася да яра, дзе, знясіленая, упала на зямлю.

Ісролік пашкадаваў яе, прынёс сена. Як жа здзівіўся, калі змардаваная жывёліна нечакана загаварыла чалавечым голасам. Ісролік папрасіў яе расказаць пра сваё жыццё. З гэтай споведзі ён даведаўся, што кляча даўно блукае па свеце, зведала здзекі, несправядлівасць, голад, холад. Але хіба не гэткі ж лёс абяздоленых, забітых і забытых людзей? Таму Ісролік і звяртаўся да таварыства «Абарона жывёл»: «Дзіўная істота жыве на белым свеце (ці то кляча, ці то чалавек), якая страша пакутуе, працуе ў кожнага, хто толькі не захоча, цяжар носіць звыш сваіх сіл, і, нягледзячы на гэта, з ёй паступаюць вельмі несправядліва. Толькі яна паспрабуе што-небудзь лізнуць — адразу нацкоўваюць на яе сабак і ўзнімаюць крык, што яна забірае ўвесь хлеб. Многія члены таварыства бачаць гэта, але захоўваюць глыбокае маўчанне. Я неяк раз-другі паспрабаваў заступіцца, аднак мяне ўзнялі на смех».

Так і напрошваецца паралель: «Кляча» Мендэле Мойхер-Сфорыма, «Халстамер» Льва Талстога, «Каняга» Міхаіла Салтыкова-Шчадрына. Пісьменнікі рознай ступені таленту, непадобнай мастакоўскай манеры, у сваіх творах заставаліся гуманістамі, былі аднолькава ўважлівыя не толькі да чалавека, а і да «братоў нашых меншых». Разумелі, наколькі ў гэтым свеце ўсё жывое ўзаемазвязана і як часам людскія лёсы падобныя да тых, хто гэтаксама занядбаны, як і народ.

## Плач праз смех

Ад твора да твора расло майстэрства Мендэля, усё новымі гранямі ракрывалася яго сатырычная манера. Гэта была сатыра, што вырастала з самой рэчаіснасці, з паўсядзённага яўрэйскага жыцця. Вельмі дакладна адметнасць гэтага віду літаратуры вызначыў яўрэйскі пісьменнік Іцхак Лінецкі, які таксама з’яўляўся

выдатным літаратарам-сатырыкам. На гэты звярнуў увагу ў артыкуле «Дзядуля яўрэйскай літаратуры», прысвечаным жыццёваму і творчаму шляху Мендэле Мойхер-Сфорыма, М. Беленькі: «[…] І. Лінецкі, сучаснік Мендэле Мойхер-Сфорыма, аднойчы заўважыў: сатыра — гэта такі жанр мастацтва, калі мастак, ствараючы свае творы, смяецца плачучы, а чытач плача смеючыся. Падобная сатыра ўласціва і Мендэлю, адпавядае яго дэмакратычна-гуманістычнаму светаразуменню. Яе эмацыянальна-пластычныя асаблівасці ўвасоблены ў вобразах рамана «Фішка Кульгавы» і аповесці «Падарожжа Веніяміна Трэцяга».

Сапраўды, першы са згаданых твораў напоўнены сатырай, што прасякнута іскрынкамі на дзіва дасціпнага, па-сапраўднаму яўрэйскага гумару. Раман мае такое прысвячэнне: «Майму любімаму, дарагому сябру МЕНАШЭ МАРГОЛІСУ прыносіць гэтую кнігу ў дар ад усяго сэрца Аўтар». Менашэ Марголіс — аўтар некалькіх нарысаў аб талмудычным праве і законавучыцелях Талмуда. Безумоўна, ягоныя творчыя арыенціры і праблематыка твораў Мендэля розняцца, але менавіта гэтая адрознасць таксама сведчыць на карысць таго, што яўрэйскія пісьменнікі, непадобныя між сабой, у аднолькавай ступені былі зацікаўлены лёсам свайго народа, спрыяючы таму, каб ён, расправіўшы плечы, адчуў сваё годнае месца на зямлі.

Сімптаматычна наконт гэтага прызнанне аўтара твора ў прадмове-звароце «Дарагі сябра!»: «[…] абодва мы пачалі сваю работу ў літаратуры ў адзін і той жа час, але доля наша неаднолькавая: вы забраліся высока, вы маеце справу з брыльянтамі і алмазамі яўрэйскай гісторыі, вы дэманструеце цудоўнейшыя каштоўнасці мінулага нашага народа, лепшае і самае дарагое ў яго жыцці. Вы мелі справу з Гілелем, раббі Меерам, раббі Акібой (маюцца на ўвазе заканадаўцы Талмуда. — *А. М.*) і іншымі карыфеямі, дастойнымі прадстаўнікамі людзей вышэйшай катэгорыі. Мне ж было наканавана апусціцца на ніжнюю прыступку яўрэйскага жыцця, у падвалы. Мой набытак — рыззё, гніль. Я пастаянна нашуся з жабракамі, беднякамі, з абяздоленымі, а таксама з нікчэмнымі людзішкамі, з камедыянтамі і таму падобнымі істотамі, нікчэмнымі і нізкімі. Мне сняцца толькі папрашайкі. Перад маімі вачыма пастаянна носіцца торба, спаконвечная вялізная яўрэйская торба… Куды б я ні павярнуўся, усюды мне мроіцца торба. Пра што б я ні задумаў расказаць, мне прыгадваецца торба!

Скрозь і ўсюды — торба, яўрэйская торба!»

Даследчыкі, найперш ужо названы М. Беленькі, сыходзяцца ў тым, што прататыпам галоўнага героя рамана «Фішка Кульгавы» ў пэўнай ступені стаў той самы Аўрамель, з якім некалі Шолам-Якаў, развітаўшыся з Капылём, адправіўся ў няблізкі свет, нямала перажыўшы і шмат пабачыўшы. Фішка Кульгавы — адзін з самых яркіх народных характараў не толькі ў творчасці Мендэля Мойхер-Сфорыма, а і ўсёй яўрэйскай літаратуры. Пісьменнік, якога нязменна цікавіў лёс абяздоленых і пакрыўджаных людзей, не мог не расказаць пра таго, на чыю долю выпала столькі выпрабаванняў. Падобных людзей ён рабіў у асноўным героямі сваіх твораў, нярэдка даючы магчымасць ім самім паспавядацца, выказаць тое, што цяжкім каменем ляжыць у іх на душы. Адначасова ў гэтую споведзь уліваецца аўтарскі роздум. Асабліва тады, калі той, з кім пісьменнік знаёміць чытача, асабіста знаёмы яму. Фішка Кульгавы — з такіх людзей. Шляхі-дарогі апавядальніка і літаратурнага персанажа, паводле мастакоўскай задумы, неаднаразова перакрыжоўваліся. Гэта ўзмацняе дакументалізм таго, пра што расказваецца, але гэта і дазваляе дасягнуць яшчэ большай праўдзівасці і пераканаўчасці.

Тым больш, што Мендэле, знаёмячы з галоўным герам рамана, адразу выбірае давяральна-спавядальны аповед: «У Глупску ў цаглянай лазні з даўняга часу туліўся хлапец — Фішка Кульгавы. Хто такі Фішка, адкуль ён узяўся, пацікавіцца гэтым ні мне, ні каму-небудзь іншаму і ў галаву не прыходзіла. Ці не ўсё адно? Швэндаецца нейкі Фішка, як і ўсе іншыя беспрытульныя істоты, яму падобныя… З’яўляюцца яны ў нас, у яўрэяў, неяк нечакана, быццам грыбы, адразу гатовыя да

драбнейшых падрабязнасцяў, — ніхто і не заўважыў, як яны пакрысе выраслі, нават прыкмет ніякіх не было!.. Тырчаць недзе па трушчобах жабракі, нараджаюць ціхенька, — каму якая справа? — пладзяцца і размнажаюцца. Ураджаі, каб не сурочыць, на славу! Мелюзга ўстае на ножкі, і на свет божы выскокваюць раптам наваспечаныя маленькія яўрэі: Фішкі, Хацкелі, Хаімкі, Ёські, голыя, босыя, у адных кашульках, блытаюцца пад нагамі на вуліцах, у дамах і малельнях».

Гэтаксама адразу падаецца і партрэт персанажа: «Прыгажуном назваць Фішку нельга. У яго вялікая прыплюснутая галава, вялікі шырокі рот з крывымі жоўтымі зубамі, ён шапялявіць, не выгаворвае літары «р» і моцна накульгвае на нагу». Яшчэ колькі штрыхоў: «Фішка быў ужо ў гадах, і калі б гэта залежала ад яго, ён даўно б ужо ажаніўся і ашчасліві ў Глупск некалькімі дзеткамі. Але гэткая ж ужо была яго злашчасная доля — аб ім забылі, і ён, як гэта здараецца часам у нашай кніжнай справе (не забудзем, што расказвае гэта ніхто іншы, як сам Мендэле-кнiганоша. — *А. М.*) з якой-небудзь старызной, ператварыўся ў «заляжалы тавар».

Усяго гэтага ўжо дастаткова, каб упэўніцца, якая незайздросная доля ў Фішкі. Дый хіба іначай можа быць, калі «тавар заляжалы». На такі мала хто звяртае ўвагу. Абышла Фішку і «халерная рэкруччына». Гэта калі ў час якой-небудзь эпідэміі веруючыя яўрэі ладзяць на могілках вянчанні, падбіраючы жаніхоў і нявест сярод калек і жабракоў. Перакананыя «сваты», што пасля гэтага эпідэмія знікне. Першы раз пашанцавала бязногаму Ёнтлу, другі — юродзіваму Нахумцю. Ні з чым застаўся Фішка і трэцім разам.

## Пакутны лёс пакутнага чалавека

Аднак пра Фішку, хай сабе і як пра «заляжалага» жаніха, усё ж успомнілі. Прыгадалі яго, калі ўзнікла нявыкрутка з чарговай нявестай. Адной сляпой, якая аўдавела, падшукалі жаніха, а ён у апошні момант раздумаў жаніцца. Яшчэ б паўбяды, ды … Падрыхтавалі цудоўную вячэру, гарэлку, булкі, рыбу, смажаніну, булён з курыцай — як мае быць, як і трэба. Абышлося гэта, канешне, у капейчыну». «Крыўдна, аднак, не толькі тое, што жаніха згубілі, колькі тое, што вячэра прападае». Выйсце ўбачылі ў тым, каб тэрмінова ажаніць Фішку.

Прыгадваецца сказанае Мендэлем у аповесці «Маленькі чалавечак»: «Увесь свет — гэта гандлярства: усе шукаюць выпадак урваць што-небудзь адзін у аднаго па дзяшоўцы, кожны ад душы жадае бліжняму страціць, каб самому знайсці, кожны стараецца ўрваць перш за ўсё сабе, і толькі пасля таго, як Бог дапамог яму дарвацца да ўдачы і стварыць сваё шчасце, толькі тады, калі ў яго ўсяго па горла, ён думае … зноў жа толькі аб сабе…» Зразумела, лёс самога Фішкі нікога не цікавіў. Дый меркавалі, што тым самым уладкоўваюць ягонае жыццё.

Фішка спачатку быў задаволены. З жонкай яны знайшлі паразуменне. Толькі нядоўгім было сямейнае шчасце двух гаротнікаў. Напаткаўся на іхнім шляху «рыжы здаравенны дзяціна», кінуў вока на Фішкіну жонку. Тая не ўстаяла перад ягонымі заляцаннямі. Фішка з-за гэтага вельмі перажываў. Лягчэй на сэрцы стала, калі ў яго закахалася гарбатая дзяўчына. Дый тут паўстаў на шляху Фішкі гэты нахабнік. Яго абурыла, што тая, якая перад ім «ламалася, святошу з сябе корчыла», закахалася ў іншага. Можна сказаць на вачах у Фішкі дамогся дзяўчыны:

«Ён схапіў яе на рукі і, абярнуўшыся да мяне сказаў:

— А ты маўчы, сабака! […]

І разам з ёю адразу знік.

У пекле не трываюць столькі пакут, колькі я вытрываў. Не я быў у пекле, — пекла было ўва мне. Валасы на галаве дыбам уставалі, полымя спальвала мяне. Я адчуваў, як яны, быццам шпількі, улазілі мне ў чэрап…»

Далей скажу словамі Шолам-Алейхема:

«Прызнайцеся — ці не зашчымела ў нас у грудзях ад прастадушнага, наіўнага расказу Фішкі? Вось у гэтым і хаваецца вялікая тайна, здзіўляючае майстэрства Абрамовіча: мімаходзь, быццам ненарокам, ён вас глыбока кране, за душу возьме, захопіць, вырве з грудзей уздых, а часам нават і слязу».

Пакутны лёс — пакутнага чалавека. А колькі такіх Фішкаў — кульгавых, бязногіх, сляпых, абяздоленых было ў вялікіх і малых мястэчках. Па рознаму яны называліся, але ўсе, па сутнасці, з'яўляліся Кабцанскамі. Кабцанск — гэтаксама як бы герой літаратурнага твора. Але калі падыходзіць да гэтага паселішча толькі з падобнага пункту гледжання, значыць, няхай і не наўмысна, збядніць аўтарскую задуму. Праўда на баку М. Беленькага, які прыйшоў да такой высновы: «Абагульнены вобраз яўрэйскіх мястэчак Мендэле стварыў у сваім Кабцанску». Дарэчы, і ў назве гэтага мястэчка закладзены глыбокі сэнс: кабцанск па-яўрэйску — бядняк, жабрак. Пра гэта, няхай і мімаходзь, гаворыць і сам Мендэле Мойхер-Сфорым: «Кабцанскія абывацелі, не пра вас сказана, — вялікія беднякі, не маюць ламанага граша за душой, у самым Кабцанску для іх няма ніякага занятку, як толькі хадзіць з торбай па хатах».

Назвы мястэчак — розныя, а жыццё ў іх — аднолькавае. Шолам-Алейхем дакладна прыкмеціў, што Кабцанск, Тунеядаўка і Глупск — «вось тры сталіцы, якія фігуруюць ва ўсіх тварэннях Мендэля Мойхер-Сфорыма і самымі назвамі трапна выражаюць усю сутнасць тадышняга яўрэйскага гета… Глупск — невуцтва, Кабцанск — жабрацтва, Тунеядаўка — беднякі без рамяства, без работы, без заняткаў, лішнія істоты на свеце». А гэта сказанае самім Мендэлем: «Калі вы, напрыклад, нечакана спытаеце яўрэя з Тунеядаўкі, чым ён жыве, дык у першы момант ён разгубіцца, не ведаючы нават, што адказаць. І толькі калі прыйдзе ў сябе, ён штосьці ўспомніць і шчыра адкажа: «Чым я жыву? Ёсць на свеце Бог, які не пакідае сваёй міласцю ні адной твары». Тое ж самае могуць прамовіць і яўрэі Глупска, Кабцанска. Тыя з іх, якія не дасягнулі дастатку, а такіх была пераважная большасць, заставаліся ўсё адно «кабцанцамі». Ніякага прасвету ў іх жыцці не было і быць не магло. Зыходзячы з гэтага, творы Мендэля Мойхера-Сфорыма — свайго роду энцыклапедыя жыцця яўрэйства. Таму так хутка яны і знаходзілі свайго чытача.

## Калі ў Тунеядаўцы цесна

У Тунеядаўку пераносіць і аповесць «Падарожжа Веніяміна Трэцяга», у якой шмат сарказму, іроніі, дасціпу, непераўзыдзенага яўрэйскага гумару. Менавіта Веніямін Трэці ўзяты галоўным героем невыпадкова. Тым самым Мендэле Мойхер-Сфорым нагадаў, што ён можа быць годным прадаўжальнікам двух папярэдніх Веніямінаў. Найбольш знакаміты сярод іх — Веніямін з Тудэлы, вядомы падарожнік XII стагоддзя, які пакінуў пасля сябе кнігу «Падарожжы раббі Веніяміна». Гэты Веніямін увайшоў у гісторыю, як Веніямін Першы. У 1818 — 1864 гадах жыў Веніямін Другі. Праўда, у сапраўднасці яго звалі Іосіф Ізраіль, але, маючы схільнасць да блуканняў, ён і ўзяў сабе імя Веніяміна з Тудэлы. Свае падарожжы ажыццяўляў паспяхова. Дый расказаў пра іх цікава. Ягоная кніга «Пяць гадоў на Усходзе» была выдадзена ў 1856 годзе на іўрыце.

Зразумела, што гэтыя два Веніяміны спачатку нічым знакамітымі не былі. Як і Веніямін, пра якога расказаў Мендэле ў сваёй аповесці. Па сведчанні самога літаратурнага героя, «усё сваё жыццё, гэта значыць, да таго, як я задумаў здзейсніць сваё вялікае падарожжа, я правёў у Тунеядаўцы. Тут я нарадзіўся, тут выхоўваўся, тут у добры час і ажаніўся са сваёй набожнай Зэльдай, — хай пашле ёй Гасподзь доўгія гады». Партрэт жа гэтага мястэчка вымалёўвае сам аўтар «Падарожжа Веніяміна Трэцяга». Як і ў творах, пра якія ўжо гаварылася, ён робіць гэта настолькі па-майстэрску, што паўстае на дзіва выразны малюнак,

які, напаўняючыся ўсё новымі штрыхамі, ператвараецца ў аб'ёмнае палатно. Яно, пры ўважлівым засяроджванні на ім, стварае цэласную карціну жыцця местачкоўцаў у часе і прасторы:

«Тунеядаўка — маленькі гарадок, закінуты куток, у баку ад паштовага тракту, амаль адрэзаны ад свету. Надараецца, трапіць туды хто-небудзь, — жыхары раскрываюць вокны, дзверы і са здзіўленнем разглядваюць новага чалавека. Суседзі, высунуўшыся з акон, пытаюцца адзін у аднаго: «Хто б гэта мог быць? Адкуль ён да нас зваліўся?.. Што яму трэба?.. Ці незнарок гэта?.. Не, не можа быць! Так проста, ні з таго ні з сяго не прыязджаюць! Мабыць, тут хаваецца нешта такое, што трэба разгадаць…

Пры гэтым кожны спрабуе бліснуць кемнасцю і жыцейскім вопытам. Дагадкі, адна другой жудасней, сыплюцца як з дзіравай торбы».

Пра што толькі ні гавораць тунеядаўцы! Якія падзеі ні згадваюць: «няхай гэта сямейныя тайны ці палітычныя меркаванні наконт Стамбула, наконт турка ці аўстрыякоў; няхай гэта справы грашовыя, як, напрыклад, аб памерах капіталаў Ротшыльда ў параўнанні з набыткамі буйных навакольных памешчыкаў ці іншых вядомых багацеяў; няхай гэта апошнія навіны на яўрэяў, аб племені чырванатварых ізраільцян (маюцца на ўвазе міфічныя яўрэйскія плямёны. — *А. М.*) і таму падобнае».

Усё гэта, а таксама тое, што пачэрпнуў з кніг, у тым ліку і з той, якую напісаў Веніямін з Тудэлы, прымусілі героя «Падарожжа Веніяміна Трэцяга» па-новаму зірнуць на жыццё. Як прызнаецца ён, «гэтыя дзіўныя гісторыі прыводзілі мяне ў захапленне. Божа мой! — неаднойчы ўсклікваў я. — Калі б Гаспадзь даў мне магчымасць убачыць уласнымі вачыма хоць бы сотую долю гэтага! Я ўносіўся думкай далёка-далёка…». «З гэтага часу, — піша Мендэле Мойхер-Сфорым, — Веніяміну і сапраўды стала цесна ў Тунеядаўцы. Ён усімі сіламі імкнуўся вырвацца адтуль. Так падрослае цыпляня пачынае дзяўбці шкарлупіну, каб вылезці з яйка на свет божы. […]

Думка пра падарожжы запаланіла Веніяміна. Гэтак як прававерны яўрэй абавязаны тройчы ў дзень маліцца, Веніямін лічыў сваім абавязкам пастаянна думаць аб падарожжы. Думы аб гэтым не пакідалі яго нават у сне: падарожжа снілася яму бесперастанна. Сэрца, вочы і вушы Веніяміна — уся яго істота была захоплена марай аб далёкіх вандроўках. Ён нічога і нікога не заўважаў вакол сябе: думка яго вітала недзе там, далёка-далёка, у замежных краях. І часта ў размове з кім-небудзь Веніямін не да месца раптам прыплятаў Індыю, Самбацьен (так у старажытнай і сярэднявяковай яўрэйскай літаратуры называюць казачную раку. — *А. М.*), грымучага змея, дракона […] і т. п.»

Прага падарожжа прымусіла Веніяміна перайначыцца. Будучы па натуры чалавекам палахлівым, ён пераадолеў у сабе страх — як жа, баючыся, збірацца ў дарогу, калі яна такая няблізкая. Узяўся ж шукаць дзесяць старажытнаяўрэйскіх плямён, якія, паводле легенды, зніклі і пражываюць недзе за гарамі Цемры. Знайшоў сабе і спадарожніка — Сендэрла, якога ў Тунеядаўцы ўсе ўспрымалі казлом адпушчэння. Так і празвалі: «Сендэрл — казёл адпушчэння». Звалі яго і «Сендэрл-баба». За тое, што быў падабцаснікам у жонкі. Ды Веніяміну якая розніца! Галоўнае, каб у дарозе быў належны паплечнік.

Сендэрл аказаўся такім — лепшага наўрад ці знойдзеш. У нечым — два боты пара. Пра тое ж, што адбываецца з імі, Мендэле Мойхер-Сфорым расказвае настолькі захапляльна, што ад твора не адарвацца. Важна і іншае: гэтыя літаратурныя персанажы пісьменніку яўна падабаюцца, таму і піша пра іх з непрыхаванай любоўю. Канешне, абодва яны шмат у чым наіўныя, у нечым і недалёкія, але гэта — людзі з народа. Гэта сыны свайго народа. У дарогу яны і выбраліся з жаданнем зрабіць усё для таго, каб жыхарам Тунеядаўкі лепш жылося. Для таго ж такія ўнутрана прыгожыя яны, калі ўспрымаюць украінскае мястэчка Цяцераўка, у якім апынуліся, самім Стамбулам. Увогуле, з Веніямінам і Сендэрлам шмат якіх

гадайма словы таго ж Філона Кміты-Чарнобыльскага. Звяртаючыся да Валовіча, аршанскі староста так характарызаваў тагачаснае становішча ў Вялікім Княстве: «Всё кламство, всё лож, нет Бога! Бий, забий, дери, лупи — то найлепший пан и то рыцер!... Где ест слыхано?! Дитя еще невеста родит и с того дитяти мает быти внук — дай тому имене, аспективу! Сыну дай, брату дай, слузе дай! Дай, дай, дай! А на обход речи посполитое што? А заслужоному што? А все разобралшы, чому быть? Только до убоства престися. Даже вже и лупют! Ото, государю пане, от таковых бед люди топятся! Ото с таковых нендз давятся! Ото с того в неволю даются! Яко и говорят многие во вси стороны: «Не только абы московский государем быть мел, але, хотя бы вже дъябел с пекла, только абы крывды людей Божих мстил, а в порадок привел».

Астафей Валовіч не горш за Філона Кміту-Чарнобыльскага ведаў беды гаспадарства і не шкадаваў ні сябе, ні сваіх сродкаў, каб пазбавіцца ад іх. 15 жніўня 1575 года на з'ездзе паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага падканцлер падтрымаў думку 11 іншых вышэйшыхураднікаў аб стварэнні дадатковага вайсковага корпуса з 1200 конных і 700 пешых ратнікаў у дапамогу Хадкевічу, які мужна змагаўся з маскавітамі.

Галоўнай умовай навядзення парадку ў дзяржаве магло быць толькі хутчэйшае абранне новага гаспадара. На Канвакацыйны Сойм, што склікаўся 7 лістапада 1575 года ў Варшаве, Валовіч прыехаў разам з Мікалаем Тальвошам, жамойцкім кашталянам, і нечакана для многіх выступіў не за кандыдатуру Эрнеста, якую прапаноўваў раней, а падтрымаў венгра Стэфана Баторыя.

На рэзкую змену сімпатый падканцлера ў той момант паўплывалі важкія прычыны. Валовіч меў надта сур'ёзныя падставы, каб не падтрымліваць аўстрыяка Эрнеста. Летам і восенню 1575 года ў Дзяржаўную Канцылярыю Вялікага Княства Літоўскага ад агентаў у Аўстрыі і Маскоўскім княстве пачалі паступаць звесткі аб патаемных планах уплывовых колаў гэтых дзяржаў аб'яднацца, каб разам ваяваць супраць ВКЛ, а пасля перамогі — падзяліць беларускія землі паміж сабой.

Астафею Валовічу ўдалося своечасова раскрыць інтрыгу ворагаў. Найперш быў схоплены польскі купец Крыштаф Граеўскі, які вёз нейкія сумніцельныя паперы ў Маскву. Пасля допыту, які падканцлер праводзіў асабіста, падазрэнні пацвердзіліся. Граеўскага пасадзілі ў Дзісненскую турму.

Ва ўдзеле ў палітычнай інтрызе супроць Вялікага Княства Літоўскага Валовіч западозрыў гэтаксама і прынца Данііла з Бухава, які ехаў у Маскву ў якасці пасла імператара Максімільяна II, а затым яго пераемніка Рудольфа II. Вядома, з прынцам паступіць так, як з Граеўскім, у Вялікім Княстве не маглі. Але, калі ён праязджаў праз Вільню, то яму ў «спадарожнікі» прызначылі Лаўрэнція Горскага, які пільна сачыў за кожным яго крокам і пра ўсё паведамляў у Дзяржаўную Канцылярыю.

Якраз з-за стасункаў Габсбургаў з маскоўскім манархам Іванам IV Валовіч і іншыя радныя паны Вялікага Княства — Ян Хадкевіч, Ян Кішка, Ян Глябовіч, мінскі кашталян, Аляксандр Хадкевіч, гарадзенскі староста — адхілілі кандыдатуру аўстрыяка Эрнеста, а затым і эрцгерцага Фердынанда.

На Галоўным з'ездзе шляхты, у красавіку 1576 года, большасць выказалася за сямігародскага ваяводу Стэфана Баторыя, шырока вядомага сваім палкаводчым талентам.

Астафей Валовіч перамог. Наступны Галоўны з'езд Княства, што праходзіў у маі—чэрвені 1576 года ў Мсцібогаве, адхіліў усе прапазіцыі імператарскага пасла Яна Кахцінскага і прыняў канчатковае рашэнне аб узвядзенні на вялікакняскі пасад Стэфана Баторыя. Выбранне на гэтым з'ездзе пасольства, у якое ўвайшлі Астафей Валовіч, Ян Хадкевіч, Гаўрыла Гарнастай, менскі ваявода і староста, Ян Глябовіч, Ян Кішка, Мікалай Аляхновіч Дарагастайскі, стольнік Княства,

Аляксандр Хадкевіч, Лаўрын Война, а таксама прадстаўнікі ад шляхты ўсіх ваяводстваў, недзе пасля 10 чэрвеня прыбыло ў Варшаву, дзе знаходзіўся Стэфан Баторый пасля абвяшчэння яго каралём Польшчы на Андрэеўскім сойме (студзень — люты 1576). Яны афіцыйна запрасілі Стэфана Баторыя на гаспадаранне ў Вялікае Княства Літоўскае.

## XV

Астафей Валовіч быў усцешаны дзейнасцю Стэфана Баторыя, бо той, па сведчанні аўтара старажытнай «Баркулабаўскай хронікі», «быў сапраўды чалавек пабажны, рыцарскі, вайсковы, шчаслівы, праўдзівы, сумленны». Даючы 29 чэрвеня 1576 года прысягу, новы манарх браў на сябе абавязак неадкладна выканаць шэраг важных умоў, выказаных яму, а астатнія абяцаў разгледзець на бліжэйшым Вальным Сойме. Княжанне Стэфана Баторыя азнаменавалася крутым узвышэннем беларускага гаспадарства, эканамічным умацаваннем Княства і пераможным завяршэннем шматгадовай Полацка-Інфлянцкай вайны.

Літаральна праз некалькі дзён пасля прыняцця прысягі — 8 ліпеня 1576 года — Баторый выдаў радным панам, шляхце і рыцарству Княства прывілей, у якім пацвердзіў захаванне ўсіх іх праў і свабод. З першых дзён свайго гаспадарання ён без усялякіх ваганняў пайшоў насустрач патрабаванням шляхты Вялікага Княства Літоўскага і прызнаў, што яго манархія — не ўнітарная краіна, а канфедэрацыя дзвюх раўнапраўных дзяржаў. Новы кароль і вялікі князь хутка авалодаў прыёмамі кіравання дзвюма краінамі — Польшчаю і Вялікім Княствам, чаму, відаць, паспрыяла яго знаёмства з манархіяй Габсбургаў, якая ўяўляла саюз некалькіх дзяржаў.

Першымі прывілеямі Баторый адмяніў рашэнні Люблінскага Сойму 1569 года, што прыніжалі годнасць Беларускага гаспадарства, і падкрэсліў яго поўную незалежнасць ад Польшчы. Манарх дазволіў Вялікаму Княству Літоўскаму праводзіць Вальныя соймы і соймікі, а таксама чыніць судовыя справы ў адпаведнасці са сваім Статутам. Апроч таго, ён загадаў стварыць камісію па ўдакладненні дзяржаўных межаў між Каронаю і Княствам.

Стэфан Баторый з разуменнем паставіўся да прапановы Валовіча перагледзець шэраг артыкулаў Статута Вялікага Княства, якія былі гвалтоўна зменены па рашэнні Люблінскага Сойму 1569 года. Сапраўды, як і паабяцаў манарх, бліжэйшы Вальны Сойм 1578 года зацвердзіў падрыхтаваныя ўрадоўцамі Княства «статутавыя паправы», а Валовіч загадаў служачым тэрмінова разаслаць па ўсіх ваяводствах. Такім чынам, вельмі важныя нормы дзяржаўнага і судова-працэсуальнага права, адмененыя ў 1569 годзе, былі вернутыя ў Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Астафей Валовіч, як прыхільнік палкаводчага таленту Баторыя, у першыя гады княжання вельмі шмат дапамагаў манарху ў высакароднай справе — вызваленні абшараў Княства і Інфлянтаў з-пад улады Маскоўскага княства. Падканцлер на справе ажыццяўляў распараджэнні вялікага князя, важнейшымі сярод якіх былі — падрыхтоўка да вайны з маскоўскім царом (25 ліпеня 1576); збор грашовага падатку для ўмацавання прыгранічных замкаў (жнівень 1576); падрыхтоўка шляхты да паспалітага рушання супраць Маскоўскага княства (31 жніўня 1576); збор рыцарства і грошаў на вайну з крымскім ханам і маскоўскім царом (1 траўня 1577); узбраенне насельнікаў Княства для абароны Інфлянтаў (14 жніўня 1577).

На з’ездах Вялікага Княства Літоўскага і агульных беларуска-польскіх соймах Валовіч амаль заўжды станавіўся на бок Баторыя. Прыкладам таму могуць служыць падзеі вельмі важнага Вальнага Сойму 1578 года, які разглядаў пытан-

ні падрыхтоўкі да шырокай кампаніі па вызваленні паўночна-ўсходніх зямель Беларусі. Падканцлер падтрымаў просьбу гаспадара аб выдзяленні на вайсковыя патрэбы дадатковых сродкаў.

Стасункі Валовіча з вялікім князем, безумоўна, не былі ва ўсе часы бездакорнымі. Першы сур'ёзны канфлікт між імі ўзнік ужо на першым годзе гаспадарання Баторыя, на торуньскім Вальным Сойме (пачаўся 4 кастрычніка 1576 года). Баторый хацеў атрымаць сродкі і склікаць паспалітае рушэнне для паходу на Гданьск — адзіны горад з усяе Прусіі, што не прысягнуў яму. Але беларускія Паны-Рада выступілі з «Пратэкцыяй» і адмовіліся ўдзельнічаць у заваяванні Гданьска. Сваю адмову яны растлумачылі нежаданнем пускаць на землі Княства польскае рыцарства, якое заўжды, трапляючы на Беларусь, пачынала бязлітасна рабаваць шляхецкія маёнткі. Валовіч таксама спасылаўся на небяспеку ад магчымага ўварвання маскоўскіх войск.

Стэфан Баторый настойваў, 14 чэрвеня 1577 года ён накіраваў ураду ВКЛ грамату, загадваючы неадкладна паслаць вялікакняскае войска пад Гданьск, прывесці, як ён пісаў — «людей своевольных и упорных кгданьщан до подданства нашого и до послушенства Речи Посполитой». Але Ваўкавыскі з'езд шляхты Вялікага Княства Літоўскага 17 ліпеня 1577 года зноўку пацвердзіў ранейшую заяву — не ўдзельнічаць у паспалітым рушанні на Гданьск, а выдаткаваныя грошы накіраваў выключна на справы вызвалення Беларусі ад Маскоўскага княства.

Цяжка адназначна сказаць, на чыім баку была праўда падчас гэтага канфлікту. Скончыўся ён тым, што настойлівы і ўладалюбівы Баторый, нягледзячы на пратэсты Вялікага Княства, усё ж такі арганізаваў паход на Гданьск і пакарыў яго.

Астафей Валовіч не знайшоў агульнай мовы з вялікім князем і ў 1578—1579 гадах, калі ордэн Ісуса займаўся стварэннем каталіцкай акадэміі ў Вільні. Падканцлер і канцлер Мікалай Радзівіл Руды, з'яўляючыся пратэстантамі па веравызнанні, адмовіліся зацвярджаць каралеўскі прывілей на адкрыццё акадэміі. Канфлікт з каралём і вялікім князем цягнуўся даволі доўга. Урэшце, Валовіч, зразумеўшы ўсю прававую неабгрунтаванасць сваёй пазіцыі, саступіў, і ў 1579 годзе першая вышэйшая навучальная ўстанова на Беларусі распачала шырокую асветніцкую дзейнасць. Здаецца, падобная гісторыя паўтарылася і ў 1581 годзе, пры заснаванні Полацкага іезуіцкага калегіума.

Абапіраючыся на згаданыя факты выступленняў Валовіча супраць адкрыцця каталіцкіх навучальных устаноў, некаторыя пазнейшыя гісторыкі сцвярджалі, што падканцлер нібыта наогул быў праціўнікам адукацыі і асветы. Гэта зусім не так. Валовіч у дадзеным выпадку бараніў уласныя канфесійныя інтарэсы ды не хацеў саступаць першынства каталікам. Справа ў тым, што ў той час беларускія пратэстанты рыхтаваліся да адкрыцця вышэйшай навучальнай установы, між іншым, мяркуючы весці ў ёй выкладанне не на польскай, а на беларускай мове. Развіццю культуры, асветы і адукацыі на народнай мове павінен быў служыць і пераклад Евангелля, часткова ажыццёўлены ў 70—80-я гады Васілём Цяпінскім.

Канфлікты Валовіча з вялікім князем і каралём ніколькі не перашкодзілі падканцлеру ў 1576 годзе дастаць *Рэчыцкае староства*, а 1 кастрычніка 1579 года *Віленскае кашталянства*.

У 1579 годзе Валовіч заняў пасаду *канцлера*, якую трымаў да 1584 года. Трокскае кашталянства і падканцлерства ў тым жа 1579 годзе ён саступіў Крыштафу Радзівілу Перуну.

У 1579—1582 гадах, на якія прыйшоўся заключны этап Полацка-Інфлянцкай вайны, Астафей Валовіч удзельнічаў у трох буйнейшых вайсковых кампаніях: вызваленні Полацка (1579), узяцці Вялікіх Лук (1580) ды паходзе ў 1581 годзе пад Пскоў.

Пад Полацкам Валовіч асабіста камандаваў харугвай, якая штурмавала гарадскія сцены. У многім дзякуючы яго мужнасці, а таксама самаахвярнасці князя Збаражскага, старажытны беларускі горад быў вызвалены ад ворага.

Знаходзячыся ў войску, Валовіч ужо ў якасці канцлера працягваў займацца дыпламатыяй. Ён прымаў пасольствы, ажыццяўляў шырокую дзяржаўную перапіску, аналізаваў палітычныя працэсы, што працякалі ў краінах Заходняй Еўропы ды суседнім Маскоўскім княстве. Шматлікія матэрыялы дыпламатычнай дзейнасці Валовіча ў часы княжання Баторыя захаваліся ў канцылярскіх кнігах Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.

Па ўзяцці Вялікіх Лук у 1580 годзе канцлер вёў адказныя перамовы з пасламі Івана IV — князем Сіцкім і Півовым, якія прыехалі прасіць міру. У адрозненне ад ранейшых часоў, калі Валовічу даводзілася прыніжацца ды цярпець знявагі з боку Масквы, цяпер ён дыктаваў паслам свае ўмовы, ультыматыўна патрабуючы вяртання Княству ўсіх Інфлянтаў ды Смаленска, а таксама Пскова і Ноўгарада.

Трэба адзначыць, што пералом ва ўсходняй дыпламатычнай стратэгіі Астафея Валовіча адбыўся крыху раней, прыкладна ў 1578 годзе, калі ён, чарговы раз прымаючы паслоў Івана IV, упершыню адкрыта абурыўся агрэсіўнай палітыкай маскоўскага манарха ды нахабнымі паводзінамі яго памагатых. «Прыйшлі вы не са звычаем да звычаю, — гаварыў тады Валовіч паслам. — Вашых загадаў тут слухацца не будуць. Як вам скажуць, так і чыніце. Калі ў вас ёсць справа, то ідзіце да гаспадара, цалуйце яму руку ды праўце пасольства».

У часе паходу ў складзе вялікакняскага войска пад Пскоў Валовіч трапіў у вельмі далікатнае становішча: 18 ліпеня 1581 года з яго металічнай скрыні, дзе захоўваліся дзяржаўныя дакументы, знікла вялікая пячатка Княства з вядомым надпісам: «Sigillum maius Magni Ducatus Lithuaniae». Прапажа спарадзіла ў войску страшэнны перапалох. Баторый нават выдаў спецыяльны Прывілей з загадам расшукваць яе паўсюль. На жаль, гістарычныя крыніцы не даюць адказу на пытанні, каму і для чаго спатрэбілася пячатка Вялікага Княства Літоўскага і ці была яна наогул адшукана.

## XVI

Высокай ацэнкі заслугоўвае дзейнасць Валовіча пры ажыццяўленні вайсковай рэформы, распачатай Баторыем. Канцлер спрыяў утварэнню сталага войска, у склад якога ўваходзілі прафесійныя, пераважна наёмныя, жаўнеры. Валовіч таксама шмат зрабіў дзеля забеспячэння войск надзейнай артылерыяй. Акурат названыя новаўвядзенні ў некалькі разоў павялічвалі баявыя характарыстыкі беларускага войска і напэўна сталіся адной з важнейшых умоў перамогі Вялікага Княства ў Полацка-Інфлянцкай вайне.

Нельга не адзначыць актыўнага ўдзелу канцлера Валовіча ў распрацоўцы стратэгічнага плана сумеснага паходу войск Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, пры падтрымцы заходнееўрапейскіх хрысціянскіх дзяржаў, — «праз Маскву на Турцыю». Новы крыжовы паход па розных прычынах не адбыўся, але факт існавання такога плана і маштабнасць задумы ўражваюць.

6 лютага 1582 года скончылася Полацка-Інфлянцкая вайна. У Ківеравай Гары, што непадалёк ад Яма-Запольскага, на ўмовах выключна выгадных для Вялікага Княства быў падпісаны мір. Валовіч па нейкіх прычынах асабіста не прысутнічаў пры перамовах, але ён уважліва сачыў за іх развіццём і даваў слушныя парады вялікакняскім прадстаўнікам — князю Янушу Збаражскаму, князю Альбрэхту Радзівілу ды пісару Міхаілу Гарабурду, аб чым сведчаць багатыя архіўныя матэрыялы, прысвечаныя тым падзеям.

У канцы 70-х пачатку 80-х гадоў Валовіч далучыў да дзяржаўных спраў адукаванага маладога чалавека Льва Сапегу, што мела велізарнае значэнне для будучыні Беларусі. Канцлер паўплываў на станаўленне яго асобы і дзяржаўна-палітычных поглядаў.

У 1581 годзе Валовіч і Сапега сумеснымі намаганнямі дабіліся ўтварэння Трыбуналу — вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага Княства ды падрыхтавалі юрыдычныя нормы, што рэгулявалі яго дзейнасць. Святую справу абароны Бацькаўшчыны, чаму Валовіч прысвяціў усё сваё жыццё, паспяхова прадоўжыў яго духоўны і палітычны пераемнік Леў Сапега.

15 лістапада 1584 года састарэлы Астафей Валовіч пасля адыходу ў нябыт князя Мікалая Радзівіла Рудога заняў пасаду *віленскага ваяводы*. Аднак сілы няўмольна пакідалі яго. Знікаў колішні імпэт. Валовіч паступова адыходзіў ад дзяржаўных спраў, перадаючы іх канцлеру Крыштофу Радзівілу Перуну ды падканцлеру Сапегу.

На схіле жыцця віленскі ваявода ўсё часцей вяртаўся да думкі аб замагільным жыцці, выратаванні душы, праводзячы шмат часу ў акружэнні віленскіх евангелікаў, якім яшчэ ў 1582 годзе падараваў адзін з лепшых сваіх дамоў. Вынікам яго роздуму аб сэнсе жыцця сталася рашэнне адпусціць на волю ўсіх сваіх прыгонных — «мужчын і жанчын, каб яны вольна служылі».

Памёр Астафей Багданавіч Валовіч прыкладна ў канцы 1587 ці на самым пачатку 1588 года. У сваім «Тэстаменце», напісаным уласнаручна 1 снежня 1587 года ў Мілейчыцах, віленскі ваявода прасіў выканаць апошняе яго пажаданне. «Застановляю около пoхованя тела моего: абы было поховано в именю моем Сідранском в костеле, в склепе мурованым под костелом, без всякого кошту. Ані коней, ані зброй, ані чого іного не потребне чыніти, гды ж там не на войну отхожу. Але тело сукном чорным покрывшы, запроводити до гробу на возе. Привезшы в каптуру, не убирайте, бо они обжаловати не будут. Але абы там в костеле хвала Божая и проповеданя Слова Божага яко святого уставичне множана была...»

Пасмяротную волю Валовіча споўніла яго адзіная дачка Рэгіна, пахаваўшы бацьку па хрысціянскім звычаі ў Сідранскай бажніцы.



Мікола БЕРЛЕЖ

# ВЕРШЫ, ЯК ЛАСТАЎКІ...




*Рыгор БАРАДУЛІН.*

**Et orbi omni / І СВЕТУ ЎСЯМУ.**

*Мн.: Рым. — Катал. Парафія Св. Сымона і Св. Анны, 2016.*

Жыццё народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ў літаратуры, культуры нельга ўявіць без яго ўвагі да перакладчыцкай работы, да пераўвасаблення паэтычных здабыткаў майстроў мастацкага слова розных краін. Яшчэ ў выдадзенай у 1983 годзе кнізе Л. Гарэлік «Зямля бацькоў дала мне права. Станаўленне творчай індывідуальнасці Рыгора Барадуліна» было адзначана: «Паэт плённа працуе, настойліва шукае новае, узбагачаючы сучасную беларускую паэзію, умацоўваючы шматгранныя літаратурныя сувязі. Ён з’яўляецца нястомным перакладчыкам, адным з актыўных папулярызатараў на роднай мове паэзіі розных краін свету. Акрамя (…) кнігі выбранай лірыкі Ф. Г. Лоркі «Блакітны звон Гранады», Р. Барадулін пераклаў на беларускую мову п’есу Я. Райніса «Ветрык, вей!», «Выбранае» С. Ясеніна (разам з А. Куляшовым), паасобныя творы У. Шэкспіра, Дж. Байрана, Б. Брэхта, А. Пушкіна, А. Міцкевіча, М. Някрасава, Ф. Цютчава, У. Бранеўскага, А. Туманяна, А. Ісаакяна, П. Нэруды, Н. Гільены, С. Нерыс, А. Вазнясенскага, Я. Еўтушэнкі, Б. Ахмадулінай, сучасных паэтаў Украіны, Латвіі, Малдавіі, Грузіі, Узбекістана, Польшчы, Венгрыі, Балгарыі. (…) Значнай і даволі прыкметнай з’явай у літаратурным жыцці рэспублікі стала «Беларуская паэма» Стэфана Паптонева. «Для мяне асабіста, пісаў В. Быкаў, — яна вельмі дарагая, гэта поўная мудрага смутку (скорби) паэма. І на тое шмат прычын. Па першае, яна аб маім родным краі — Ушаччыне, слаўнай сваім партызанскім мінулым; па-другое, лад яе паэтычных пачуццяў незвычайна блізкі і зразумелы кожнаму беларусу; па-трэцяе, яе стварыў выдатны беларускі паэт і мой сябра Стэфан Паптонеў, а пераклаў на родную мову адзін з самых таленавітых майстраў нашай паэзіі, мой беларускі сябра Рыгор Барадулін».

І наступныя тры дзесяцігоддзі Рыгор Барадулін быў уважлівы да паэзіі розных народаў. Перакладаў амаль да апошніх адведзеных яму дзён. Але ж і да зробленага беларускім паэтам у прасторы мастацкага слова заўжды былі ўважлівыя майстры перакладу з іншых краін свету. У пэўнай ступені падсумоўваннем такой увагі з’яўляецца сапраўды ўнікальнае выданне — «Et orbi omni / І свету ўсяму». Разам у межах 680 старонак сабраны пераклады 147 вершаў і двух паэтычных цыклаў — «Псальмы Давідавы» і «Ахвярынкі» на 30 (!) моў народаў свету. У адных выпадках (асабліва што датычыць твораў, напісаных у апошнія гады

жыцця) гэта — пераклад на адну мову (чэшскую, ці карацінскую, ці французскую, ці яшчэ якую іншую). У другіх выпадках — на 5—7 моў. Як, напрыклад, верш «Бацьку» (напісаны ў 1958 годзе) — на 5 моў: балгарскую (перакладчык — Найдзен Вылчаў), літоўскую (Альгімантас Балтакіс), рускую (Іван Бурсаў), таджыкскую (Саідалі Мамур), украінскую (Барыс Алейнік). Альбо — «Бусел» (Памятаеце? Верш з прысвячэннем Васілю Быкаву: «Горбіць плечы гара, / горбіць праца. / Усяго спаўна / мне лёс паслаў… / Вось ўжо і скроні серабрацца. / Ды яшчэ і цяпер / лаўлю бусла. / Ну, на гэты раз /вярнуся з паэтам — / Я ж за ім прайшоў / багата вёрст! / Нада мною — крылы белым дахам. / Паспрабуй. / Зларі / бусла за хвост…» / — на англійскую, балгарскую, іспанскую, літоўскую, рускую, украінскую, французскую... Усяго — на сем моў. Перакладчыкі — Уолтэр Мэй, Найдзен Вылчаў, Карлас Шэрман, Альгімантас Балтакіс, Ігар Шклярэўскі, Дзмітро Паўлычка, Людвіг Буткевіч. Слынныя рупліўцы ў сваіх нацыянальных мастацкіх прасторах, выдатныя знаўцы беларускай літаратуры, беларускай паэзіі. Здаецца, ужо з самага пачатку вядомасці Рыгора Барадуліна (друкавацца будучы класік беларускай паэзіі пачаў у 1952 годзе) да пераўвасаблення яго твораў на іншыя мовы звярталіся перакладчыкі, паэты зусім не выпадковыя.

З украінскіх паэтаў тлумачылі сваім чытачам знаходкі, адкрыцці Р. Барадуліна Барыс Алейнік, Дзмітро Паўлычка, Уладзімір Забаштанскі, Тамара Каламіец, Іван Драч, Багдан Мельнічук, Мікола Вінграноўскі, Даніла Кананенка, Леанід Гарлач, Сяргей Баршчэўскі… Хіба што толькі з рускай паэзіі такі, мо крыху большы атрад перакладчыкаў быў уважлівы да слоў, вынайдзеных, выкладзеных народным паэтам Беларусі. Праўда, шмат хто з рускіх перакладчыкаў (Валянцін Тарас, Аляксандр Дракахруст, Браніслаў Спрынчан, Фёдар Яфімаў, Навум Кіслік) жыў і працаваў побач — у Мінску, сустракаўся з беларускім паэтам, «бачыў» яго ўласны працэс вершатворчасці на свае вочы ці не штодня. Відавочна, увага ўкраінскіх перакладчыкаў — пра гэта сведчаць факты — нашмат болей шчодрая, мо нават (няхай не крыўдуюць рускія паэты) болей шчырая.

Так, кніга ў Рыгора Барадуліна ўкраінская, здаецца, усяго адна — «Свято бджоли» (Кіеў, 1978). «Свята пчалы»... У параўнанні з амаль двума дзясяткамі асобных выданняў па-руску гэта, як быццам, проста нішто. Але ж нельга не ўлічваць публікацыі ў перыёдыцы. Мяркую (зыходзячы хаця б з інфармацыі біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі»), што — украінскіх перакладаў — і недзе бліжэй да паловы ад зробленага рускімі перакладчыкамі. Тут, відаць, варта назваць і ўкраінскіх перакладчыкаў, чые работы засталіся па-за межамі анталогіі «І свету ўсяму». Першы ўкраінскі пераклад дзякуючы львоўскаму паэту Уладзіміру Лучуку з'явіўся ў 1964 годзе — у часопісе «Жовтень»: «У тумани деркач деренчить…» «У 1967 годзе львоўскі часопіс «Жовтень» друкуе невялікую барадулінскую падборку з трох вершаў. І перакладчыкаў таксама трое: П. Моўчан, Л. Раманіў, В. Петрык. Сярод іншых твораў — «Сады».

Сады —  
Жывучыя народы  
Зялёнага мацерыка  
Не абміналі іх парогі  
Кашчавай засухі рука.

У 1979 годзе дадатак да аднае прыкарпацкай абласной газеты друкуе твор у перакладзе С. Пушыка. У 1985 львоўская маладзёжная газета змясціла верш «Сады» ў пераўвасабленні Уладзіміра Лучука. А ў анталогіі, пра якую ідзе размова, — пераклад «Садоў», які здзейсніла Тамара Каламіец. Вершы Рыгора Барадуліна на ўкраінскай мове надрукаваны яшчэ і ў добрым тузіне калектыўных зборнікаў, альманахаў, анталогій. І ў дадатак да згаданых імёнаў украінскіх перакладчыкаў можна назваць яшчэ П. Засеку, В. Гея, П. Асадчука, В. Чабаненку, М. Малахуту, Я. Яроша, Д. Шупта і шмат яшчэ каго.

Велізарная праца, якую зрабілі ўкладальнікі анталогіі «Et orbi omni / І свету ўсяму», у наступных праектах падобнага кшталту можа быць дапоўнена перакладамі вершаў Рыгора Барадуліна на туркменскую, азербайджанскую,

армянскую (верш «Бацьку» пераклаў легендарны Геворг Эмін), асецінскую, казахскую, малдаўскую (Рыгора Барадуліна перакладалі малдаўскія паэты П. Дуднік, А. Чакану, Н. Попа, С. Белікаў), узбекскую мовы. Відаць, існуюць пераклады і на іншыя мовы.

Што да туркменскай мовы, то на яе паэзію Рыгора Барадуліна пераўвасаблялі Шадурды Чарыеў, Атаджан Таган, Аналы Бердыеў, Байрам Жутдзіеў, Бердыназар Худайназараў. Перакладчыкі досыць вопытныя. Байрам Жутдзіеў доўгі час узначальваў рэдакцыйны калектыў часопіса «Савет эдэбіяты» (Савецкая літаратура»). І зараз працуе ў літаратуры. Бердыназар Худайназараў — народны пісьменнік Туркменістана. Аналы Бердыеў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Туркменістана імя Махтумкулі, перакладчык Шэкспіра. Што цікава, верш «Бацьку» мае два пераклады на туркменскую мову — Шадурды Чарыева (газета «Эдэбіят ве сунгат», 6 кастрычніка 1974 года) і Аналы Бердыева (каракалінская газета «Гызыл Йырдыз», 30 жніўня 1980 года).

Калі ж у крыўдзе мне сябры
Грзіліся падчас бацькамі,
Тады хацелася наўзрыд
Заплакаць горкімі слязамі.

Не плакаў я — усім на злосць,
Бо ў хаце быў адзін — мужчына.
Не йшоў ты…
Маці маладосць
Глыбей заворвалі маршчыны.

І зараз — еду я здалёк,
Чакаю ўсё — зайду, а маці
Мне скажа: «Пазнаеш, сынок?
Вось наша ўся сямейка ў хаце…»

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму
Перад магілай невядомай…

Верш, які Рыгор Барадулін напісаў ажно ў 1958 годзе, у анталогіі падаецца ў перакладах на шэсць моў. Пятро Васючэнка ў прадмове да анталогіі піша і наступнае: «На самым пачатку гэтай кнігі англічанін, таджык, балгарын, літовец, рускі, украінец вельмі хутка патрапіць на верш «Бацьку», вядомы кожнаму беларускаму школьніку або студэнту. І не будзе чытача, у якога балюча не сціснулася б сэрца пры судакрананні з жыццёвай драмай лірычнага героя.

Калі б аўтар прадмовы пачаў пералічваць усіх перастваральнікаў твораў Рыгора Барадуліна, спіс перавысіў бы памер прадмовы. Але ў адным я ўпэўнены — гэта сябры Рыгора Іванавіча, духоўна блізкія яму людзі. І яшчэ ў адным я перакананы: зборнік робіць нашу планету больш утульнай, добрай, блізкай да Бога, бо гэта планета ўбачаная вачыма паэта і яго сяброў-перакладчыкаў».

Прыйдзе час — і беларускае літаратуразнаўства, гісторыя беларускага прыгожага пісьменства яшчэ запатрабуюць падрабязнага расповяду пра ўваходжанне, пранікненне вершаў-прамянёў Рыгора Барадуліна ў іншы свет, расповеду пра сяброў-перакладчыкаў класіка беларускай паэзіі. І анталогія «Et orbi omni/ І свету ўсяму добры падмурак у стварэнні агульнага адлюстравання, агульнага вырашэння гэтага клопату. Гэта асабліва важна і па той прычыне, што сувязі паміж літаратурамі розных краін разбураюцца, стасункі, замацаваныя ў дваццатым стагоддзі, на вялікі жаль, не маюць развіцця. Прыязджаеш у Таджыкістан, ці Азербайджан, ці Арменію — яшчэ спытаюць пра Рыгора Барадуліна ці Еўдакію Лось паэты старэйшага пакалення. А вось ужо маладзейшых творцаў сучаснага беларускага літаратурнага працэсу рэдка хто ведае. Складваецца ўражанне, што мастацкі пераклад — той мост, які амаль што разбурыўся.

Знаёмства з анталогіяй перакладаў вершаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна падштурхнула і да наступных развагаў. Падобнага роду кнігі патрэбна выдаць, аглядаючы спадчыну народных паэтаў Беларусі Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі, Ніла Гілевіча. Няма такіх кніг ў прасторы асэнсавання міжнацыянальнай значнасці паэзіі Якуба Коласа і Янкі Купалы. Як, дарэчы, і Максіма Багдановіча. Піша ў адным з нядаўніх нумароў «Літаратуры і мастацтва» літаратуразнаўца Мікола Трус пра ідэю выдання аднаго верша Багдановіча на мовах народаў свету. Размова — пра верш «***Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...».

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# КАГО ЛЮБІШ?




*Генадзь КІСЯЛЁЎ*

**ВЫБРАНАЕ**

**Уклад. Л. Кісялёвай і В. Чамярыцкага**

*Мн., Беларуская навука, 2016.*

Уладзімір Арлоў некалі сказаў: «Дзве кнігі асвятлялі мой шлях у нацыянальны космас — раман «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча і томік гістарычных нарысаў «З думай пра Беларусь» Генадзя Кісялёва». І думаецца, што не толькі для Уладзіміра Арлова Генадзь Кісялёў адкрываў і працягвае адкрываць вытокі нашай дзяржаўнасці, самасвядомасці, культуры і літаратуры. Чаму? Таму што даследаваў менавіта тое, з чаго нараджалася «беларускасць». Ён вяртаў нам нашага Кастуся Каліноўскага, раскрываў вытокі творчасці і светапогляду Францішка Багушэвіча, Адама Кіркора, Вацлава Ластоўскага. Ды і загадку славутых «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе» карпатліва разгадваў…

Відавочна, што даволі прадукцыйным з'яўляецца спалучэнне адукацыі гісторыка з шырокім філалагічным кругаглядам. «Гісторык літаратуры, літаратуразнаўца, пісьменнік, археолаг, крыніцазнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа — слава адкрывальніка новых земляў у гісторыі Новай беларускай літаратуры XIX стагоддзя суправаджала яго амаль з часоў навуковага дэбюту ў 1958—1963 гадах», — піша ў прадмове да «кнігазбораўскага» тома, прысвечанага Генадзю Кісялёву, Міхась Тычына. Прасочвае ён і перыпетыі пакручастага, не заўсёды простага шляху таленавітага чалавека ў навуку. «Ураджэнец Каломны», актыўны карыстальнік «забароненай лексікай», «кандыдат гістарычных, а не філалагічных навук» выклікаў вельмі шмат пытанняў у беларускім культурным асяродку сярэдзіны мінулага стагоддзя… Аднак Генадзь Кісялёў пераканаўча, як і ў сваіх навуковых працах, змог даказаць, што ён шчыра аддадзены служэнню беларускаму слову, гісторыі, літаратуры.

Шчыры, прынцыповы чалавек (як у асабістых стасунках, так і ў навуцы), Кісялёў меў цвярозы, рацыянальны розум, давяраў толькі дакладным фактам. Сам ён у дакументальнай аповесці «Вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі» адзначаў: «Праца гісторыка нагадвае руплівае майстэрства мастака-рэстаўратара: знімі асцярожна напластаванні пазнейшага часу, збяры разам кавалкі гістарычнай тканіны, улавіўшы істотнае…» А, вядома, каб скласці з сумы «істотнага» цэласны вобраз, сітуацыю, трэба валодаць не менш як матэматычнымі здольнасцямі. Да таго ж па-сапраўднаму любіць справу, якой займаешся. Яскрава гэтае шчырае пачуццё дэманструюць адказы Генадзя Кісялёва на пытанні анкеты:

— Які Ваш любімы занятак?

— Разгадваць загадкі мінулага.

— Які момант у Вашым жыцці Вы лічыце самым радасным?

— Рэдкія дні адкрыццяў.

Не абыходзіць Міхась Тычына і чалавечыя якасці даследчыка. Цікава апавядае пра «адналюбства», высокую інтэлігентнасць і павагу да жонкі Генадзя Васільевіча. На карысць таму прыводзіць шчырыя ўспаміны дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі, у фондах якога працавала з чэрвеня 2002 г. Яніна Міхайлаўна: «З таго часу не было такога дня з панядзелка па пятніцу, каб Генадзь Васільевіч не сустракаў Яніну Міхайлаўну з працы. Яны ішлі тады разам па завулках старога Мінска, шпацыравалі да Свіслачы, вярталіся да ратушы. Шлях гэты мог мяняцца, але нязменнымі заставаліся прагулкі ўдваіх».

Том выбраных твораў чалавека «рэдкай пароды прыстойных людзей» уключае, бадай што, самае значнае і знакавае, зробленае ім: дакументальныя аповесці «Вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі», «Загадка “Энеіды”», нарысы «Паслухайце, браткі, Навума старога!..», «Эх, скручу я дудку!.. *Ля вытокаў творчасці Ф. Багушэвіча*», «Хто вы, Карафа-Корбуты?», «Дзве палавінкі аднаго жыцця. *Ляскоўскі — Карабіч*», артыкулы «Як адкрывалі стагоддзе», «Праект беларускага часопіса», «Падзорная труба Эміліі Плятэр», «Каміла Марцінкевіч», «Арол са зламаным крылом», «Скарынаўская сімволіка» і інш. Каштоўна, што ўсе тэксты, змешчаныя ў выданні, друкуюцца паводле апошніх публікацый. А сабраныя разам — дапамагаюць лепш зразумець чуйнага даследчыка, які на любоў да Беларусі заўсёды адказваў узаемнасцю.




*Галіна ПАСВЯТОЎСКАЯ*

**ІДАЛАПАКЛОННІЦА**

**Пер. з польскай А. Емяльянава-Шыловіча**

*Мн., Кнігазбор, 2016.*

Пачэсная справа — адкрываць для беларускага чытача тое арыгінальнае, нечаканае, таленавітае, што існуе ў замежнай літаратуры. Да таго ж у літаратуры блізкіх суседзяў… Польская

паэзія ва ўсе часы ўдала спалучала ў сабе маштабнае, сусветнае з глыбока інтымным ды асабістым. Яе метафізічнасць, абстрактнасць і ў той жа час абаяльная прыземленасць — вельмі ўдалы сімбіёз. Творчасць Віславы Шымборскай, Чэслава Мілаша, Рышарда Крыніцкага, Эвы Ліпскай, Багдана Задуры як нельга лепей пацвярджаюць наяўнасць гэтага выдатнага феномена.

Магчыма, менеей вядомым з'яўляецца імя самабытнай паэтэсы Галіны Пасвятоўскай, якая здолела пражыць насычанае таленавітае жыццё, нягледзячы на перашкоды фізічныя, звязаныя з невылечнай хваробай… «Польская Сапфо», як назвалі Галіну Пасвятоўскую за памежную інтымную шчырасць яе лірыкі, прагна хацела кахаць, падарожнічаць, шукаць сябе на працягу ўсяго нядоўгага зямнога жыцця і, варта адзначыць, ёй гэта ўдалося. Страціўшы мужа (таксама хворага на сэрца) праз тры гады пасля заключэння шлюбу, яна працягвала любіць, вучыцца філасофіі жыццёвай ды акадэмічнай (скончыла філасофскі факультэт Ягелонскага ўніверсітэта). Пры жыцці паэтэсы пабачылі свет тры яе зборнікі: «Гімн ідалапаклонніцы» (1958), «Сённяшні дзень» (1963), «Ода рукам» (1966). Вершы Галіны Пасвятоўскай перакладаліся на нямецкую, партугальскую, персідскую, балгарскую, рускую, украінскую мовы. Цяпер жа творчасць яе загучала далікатна, нязмушана і па-беларуску, дзякуючы перакладчыцкаму плёну паэта Алеся Емяльянава-Шыловіча.

Як і Галіна Пасвятоўская, беларускі паэт-перакладчык таксама піша свабодным вершам, шукае ў паўсядзённым спаконвечнае, філасофскае. Аднак, як не аспрэчваюць некаторыя літаратуразнаўцы залішнюю ўвагу да паняцця «гендар», мы не можам ад яго абсалютна абстрагавацца. Цікава, што Алесю Емяльянаву паспяхова ўдалося перадаць памежна шчырыя, часам натуралістычныя вершы польскай паэтэсы па-беларуску.

У перакладную кнігу «Ідалапаклонніца» ўваходзяць выбраныя творы з усіх прыжыццёвых зборнікаў Галіны Пасвятоўскай, а таксама «вершы па-за зборнікамі». Яны яскрава пераконваюць чытача ў тым, што навакольны свет, у тым ліку і свет рэчаў, аб'ёмны і адухоўлены. І толькі мы засяляем яго стварэннямі ўласнай фантазіі, мар, пачуццяў. Ды і самі лёгка можам ператварацца, перацякаць у фарбы, гукі, пахі:

пад тваімі дасканалымі пальцамі
я толькі дрыготка
я спеў лістоты
пад дотыкам тваіх цёплых вуснаў

цвеліць пах — кажа: ты існуеш
цвеліць пах — рассоўвае ноч
пад тваімі дасканалымі пальцамі
я толькі святло

А заключана гэта магія ў пастаяннай узрушанасці, закаханасці. У вершах безліч метафарычных выразаў, якія перадаюць своеасаблівае «трымценне»: «цела сплецена з гэтых нітак / захаплення і болю захаплення і болю», «таплю галаву / правальваюся па кончыкі валасоў / гіну», «калі думаю пра цябе / дык так / быццам мятлік трымціць на далоні» і інш. Увогуле, каханне для Галіны Пасвятоўскай не абстрактнае, эфімернае. Яно дакладна цялеснае, заснаванае на тактыльнасці, пачуццёвасці. Часткі цела набываюць сваю «філасофію»:

пра яго ведаюць
мае набрынялыя грудзі
пацалункам абуджаныя на дасвецці
падрапанае плячо
памяць
што дрэмле ў ямцы далоні

унутры мяне
ён адцвіў
як калючы куст глогу

Вобразы фізічнага збліжэння часам нават гратэскныя, што яшчэ больш падкрэслівае прагу лірычнай гераіні да абсалютнага збліжэння, узаемапранікнення:

мацней сцісні зубы на
маім левым плячы
скуру здзяры — яна замінае
нашым напятым мышцам
знітавацца — у неразрыўнае

Цікавыя і вершы ў прозе Галіны Пасвятоўскай. У іх шмат балючага і асабістага. У творы «Калі Іжота памірала…»

за акрэсленай агульнымі штрыхамі гісторыяй легендарных закаханых хаваецца абсалютна нармальны боль жанчыны, якая разумее, што ў хуткім часе і сама можа ў апошні раз пачуць голас любага і сканаць, цалуючы яго рукі…

Ды ўсё ж галоўны страх паэтэсы — далёка не страх смерці фізічнай. Самае цяжкое — смерць кахання. Нават калі такіх смерцяў ужо было багата:

колькі разоў можна ўмерці ад кахання
першы раз быў горкі быццам зямля
горкі смак
даўкі квет
чырванню палалі гваздзікі

Хворая целам, ды не душой, адважная паэтэса Галіна Пасвятоўская годна несла сваё збалелая сэрца ў вялікі свет людзей. І цяпер нясе. Праз шчырыя, глыбокія і вечна актуальныя кнігі.

*Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ*

**КАНІКУЛЫ З ПРЫГОДАМІ,**
**альбо Зваротны візіт Зорнічка да хлопчыка Стасіка**

*Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Як добра, што ёсць аўтары, якія выдатна разумеюць неабходнасць стварэння беларускіх казачных герояў, якія б былі сапраўды папулярнымі сярод дзяцей і падлеткаў. А якім ён павінен быць, гэты герой? Меркаванняў існуе шмат. Але, пэўна, аб'ектыўнымі будуць патрабаванні падрабязнага раскрыцця жыццёвага шляху героя (для гэтага варта ствараць серыі кніг аб ім, яго бацьках, сябрах), наяўнасць шырокага кругагляду і выразных захапленняў (бо сёння модна быць «прасунутым»), пазітыўная стваральная дзейнасць (ствараць жа можна ўсё што заўгодна: камп'ютарныя праграмы, вершы, малюнкі, мадэлі самалётаў, цуды!) і нешта незвычайнае, звышнатуральнае (бо гэта ж фантазія, казка, якую, між іншым, можна і ўвасобіць у рэальнасці).

Маладая пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая плённа працуе ў сферы дзіцячай літаратуры. І стварае ўласную серыю прыгод цікаўнага хлопчыка Стасіка, які сутыкаецца ў паўсядзённасці з чароўным, фантастычным. Не будзем казаць пустыя гучныя словы і праводзіць паралелі з сусветнымі дзіцячымі бестселерамі. Проста парадуемся нараджэнню героя, пажадаем новых ідэй



аўтарцы і пастараемся разабрацца, па якіх законах будуецца яе своеасаблівы казачны свет. А рабіць гэта будзем на прыкладзе новай кнігі Кацярыны Хадасевіч-Лісавой — «Канікулы з прыгодамі».

Адразу адзначым, што галоўная ідэя казачных апавяданняў Кацярыны Хадасевіч-Лісавой — кожны можа сустрэць цуд. Варта толькі ў нечым дапамагчы гэтай сустрэчы адбыцца. Напрыклад, Стасік выбірае для свайго пакоя незвычайныя шпалеры, з выявамі казачнага хлопчыка: «На адным малюнку ён сядзеў на воблаку і сыпаў з торбачкі на зямлю маленькія бліскучыя зорачкі-сняжынкі, на другім — гушкаўся на залацістым месяцы, на трэцім — катаўся на воблаках на санках, запрэжаных белымі авечкамі, на чацвёртым — ляцеў па небе на дэльтаплане, а на пятым — салодка спаў на бялюткім пульхным воблачку. А яшчэ там было намалявана шмат зорак». І акурат адразу ж пасля набыцця «абновы» са Стасікам здараецца цуд. У сне да яго прыходзіць Зорнічак, і хлопчыкі выпраўляюцца ў сапраўдную касмічную адысею! Але трэба ж і сябру неяк на Зямлі пагасціць. І вось новымі суседзямі сям'і Стасіка ў Ждановічах становіцца маладая сям'я: бацька Анатоль, маці Надзея і сын Васіль. А на самай справе яны — Астранаўт, Фея Краіны Сноў ды Зорнічак. Вось так удала прыдаўся ў канве казачных падзей прыём стварэння двух паралельных светаў!

Стасік актыўна знаёміць Васіля-Зорнічка з захапленнямі зямных дзяцей. Такім чынам пісьменніца, пэўна, «раскрывае вочы» сучасным падлеткам на такія карысныя і разнастайныя заняткі, якія, на жаль, пачынаюць забывацца… Дзеці дапамагаюць гатаваць мамам смачныя стравы, ганяюць у футбол, выпраўляюцца ў вандроўку на роварах… Аднойчы нават выкрываюць злачынства! І пра ўсё гэта Кацярына Хадасевіч-Лісавая апавядае з выдатным веданнем дзіцячай псіхалогіі. І пра тое, як дзеці «раўнуюць» свайго лепшага сябра да іншых дзяцей, і пра тое, як саромеюцца сказаць пра свае сімпатыі аб'екту захаплення, і як выхваляюцца адзін перад адным…

Хапае ў казках пісьменніцы і мяккага гумару. Госці з мікракосмасу вучацца гатаваць беларускія дранікі, а самі частуюць Стасіка касмічнымі бутэрбродамі. Стасік хаваецца пад ложак, каб не размаўляць з Васілём, які расказвае Каці пра зоры…

Умела робіць Кацярына Хадасевіч-Лісавая «падводкі» да папярэдніх гісторый аб Стасіку і Зорнічку. У прадмове, пасляслоўі, у самой казцы. А яшчэ анансуе наступныя фантастычна-рэальныя гісторыі. «Цяпер Стасік чакае новых цікавых падарожжаў да свайго сябра Зорнічка. Потым ён абавязкова раскажа мне, як гэта адбывалася, а я напішу пра іх наступную прыгодніцкую кнігу».

Што ж, будзем і мы чакаць новых вандровак!



## ПРОЗА

## ДРАМАТУРГІЯ



## ПАЭЗІЯ



## ГАЛАСЫ СВЕТУ

## СУГУЧЧА



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## КНІГАРНЯ



## ЛІТАРАТУРНЫ ПАРТРЭТ

## РАЗВАГІ З НАГОДЫ



## СТАРОНКІ ЛЁСУ



## ПОСТАЦІ



## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## СПАДЧЫНА



## ДЫСКУСІЯ



## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ



## У ПОЛІ ЗРОКУ

## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## СЦЭНА



## НАШ КРАЙ



## ЭСЭ



## ЭПІСТАЛЯРЫЙ



## ХРАНАТОП



## АФАРЫЗМЛЕННЕ



***Падрыхтавала М. МІХАЙЛАВА.***

